частицы *(бы́ццам, бада́й, вунь, так* и др.) и составные (*дык вось, абы толькі, хаця б, як быццам, бадай што* и др.), которые используются для выражения более яркой экспрессии.

В зависимости от дополнительных оттенков, которые частицы придают языковым единицам, выделяются следующие их группы: смысловые, модально-волевые, эмоционально-экспрессивные, формо- и словообразующие, хотя подобное разделение является условным вследствие многозначности и неопределенности частиц.

## Смысловые (сэ́нсавыя) частицы

У к а з а т е л ь н ы е (указа́льныя): *вось, вунь, гэта:*

Адзін дуб у полі – **гэта** не лес (*У. Дадзёмаў*).

Частица *вось* указывает на близкие предметы, частица *вунь* используется для уточнения места или местоположения отдаленного предмета.

У т о ч н я ю щ и е (удакладня́льныя): *акура́т, ама́ль, іменна, менавіта, проста, прыблізна*, *сапраўды́*, *чы́ста, якраз:*

Валерык і сам дакладна не ведаў, дзе **менавіта** і што робіць яго бацька (*Я. Васілёнак*).

Эти частицы совмещают определительно-уточняющие значения с модальными, указывающими на степень достоверности высказывания с точки зрения говорящего.

В ы д е л и т е л ь н о - о г р а н и ч и т е л ь н ы е (выдзяля́льна-абмежава́льныя): *адзі́на, выклю́чна, ледзь, толькі, хаця (б), хоць (бы), усяго, хіба́*, *чуць*:

І ў цямніцы ружа расцвітае, // **Толькі** ўсмешка ўжо ў яе // Не тая (*Р. Барадулін*).

## Модально-волевые (мадальна-валявыя) частицы

У т в е р д и т е л ь н ы е (сцвярджа́льныя): *так, ага, ну, угу, эге:*

– Бачыш на тым баку камень? – Ну (*У. Караткевіч*).

О т р и ц а т е л ь н ы е (адмоўныя): *не, ні, ані*:

Можа, з раніцы трусы і не кормлены ані? (*Н. Гілевіч*).

Частица *ані* экспрессивно усиливает значение, аналогичное *не: ані лустачкі не з'елі.*

В о п р о с и т е л ь н ы е (пыта́льныя): *ці, хіба́*, *няўжо, а, ну, га:*

Прайсці аднаму па добрай дарозе і ў добрым настроі – хіба непрыемна гэта? (*І. Шамякін*).

С р а в н и т е л ь н ы е (параўна́льныя): *быццам, нібы́*, *як бы́ццам, як бы:*

Луг зялёны за ракою быццам снегам замяло (*І. Муравейка*).

П о б у д и т е л ь н ы е (пабуджа́льныя): *бы (б), няхай (хай), дай (дайце), давай (давайце), ну, ану*:

Хай празарлівая воля нябёс//Душам пашле дараванне (*Р. Барадулін*).

Со значением проблематической достоверности (са знач́эннем праблематы́чнай верагоднасці): *наўра́д, наўрад ці, бада́й, маўля́ў, нібы́*:

Дзень бадай што ўжо канчаўся (*К. Чорны*).

## Эмоционально-экспрессивные (эмацы́йна-экспрэсіўныя)

В о с к л и ц а т е л ь н ы е (клічныя): *як, што за, ну, ну і, вось дык, куды*:

**Як** лёгка і хораша робіцца, калі разгорнеш кнігу і адтуль махне галінамі белы зімовы лес, сыпанецца за каўне́р снегу з-пад крыла спу́джанай птушкі (*М. Лужанін*).

У с и л и т е л ь н ы е (узмацня́льныя): *аж, дык, ды, жа (ж), нават, ні, і, так, усё, сабе:*

Паве́тра было такое чыстае, што не мільгаце́лі нават далёкія агні (*У. Карпаў*).

**Формообразующие** (**формаўтвара́льныя**) частицы, которые участвуют в образовании аналитических форм повелительного (*няхай*, *хай, давай, давайце*) и сослагательного (*бы*, *б*) наклонений глагола: *няхай абве́сцяць, давайце глянем, абвясцілі б, глянулі б.*

Частица-постфикс *-ся (-ца, -цца)* используется для образования возвратных глаголов: *сцерагчы́ся, хіліцца* (3-е лицо ед. ч.)*, вяртацца.*

**Словообразующими** (**словаўтвара́льнымі**) частицами по происхождению являются приставки *не- (ня-), ні-, ані-, абы-,* постфиксы *-небудзь*, *-сьці (-сь)*: *не́хта, ніколі, аніводзін, абы-што; як-не́будзь, дзе́сьці, штосьь.* Частица *ан*і и аналогичная приставка употребляются для выражения усиленного отрицания: *ані, аніхто, аніколі, аня́кі.*

# МЕЖДОМЕТИЕ (ВЫКЛІ́ЧНІК)

**Междометия** – неизменяемые слова, которые выражают чувства и волевые побуждения человека, но не называют их. Междометия не относятся ни к самостоятельным, ни к служебным частям речи, они не членятся на морфемы, не являются членами предложения. Междометия употребляются главным образом в качестве самостоятельного предложения или в качестве слова, грамматически не связанного с членами предложения:

**Ой**, ляцелі гусі ды з-пад Белай Русі (*М. Багдановіч*).

**Божа мой**, Вацік! Што ты робіш, стой, не бегай (*Я. Скрыган*).

По происхождению междометия делятся на непроизводные, созданные из одного или нескольких звуков (*ат, го, гэй, цсс)*, и производные, образованные путем перехода в междометия знаменательных слов (*божа, даруй, дзякуй*).

По значению междометия подразделяются на три разряда:

э м о ц и о н а л ь н ы е , выражающие чувства человека – восхищение, радость, удивление, одобрение, сочувствие, страх, злость, угрозу, отвращение: *а!, о!, э!, ах, ай, ай-яй, а-я-ёй, а-я-яй, ат, от, ох, ой, барані божа, божа мой, бацюхны, брава, біс, дудкі, жах, фу, ура, чорт*;

в о л е и з ъ я в и т е л ь н ы е , выражающие побуждение к действию в виде приказа, призыва, обращения, оклика, запрета, молчания, начала (прекращения) работы и др.: *баста, гайда, горка, гэй*, *аý*, *анý*, *каравул, марш, ну, плі, прэч, стоп, цсс, ша, цыц, но, тпру;*

м е ж д о м е т и я р е ч е в о г о э т и к е т а : *выбачáй(це), дзень добры, дабрáнач, да пабачэ́ння, дзякуй, бывай(це) здаровы, здароў, калі лáска, прабáч(це), прывітáнне.*

К междометиям примыкают, но не являются ими звукоподражательные слова, которые приблизительно передают звуки, издаваемые животными, людьми, стихийными силами природы, предметами (*курлы́-курлы́*, *крук-крук-крум, гу-гу-гу, чэ́пу-тэ́пу, р-р-р, рох-рох, та-та-та, цюй-цюй-цюй, ш-ш-ш, бах-бах*:

Выйдзеш раніцою з хаты, а табе разам з сонечнымі промнямі хлыне проста ў твар светлая-светлая, чыстая-чыстая песня плісíц: Ціці-цюры, ціці-цюры, ціці-цюры! Чтэрліч (*Я. Сіпакоў*).

– Бах! Бах! Бах! – грымяць стрэлы (*П. Васючэнка*).

# СИНТАКСИС (СІНТАКСІС)
# СЛОВОСОЧЕТАНИЕ (СЛОВАЗЛУЧЭ́ННЕ)

**Словосочетание** – это синтаксическая единица, состоящая из нескольких самостоятельных слов, связанных между собой по смыслу и грамматически.

## Типы словосочетаний (Тыпы словазлучэнняў)

| Тип словосочетания | Примеры |
|---|---|
| Главное слово – имя существительное<br>(Назоўнікавыя) | парада бацькоў,<br>надыход восені,<br>вясёлы спеў,<br>жаданне вучыцца,<br>адпраўленыя падарункі |
| Главное слово – имя прилагательное<br>(Прыметнікавыя) | варты павагі,<br>крайняя ад поля,<br>здольны да навукі |
| Главное слово – местоимение<br>(Займеннікавыя) | кожны з сяброў,<br>іншыя з вучняў,<br>хтосьці з нас,<br>нехта з іх,<br>некаторыя з вас |
| Главное слово – имя числительное<br>(Лічэбнікавыя) | тры сасны,<br>першы на тыдні,<br>двое з дзяцей,<br>пяты спераду |
| Главное слово – глагол<br>(Дзеяслоўныя) | верыць у шчасце,<br>думаць над прапановай,<br>вырабіць з бярозы,<br>склееныя хутка,<br>працаваць не стамляючыся |
| Главное слово – наречие<br>(Прыслоўныя) | сумесна з аўтарам,<br>уверх па цячэнні,<br>вышэй за лес,<br>менш за месяц,<br>удвая зручней,<br>вельмі ўдала |

## Смысловые (синтаксические) отношения между словами в словосочетаниях (Сэнсавыя (сінтаксічныя) адносіны паміж словамі ў словазлучэннях)

| Виды отношений | Главное слово | Зависимое слово | Примеры |
|---|---|---|---|
| Определительные, атрибутивные (Азначальныя, атрыбутыўныя) | Обозначает предмет | Обозначает качества предмета, его признаки, порядковый номер и т. д. | ціхі ветрык, сестрына кніга, наш дом |
| Объектные (Аб’ектныя) | Обозначает действие, состояние | Обозначает предмет (объект) на который направлено действие | чытанне вершаў, павага да спадчыны, сумаваць па дзецях |
| Обстоятельственные (Акалічнасныя) | Называет действие | Характеризует обстоятельства, при которых действие происходит | спяваць ад радасці, працаваць да вечара, прысеў адпачыць, крыху павесялець |

## Виды связи слов в словосочетаниях (Віды сувязі слоў у словазлучэннях)

| Вид связи | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Согласование (Дапасаванне) | Зависимое слово ставится в том же роде, числе и падеже, что и главное слово | высокі бераг, новыя дамы́, два сталы́ |
| Управление (Кіраванне) | Зависимое слово употребляется в форме косвенного падежа, которого требует лексико-грамматическое значение главного и смысл зависимого слова | спяваюць песню, будынак універсітэта, сустрэў яго |
| Примыкание (Прымыканне) | Зависимое слово связано с главным только по смыслу | добра вядомы, ісці не спяшаючыся, жаданне застацца |

## Особенности согласования и управления в белорусском языке (Асаблівасці дапасавання і кіравання ў беларускай мове)

При сравнении белорусских и русских словосочетаний четко проявляется их национальная специфика.

В белорусском языке числительные *два (дзве), абодва (абе́дзве), тры, чатыры* связываются с именем существительным согласованием, а существительное имеет форму множественного числа: *два алоўкі, тры я́блыкі, абодва браты́, чаты́ры крэ́слы.* В русском языке в таких словосочетаниях слова связываются управлением, а существительные при числительных имеют форму родительного падежа единственного числа: *два карандаша, три яблока, оба брата.*

Глаголы *дзя́каваць, аддзя́чыць, падзя́каваць, выбача́ць, прабача́ць, дарава́ць* связываются с существительными либо местоимениями управлением, и эти зависимые слова имеют форму дательного падежа: *дзякаваць настаўніку, выбачаць брату.* В русском языке при таких глаголах зависимые слова имеют форму винительного падежа: *благодарить учителя, простить брата.*

При глаголах движения *ісці, бегчы, ляцець, ехаць, плы́сці* и др., если они имеют целевое значение, употребляются существительные либо местоимения в винительном падеже с предлогом *па*: *пайсці па ваду, пасла́ць па ўрача́, ехаць па дачку́, схадзіць па хлеб.* В русском языке используется предлог *за* с творительным падежом соответствующих частей речи: *пойти за водой, послать за доктором, ехать за дочерью, сходить за хлебом.*

Если в словосочетаниях с глаголами движения и волеизъявления *выпраўля́ць, пасылаць, накіроўваць, адпраўля́ць* и др. употребляются существительные – названия ягод и грибов, а также сами слова *грыбы, ягады*, эти существительные используются в форме винительного падежа и имеют при себе предлог *у*: *ехаць у журавіны, пайсці ў маліны, вы́браліся ў ягады, адправіцца ў грыбы, пайшла ў апе́нькі.* Такие словосочетания образуются и со словами *рыба, морква, шча́ўе, буракі́* и др.: *пайшла ў шча́ўе, вы́браліся ў буракі́.* В русском языке таким словосочетаниям соответствуют конструкции *ехать за клюквой, послать за брусникой, пойти за ягодами, выехать за грибами*, в которых существительные имеют форму творительного падежа и употребляются с предлогом *за.*

При глаголах *жартава́ць, це́шыцца, смяя́цца, насміха́цца, кпіць, здзе́кавацца, пасме́йвацца, дзіві́цца* используется предлог *з* в сочетании

с родительным падежом именных частей речи: *цешыцца з малога, насміхацца з няўме́кі, кпіць з маўчуна́, дзівіцца з прыгажосці, пасмейвацца з яе.* В русском языке соответствующие глаголы имеют при себе предлог *над* с творительным падежом именных частей речи: *шутить над сыном, смеяться над ним, подтрунивать над знакомым.*

После глаголов *ажаніць, ажаніцца* в белорусском языке употребляется предлог *з* и существительное либо местоимение в форме творительного падежа: *ажаніць з Васем, ажаніцца з Нінай, ажанілі з нялюбай.* В русском языке при таких глаголах именные части речи употребляются в форме предложного падежа с предлогом *на*: *жениться на Вере, жениться на ней.*

Для белорусского языка характерно употребление сравнительных словосочетаний, главное слово которых (прилагательное или наречие) имеет форму сравнительной степени, а зависимое используется в винительном падеже с предлогом *за*: *разумне́йшы за яго, стар́эйшы за сястру, ле́пшы за яе, даражэ́йшы за ўсіх, мацне́йшы за дуб.* В русском языке в таких словосочетаниях зависимое слово имеет форму родительного падежа без предлога: *они дружнее всех, нет ничего страшнее войны, он младше сестры.*

При словах *хворы, хварэ́ць* существительные имеют форму винительного падежа и употребляются с предлогом *на*: *хворы на грып, хварэць на коклюш.* В русском языке зависимое слово в таких словосочетаниях имеет форму творительного падежа без предлога: *болеть ангиной, больной гриппом.*

Для определения расстояния, пространства при словах с количественным значением используются существительные с предлогом *за*: *метраў за сем ад хаты, кіламетраў за восем, жыла за дванаццаць вёрст ад родных.* В русском языке таким словосочетаниям соответствуют: *километрах в трех, в двух метрах от комбайна, верстах в четырех.*

В глагольных словосочетаниях зависимые слова (существительные, местоимения) имеют форму предложного падежа множественного числа с предлогом *па*: *ісці па дарогах (балотах, лясах, палях, раўнінах), вучы́ліся па вечарах, сумава́ў па блізкіх.* В русском языке такие словосочетания имеют в своей структуре предлог *по*, а зависимые слова – форму дательного падежа множественного числа: *идти по дорогам (болотам, лесам, полям, равнинам), учились по вечерам, грустил по близким.*

В белорусском языке в глагольных словосочетаниях с предлогом *праз* выражаются причинные отношения: *спазніўся праз навальніцу, не прыйшоў праз хваробу, пла́кала праз цябе, не спаў праз гэта.* Такой предлог употребляется и в составе сочетаний *праз смех, праз слёзы, праз зубы: сказаў праз смех, шапта́ла праз сон, вы́мавіў праз зубы,* а также в словосочетаниях с объектным значением *праніка́ць, прабіва́цца, праходзіць:*

*прабівацца праз гушча́р, пранікаць праз фіра́нкі, праходзіць праз імглу́.* В русском языке соответственно: *пробиваться сквозь гущу, проникать сквозь занавес, проходить сквозь мглу.*

В белорусском языке употребляются следующие словосочетания:

1) *зае́хаў па дзяцей, прыйшлі́ да нас, пазы́чыла сяке́ры (нажа́, ні́так, запа́лак), паве́злі ў млын.* В русском языке соответственно: *заехал за детьми, пришли к нам, одолжила топор, повезли на мельницу*;

2) *ба́чыў на свае́ вочы, чуў на свае́ ву́шы, ха́та на тры пакоі, больш за сто кніг (рублёў, кіламе́траў, гекта́раў), сабраліся а пя́тай (шостай, восьмай) гадзі́не, пісаць (звярта́цца, дасыла́ць, накірава́ць) на а́драс.*

В русском языке соответственно: *видел своими глазами, слышал своими ушами, дом из трех комнат (с тремя комнатами), более ста книг (рублей, километров, гектаров), собрались в пять (шесть, восемь) часов* или *собрались около пяти (шести, восьми) часов, писать (обращаться, посылать, направлять) по адресу.*

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ (СКАЗ)

### Типы предложений по цели высказывания (Тыпы сказаў па мэце выказвання)

| Тип предложения | Примеры |
|---|---|
| Повествовательное (Апавядальны) | Над полем, над шырокім прасцягам нячутна плыў ранак (*І. Мележ*). |
| Вопросительное (Пытальны) | І даўно гэта было? (*К. Чорны*). |
| Восклицательное (Клічны) | Як прыгожа вы ўмееце марыць! (*У. Краўчанка*). |

### Типы предложений по отношению высказывания к реальности (Тыпы сказаў паводле адносін выказвання да рэчаіснасці)

| Тип предложения | Примеры |
|---|---|
| Утвердительное (Сцвярджальны) | Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, – уздзірванелы курган векавечны (*Я. Купала*). |
| Отрицательное (Адмоўны) | Цярплівей нас няма на свеце, даверлівей за нас няма (*С. Грахоўскі*). |

## Типы предложений по количеству грамматических основ (Тыпы сказаў па колькасці граматычных асноў)

| Тип предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Простое (Просты) | Предложение с одной предикативной (грамматической) основой | У вокны глядзіць густы змрок (*Я. Колас*). |
| Сложное (Складаны) | Предложение с двумя и более предикативными (грамматическими) основами, объединенными по смыслу и грамматически | І спынілі гамонку лясы над празрыстым святлом месяцовым, і аселі крупінкі расы на кустах і травах мядовых (*А. Астрэйка*). |

## Типы предложений по характеру грамматической основы (Тыпы сказаў па характару граматычнай асновы)

| Тип предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Двусоставное (Двухсастаўны) | Грамматическая основа включает и подлежащее, и сказуемое | Смелы там знойдзе, дзе баязлівы згубіць (*Прыказка*). |
| Односоставное (Аднасастаўны) | Грамматическую основу составляет либо только подлежащее, либо только сказуемое | Агонь шукаю, што даўно ачах (*С. Грахоўскі*). |

## Типы односоставных предложений (Тыпы аднасастаўных сказаў)

| Тип предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Определенно-личное (Пэўна-асабовы) | Выражает действие определенного лица | Хачу нарэшце ў тым прызнацца, што не сказаў табе вясной (*З. Марозаў*). |

| | | |
|---|---|---|
| Неопределенно-личное (Няпэўна-асабовы) | Исполнитель действия не называется, подразумевается неопределенно | Рыхтава́ліся да пачатку работ над першай асушальнай магістраллю (*К. Чорны*). |
| Обобщенно-личное (Абагульнена-асабовы) | Выражает мысль, относящуюся ко всем, каждому | Скажаш – не вернеш (*Прыказка*). |
| Безличное (Безасабовы) | Обозначает процесс, состояние, протекающее независимо от активного исполнителя либо носителя признака | Ад поля веяла халадком, але дыхалася тут хораша, лёгка (*Т. Хадкевіч*). |
| Номинативное (Намінатыўны) | Констатирует наличие, существование предмета или явления | Дарогі, трывогі, хвіліны, гадзіны (*А. Куляшоў*). |

## Типы предложений по наличию второстепенных членов (Тыпы сказаў паводле наяўнасці даданых членаў сказа)

| Тип предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Нераспространенное (Неразвіты) | Состоит только из предикативной основы | Было цёпла, вільготна (*У. Краўчанка*). |
| Распространенное (Развіты) | Предикативная основа поясняется второстепенными членами | Смолкая жывіца блішчыць слязой гаючай на кары (*В. Вярба*). |

# ПРОСТОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ (ПРОСТЫ СКАЗ)

## Главные члены предложения (Галоўныя члены сказа)

| Член предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Подлежащее (Дзейнік) | Главный член предложения, который обычно выражается существительным или местоимением в форме именительного падежа и поясняется сказуемым | Шчасце – гэта заўсёды нешта недасягальнае (*Я. Сіпакоў*). |
| Сказуемое (Выказнік) | Главный член предложения, который обозначает действие, состояние или признак предмета, названного подлежащим | І месяц бляск струменіць белы з бяздоннай, цьмянай глыбіні (*Я. Колас*). |

## Зависимые члены предложения (Даданыя члены сказа)

| Член предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Дополнение (Дапаўненне) | Зависимый член предложения, который обозначает предмет и отвечает на вопросы косвенных падежей | Кожнаму хочацца быць шчаслівым (*С. Грахоўскі*). |
| Определение (Азначэнне) | Зависимый член предложения, который обозначает признак предмета, его качество, свойство и отвечает на вопросы які? чый? | З гэтага лета застаўся ў іх на ўсё жыццё ўспамін неабсяжнай, бязмежнай, бясконцай радасці (*І. Мележ*). |
| Приложение (Прыдатак) | Разновидность определения, которое выражается существительным и согласуется с поясняемым словом в падеже | На доўгія вёрсты і мілі раскінуў лес-волат шатры (*Я. Колас*). |

| | | |
|---|---|---|
| Обстоятельство (Акалічнасць) | Зависимые члены предложения, которые обозначают разные обстоятельства действия (могут указывать на время, место, причину, цель, условие, способ действия, меру и степень и т. д.) | Ён варушыўся, клапаціўся і дапамагаў усюды (*К. Чорны*). |

## СЛОЖНОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ (СКЛАДА́НЫ СКАЗ)

### Типы сложных предложений по структуре, значению и средствам связи (Тыпы складаных сказаў паводле структуры, значэння і сродкаў сувязі)

| Тип предложения | Характеристика | Примеры |
|---|---|---|
| Бессоюзное (Бяззлучнікавы) | Сложное предложение, в котором простые предложения связаны между собой интонацией, без союзов и союзных слов | Кажуць людзі: у год раз ночкай з гуслямі дзед з кургана, як снег, белы выходзіць (*Я. Купала*). |
| Сложноподчиненное (Складаназалежны) | Сложное предложение, в котором простые предложения являются синтаксически неравнопраными и находятся в зависимой связи. Эту связь обеспечивают подчинительные союзы и союзные слова | Пасека – гэта цудоўная гаспадарка, дзе дружба чалавека з прыродай яднаецца недзе ў самым сонцы (*П. Пестрак*). |
| Сложносочиненное (Складаназлучаны) | Сложное предложение, в котором синтаксически равноправные простые предложения связываются между собой интонацией и сочинительными союзами | Зямля наша – самы святы запаведнік, і трэба, як маці, яе берагчы (*П. Панчанка*). |

| | | |
|---|---|---|
| Комбинированное (Камбінаваны) | Сложное предложение, состоящее из трех и более простых предложений, связанных разными видами связи | Хай робіцца ўсё па Ньютону, але патрабуе мой лёс зрабіць выключэнне з закону, каб бомбам не падаць з нябёс (*П. Прыходзька*). |

## Выражение отношений в сложносочиненном предложении (Выражэнне адносін у складаназлучаным сказе)

| **Типы отношений в зависимости от вида сочинительного союза** | **Средства связи** | **Примеры** |
|---|---|---|
| Соединительные (Спалучальныя) | і; ды; а; і…і; ні…ні; як…, так і | Ранак скончыўся, і поўдзень з хмарак сонейкам бліснуў (*М. Калачынскі*). |
| Противительные (Супраціўныя) | а; ды; але; аднак; затое; не толькі…але і | Сонца яшчэ не ўзышло, але паўнеба ўжо набракла малінавай фарбай (*В. Хомчанка*). |
| Распределительные (Размеркавальныя) | ці; або (альбо); або…або; ці…ці; то…то; ці то…ці то; не то…не то; ні то…ні то | У карых вачах чалавека свяцілася не то хітрынка, не то прарывалася лёгкая ўсмешка (*М. Лынькоў*). |

## Выражение отношений в сложноподчиненном предложении (Выражэнне адносін у складаназалежным сказе)

| **Типы отношений в зависимости от вида придаточного предложения** | **Средства связи** | **Вопросы** | **Примеры** |
|---|---|---|---|
| Места (Месца) | дзе, куды, адкуль | дзе? куды? адкуль? | Шалашы стаялі між стромкіх дрэў глухой дзікай пушчы, куды рэдка заглядала людское вока (*Я. Колас*). |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Времени<br>(Часу) | калі,<br>пакуль,<br>пасля таго як | калі?<br>з якога<br>часу? да<br>якога часу? | Калі партызаны<br>мінулі вёску Сушкава,<br>дарога пайшла полем<br>(*І. Пташнікаў*). |
| Условия<br>(Умовы) | калі,<br>каб,<br>абы, раз | пры якой<br>умове? | Калі б сабраць усе платы,<br>праз акіян ляглі б масты<br>(*С. Грахоўскі*). |
| Причины<br>(Прычыны) | таму што, бо,<br>па прычыне<br>таго што | чаму?<br>па якой<br>прычыне? | Весяляцца старыя і<br>дзеткі, што прыбытак ад<br>працы ў іх гэткі<br>(*Я. Купала*). |
| Цели<br>(Мэты) | каб, абы,<br>для таго каб,<br>на тое каб | для чаго?<br>з якой мэ-<br>тай? | А каб агонь душы не<br>згас, няхай жыве ў<br>кожным з нас хлап-<br>чук вясёлы і ласкавы<br>(*С. Грахоўскі*). |
| Уступки<br>(Уступкі) | хоць (хаця), хай<br>(няхай), дарма<br>што, нягледзя-<br>чы на тое што | нягледзячы<br>на што? | Хоць заплаціць<br>прыходзіцца дарага,<br>затое ж ехаць будзе<br>выгадна (*Я. Колас*). |
| Сравнительные<br>(Параўнальныя) | як, нібы, бы,<br>быццам | як? | Усё зацвіло, загаманіла,<br>бы жыватворчая тут сіла<br>ад сну прыроду абудзіла<br>(*Я. Колас*). |
| Способа<br>действия<br>(Спосабу<br>дзеяння) | што, як | як?<br>якім<br>чынам? | У іншых месцах хмель<br>так абкручваў алешыну,<br>так спавіваў яе, што<br>дрэва не вытрымлівала –<br>памірала (*Я. Пархута*). |
| Меры и степени<br>(Меры і ступені) | колькі, аж<br>(ажно), як, што,<br>быццам, нібы | як<br>(наколькі)<br>добра<br>(дрэнна)?<br>у якой<br>меры? | Стала адразу так горача,<br>весела, добра, нібы<br>ён фарсіраваў нейкі<br>нялёгкі, запаветны рубеж<br>(*Я. Брыль*). |

# БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК. ПРАКТИЧЕСКИЙ КУРС

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА. ПРАКТЫЧНЫ КУРС

# МОДУЛЬ 1

## ЗНАЁМСТВА. СЯМ'Я

- **Як задаць пытанне**
- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеяслоў. Прошлы час дзеясловаў**
  - **Сістэма склонаў іменных часцін мовы**
  - **Займеннік. Асабовыя і прыналежныя займеннікі**
  - **Зваротны займеннік *сябе***
  - **Складаназлучаныя сказы (супрацiўныя)**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Добрай ра́ніцы!** – доброе утро
**Добры дзе́нь / До́брага дня! / Дабрыдзень!** – добрый день
**Добры ве́чар!** – добрый вечер
**Віта́ю!** – приветствую
**Прывіта́нне!** – привет
**Да пабачэння!** – до свидания
**Быва́й! / Быва́йце!** – прощай (прощайте)
**Усяго добрага!** – всего хорошего
**Добрай ночы! / Дабра́нач!** – спокойной ночи
**Дзякаваць (падзякаваць) (каму? чаму?)** – благодарить (поблагодарить) (кого? что?)
**Дзякуй! / Дзякую!** – спасибо / благодарю
**Калі ла́ска!** – пожалуйста
**Няма́ за што!** – не за что
**Прабача́ць (праба́чыць) (каму?)** – прощать (простить) (кого?)
**Дарава́ць (каму?)** – извинить (кого?)
**Дазвольце прадста́віцца** – позвольте представиться
**Як вас заву́ць?** – как вас зовут?

**Ве́льмі прые́мна** – очень приятно
**Знаёміцца (пазнаёміцца) –** знакомиться (познакомиться)
**Знаёмства –** знакомство
**Ве́тлівы –** вежливый
**Віта́цца (прывіта́цца) –** приветствовать / здороваться (поприветст-
вовать / поздороваться)
**Развітвацца (развіта́цца) –** прощаться (попрощаться)
**Сустрака́цца (сустрэ́цца) –** встречаться (встретиться)
**Сустрэ́ча –** встреча
**Ве́даць (даве́дацца) –** знать (узнать)
**Разуме́ць (зразуме́ць) –** понимать (понять)
**Размаўля́ць –** разговаривать
**Тлума́чыць (патлума́чыць / растлума́чыць) –** объяснять (объяснить)
**Імя́ –** имя
**Імя́ па ба́цьку –** отчество
**Прозвішча –** фамилия
**Ся́бар –** друг
**Сяброўка –** подруга

**Практыкаванне 1. Праслухайце, потым прачытайце дыялогі па ролях.**

**А.**
– Добры дзень!
– Добры дзень!
– Я ваша новая выкладчыца беларускай мовы. Давайце пазнаёмімся. Мяне завуць Алена Рыгораўна. А вас?
– Андрэй Вecon.
– Вельмі прыемна. Адкуль Вы?
– Я з Украіны.
– А як Вас завуць?
– Мяне завуць Сцяпан Гнацюк. Я таксама з Украіны.

**Б.**
– Выбачайце мне! Прафесар Міхневіч?
– Так, гэта я.
– Добры дзень!
– Добры дзень!
– Дазвольце прадставіцца. Васілеўскі Аляксей, аспірант кафедры беларускай мовы.

– Вельмі прыемна. Сяргей Мікалаевіч Міхневіч.
– Праходзьце, калі ласка. Я пакажу Вам наш універсітэт.

**В.** – Наталля Паўлаўна, Вы знаёмыя з прафесарам Паплаўскай?
– Так. Я ведаю яе вельмі добра. Вы хочаце, каб я вас пазнаёміла?
– Так. Калі ласка.
– З задавальненнем.

**Г.** – Святлана Сяргееўна, дазвольце пазнаёміць Вас з маёй калегай з Брэста. Гэта Людміла Дзмітрыеўна Максімава.
– Вельмі рада знаёмству. Я чула ваш даклад на канферэнцыі.
– Вялікі дзякуй. Вельмі прыемна. Я думаю, што наша сустрэча невыпадковая. У мяне да Вас ёсць пытанні. Я займаюся праблемамі сербскай літаратуры, як і Вы.
– Буду рада дапамагчы. Да сустрэчы вечарам.
– Дзякую Вам. Да пабачэння.

**Д.** – Прывітанне, Максім! Рады цябе бачыць!
– Дабрыдзень, Кастусь! У цябе госці?
– Так, гэта мае добрыя знаёмыя. Я цябе пазнаёмлю з імі. Знаёмцеся, калі ласка: Максім, мой універсітэцкі таварыш. Ларыса, Таццяна, Надзея – мае аднакласніцы.

**Практыкаванне 2. Дапоўніце дыялогі рэплікамі.**

**А.** – Дазвольце з Вамі пазнаёміцца!
– ...
– Вельмі прыемна! А мяне завуць Вольга. А як Ваша імя?
– ...
– А як імя Вашага сябра?
– ...

**В.** – ...
– Добры дзень!
– ...
– Вельмі прыемна!
– ...
– Маё імя па бацьку Пятровіч.

## ЯК ЗАДАЦЬ ПЫТАННЕ?

| Што гэта? / Хто гэта? | Что это? Кто это? |
|---|---|
| Які / Якая / Якое / Якія? | Какой / Какая / Какое / Какие? |
| Дзе? | Где? |
| Куды? | Куда? |
| Адкуль? | Откуда? |
| Колькі? | Сколько? |
| Як? | Как? |

**Практыкаванне 3. Задайце пытанні да адказаў (слова, да якога трэба задаць пытанне, выдзелена).**

– ... ?
– Гэта **рэстаран**.

– ... ?
– Гэта **мая** мама.

– ... ?
– Гэта **добрая** кніга.

– ... ?
– Гэта **новы** фільм.

– ... ?
– Гэта **зімовае** паліто.

– ... ?
– Гэта **фінскія** лыжы.

– ... ?
– Універсітэт **справа**.

– ... ?
– Брат паехаў **на вакзал**.

– ... ?
– Алена вярнулася **са школы**.

– ... ?
– Я заплаціла за білеты **трыццаць тысяч рублёў**.

– ... ?
– Да ўніверсітэта можна даехаць **на метро**.

**Практыкаванне 4. Праслухайце тэкст.**

## СУСТРЭЧА Ў ПРАЗЕ



Блакітныя вочы і чорныя вочы сустрэліся. Ён збіраўся загаварыць з ёю, але ў гэты момант ударылі званы касцёла святога Віта, і яны не пачулі адно аднаго.

А потым іх развялі па розных экскурсіях.

Другая сустрэча была на Карлавым мосце. І гэта нельга было назваць выпадковасцю.

Бо залатая Прага знаёміць усіх. Рускі, беларус, украінец, армянін, казах хутчэй спаткаюць адзін аднаго тут, чым у Маскве, Кіеве або Мінску.

Такі гэты горад – залатая Прага, вуліцамі якой хадзілі калісьці Эйнштэйн і Франк.

Яны сустрэліся там, дзе турысты дакранаюцца да святыняў Яна Непамуцкага.

Яна прыклала руку да святыні, і ён заўважыў на пальцы правай рукі залаты пярсцёнак.

Блакітныя і чорныя вочы сустрэліся зноў.

Знаёмства адбылося вельмі хутка.

– Я другі раз бачу вас, – прамовіў ён. – Гэта не выпадковасць.

Ён спахапіўся, што размаўляе з незнаёмай маладой жанчынай па-беларуску, але яна зразумела яго і паспрабавала, як магла, адказаць яму на ягонай мове.

– Я з Масквы, – сказала яна, – але я трошкі разумею па-беларуску.

– А я, як вы здагадаліся, з Мінска. А тут я на сімпозіуме славістаў, як, напэўна, і вы.

– Здагадаліся. Мая спецыяльнасць – польская і чэшская мовы, а беларускую я ведаю зусім мала. Хацела б ведаць больш.

– Дазвольце прадставіцца. Мяне зваць Алесь. А вас?

– А мяне – Анна.

– У нас вас маглі б называць Ганнай.

– Хіба ў рускіх і беларусаў не аднолькавыя імёны?

– Ёсць істотная розніца.

Алесь не паспеў патлумачыць ёй гэтую розніцу, бо іх экскурсіі зноў разышліся па розныя бакі. Ён не супраціўляўся гэтаму, бо яго крыху трывожыў залаты пярсцёнак на яе правай руцэ.

У трэці раз яны сустрэліся ва ўніверсітэцкім дворыку.

З мемарыяльнай дошкі на іх задуменна глядзеў мужчына. Па доктарскай шапачцы можна было пазнаць у ім вучонага.

Ягонымі суседзямі былі Яраслаў Гашак, Карэл Чапек і Франц Кафка.

– Францыск Скарына, беларускі першадрукар, родам са слаўнага горада Полацка, – гаварыў экскурсавод. – Ён падараваў беларусам Біблію на зразумелай для іх мове. Лепшыя гады свайго жыцця правёў у Празе і апошнія гады таксама...

– Давайце сфатаграфуемся ў кампаніі з вашым земляком, – прапанавала яна.

Пасля гэтага яны абмяняліся адрасамі.

– Я жыву на Цвярской вуліцы, – паведаміла яна.

– А я – на праспекце Незалежнасці, дом трыццаць два, кватэра сем.

Іх экскурсіі даўно разышліся па розныя бакі.

Надышоў час развітвацца.

– Было вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца.

– І мне таксама.

– Бывайце, Алесь.

– Да пабачэння, Анна.

– Можаце называць мяне па-вашаму – Ганна. І ўвогуле мне хацелася б лепш ведаць вашу мову.

Іх рукі сустрэліся.

І тут ён заўважыў, як за той кароткі час, што яны не бачыліся, яе залаты пярсцёнак паспеў перабрацца з правай рукі на левую.

**Францыск Скарына** (каля 1490 – каля 1551) – беларускі першадрукар, асветнік, пісьменнік, вучоны. 16 жніўня 1517 г. выдаў у Празе «Псалтыр» – першую беларускую друкаваную кнігу.

**Практыкаванне 5. Закончыце сказы.**

1. Такі гэты горад – залатая Прага...
2. У трэці раз яны сустрэліся...
3. Францыск Скарына, беларускі першадрукар...
4. Яе залаты пярсцёнак...

**Практыкаванне 6. Адкажыце на пытанні.**

1. Як завуць героя тэксту?
2. Як завуць гераіню тэксту?
3. Адкуль прыехала гераіня?
4. Адкуль прыехаў герой?
5. Ці ведае гераіня беларускую мову?
6. Якія мовы ведае гераіня?

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## СЯМ’Я



**Ба́цька / та́та** – отец / папа
**Ма́ці / ма́ма** – мать / мама

**Бацькі** – родители
**Сын** – сын
**Дачка́** – дочь
**Брат (старэ́йшы / малодшы)** – брат (старший / младший)
**Сястра́ (старэ́йшая / малодшая)** – сестра (старшая / младшая)
**Дзяду́ля / дзед** – дедушка / дед
**Бабу́ля / ба́ба** – бабушка
**Уну́к** – внук
**Уну́чка** – внучка
**Дзя́дзька –** дядя
**Цётка** – тетя
**Сваякі** – родственники
**Стрые́чны брат** – двоюродный брат
**Стрые́чная сястра́** – двоюродная сестра
**Дзіця́** – ребенок

**Практыкаванне 7. А. Праслухайце гісторыю Максіма.**

Мяне завуць Максім. Мая сям'я невялікая. Майго бацьку завуць Генадзь Пятровіч. Маю маці завуць Алена Мікалаеўна. У мяне ёсць старэйшы брат. Яго завуць Васіль. У мяне ёсць яшчэ дзве бабулі і адзін дзядуля. Дзядуля Сцяпан і бабуля Вера (яны бацькі маёй маці) жывуць на суседняй вуліцы. Я часта бываю ў іх. Бабуля заўсёды хоча мяне накарміць, а дзядуля заўсёды хоча навучыць мяне правільна жыць. Я іх вельмі люблю. Бабуля Надзя (мама майго бацькі) жыве адна ў невялікім гарадку Узда. Там жыве і мой дзядзька Антон з сям'ёй. Ён брат майго таты. Усе сваякі маёй мамы жывуць у Мінску. Гэта яе старэйшая сястра, для мяне цётка Вольга, і яе малодшы брат, для мяне дзядзька Пятро. Мая стрыечная сястра Наста, дачка цёткі Вольгі, жыве ў Смаленску. Я даўно яе не бачыў. Усе мае сваякі вельмі добрыя людзі.

**Б. Згодны ці не згодны вы з інфармацыяй?**

***Узор***: – Імя героя Максім.
Так, гэта праўда, імя героя Максім.

У героя вялікая сям'я.
– Не, гэта няпраўда, у героя невялікая сям'я.

1. У Максіма ёсць малодшая сястра.
2. У Максіма дзве бабулі і адзін дзядуля.
3. Бацькі мамы Максіма жывуць блізка.

4. Бабуля Вера заўсёды вучыць Максіма жыць, а дзед Сцяпан заўсёды яго корміць.
5. Дзядзька Антон – брат мамы Максіма.
6. Усе сваякі мамы Максіма жывуць у сталіцы Беларусі.
7. У маці Максіма дзве сястры.
8. Стрыечная сястра Максіма жыве ў Расіі.

**В. Раскажыце пра сваю сям'ю.**

## ГРАМАТЫКА

### Дзеяслоў

### Прошлы час дзеясловаў

**Аснова інфінітыва + суфікс -ў-//-л- або – Ø- + канчатак**

пазнаёмі-(**ць**) – я, ты, ён пазнаёмі-**ў**; я, ты, яна пазнаёмі**-л-а**; яно пазнаёмі**-л-а**; мы, вы, яны пазнаёмі**-л-і**

заве́з**-(ці)** – я, ты, ён завёз**-Ø-**; я, ты, яна заве́з**-л-а**; яно заве́з**-л-а**; мы, вы, яны заве́з**-л-і**

дапамаг-(**чы́**) – я, ты, ён дапамог**-Ø-**; я, ты, яна дапамаг**-л-**á; яно дапамаг**-л-о**; мы, вы, яны дапамаг**-л-**і

апя**-(чы́**) – я, ты, ён апёк- **Ø-**; я, ты, яна апяк**-л-á**; яно апяк**-л-о**; мы, вы, яны апяк**-л-**і

**Практыкаванне 8. Пастаўце дзеясловы ў дужках у форму прошлага часу.**

1. Мой дзед (мець) пяць братоў і адну сястру. 2. Мы (прыехаць) у госці да цешчы. 3. Раней наша сям'я (жыць) у вёсцы. 4. Мой бацька (сустрэць) маці, калі (быць) студэнтам першага курса. 5. Сястра (дапамагчы) мне купіць вясельны букет для маёй нявесты. 6. Мы штогод (адпачываць) летам у нашых сваякоў на Палессі. 7. Мая жонка калісьці (ездзіць) са мной на рыбалку. 8. Бацькі (выхаваць) мяне ветлівым і адказным. 9. Мой маленькі пляменнік (пачаць) хадзіць. 10. Мая стрыечная сястра (нарадзіць) блізнят-дзяўчатак. 11. Жаніх маёй сястры доўга (працаваць) за мяжой. 12. Я (убачыць) свайго дзядзьку першы раз на маім вяселлі. 13. Мы з братам (пакахаць) адну дзяўчыну. 14. Наш далёкі сваяк (прывезці) нам сабаку ў падарунак. 15. Мае бацькі (браць) шлюб, калі ім было па васямнаццаць гадоў. 16. Мінулым летам мы ўсёй сям'ёй (падарожнічаць) па Еўропе. 17. Мама заўсёды (гатаваць) нам смачныя сняданкі. 18. Старэйшы брат (скончыць) школу з выдатным атэстатам.

**Практыкаванне 9. Пастаўце дзеясловы ў пытаннях у форму прошлага часу. Дайце поўныя (сцвярджальныя або адмоўныя) адказы на пытанні.**

*Узор*: – Ты (хадзіць) у дзяцінстве ў дзіцячы садок?
– Ты хадзіў (ла) у дзяцінстве ў дзіцячы садок?
– Не, я не хадзіў(ла) у дзяцінстве ў дзіцячы садок.

1. Мама ўжо (спячы) пірог?
2. Ты (зберагчы) свой першы веласіпед?
3. Твой бацька шмат часу (бавіць) з табой?
4. Ты (трэсці) калі-небудзь яблыкі ў чужым садзе?
5. Мама (захаваць) твае цацкі?
6. Ты часта (хварэць) у дзяцінстве?
7. Бабуля (песціць) цябе?
8. Ты (расці) паслухмяным дзіцём?
9. Ты (перамагаць) калі-небудзь бацьку ў шахматы?
10. Ты (хлусіць) бацькам?

## Сістэма склонаў іменных часцін мовы (Асабовыя займеннікі)

| Адзіночны лік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Н.** | я | ты | ён | яна | яно |
| **Р.** | мяне | цябе | яго | яе | яго |
| **Д.** | мне | табе | яму | ёй | яму |
| **В.** | мяне | цябе | яго | яе | яго |
| **Т.** | мной / -ою | табою / -ой | ім | ёй / -ёю | ім |
| **М.** | пры мне | пры табе | пры ім | пры ёй | пры ім |

| Множны лік | | |
|---|---|---|
| **Н.** мы | вы | яны |
| **Р.** нас | вас | іх |
| **Д.** нам | вам | ім |
| **В.** нас | вас | іх |
| **Т.** намі | вамі | імі |
| **М.** пры нас | пры вас | пры іх |

**Практыкаванне 10. Прачытайце, пастаўце выдзеленыя займеннікі ў патрэбным склоне.**

Сустрэць (*каго*) ***ты***, сказаць (*каму*) ***яна***, гаварыць (*з кім*) ***яны***, убачыць (*каго*) ***яны***, прапанаваць (*каму*) ***вы***, падарыць (*каму*) ***ён***, купіць (*каму*) ***я***, папрасіць (*каго*) ***ты***, сябраваць (*з кім*) ***яна***, чытаць (*каму*) ***мы***, пісаць (*пра каго*) ***яны***, пазнаёміцца (*з кім*) ***вы***, наведаць (*каго*) ***яно***, параіць (*каму*) ***яна***.

**Практыкаванне 11. Раскрыйце дужкі, пастаўце займеннікі ў патрэбным склоне.**

1. Алесь пазнаёміўся з (яна). 2. Ён ветліва павітаўся з (ты). 3. Бацька купіў марожанае (мы). 4. Максім пачаставаў цукеркамі (вы). 5. Васіль падарыў кветкі (я). 6. Сусед забыў свой кашалёк у (яны). 7. Брат расказаў цікавую гісторыю пра (яно). 8. Сястра паслала паштоўку (яны). 9. Ганна прыехала ў госці да (ён). 10. Мікола купіў залаты пярсцёнак (яна). 11. Стас падзяліўся ўражаннямі з (яны). 12. Іван запрасіў у тэатр (мы).

**Асабовыя і прыналежныя займеннікі**

| Асабовыя | Прыналежныя | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Хто?** | **Чый ён?** | **Чыя яна?** | **Чыё яно?** | **Чые яны?** |
| я<br>ты<br>ён<br>яна<br>яно | мой<br>твой<br>яго / ягоны<br>яе / ейны<br>яго / ягоны | мая<br>твая<br>яго / ягоная<br>яе /ейная<br>яго / ягоная | маё<br>тваё<br>яго / ягонае<br>яе / ейнае<br>яго /ягонае | мае<br>твае<br>яго / ягоныя<br>яе / ейныя<br>яго / ягоныя |
| мы<br>вы<br>яны | наш<br>ваш<br>іх / іхні | наша<br>ваша<br>іх / іхняя | наша<br>ваша<br>іх / іхняе | нашы<br>вашы<br>іх / іхнія |

**Практыкаванне 12. Папрацуйце ў парах: дапоўніце рэплікі, адкажыце на пытанні.**

– ***Мяне*** *завуць… **А цябе**?*
– …
– ***Майго*** *бацьку завуць… А **твайго**?*
– …
– ***Маю*** *маці завуць… А **тваю**?*
– …

– *У **мяне** ёсць сястра.  А ў **цябе**?*
– ...
– ***Маю** сястру завуць… А **тваю**?*
– ...
– *У **мяне** ёсць стрыечны брат.  А ў **цябе**?*
– ...
– *У **нашай** сваячкі няма новага камп'ютара. А ў **вашай**?*
– ...
– *У **мяне** ёсць сабака.  А ў **цябе**?*
– ...
– *Бацькі купілі **мне**  машыну. А **табе**?*
– ...
– ***Я** жыву ў горадзе. А **ты**?*
– …

**Практыкаванне 13.  Папрацуйце ў парах: пастаўце пытанне і дайце на яго кароткі адказ, ужываючы займеннікі, што стаяць у дужках.**

***Узор*:** Чые гэта кнігі?
– Гэта  мае (твае, яго, яе, іх, нашы, вашы) кнігі.

Дом, кватэра,  пакой, чамадан, сумка, ручка, сшыткі, алоўкі, тэлефон, мяч, скрыпка, машына, матацыкл, лыжы, тэлевізар, стол, веласіпед, канькі, трумо, куртка, капялюш, паліто, чаравікі, боты, прынтар, альбом, парфума, заколка, кветкі,  пярсцёнак, гадзіннік,  фотаздымак,  акуляры, пано.

**Практыкаванне 14.   Праслухайце тэкст.**

Мяне завуць Вольга. Я нарадзілася ў Мінску. Я замужам. Майго мужа завуць Уладзімір. Нядаўна яму прапанавалі пасаду дырэктара фірмы. А гэта наш сын Канстанцін. Ён скончыў медыцынскі інстытут і паступіў у аспірантуру. Наш малодшы сын  Мікола зараз у вёсцы, ён школьнік, у яго цяпер канікулы. У вёсцы жыве наша бабуля – мая маці.

**Практыкаванне 15.  Адкажыце на пытанні:**

1. Што вы можаце расказаць пра сябе (пра сваю сям'ю, блізкіх, сваякоў)?
2. Чым займаецеся вы (вашы блізкія, родныя)?
3. Прачытайце ўважліва, выпішыце з тэксту займеннікі, вызначце іх разрад і запішыце ў пачатковай форме.

**Практыкаванне 16. Прачытайце радкі, назавіце займеннікі, вызначце разрад і склон, вусна праскланяйце іх.**

…Вазьмі, як выток, як аснову
І як вянец усяго –
Адвечнае матчына слова,
Пяшчоту і сілу яго.

Яно табе, дзе ты ні будзеш,
У радасці і ў журбе
Напомніць, што ёсць недзе людзі,
Якія чакаюць цябе.

(*М. Рудкоўскі*)

**Практыкаванне 17. Прачытайце, спішыце тэкст, раскрываючы дужкі.**

У (я) ёсць сяброўка Зоя. У (яна) заўтра святочны дзень. Яна сустракае гасцей з Амерыкі. Гэта (яна) стрыечны брат Барыс і (ён) жонка Ірына. Яны жывуць у Бостане. Барыс выкладае музыку ў каледжы, а Ірына працуе бухгалтарам. Зоя не бачыла (яны) больш за дзесяць гадоў. У (яны) будзе цікавая сустрэча, (яны) будзе пра што пагаварыць.

**Практыкаванне 18. Выразна прачытайце верш Н. Гілевіча. Назавіце асабовыя і прыналежныя займеннікі.**

Я хаджу, закаханы ў твае краявіды,
І шапчу як прызнанне: о мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь і трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі…

Колькі доля ні судзіць мне далёкіх вандровак –
Я вярнуся навечна ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве –
Як не дрэвам, хоць зёлкай прарасту для жывых.

(*Н. Гілевіч*)

**Зваротны займеннік** *сябе*

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Н.** | – | **В.** | сябе |
| **Р.** | сябе | **Т.** | сабой / -ою |
| **Д.** | сабе | **М.** | пры сабе |

**Практыкаванне 19. Пастаўце займеннік *сябе* ў патрэбнай граматычнай форме.**

***Узор*:** пабудаваць (*каму*) – пабудаваць *сабе*.

Купіць (*каму*), любіць (*каго*), пакпіць (*з каго*), ганарыцца (*кім*), зненавідзець (*каго*), гаварыць (*пра каго*), напісаць (*каму)*, прачытаць (*пра каго*), пакінуць (*у каго*), пашыць (*каму*), здзекавацца (*з каго*), змагацца (*з кім*), крыўдзіцца (*на каго*), выдумляць (*пра каго*), нарэзаць (*каму*), дараваць (*каму*), злавацца (*на каго*), думаць (*пра каго*), пакласці (*каму*), любавацца (*кім*), падрыхтаваць (*для каго*).

**Практыкаванне 20. Прачытайце прыказкі, выкарыстоўваючы неабходны займеннік.**

1. Усім сябрам ты не дагодзіш, а толькі сам (***сабе, сябе***) нашкодзіш.
2. Шануй адзенне дома, а яно (***табе, цябе***) у людзях.
3. Аднаго разу казала рэдзька: «Я добрая з мёдам». – А мёд кажа: «Чорт (***цябе, табе***) просіць, добры я і без (***табе, цябе***)».
4. Няверніка або сам абыдзі, або да (***сябе, сабе***) не падпусці.
5. І мыш есці не просіць – сама (***сябе, сабе***) наносіць.
6. Дай зямлі, і яна (***табе, цябе***) дасць.
7. Суседа не купляй і не прадавай, а то і сам (***сабе, сябе***) прадасі.
8. Усякі горне не ад (***сабе, сябе***), а да (***сабе, сябе***).
9. Хлеб кажа: кінь стрэльбу і вуду – я ў (***цябе, табе***) на стале буду.
10. Дома ў (***сабе, сябе***) – як хочаш, як можаш, а ў госцейках – як кажуць.
11. Ніхто не зробіць горш (***табе, цябе***), як сам (***сябе, сабе***).

## Складаназлучаныя сказы (супраціўныя)

| **Злучнікі** | **Адносіны** |
|---|---|
| а, але<br>ды (=але) | Супастаўлення:<br>Косця чакаў Ірыну, але тая чамусьці спазнялася.<br>Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш. // але |
| аднак<br>але | Супрацьпастаўлення:<br>Васіль хацеў пайсці ў кіно, аднак перадумаў і лёг спаць. |
| затое | Замены, кампенсацыі:<br>Мы не змаглі пабудаваць дом, затое купілі шыкоўную кватэру. |

🎧 **Практыкаванне 21. Праслухайце сказы. Устаўце замест кропак неабходныя злучнікі.**

1. Я не дачакаўся сёння Алеся, … пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай.
2. Смачны жабе арэх, … зубоў Бог не даў.
3. Я амаль не ведаў Антона, … ён адразу ўсхвалявана пачаў гаварыць пра свае складаныя адносіны з жонкаю.
4. Ганна ніколі не плакала, … яна была вельмі крыўдлівая.
5. Уладзімір спяваў бы песні, … Вольга не слухае іх.
6. Маці пайшла ў магазін, … Люда ўзялася гатаваць вячэру.
7. Вера была яшчэ маладая, … валасы ў яе ўжо пасівелі.
8. Я не люблю бананы, … вельмі люблю яблыкі.
9. Мікола моцна пастукаў у дзверы, … з кабінета ніхто не адазваўся.
10. Наша сустрэча павінна была адбыцца раніцай, … надвор’е ўнесла сваю папраўку ў планы.
11. Твар у Сцепаніды быў стары і зморшчаны, … голас быў вельмі прыемны і звонкі.
12. У агародзе я пасадзіла памідоры і капусту, … ў палісадніку вяргіні і гладыёлусы.
13. Дождж сціх, выглянула сонца, … на вуліцы было холадна і сыра.
14. Я паслала ліст свайму сябру ў Мінск, … адказу так і не дачакалася.
15. Мы не змаглі сесці ў аўтобус, … хутка «злавілі» маршрутку.

🎧 **Практыкаванне 22. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання.**

## СУСТРЭЧА Ў МАЁНТКУ БАЛОТНЫЯ ЯЛІНЫ

Так знаёміліся літаратурныя героі ў XIX ст.
(Паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха»)

[У канцы XIX ст. фалькларыст Андрэй Беларэцкі наведвае Паўднёвую Беларусь, якая мае гістарычную назву Палессе. Гэта краіна рэк і балот.

Падарожныя трапляюць у навальніцу і ледзьве не гінуць у багне.

Уначы яны пад’язджаюць да маёнтка Балотныя Яліны.

Ахмістрыня (аканомка) баіцца невядомых гасцей.

Але яна шкадуе людзей, якія выбраліся з непралазнай твані, і пускае іх у хату. Фалькларыст знаёміцца з гаспадыняй маёнтка Балотныя Яліны Надзеяй Яноўскай.]



...Калі тая самая ахмістрыня прынесла нам вячэру і пакінула нас адных, я спытаў:

– З кім я размаўляю?

– Я гаспадыня Балотных Ялін. Надзея Яноўская.

– Прабачце, можа, мне трэба было прадставіцца раней? Я падмануў пані ахмістрыню. Я зусім не купец.

– Я ведаю, – вельмі спакойна сказала яна. – Купцы не такія. Вельмі, вельмі рэдка прыязджаюць да нас людзі. І яны баяцца. І я таксама мала каго магу пусціць да нас. Вы не такі, як іншыя... Рэдка ў нас бываюць вартыя даверу людзі.

Твар яе быў прастадушны, дзіцячы. Але найбольш пераканаў мяне голас. Ён быў павольны, абыякавы і адначасова трапяткі, як голас начной птушкі.

– І да таго ж я бачыла вас... раней.

– Дзе? – шчыра здзівіўся я.

– Не ведаю. Я многіх людзей бачу. Мне здаецца, што я вас бачыла ў сне... Часта... А магчыма, і не ў сне. Вам не здаралася адчуваць такое, як быццам вы жылі даўно? І зараз знаходзіце такое, што бачылі даўно?

Я чалавек здаровы. І я яшчэ не ведаў тады, што такое бывае ў знерваваных людзей.

– Я вас бачыла, – зноў паўтарыла яна. – Але хто вы? Я не ведаю вас.

– Мяне завуць Андрэй Беларэцкі, пані. Я вучоны-фалькларыст.

Яна зусім не здзівілася. Здзівіўся я, што гэта слова ёй знаёма.

– Што ж, вельмі цікава. А чым вы займаецеся? Песнямі, прымаўкамі?



– Легендамі, пані. Старымі мясцовымі легендамі.

Я спалохаўся не на жарт. Яна раптам выпрамілася, як быццам яе катавалі электрычным токам, твар збялеў, павекі закрыліся.

Перарывістым голасам яна сказала:

– І вы... І вы таксама... Нашто вы мяне мучыце? Нашто мяне ўсе мучаць?

[Так пачынаецца гістарычны дэтэктыў Уладзіміра Караткевіча, у якім ёсць містыфікацыі, забойствы і сямейныя таямніцы. Чаму гераіня баіцца старадаўніх легенд і паданняў? Бо яна сама – ахвяра даўняй гістарычнай падзеі і радавога праклёну. Яе загадка будзе разгадана ў фінале твора.]

**Уладзімір Караткевіч** (1930–1984) – беларускі празаік, паэт, драматург, эсэіст. Класік гістарычнага жанру нацыянальнай літаратуры. Папулярызаваў і рамантызаваў многія эпізоды беларускай мінуўшчыны.

# МОДУЛЬ 2

## БІЯГРАФІЯ. МАЯ ПРАЦА. ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловаў. Цяперашні (будучы просты) час дзеясловаў**
  - **Дзеяслоў меЦь**
  - **Назоўнік (лік, род)**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Адказа́ць** – ответить
**Адука́цыя** – образование
**Ажані́цца з кім-не́будзь** – жениться на ком-нибудь
**Асабі́сты** – личный
**Атрыма́ць** – получить
**Ве́даць** – знать
**Вёска** – деревня
**Вобласць** – область
**Войска, армія** – войско, армия
**Вучоба** – учеба
**Вучы́ць (вы́вучыць)** – учить (выучить)
**Вучы́цца** – учиться
**Выкла́дчык** – преподаватель
**Горад** – город
**Грама́дства** – общество
**Грама́дская дзе́йнасць** – общественная деятельность
**Даве́дацца** – узнать
**Дзяржа́ва** – государство
**Дзяржа́ўны** – государственный
**Жана́ты (нежана́ты), халасты́** – женатый (не женатый), холостой
**За́мужам (не за́мужам)** – замужем (не замужем)
**Звальня́ць (зво́льніць)** – увольнять (уволить)
**Камерцы́йны** – коммерческий

**Мястэ́чка** – городок
**Нараджа́цца (нарадзі́цца)** – рождаться (родиться)
**Наста́ўнік** – учитель
**Наста́ўніца** – учительница
**Падру́чнік** – учебник
**Выйсці́ за́муж** – выйти замуж
**Паміра́ць (паме́рці)** – умирать (умереть)
**Памы́лка** – ошибка
**Памыля́цца (памылі́цца)** – ошибаться (ошибиться)
**Паса́да** – должность
**Пахава́ць** – похоронить
**Пра́ца** – работа (труд)
**Працава́ць** – работать
**Працаві́ты** – работящий
**Працоўны** – рабочий
**Прыва́тны** – частный
**Работа** – работа
**Слоўнік** – словарь
**Скончыць** – закончить
**Сяме́йнае становішча** – семейное положение
**Установа** – учреждение

**Практыкаванне 1. Праслухайце тэкст.**

## ГАННА РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ

Дзень добры, Алесь!

Атрымала твой добры ліст. З прыемнасцю згадваю нашу сустрэчу ў Празе. Яшчэ больш захацелася дасканала вывучыць тваю родную мову. Таму адразу ўзялася за падручнікі і слоўнікі, якія змагла дастаць.

Спрабую адказаць табе па-беларуску. Прабач мне, калі будуць памылкі.

Ты пісаў, што хочаш болей ведаць пра мяне. Вось мая біяграфія. Яна кароткая, хоць я ўжо старая. Мне ўжо дваццаць чатыры гады.

Я нарадзілася 15 сакавіка 1987 года ў Маскве ў сям’і служачых. Мой тата працаваў інжынерам-фізікам на АЭС. Ён умеў расшчапіць ядро атама і разагнаць ядзерныя часціцы. На жаль, ён памёр у 2005 годзе ад раку. Яму было ў той час 52 гады.

Мая мама працавала настаўніцай рускай мовы, цяпер на пенсіі. Яна бадзёрая, вясёлая, любіць гатаваць ежу, спяваць народныя песні,



глядзець тэлевізійныя серыялы пра нешчаслівае каханне і плакаць разам з героямі.

(Як табе мая беларуская мова? Я ўжо шмат зрабіла памылак?)

Я ў сям'і адзінае дзіця. Не маю ні братоў, ні сясцёр.

Маё дзяцінства прайшло на Арбаце, як у герояў Рыбакова. Мы гулялі ў валейбол, бегалі ў кіно, сварыліся і мірыліся, шукалі скарбы.

Цяпер я не гуляю ў валейбол і не шукаю скарбы. Маё захапленне – замежныя мовы. Я скончыла Маскоўскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, цяпер вучуся ў аспірантуры. Я ведаю ўкраінскую, чэшскую, польскую і хацела б ведаць беларускую мову. Мне патрэбна твая дапамога. Я ведаю, што ты працуеш выкладчыкам беларускай мовы. Хачу быць тваёй студэнткай.

(А я ўжо шмат памылак нарабіла?)

Я кахаю сваю спецыяльнасць… Ці трэба сказаць: я люблю сваю работу? Як будзе правільна?

Я забылася, што ў біяграфіі трэба ўказваць сваё сямейная становішча. У пашпарце напісана: «разведзена». Але я адчуваю сябе ўдавой. Мой былы муж для мяне як бы памёр. Цяпер я думаю, што нікога яшчэ не кахала.

Вось такая мая кароткая біяграфія. Вось што я паспела за сваё жыццё зрабіць:

1) Нарадзілася.
2) Пайшла ў школу і скончыла яе.
3) Паступіла ва ўніверсітэт і скончыла яго.
4) Выйшла замуж.
5) Развялася.
6) Вывучыла некалькі моў і паступіла ў аспірантуру.

А што ты паспеў зрабіць? Напэўна, многа.

Дзякую табе за ліст. Чакаю новы.

Да пабачэння.

*Анна*

**P. S.** А па-вашаму – Ганна. А памяншальнае – Ганулька, так?

**Практыкаванне 2. Дапоўніце сказы.**

1. Я нарадзілася ...
2. Мая мама працавала ...
3. Маё дзяцінства ...
4. Я ведаю, што ты ...
5. ... ядзерныя часціцы.
6. ... шукалі скарбы.
7. ... не кахала.

**Практыкаванне 3. Адкажыце на пытанні.**

1. Кім працаваў бацька Ганны?
2. Што любіць рабіць маці Ганны?
3. Ці ёсць у Ганны браты і сёстры?
4. Якая адукацыя ў Ганны?
5. Муж Ганны памёр?
6. Што паспела зрабіць Ганна за сваё жыццё?

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

**Практыкаванне 4. Прааналізуйце розніцу ва ўжыванні дзеясловаў *гатаваць / рыхтаваць; гуляць / іграць; кахаць / любіць* у беларускай і рускай мовах.**

| | |
|---|---|
| Я гатую абед. Я рыхтую дамашняе заданне. | Я готовлю обед. Я готовлю домашнее задание. |
| Я гуляю ў хакей. Я іграю на піяніна. | Я играю в футбол. Я играю на пианино. |
| Я кахаю Міхася. Я люблю макароны. | Я люблю Мишу. Я люблю макароны. |

**А. Устаўце патрэбны дзеяслоў.**

1. Наташа будзе ... заданне на заўтра. 2. Мікола не любіць ... вячэру. 3. Я раней не ўмела ... у шахматы. 4. Сяргей хоча навучыцца ... на баяне. 5. «Я заўсёды буду ... цябе», – сказала нявеста жаніху. 6. Можна навучыць ... родную зямлю?

**Б. Перакладзіце на беларускую мову.**

1. В детстве мы играли в футбол. 2. Студентка не готовила реферат. 3. Маша хотела научиться играть на арфе. 4. Моя бабушка готовила очень хорошо. 5. «Я больше не люблю тебя. Давай останемся друзьями». 6. Мой отец любил читать перед сном.

**Практыкаванне 5. Дапоўніце дыялогі рэплікамі.**

**А.** – Назавіце дату свайго нараджэння.
– ...
– Ваша сямейнае становішча.
– ...
– У Вас ёсць браты ці сёстры?
– ...
– Ваша прафесія?
– ...

**Б.** – ...
– Я нарадзіўся восьмага верасня тысяча дзевяцьсот восемдзесят пятага года.
– ...
– Я ажаніўся два гады таму.
– ...
– Маю жонку завуць Надзея.
– ...
– Яна зараз у адпачынку па доглядзе за дзіцём.
– ...
– У нас адно дзіця. Дачка Вераніка.

## МАЯ ПРАЦА. ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ

- **Прачытайце словы. Ці зразумелае іх значэнне?**

**Прачына́цца (прачну́цца)** – просыпаться (проснуться)
**Люстэ́рка** – зеркало
**Сне́даць (пасне́даць)** – завтракать (позавтракать)
**Абе́даць (паабе́даць)** – обедать (пообедать)
**Вячэ́раць (павячэ́раць)** – ужинать (поужинать)
**Апрана́цца (апрану́цца)** – одеваться (одеться)
**Акадэмі́чны адпачы́нак** – академический отпуск
**Акадэмі́чная запазы́чанасць** – академическая задолженность
**Арты́кул** – статья
**Асве́та** – просвещение
**Выда́тны** – отличный
**ВНУ [вэнэу́]** – ВУЗ
**Выклада́ць** – преподавать

**Выкла́дчык** – преподаватель
**Добры** – хороший
**Залі́чана** – зачтено
**Заліковая кні́жка (залікоўка)** – зачетная книжка (зачетка)
**Заня́ткі** – занятия
**Здавальня́ючы / нездавальня́ючы** – удовлетворительный / неудовлетворительный
**Інтэрна́т** – общежитие
**Экза́мен (іспыт)** – экзамен
**Кані́кулы (вака́цыі)** – каникулы
**Раскла́д заня́ткаў** – расписание занятий
**Склада́ць (скла́сці)** – составлять (составить)
**Ступе́нь (навуковая ступе́нь)** – степень (научная степень)
**Сярэ́дні** – средний
**Паса́да** – должность
**Пачатковы** – начальный
**Сістэматы́чны** – систематический
**Ціка́ва** – интересно

- **Падбярыце рускія эквіваленты да наступных слоў.**

  Устава́ць (уста́ць) ___________
  Умыва́цца (умы́цца) ___________
  Чы́сціць (пачы́сціць) ___________
  Прычаса́ць валасы ___________
  Зрабі́ць макія́ж ___________
  Абува́цца (абу́цца) ___________
  Е́хаць (прые́хаць) ___________
  Ісці́ (прыйсці́) пе́шшу ___________
  Бе́гчы (прыбе́гчы) ___________
  Абітурые́нт / абітурые́нтка ___________
  Абанеме́нт ___________
  Акадэ́мія ___________
  Аспіра́нт / аспіра́нтка ___________
  Бакала́ўр ___________
  Бібліятэ́ка ___________
  Студэ́нт / студэ́нтка ___________
  Студэ́цкі ___________
  Чыта́ч ___________
  Біле́т чытача́ ___________

**Практыкаванне 6. Складзіце словазлучэнні з дадзеных слоў.**

| | |
|---|---|
| пісаць | фальклор |
| вывучаць | залік |
| здаваць | артыкул |
| пераздаць | пачатковы |
| рыхтаваць | кваліфікаваны |
| складаць | расклад |
| выкладчык | заняткі |
| курс | экзамен |

**Практыкаванне 7. У наступным дыялогу рэплікі пераблытаны месцамі. Пранумаруйце іх па парадку.**

– Колькі падручнікаў я магу ўзяць?
– Вы маеце студэнцкі білет?
– Я хацеў бы запісацца ў бібліятэку.
– Што вам патрэбна?
– Слоўнікі мы не даём дадому. Іх мала. Таму імі можна карыстацца толькі ў чытальнай зале.
– Скажыце, калі ласка, дзе знаходзіцца студэнцкі абанемент?
– Я яшчэ не паспеў яго атрымаць. Я маю даведку з дэканата.
– Падыміцеся на трэці паверх.
– Так, даведка з фотаздымкам.
– Не больш за пяць.
– Дзякуй.
– Мне патрэбны англа-беларускі слоўнік.
– А там ёсць ваша фота?
– Як доўга вы будзеце вучыцца?
– Адзін год.
– Запішыце нумар вашага чытацкага абанемента – 653.

🎧 **Практыкаванне 8. Праслухайце дыялогі. Прачытайце дыялогі па ролях. Звярніце ўвагу на выдзеленыя выразы.**

## КАЛЯ РАСКЛАДУ ЗАНЯТКАЎ

– Прывітанне, Макс! Ці даўно прыехаў?
– Вітаю, Багдан! Учора. А ты? Куды ездзіў на канікулах?

– У Карпаты. Потым раскажу. Давай глянем расклад.

– Усе дні занятыя. У нашай групы самы дрэнны расклад. Няма вольнага дня.

– Так. Вельмі непрыемна. Я хацеў падпрацаваць у другой палове дня ў фірме.

– Глядзі, сінхронны пераклад будзе весці Кручкоўскі. Як нам пашанцавала!

– Ну ты прыдумаў! Да кожных заняткаў трэба будзе рыхтавацца!

– Затое час не будзе змарнаваны. Мая сястра помніць усё, чаму вучыў Кручкоўскі, а яна закончыла ўніверсітэт дзесяць гадоў таму.

– Ну, можа, ты і маеш рацыю.

## Перад заняткамі

– Ева, калі мы пойдзем у бібліятэку па падручнікі?

– Давай сходзім на вялікім перапынку.

– Ты што! Мы не паспеем.

– Але ж у нас цэлых дваццаць хвілін.

– Там будзе чарга. Мы толькі змарнуем час.

– Так. Ты маеш рацыю. Я не падумаў. Давай тады на вялікім перапынку заскочым у буфет, а ў бібліятэку пойдзем пасля чацвёртай пары.

– Згода. Потым па дарозе ў інтэрнат купім чаго-небудзь на вячэру.

## На занятках

– Прабачце, ці можна зайсці?

– Заходзьце. Што з вамі здарылася, Дзмітрый? Вы ж ніколі не спазняліся.

– Яшчэ раз прабачце, Марыя Пятроўна. Але сёння я проста праспаў. Мой будзільнік не званіў. Трэба несці яго ў рамонт ці купляць новы.

– А можа, вы проста так моцна спалі, што не чулі, як ён званіў?

– Можа, вы і маеце рацыю.

## На перапынку

– Зося, ты так добра размаўляеш па-беларуску. Ты даўно вучыш беларускую мову?

– Я зусім яе не вучыла. Я маю на ўвазе – не вучыла беларускую мову ў школе. Я з Польшчы, але я беларуска. Мы дома гаворым па-беларуску.

– І навошта ты сюды прыехала? Ты марнуеш час і грошы!

– Як гэта – нашто? Я хачу атрымаць дыплом магістра беларусістыкі. Гэта можна зрабіць толькі ў Мінску.

| Размоўная формула |
|---|
| **Мець рацыю**<br>**Не мець рацыі** |

**Практыкаванне 9. Утварыце фразы паводле ўзору.**

*Узор*: – Максім гаворыць, што слухаць навіны важна.
– Па-мойму, ён мае рацыю (не мае рацыі). Я заўсёды слухаю навіны.

1. Мой дзед думае, што шмат адпачываць сумна.
2. Бацькі гавораць, што вывучаць замежныя мовы важна.
3. Ліза думае, што характар – гэта не важна.
4. Мэт гаворыць, што вучыцца ў Беларусі цікава.
5. Андрэй лічыць, што англічане гавораць хутка.

| Размоўная формула |
|---|
| **Марнаваць час**<br>**Марнаваць грошы** |

**Практыкаванне 10. Утварыце фразы паводле ўзору.**

*Узор*: – Максім дрэнна вучыцца ва ўніверсітэце.
– Я думаю (на маю думку), ён проста марнуе грошы бацькоў.

1. Джон увесь дзень гуляе ў камп’ютарныя гульні.
2. Наташа купіла тры курткі.
3. Ларыса ўвесь вечар размаўляе па тэлефоне з сяброўкай.
4. Я снедаю, абедаю і вячэраю ў рэстаране.
5. Я люблю сядзець, глядзець у акно і не думаць ні пра што.
6. Мы пілі піва ўвесь вечар.
7. Мы ўвесь адпачынак правялі ў казіно.
8. Мае сябры не хочуць ні вучыцца, ні працаваць.
9. Алена і Марына кожную ноч адпачываюць у клубах.

🎧 **Практыкаванне 11. Праслухайце тэкст.**

## НАШ ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ



Дзень добры, Аня (а калі хочаш – Ганулька)!

Дзякуй табе за твой падрабязны ліст. Ты робіш значныя поспехі ў вывучэнні беларускай мовы. Ты засвоіла формулы ветлівасці, можаш пераказаць сваю біяграфію, расказаць пра сваіх блізкіх. А памылкі робіць кожны, хто вучыцца. Давай іх выправім.

«Кахаць» па-беларуску значыць «любіць». Але кахаць можна дзяўчыну, жанчыну. Або юнака, хлопца, мужчыну.

А вось «любіць» у беларускай мове мае больш шырокае значэнне. Можна любіць Радзіму, прафесію, футбол, пельмені. Вось што такое «любіць» і «кахаць» па-беларуску.

Прабач мне, што раблю табе заўвагі. Такая мая прафесія – выкладчык беларускай мовы.

Ты пытаешся ў мяне, ці люблю я сваю работу. Сваю працу я сапраўды люблю. Яна жывая. Прыемна працаваць з моладдзю. З ёю і сябе адчуваеш маладым.

Вось ты пішаш, што табе 24 гады і што ты старая. А я прызнаюся, што мне 34 гады і што я малады. За гэта трэба дзякаваць студэнтам.

А студэнты заўсёды могуць здзівіць. Вось адна завочніца прыйшла на экзамен разам з дзіцём, якое ўвесь час плакала. Потым я даведаўся, што яна брала дзіця напракат у сяброўкі.

А другая студэнтка (яна не з Беларусі родам) не прачытала праграмныя творы па літаратуры і патлумачыла гэта так:

– А я ўвесь вечар трэніравалася гук «г» вымаўляць, таму на тэксты не хапіла часу.

Няўжо ён такі складаны – беларускі гук «г»?

Але часам я зайздрошчу людзям, у якіх рабочы час распісаны па гадзінах. Такі, напрыклад, мой сусед зверху.

Мой сусед працуе зборшчыкам на трактарным заводзе. Штодня на канвееры ён прыкручвае адну і тую ж дэталь да трактара.

Ягоны працоўны тыдзень пачынаецца ў панядзелак. Кожны панядзелак я прачынаюся а шостай гадзіне раніцы ад стукату кухоннага малатка. Гэта суседава жонка гатуе яму на сняданак адбіўную катлету, бо праца ў суседа цяжкая і адказная.

Так пачынаюцца для суседа таксама аўторак, серада, чацвер і пятніца.

А ў далёкай беларускай вёсцы мая мама падымаецца на золку, корміць парсюкоў, курэй, сабаку Жука, выганяе карову на пашу, засцілае стол белым абрусам, ставіць гладыш з малаком, міску са свежым тварагом, кроіць хлеб і кліча снедаць тату.

Я снедаю значна пазней. Мой сняданак – гэта луста хлеба, намазаная маслам, варанае яйка і кубак кавы.

Я радуюся за суседа, што ён мае штодня гарачы сняданак і што ў яго клапатлівая жонка.

Ён працуе на канвееры.

Я чытаю лекцыю.

Мама ідзе па ваду да калодзежа і абмяркоўвае з суседзямі апошнія вясковыя навіны. Мые посуд, бялізну, корпаецца ў агародзе, гатуе абед.

Усе мы стамляемся. Кожная праца па-свойму цяжкая.

Пасля працы сусед глядзіць па тэлевізары футбол. Калі забіваюць гол, ён крычыць і тупае нагамі, і я радуюся разам з ім. Калі няма футбола, сусед і ягоная жонка глядзяць па тэлевізары баевікі са стрэламі і серыялы з пацалункамі.

Я сяджу за камп’ютарам, бо мой рабочы дзень неўнармаваны. Трэба рыхтавацца да лекцыі.

А ў гэты час мая мама ў далёкай беларускай вёсцы ўжо ўправілася са сваімі хатнімі справамі, падаіла карову, згатавала вячэру. Яны з татам сядаюць на ганку і слухаюць, як соладка спяваюць салаўі.

Пасля аднастайнай і цяжкай працы мой сусед любіць грунтоўна адпачыць. Таму ў суботу ён запрашае да сябе гасцей. Госці звіняць чаркамі, гучна размаўляюць, смяюцца і хутка пачынаюць спяваць песні. Песні розныя, ёсць сярод іх і рускія, і беларускія. А якія ты ведаеш беларускія народныя песні?

Потым госці развітваюцца, а гаспадары часам пачынаюць сварыцца. У іх часам нават і посуд б’ецца. Потым гаспадары мірацца.

Ёсць у нас такая прыказка: «Хто каго любіць, той таго і чубіць».

Нешта падобнае паўтараецца і ў нядзелю. Я не заўсёды чую гэта, бо сядаю на веласіпед або ў электрычку, аўтобус. Люблю вандроўкі па закінутых мястэчках і вёсках Беларусі.

Мая мама ў выхадны дзень выпраўляецца ў царкву. Тата едзе ў мястэчка на рынак. Увечары яны ідуць у госці. Іх часта запрашаюць на вяселле, радзіны, хрэсьбіны, провады ў войска. На хаўтуры – калі нехта сыходзіць з жыцця.

У панядзелак а шостай раніцы клапатлівая жонка майго суседа зноў гатуе на сняданак свайму працавітаму мужу адбіўную катлету.

Я зусім не насміхаюся з жыцця працоўнага чалавека. Я смуткую, што жыццё кожнага чалавека складваецца з цыклаў, замкнёных колаў.

У мамы – вясна, лета, восень, зіма. Праца і клопаты, якім няма канца.

Маё жыццё такое самае. Лекцыі, семінары, сесія, канікулы. Лекцыі, семінары, сесія, канікулы.

І ўсё ж я люблю сваю працу.

Прыязджай у Мінск, Аня, і ўсё пабачыш на свае вочы.

Дзякуй табе за змястоўны ліст.

Да сустрэчы.

*Алесь*

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ

### Туман ярам, ярам-даліною

Туман ярам, ярам-даліною
Туман ярам, ярам даліною,
За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зелянога.
Пад тым дубам крыніца стаяла,
З той крыніцы дзеўка воду брала
Ды ўпусціла залато вядзерца,
Засмуціла казакова сэрца.
– Ой, хто ж тое вядзерца дастане,
Адазваўся казак маладзенькі:
– Ой, я ж тое вядзерца дастану,
Я ж з табою на ручніку стану.

### Ой, сівы конь бяжыць

Ой, сівы конь бяжыць,
У яго бела грыва.
Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне тая дзеўчына.

Не так та дзеўчына,
Як яе лічанька.
– Ой, падай, дзеўчына,
Ой, падай, дзеўчына,
Мне белу ручаньку.

Ручаньку падала,
Тры словы казала:
– Няхай бы я жыла,
Няхай бы я жыла,
Кахання не знала.

Бо тое каханне
З вечара да рання.
Як сонейка ўзыйдзе,
Як сонейка ўзыйдзе –
Каханне адыйдзе…

**Практыкаванне 12. Згодны ці не згодны вы з інфармацыяй?**

а) Ганна старая жанчына.
б) На экзамене адна студэнтка брала дзіця сяброўкі напракат.
в) Сусед Алеся працуе зборшчыкам камбайнаў.
г) Працоўны дзень Алеся ўнармаваны.
д) Госці суседа Алеся спяваюць беларускія і рускія песні.

**Практыкаванне 13.** **а) Прачытайце тэкст. Значэнне незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**
**б) Раскажыце пра працоўны дзень суседа Алеся.**
**в) Раскажыце пра працоўны дзень мамы Алеся.**
**г) Раскажыце пра працоўнае жыццё Алеся ад 3-й асобы.**

**Практыкаванне 14. Раскажыце пра свой працоўны дзень.**

## ГРАМАТЫКА
### Дзеяслоў

### Цяперашні (будучы просты) час дзеясловаў

### I спражэнне

| Цвёрдая аснова | | Мяккая аснова | |
|---|---|---|---|
| **націск на аснове** | **націск на канчатку** | **націск на аснове** | **націск на канчатку** |
| маг-(чы) | бра-(ць) | вітá-(ць) | нéс-(ці) |
| маг-ý | бяр-ý | вітá-ю | няс-ý |
| мож-аш | бяр-э́ш | вітá-еш | няс-éш |
| мож-а | бяр-э | вітá-е | няс-é |
| мож-ам | бяр-ом | вітá-ем | няс-ём |
| мож-аце | бер-ацé | вітá-еце | нес-яцé |
| мог-уць | бяр-ýць | вітá-юць | няс-ýць |

### II спражэнне

| Цвёрдая аснова | | Мяккая аснова | |
|---|---|---|---|
| націск на аснове | націск на канчатку | націск на аснове | націск на канчатку |
| вучы́-(ць) | маўча́-(ць) | плаці́-(ць) | глядзе́-(ць) |
| вуч-у́ | маўч-у́ | плач-у́ | глядж-у́ |
| ву́ч-ыш | маўч-ы́ш | пла́ц-іш | глядз-і́ш |
| ву́ч-ыць | маўч-ы́ць | пла́ц-іць | глядз-і́ць |
| ву́ч-ым | маўч-ы́м | пла́ц-ім | глядз-і́м |
| ву́ч-ыце | маўч-ыце́ | пла́ц-іце | гледз-іце́ |
| ву́ч-аць | маўч-а́ць | пла́ц-яць | глядз-я́ць |

* У 1-й асобе адзіночнага ліку націск можа не супадаць з астатнімі спрагальнымі формамі.

**Практыкаванне 15. Дапоўніце сказы дзеясловамі ў патрэбнай форме.**

1. Юрась … кнігу. Што … ты? Я … часопіс. Што … яны? Мы… канспект.
2. Ясь … на канапе. Дзе … вы? Мы … на падлозе. Дзе … вашы каты́? Яны … на каленях.
3. Мы … ў тэатральную студыю. Марыля … ў спартзалу. Куды ты … ? Я … маляваць. Куды … твае браты? Яны … на бокс.

***Даведка***: чытаць (I), сядзець (II), хадзіць (III).

**Практыкаванне 16. Прачытайце сказы. Прааналізуйце канчаткі выдзеленых дзеясловаў. Назавіце адрозненні ў сістэме асабовых канчаткаў у беларускай і рускай мове.**

1. Маці чытае казку маленькаму сыну.
2. Я ведаю дзве замежныя мовы – англійскую і нямецкую, а мая сястра вучыць кітайскую.
3. Ты даўно выкладаеш матэматыку ў школе?
4. Мы шукаем новага супрацоўніка ў калектыў. Ты цікавішся гэтай вакансіяй?
5. Мне добра плацяць за маю працу, але я зусім не маю вольнага часу.
6. Мне прапануюць удзел у цікавым праекце, але я не маю вопыту ў гэтай справе. Вы дапаможаце мне парадамі?
7. Вы любіце сваю працу? – Так, вельмі, але ў будучым я хачу мець свой бізнес.
8. Мы з братам ходзім на курсы англійскай мовы.

**Практыкаванне 17. Пастаўце дзеясловы ў патрэбную форму асобы і ліку цяперашняга (будучага простага) часу (лічбы I і II указваюць на спражэнне).**

1. Мае бацькі часта (ездзіць, II) у замежныя камандзіроўкі.
2. У маёй сям'і ўсе медыкі, але я (парушыць, II) гэту дынастыю.
3. Мае калегі (пачынаць, I) новы праект.
4. У мяне вельмі музыкальная сям'я: маці прафесійна (іграць, I) на фартэпіяна, сёстры (хадзіць, II) на бальныя танцы, бабуля (ведаць, I) шмат народных песень і (спяваць, I) разам з дзедам, бацька (збіраць, I) запісы класікаў, а мы з братам (слухаць, I) брытанскі рок і (вучыць, II) англійскую мову.
5. Вы заўсёды пры сустрэчы (хваліць, II) майго брата. Мне прыемна гэта чуць, дзякуй.
6. Ты (размаўляць, I) па мабільніку за рулём?
7. Усе жанчыны нашай сям'і (траціць, II) шмат часу і грошай на пакупкі. Бацька (лічыць, II), што гэта нармальна, а я – не.
8. Па выхадных мы звычайна (выязджаць, I) за горад, але сёння (сустракаць, I) гасцей.
9. Вы (браць, I) адпачынак за свой кошт?
10. Я (думаць, I), нам трэба зрабіць перапынак на каву.
11. Ты (праходзіць, II) стажыроўку ў нашым універсітэце?

**Практыкаванне 18. Выберыце патрэбныя дзеясловы і ўстаўце іх у сказы ў патрэбнай форме асобы і ліку цяперашняга (будучага) часу.**

1. Колькі дзён адпачынку … табе працадаўца?
2. Мой брат-студэнт … працу на няпоўны рабочы дзень.
3. Наш новы супрацоўнік выдатна … нямецкую мову.
4. Мы часта … працу дахаты.
5. Мой бацька ўжо выйшаў на пенсію, але … працаваць.
6. Цябе … графік тваёй працы?
7. Ты … гэтае месца, калі маеш вопыт у гэтай справе.
8. Я … атрымаць працу ў гэтым інстытуце.
9. Цябе … з гэтай працы, калі ты не перастанеш штодзень спазняцца.
10. Вы … працоўны кантракт са студэнтамі?
11. Ваша рэзюмэ … заўтра.
12. Зараз наш супрацоўнік … вас з абавязкамі вашай пасады.

13. Ты дарэмна … мне: мая праца аднастайная і вельмі … мяне.
14. Мы … вельмі шмат часу на дарогу да месца працы.

***Даведка***: шукаць, I; траціць, II; заключаць, I; браць, I; працягваць, I; задавальняць, I; разгледзець, II; марыць, II; атрымаць, I; стамляць, I; зайздросціць, II; аплачваць, I; ведаць, I; азнаёміць, II.

**Дзеяслоў мець**

**Я маю сястру. = У мяне ёсць сястра.**

| | |
|---|---|
| ма́**ю** | ма́**ем** |
| ма́**еш** | ма́**еце** |
| ма́**е** | ма́**юць** |

**Практыкаванне 19. а) Задайце пытанні да адказаў.**

***Узор***: – Так, я маю працоўны стаж. / Так, у мяне ёсць працоўны стаж.
– Не, я не маю працоўнага стажу. / Не, у мяне няма працоўнага стажу.
– Ці маеце вы працоўны стаж? / У вас ёсць працоўны стаж?

1. – Так, мой брат мае вышэйшую адукацыю. / Так, у майго брата ёсць вышэйшая адукацыя.
   – Не, мой брат не мае вышэйшай адукацыі. / Не, у майго брата няма вышэйшай адукацыі.
   – ________________? / ________________?
2. – Так, мае бацькі маюць машыну. / Так, у маіх бацькоў ёсць машына.
   – Не, мае бацькі не маюць машыны. / Не, у маіх бацькоў няма машыны.
   – ________________? / ________________?
3. – Так, мы маем вольны час увечары. / Так, у нас ёсць вольны час увечары.
   – Не, на жаль, мы не маем вольнага часу ўвечары. / Не, на жаль, у нас няма вольнага часу ўвечары.
   – ________________? / ________________?
4. – Так, на жаль, я маю працу на выхадны дзень. / Так, на жаль, у мяне ёсць праца на выхадны дзень.
   – Не, на шчасце, я не маю працы на выхадны дзень. / Не, на шчасце, у мяне няма працы на выхадны дзень.
   – ________________? / ________________?

**б) Устаўце ў дыялогі дзеяслоў мець у патрэбнай форме.**

1. – Я … вельмі складанае заданне. Ты можаш мне дапамагчы?
   – Так, з задавальненнем, я … вольную хвілінку.
2. – Ты … шансы атрымаць гэту працу?
   – Думаю, што так. Я … вопыт і адпаведную адукацыю.
3. – Вы … клопат з гэтым праектам?
   – Не, дзякуй, я спраўлюся, усё будзе як … быць.
4. – Калі ты … адпачынак у гэтым годзе?
   – Па працоўным графіку я … адпачынак у верасні.
   – Цудоўны час. Ці ты ўжо … планы?
   – Канечне! Я лічу кожны дзень, я … намер паехаць у Англію палепшыць сваю англійскую мову.
   – Ты … рацыю, твая праца патрабуе высокага ўзроўню ведання англійскай мовы. Плёну табе!
   – Дзякуй, … надзею, што ўсё атрымаецца.

**в) Знайдзіце адпаведныя сказы, у якія трэба ўставіць словазлучэнні з дзеясловам мець.**

| | |
|---|---|
| 1. мець рацыю | 1. Я … паехаць у падарожжа па Еўропе. |
| 2. мець надзею | 2. Ты … надвор'е кепскае, пагуляць не выпадае. |
| 3. мець намеры | 3. Мае бацькі … ўбачыць мяне хірургам. |
| 4. мець клопат | 4. Ты склаў сваё рэзюмэ …, можаш адсылаць. |
| 5. як мае быць | 5. Я … з гэтым перакладам. |

## Множны лік назоўнікаў

Значэнне множнага ліку назоўнікаў у назоўным склоне выражаецца з дапамогай канчаткаў *-ы /-і, -е*.

| Канчатак | Аснова | Прыклады |
|---|---|---|
| ***-ы*** | на цвёрды, зацвярдзелы зычны | сын – сын**ы́**, брат – брат**ы́**,<br>ша́фа – ша́ф**ы**, стол – стал**ы́**,<br>паля́на – паля́н**ы**, машы́на – машы́н**ы**,<br>ся́бар – сябр**ы́**, нож – наж**ы**,<br>крыні́ца – крыні́ц**ы**, ру́жа – ру́ж**ы** |
| ***-і*** | на мяккі зычны, на ***г***, ***к***, ***х*** | гаспады́ня – гаспадын**і**, ву́чань – ву́чн**і**,<br>зямля́к – землякі́, туля́га – туля́г**і**,<br>жані́х – жаніх**і́**, кні́га – кні́г**і**, ру́чка – ру́чк**і** |

| -е | на *-анін / -янін* | грамадзя́нін – грамадзя́не, англіча́нін – англіча́не, мінча́нін – мінча́не (выпадае **-ін-**). **Але**: тата́рын – тата́ры, балга́рын – балга́ры |
|---|---|---|

**Практыкаванне 20. Утварыце ад назоўнікаў множны лік, звярніце ўвагу на канчаткі.**

Сын, дачка, брат, сястра, дзед, бабуля, нявестка, зяць, сусед, суседка, сяброўка, сябар, настаўнік, настаўніца, вучань, вучаніца, студэнт, студэнтка, аспірант, аспірантка, беларус, беларуска, мінчанін, селянін, грамадзянін.

**Практыкаванне 21. Перакладзіце з рускай мовы на беларускую, параўнайце канчаткі назоўнікаў.**

Моря, поля, озера, адреса, коренья, каменья, профессора, леса, окна, корпуса, сыновья, листья, крылья, учителя, директора.

! Трэба адрозніваць форму множнага ліку назоўнікаў і зборныя назоўнікі. Зборныя назоўнікі абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў як цэлае і ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў ***-ств- (-цтв), -[й]-, -от- (-ат-), -ур-, -нік-, -няк-*** і інш.

**Прачытайце ўважліва і параўнайце**

| Адзіночны лік | Множны лік | Зборны назоўнік |
|---|---|---|
| ліст | лісты́ | ліст**от**а, лі́сце |
| дуб | дубы́ | дуб**ня́к** |
| але́шына | але́шыны | але́ш**нік** |
| звер | звяры́ | звяр'ё [jo] |
| апара́т | апара́ты | апарат**у́р**а |
| пту́шка | пту́шкі | пта́**ств**а |
| студэ́нт | студэ́нты | студэ́н**цтв**а |
| колас | каласы́ | калоссе |
| сук | сукі́ | су́ччa |
| галі́на | галі́ны | голле |
| ка́мень | камяні́ | каме́нне |
| бервяно | бярвё́ны | бярве́нне |

**Практыкаванне 22.** **Размяжуйце ў два слупкі: у адзін слупок зборныя назоўнікі, у другі – назоўнікі, што стаяць у форме множнага ліку.**

Сучча, вецце, галіны, голле, сукі, камяні, каменне, бярвёны, бярвенне, алешыны, алешнік, дубы, дубняк, каласы, калоссе, струны, пёры, пер’е, звяры, звяр’ё, студэнты, студэнцтва, лістота, лісты, сялянства, бедната, апаратура, промні, агентура.

! Утварэнне форм ліку некаторых назоўнікаў у рускай і беларускай мовах не супадае.

**Прачытайце ўважліва і параўнайце**

| Руская мова | Беларуская мова |
|---|---|
| дверь, двери | дзве́ры (толькі мн. л.) |
| крупа (ед.) | кру́пы (толькі мн. л.) |
| чернила (мн.) | чарні́ла (толькі адз. л.) |
| кружево, кружева | кару́нкі (толькі мн. л.) |
| аллея, аллеи | прыса́ды (толькі мн. л.) |
| поведение (ед.) | паводзіны (толькі мн. л.) |
| отоношение, отношения | адносіны (толькі мн. л.) |
| калитка, калитки | ве́сніцы (толькі мн. л.) |
| грудь (ед.) | гру́дзі (толькі мн. л.) |
| кладбище, кладбища | могілкі (толькі мн. л.) |
| малина (ед.) | малі́ны (мн. л.) |
| черника (ед.) | чарні́цы (мн. л.) |
| голубика (ед.) | буякі́ (дурні́цы) (мн. л.) |
| земляника (ед.) | суні́цы (мн. л.) |
| ежевика (ед.) | ажы́ны (мн. л.) |
| смородина (ед.) | парэ́чкі (мн. л.) |
| клюква (ед.) | журaві́ны (мн. л.) |
| сумерки (мн.) | пры́цемак (адз. л.) |

! Калі асобная ягадка, то ***журaві́на і журaві́нка, суні́ца і суні́чка, малі́на і малі́нка***.

**Практыкаванне 23.** **Прачытайце, выпраўляючы, дзе трэба, памылкі. Звярніце ўвагу на лік назоўнікаў.**

Дубовая дзвер, жалезныя дзверы, дробная крупа, грэцкія крупы, сырыя дровы, сіняе чарніла, фіялетавыя чарнілы, дрэнныя паводзіны,

выдатныя адносіны, шырокая грудзь, спелая маліна, слоік спелай маліны, кошык малін, кіслыя журавіны, смачныя буякі, чырвоная парэчка, вядро спелай парэчкі, міска спелых парэчак,  салодкія суніцы, кошык салодкіх суніц, буйныя ажыны, шклянка буйных ажын.

### Род назоўнікаў

Род назоўнікаў звычайна выражаецца граматычна (канчаткам – матэрыяльным ці нулявым) або семантычна (пол чалавека ці жывёлы).

| **Мужчынскі род (*ён, мой*)** | **Жаночы род (*яна, мая*)** | **Ніякі род (*яно, маё*)** | **Агульны род (*ён, яна*)** |
|---|---|---|---|
| студэ́нт<br>горад<br>выкла́дчык<br>дождж<br>стол<br>пе́вень | студэ́нтка<br>ву́ліца<br>хва́ля<br>любоў<br>печ<br>далонь | поле<br>жыццё<br>падарожжа<br>акно<br>сэрца<br>надвор’е | няўме́ка<br>ціхоня<br>злю́ка<br>чысцёха<br>крыўля́ка<br>Ва́ля |
| ! ба́цька, дзя́дзька | ! ма́ці, міс, мада́м, лэ́дзі | ! дзіця́ (ё), немаўля́, імя́ | маленькі злюка<br>маленькая злюка |

### Прыметнікі

Прыметнікі дапасуюцца ў родзе, ліку і склоне да назоўнікаў.

| **Адзіночны лік** | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі род (*які ён*)** | **Жаночы род (*якая яна*)** | **Ніякі род (*якое яно*)** |
| ра́дасн**ы** (сын)<br>шчаслі́в**ы**<br>высок**і**<br>су́мн**ы**<br>мя́кк**і** | вясёл**ая** (дачка)<br>апошн**яя**<br>вялі́к**ая**<br>прыгож**ая**<br>стры́ман**ая** | шчы́р**ае** (дзіця)<br>мал**ое**<br>ці́х**ае**<br>худ**ое**<br>стара́нн**ае** |
| **Множны лік (*якія яны*)** | | |
| сме́л**ыя**, ра́дасн**ыя**, апошн**ія**,  высокія, ці́х**ія**, шчаслі́в**ыя**, су́мн**ыя**, худ**ы́я** | | |

! Канчаткі прыметнікаў залежаць ад канцавога зычнага асновы і націску:
-ы, -ая, -óе – пасля цвёрдых зычных;
-і, -яя, -яе – пасля мяккіх зычных і ***г, к, х***.

**Практыкаванне 24. Уважліва прачытайце, вызначце род назоўнікаў, раскрыйце дужкі і дапасуйце да назоўнікаў прыметнікі.**

***Узор***: праца (любімы) – праца любімая.

Дзень (кароткі), абед (смачны), работа (прыемны), адлегласць (невялікі), дарога (доўгі), выкладчык (упэўнены), санітар (вясёлы), медсястра (малады), урач (уважлівы), хірург (вопытны), вайсковец (разгублены), кандуктар (сціплы), настаўніца (абаяльны), будаўнік (нявопытны), бібліятэка (новы), школа (прасторны).

**Практыкаванне 25. Уважліва прачытайце словы, вызначце род назоўнікаў, падбярыце да назоўнікаў прыметнікі, дапасуйце іх у родзе і ліку.**

Бібліятэкар, інжынер, артыстка, механік, прыбіральшчыца, вядро, швабра, шафёр, юрыст, даярка, адвакат, трэнер, кімано, гандлярка, камбайнер, адміністратар, слесар, экскурсавод, п'яніца, няўмека, кавярня, машыністка, кабінет, рэстаран, санаторый, музей, шпіталь, тэатр, інстытут, завод, паліклініка, таксі, фабрыка, магазін, універсітэт, бальніца.

! Род некаторых назоўнікаў у рускай і беларускай мовах не супадае. Уважліва прачытайце і параўнайце:

| **Руская мова** | **Беларуская мова** |
|---|---|
| собака (*ж.*) | саба́ка (*м.*) |
| пыль (*ж.*) | пыл (*м.*) |
| полынь (*ж.*) | палы́н (*м.*) |
| боль (*ж.*) | боль (*м.*) |
| гусь (*м.*) | гусь (*ж.*) |
| тень (*ж.*) | цень (*м.*) |
| шинель (*ж.*) | шыне́ль (*м.*) |
| мозоль (*ж.*) | мазоль (*м.*) |
| подпись (*ж.*) | подпіс (*м.*) |
| надпись (*ж.*) | на́дпіс (*м.*) |
| живопись (*ж.*) | жы́вапіс (*м.*) |
| летопись (*ж.*) | ле́тапіс (*м.*) |
| запись (*ж.*) | за́піс (*м.*) |
| рукопись (*ж.*) | ру́капіс (*м.*) |
| перепись (*ж.*) | пе́рапіс (*м.*) |

| медаль (*ж.*) | меда́ль (*м.*) |
|---|---|
| фальш (*ж.*) | фальш (*м.*) |
| гарь (*ж.*) | гар (*м.*) |
| тополь (*м.*) | таполя (*ж.*) |
| яблоко (*с.*) | я́блык (*м.*) |
| капыто (*с.*) | капы́т (*м.*) |
| жираф (*м.*) | жыра́фа (*ж.*) |
| жизнь (*ж.*) | жыццё (*н.*) |
| жатва (*ж.*) | жніво (*н.*) |
| салат (*м.*) | сала́та (*ж.*) |
| зал (*м.*) | за́ла (*ж.*) |
| какао (*с.*) | кака́ва (*ж.*) |
| кофе (*м.*) | ка́ва (*ж.*) |
| пион (*м.*) | півоня (*ж.*) |
| гвоздика (*ж.*) | гваздзі́к (*м.*) |
| шкаф (*м.*) | ша́фа (*ж.*) |
| комод (*м.*) | камода (*ж.*) |
| жалость (*ж.*) | жаль (*м.*) |
| карман (*м.*) | кішэ́ня (*ж.*) |
| георгин (*м.*) | вяргі́ня (*ж.*) |
| продажа (*ж.*) | продаж (*м.*) |
| вилка (*ж.*) | відэ́лец (*м.*) |
| щавель (*м.*) | шча́ўе (*н.*) |
| охапка (*ж.*) | аха́пак (*м.*) |
| пачка (*ж.*) | па́чак (*м.*) |
| седёдка (*ж.*) | селядзе́ц (*м.*) |

**Практыкаванне 26. Выканайце паводле ўзору, звярніце ўвагу на род назоўнікаў у рускай і беларускай мовах.**

*Узор*: руская мова: гарь (*ж.*) – беларуская мова: гар (*м.*)

Салат, кофе, какао, зал, собака, пион, гусь, мозоль, медаль, полынь, яблоко, шкаф, комод, запись, подпись, карман, фальшь, жатва, боль, жалость, тень, вилка, рукопись, георгин, продажа, жизнь.

**Практыкаванне 27. Падбярыце да назоўнікаў адпаведныя прыметнікі (*гл. даведку*). Запішыце словазлучэнні.**

Селядзец, кава, салата, гусь, яблык, пыл, медаль, рукапіс, палын, сабака, камода, капыт, таполя, продаж.

***Даведка***: мясная, распушчальная, вэнджаны, залаты, моцны, чырвоны, смажаная, горкі, стройная, конскі, выгодны, дубовая, злосны, старажытны.

**Практыкаванне 28.** **Прачытайце, выпраўляючы, дзе трэба, памылкі. Звярніце ўвагу на род назоўнікаў.**

Актавая зала, духмяны табак, дубовы камод, жоўтая вяргіня, чырвоная гваздзіка, белы гусь, невыносная фальш, вэнджаны селядзец, вялікая ахапка, высокая таполя, кіслае шчаўе, зялёны салат, доўгі надпіс, горкая палын, леташні перапіс, доўгае жыццё, маленькая мазоль, смачнае яблыка, сярэбраная медаль, злосная сабака, неразборлівы запіс, нясцерпная боль, пачка цукерак, ахапак сена.

**Практыкаванне 29.** **Прачытайце. Перакладзіце на беларускую мову назоўнікі, якія адрозніваюцца формай роду ад адпаведных назоўнікаў у рускай мове.**

### КАК ЗАВОЕВАТЬ ПОПУЛЯРНОСТЬ?

Вот вам пример, как можно завоевать популярность, не будучи ни ландышем, ни васильком, ни фиалкой, не бросаясь в глаза желтыми, белыми и красными цветами, ни даже хотя бы сочной зеленью, как крапива. Как будто нарочно, чтобы исключить всякую внешнюю привлекательность, полынь родится серого цвета, который, как известно, является символом вопиющей бесцветности. И чем же она завоевала свою популярность? Не сладостью ли плодов, подобно землянике? Не вкусностью ли и свежестью листьев и стеблей, подобно салату, капусте, щавелю, сельдерею? Не сочностью ли кореньев, подобно моркови, петрушке и редиске?

Но на полыни не растет никаких ягод. И вся полынь, начиная от невзрачных цветочков и кончая деревянистыми корнями, полностью несъедобна не только для человека, но и для животных – ее не ест никакая домашняя скотина. Даже другие растения сторонятся ее и растут всегда на почтительном отдалении. Чем же завоевала полынь широкую, всеобщую популярность? Своей неповторимой полынной горечью!

## 🎧 Практыкаванне 30. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання

### РАНІЦА Ў ПАРЭЧЧЫ

Так пачынаўся дзень у беларускай сялянскай сям'і
ў канцы XIX стагоддзя
(Паводле паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»)




[Паэма Якуба Коласа «Новая зямля», класічны твор беларускай літаратуры, расказвае пра жыццё сям'і Міхала, лесніка, які працуе на князёў Радзівілаў і марыць набыць уласную зямлю. Сям'я Міхала вялікая: жонка Ганна, брат Антось, сямёра дзяцей – чатыры хлопчыкі (Уладзя, Алесь, Кастусь, Юзік) і тры дзяўчынкі (Гэля, Ганна, Міхаліна). Дарослыя і старэйшыя дзеці ў гэтай сям'і ранкам не сядзяць склаўшы рукі.]

Алесь хадзіў каля крынічкі,
Што з лесу тут жа выцякала
І дужкай хату агібала,
Хадзіў, свістаў пад голас птушак,
Збіраў ён ягадкі ў гарнушак.
Ўсе парасходзіліся з хаты,
І кожны дзелам быў заняты:
Міхал у лес пайшоў ранютка
Рабіць звычайныя абходы;
Антось спаць доўга не меў моды,
А як надарыцца мінутка
Часіны вольнай ці святы дзень,
Ну хоць адзін разок на тыдзень
Хадзіў на Нёман ці на тоні –
Рыбак быў дзядзька наш Антоні,
Як і работнік, адмысловы;
А Ўладзік пасвіў дзесь каровы,
Травіў чужыя сенажаці;
А дома з дзецьмі была маці.

Яе жаночая работа
І гэта вечная турбота
То каля печы, то на полі,
Сказаць, не зводзіцца ніколі.
Адно прыпыніш – там другое,
Глядзіш, як бачыш, набяжыць,
І ручак некалі злажыць –
Жыццё жаночае такое!
Так і цяпер: печ зачыніла,
Работу ў хаце прыпыніла –
Ідзі ў гарод ты па бацвінне:
Другі раз есці просяць свінні.
А гэты Юзік-шаляніца,
Малы яшчэ, зусім дурніца,
Так пад нагамі і таўчэцца
Або, як хвост той, валачэцца,
І ад работы адрывае
І толькі сэрца ад'ядае.

**Якуб Колас** (сапр. **Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч**; 1882–1956) – класік беларускай літаратуры, паэт, празаік, драматург, публіцыст. Народны паэт Беларусі. Галоўныя творы: эпічная паэма «Новая зямля» («Новая земля», 1923), у якой разгортваецца шырокая панарама жыцця беларусаў; трылогія «На ростанях» («На перепутье», 1954), створаная на падставе аўтабіяграфічнага матэрыялу, ліра-эпічная паэма «Сымон-музыка» («Сымон-музыкант», 1925), дзе распавядаецца пра творчае станаўленне артыста, выхадца з народу.

# МОДУЛЬ 3

## ПАРТРЭТ. ХАРАКТАР. ЗНЕШНАСЦЬ

- **Навучальныя тэксты.**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы на *-а-(ць)* І і ІІ спражэння**
  - **Дзеяслоў *даць***
  - **Вінавальны склон назоўнікаў**
  - **Выражэнне месцы і часу**
  - **Выражэнне мэты і напрамку**
  - **Прыметнік**
  - **Вінавальны склон прыметнікаў**
  - **Ступені параўнання прыметнікаў**
  - **Параўнальная канструкцыя з кампаратывам прыметніка**
  - **Выражэнне прыналежнасці**
  - **Прыслоўе**
  - **Ступені параўнання прыслоўяў**
  - **Параўнальная канструкцыя з кампаратывам прыслоўя**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Акуля́ры** – очки
**Брыво (бровы)** – бровь (брови)
**Вока (вочы)** – глаз (глаза)
**Ве́йкі** – ресницы
**Ву́сны (гу́бы)** – губы
**Вы́гляд** – вид
**Выгляда́ць** – выглядеть
**Галíць (галíцца)** – брить (бриться)
**Гру́дзі** – грудь
**Далонь** – ладонь
**Згра́бны** – ладный, стройный
**Зрок** – зрение
**Падаба́цца** – нравиться
**Падо́бны да** ... – похож на ...
**Усме́шка** – улыбка

**Пазногці** – ногти
**Прыгажосць** – красота
**Прыгажу́ня** – красавица
**Прыгожы** – красивый
**Ры́са** – черта
**Сівы́** – седой
**Скі́віца** – челюсть
**Скронь** – висок
**Су́мны** – грустный
**Усміха́цца** – улыбаться
**Твар** – лицо
**Ту́лава** – туловище
**Шчака́** – щека
**Шы́я** – шея

**Практыкаванне 1. Паглядзіце на партрэты і праслухайце кароткую інфармацыю пра гэтых людзей. Падбярыце да кожнага партрэта адпаведную інфармацыю.**



Ліна



Іван



Павел



Юля



Васіль Пятровіч

***Пытанні***: Як вы думаеце, хто гэта? Ён (яна) шчаслівы(ая)? Чаму вы так думаеце?

***Узор***: Я думаю, што гэта Павел. Я думаю, што ён шчаслівы (нешчаслівы) чалавек, бо...

Ён ужо немалады чалавек. У яго светлыя блакітныя вочы, заўсёды зведзеныя бровы і кароткія сівыя валасы. У яго дрэнны характар. У яго ёсць толькі адзін стары шэры кот.

Яна маладая і вельмі сімпатычная. Яна падобная да сваёй маці. У яе доўгія русыя валасы і зялёныя вочы пад густымі чорнымі вейкамі. Ёй падабаецца яркі макіяж. Яна фарбуе пазногці чырвоным лакам. Яна вясёлая і актыўная.

Яна маладая і разумная, але не вельмі прыгожая. У яе рудыя кучаравыя валасы, карыя вочы, прамы, трохі доўгі нос і тонкія вусны. У яе добры характар і прыемная ўсмешка. Яна амерыканка.

Ён не вельмі малады. Ён добры сябар. У яго цёмныя валасы і правільныя рысы твару. Ён вельмі актыўны чалавек. Ён любіць займацца спортам. Ён выдатны спецыяліст.

Ён малады чалавек. Ён сімпатычны і разумны. Ён падобны да свайго брата. У яго доўгія цёмныя валасы і цёмныя вочы. Ён не любіць галіцца. Ён любіць фатаграфаваць на вуліцы. Ён думае, што ў яго вялікія праблемы. Ён заўсёды пасіўны і сумны.

**Практыкаванне 2. Апішыце каго-небудзь са сваіх знаёмых. Выкарыстайце прапанаваны план.**

**Узрост**: малады, пажылы, ста́лы.

**Характар**: маўклівы, жартаўлівы, працавіты, старанны, лянівы, легкадумны.

**Выгляд**: звычайны, прывабны, прыкметны.

**Рост**: высокі, нізкі, сярэдні.

**Фігура**: зграбны, плячысты, трэніраваны, тонкі, прысадзісты.

**Твар**: круглы, вузкі, з развітымі сківіцамі, доўгі.

**Вочы**: вялікія, малыя, карыя, зялёныя, блакітныя.

**Вейкі**: густыя, кароткія, доўгія, чорныя, светлыя.

**Нос**: доўгі, прамы, кірпаты.

**Вусны**: тонкія, пухлыя.

**Валасы**: светлыя, цёмныя, кароткія, доўгія, прамыя, кучаравыя.

**Практыкаванне 3. Праслухайце тэкст.**

## СУСТРЭЧА Ў МІНСКУ

Лекцыі, семінары, экзамены... У гэтае замкнёнае кола патрапілі і студэнты Алеся Мікалаевіча. І вось цяпер яны стаяць каля дзвярэй у аўдыторыю, дзе строгі Алесь Мікалаевіч прымае экзамен.

«Экзамен – гэта размова разумных людзей», – неаднойчы казаў Алесь Мікалаевіч. Амаль усе студэнты старанна рыхтаваліся да гэтай размовы і цяпер шмат што ведаюць пра роды, трыванні, склоны, ступені параўнання і іншыя катэгорыі граматыкі. Але дзяўчаты паклапаціліся і пра тое, каб прыстойна выглядаць на экзамене. Факультэт, на якім працуе Алесь Мікалаевіч, жаночы. І студэнткі імкнуцца выглядаць прыгожа. А што? Недарэмна класік казаў, што ў чалавеку ўсё павінна быць прыгожае. Надзя ярка падмалявала вусны. Зося перад экзаменам схадзіла ў цырульню і зрабіла модную стрыжку. Каця пафарбавала пазногці ў чорны колер. Наста апранула кароткую спаднічку.

Шчасце, калі прырода шчодра надзяліла дзяўчыну харастовм. Паглядзіце на Таню.

Гэта бялявая дзяўчына з залацістым адценнем валасоў, блакітнымі вачыма, тоненькай дужкай броваў, доўгімі, як стрэлы, вейкамі і маленькімі вушкамі. Яе аблічча амаль не патрабуе касметыкі. Яна высокага росту, крыху хударлявая, даўганогая. Удзельнічае ў конкурсах прыгажосці. Шчаслівая Таня! Але на экзамене Тані не пашанцавала. Яна атрымлівае ўсяго пяць балаў (па дзесяцібальнай сістэме). Яе блакітныя вочы налітыя слязьмі, яркія вусны дрыжаць. Што зробіш! Не атрымалася размова разумных людзей.

– Сама вінаватая. Не падрыхтавалася як след, – уздыхае Таня.

– Не перажывай, Таня! Адзнака – не галоўнае. Затое ты найпрыгажэйшая ў групе.

З гэтым пагаджаюцца не ўсе. І гэта слушна. Кожная з дзяўчат прыгожая па-свойму.

Вось Аленка. Яна невялічкая ростам. Валасы каштанавага колеру заплецены ў касу. Тварык круглявы, хоць ты цыркуль да носа прыстаўляй. Броўкі чорныя, высока прыўзнятыя. На вуснах мілая ўсмешка. Вочы дапытлівыя, позірк задуменны і лагодны. Падобна, што яна шукае таго, каму кепска, каб прыйсці на дапамогу. Прыемная, зграбная дзяўчына, хоць яе хараство не адразу кідаецца ў вочы.

Вядома, Аленка атрымала дзесяць балаў. І не за тое, што прывабная, а за веды.

Экзамен набліжаецца да канца. І вось з’яўляецца незнаёмая прыемная маладая жанчына. Усе глядзяць на яе. Яна чарнявая, вочы яе цёмныя, як масліны. Выраз твару ў дзяўчыны сур’ёзны, напружаны. На ёй клятчасты пінжак і шэрыя штаны. Яна заходзіць у аўдыторыю самая апошняя.

– Ты яе ведаеш? – пытаюць студэнткі адна адну.

– Можа, жонка?

– Што вы! Алесь Мікалаевіч нежанаты.

– Мабыць, завочніца, – няўпэўнена кажа Наста. – Прыйшла «двойку» пераздаваць.

Алесь Мікалаевіч знаходзіцца ў прыўзнятым настроі. Ён пераканаўся, што беларускія дзяўчаты не толькі прыгожыя, але і разумныя. Сённяшні экзамен у цэлым пацвердзіў гэта. Вось каб яны яшчэ лепш валодалі граматычным разборам!

Уваходзіць дзяўчына з чорнымі валасамі і чорнымі вачыма. Алесь падхопліваецца.

– Аня! Якім чынам ты тут?

– Экзамен здаваць прыехала, – какетліва ўсміхаецца Аня. – Можна, я паспрабую?

Яна цягне білет.

– «Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі». Я так разумею, што гэта жывыя і нежывыя? Назвы асоб, жывых істотаў – гэта адушаўлёныя. Чалавек, брат, настаўнік, конь, сабака, муха – гэта ўсё адушаўлёныя назоўнікі. Так?

– Бадай што так. Але «нябожчык» і «лялька» – таксама адушаўлёныя, – сказаў Алесь і спахапіўся. – Што мы пра нябожчыкаў!

– Твая праўда! Давай пра тых, хто больш адушаўлёны. У калідоры я бачыла шмат дзяўчат. Яны прыгожыя, але ўсе такія розныя! А я думала, што ёсць антрапалагічны тып беларускі: русявая, блакітнавокая. А там былі брунеткі, шатэнкі...

– Як бачыш, нашы дзяўчаты розныя. І характар у іх такі: загадкавы, непрадказальны, зменлівы. З імі не бывае сумна.

– Ого! Я прыгадваю, што і ў маіх жылах ёсць некалькі кропель беларускай крыві. Мая прабабка родам з Магілёўшчыны. А што наконт вашых мужчын?

– Тыповы беларус, як пішуць нашы даследчыкі, – бялявы, з блакітнымі або шэрымі вачыма, мяккімі рысамі твару. Нават калі ён брунет, вусы ў яго найчасцей русявыя. Барады беларусы не насілі...

– Гэта не пра цябе, Алесь. Няма ў цябе ні вусоў, ні барады.

– Дэмаграфічныя працэсы і глабалізацыя разбавілі гэты тып... І цяпер ты можаш сустрэць таксама розных мужчын-беларусаў...

– А мужчынскі характар?

– Давай сустракацца – і даведаешся больш пра характар беларуса. Ці надоўга ў Мінск?

– Пакуль не выганіш...

– З чаго пачнём? Шопінг? Рэстаран? Тэатр? Памятныя мясціны? Вандроўка?

– З чаго заўгодна. Першую палову дня я працую ў бібліятэцы, а другая вольная.

Аня выходзіць з аўдыторыі, і на яе вуснах грае ўсмешка.

– Пэўна, «дзявятку» атрымала, – шэпча Каця.

– Нічога ты не разумееш, – кажа кемлівая Зося. – Гэта ніякая не студэнтка. Гэта загадкавая госця Алеся Мікалаевіча.

**Практыкаванне 4. Скажыце, ці адпавядае праўдзе сцвярджэнне. Выкарыстоўвайце наступныя выразы:**

Гэта так. / Я згодны (згодная), што...
Гэта не зусім так. / Я не зусім згодны (згодная), што... бо ...
Не, гэта не так. / Гэта няпраўда. / Я не згодны (не згодная), што... бо ...

а) Студэнткі на экзамене імкнуцца выглядаць прыгожа.
б) Таня – бялявая дзяўчына з залацістым адценнем валасоў і шэрымі вачыма.
в) На экзамене Таня атрымала вышэйшы бал.
г) Валасы ў Алены доўгія і заплецены ў касу.
д) Аленка атрымала дзесяць балаў за тое, што прывабная.
е) Адзнака не галоўнае, галоўнае – прыгажосць.

**Практыкаванне 5. Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

**Знайдзіце ў тэксце словы, якімі апісваецца:**

а) антрапалагічны тып беларускі;
б) антрапалагічны тып беларуса.

**Практыкаванне 6. Якія рысы характару апісваюцца ў наступных прыказках і фразеалагізмах?**

У ціхім балоце чэрці водзяцца. Калі павесяць, дык не ўтопяць. Рабіць з камара каня. Спрытны на язык. З каня на скаку падковы адрывае.

**Практыкаванне 7. Апішыце свой характар ці характар вашага сябра (сяброўкі).**

**Практыкаванне 8. Апішыце тыповыя рысы мужчыны ці жанчыны вашай краіны.**

**Практыкаванне 9. Прачытайце складаныя словы, растлумачце іх значэнне.**

Своеасаблівы, прамалінейны, жыццярадасны, працаздольны, малаактыўны, ураўнаважаны.

**Практыкаванне 10. Прачытайце інтэрнацыянальныя словы, звярніце ўвагу на асаблівасці іх вымаўлення, растлумачце іх значэнне.**

Тэмперамент, характар, сітуацыя, ініцыятыўны, актыўны, агрэсіўны, энергічны, інтарэс, камунікабельны, эмоцыя, пашпарт.

**Практыкаванне 11. Пастарайцеся зразумець значэнне дзеясловаў з кантэксту.**

**Заўважаць** (**заўважыць**) *каго? / што?*
Вучоныя ***заўважылі*** розніцу ў паводзінах розных жывёл у няволі.

**Грунтавацца** *на чым?*
Нашы вывады заўсёды ***грунтуюцца*** на правераных фактах.

**Валодаць** (**авалодаць**) *кім? / чым?*
Раней Іспанія ***валодала*** шматлікімі калоніямі.

**Трымацца** *чаго?*
Нам неабходна ***трымацца*** плана дзеянняў.

**Губляць** (**згубіць**) *што?*
Мой брат часта ***губляе*** ключы ад дома.

**Губляцца (разгубіцца)** *у чым?*
Ларыса заўсёды ***губляецца*** ў экстрэмальнай сітуацыі, не ведае, што рабіць.

**Імкнуцца** *да каго? / да чаго?*
Трэба заўсёды ***імкнуцца*** да сваёй мэты.

## СЛОЎНІК ДА ТЭКСТУ

**Мітуслíвы** – суетливый
**Рашýчы** – решительный

**Упа́рты** – упрямый
**Блы́таны** – путаный
**Недахоп** – недостаток
**Спрэ́чка** – спор
**Здольны** – способный
**Ху́тка** – быстро
**Дасягне́нне** – достижение
**Вага́нне** – колебание
**Спра́ва** – дело
**Ула́сны** – личный, собственный
**Дзе́йнічаць** – действовать
**Прыма́ць** – принимать
**Мэ́та** – цель
**Прыстасоўвацца** – приспосабливаться
**Абста́віны** – обстоятельства
**Ціка́віць** – интересовать
**Спага́длівы** – сочувствующий
**Цягаві́ты** – выносливый
**Вы́трымка** – выдержка
**Разва́жлівы** – рассудительный
**Чака́ць** – ожидать, ждать
**Схі́льны** – склонный
**Мару́длівы** – медлительный
**Захапле́нне** – увлечение
**Суразмоўца** – собеседник
**Крыўдлі́вы** – обидчивый
**Ура́жлівы** – впечатлительный
**Падазроны** – подозрительный
**Станоўчы** – положительный
**Уласці́вы** – свойственный (*кому / чему*)

**Практыкаванне 12. Ад дадзеных слоў утварыце антонімы без прыстаўкі *не- (ня-)*. Ці ўсе словы ўжываюцца без гэтай прыстаўкі?**

Неаднойчы, нявытрыманы, непаседлівы, нецярплівы, неўраўнаважаны, недахопы, няспынна, непрыемнасць, няўстойлівы, нечаканы, незласлівы, незнаёмы, няўдача, недавер, невялікі.

**Практыкаванне 13. Прачытайце сказы, з выдзеленымі словазлучэннямі складзіце свае прыклады.**

- Гэты вучань не ўмее ***сябе паводзіць***.
- Мой бацька не любіць ***пустую балбатню***.
- Мне неабходна даслаць дакументы ***на адрас*** універсітэта.
- Алена задумалася і ***паглыбілася ў сябе***.
- Мая сяброўка ***схільная да*** перабольшанняў.

**Практыкаванне 14. Звярніце ўвагу на розніцу ў значэннях слова *шпількі*.**

- Прыстасаванне ў выглядзе вілачкі для заколвання валасоў.
- Тонкі высокі абцас на жаночым туфлі.
- З'едлівая заўвага.

**У якім значэнні ўжываецца слова *шпілька* ў сказе?**
Пятрусь не прапусціць магчымасці адпусціць шпільку на мой адрас.

**Практыкаванне 15. Праслухайце тэкст.**

## ЯК ВЫЗНАЧЫЦЬ СВОЙ ТЭМПЕРАМЕНТ

Тэмперамент – гэта своеасаблівая аснова, на якой грунтуецца характар чалавека. Вы, відаць, неаднойчы заўважалі, што ў адных і тых жа сітуацыях розныя людзі паводзяць сябе па-рознаму. Прычына тут адна – розныя тэмпераменты. Ці ведаеце вы свой тып тэмпераменту?

Калі ты: непаседлівы, мітуслівы; нявытрыманы, запальчывы; рэзкі і прамалінейны ў адносінах з людзьмі; нецярплівы; рашучы і ініцыятыўны; упарты; знаходлівы падчас спрэчкі; працуеш рыўкамі; схільны да рызыкі; гаворыш хутка з блытанымі інтанацыямі; неўраўнаважаны, схільны да гарачнасці; агрэсіўны задзіра; нецярпімы да недахопаў; валодаеш выразнай мімікай; здольны хутка дзейнічаць і прымаць рашэнні; няспынна імкнешся да новага; настойлівы ў дасягненні пастаўленай мэты; маеш рэзкія ваганні настрою – то ты чысты **халерык**.

Калі ты: вясёлы і жыццярадасны; энергічны і дзелавіты; часта не заканчваеш распачатую справу; схільны да пераацэнкі самога сябе; здольны хутка засвойваць новае; няўстойлівы ў інтарэсах і схільнасцях; лёгка перажываеш няўдачы і непрыемнасці; лёгка прыстасоўваешся да розных абставін; з захапленнем бярэшся за любую новую справу; хутка астываеш,

калі справа перастае цікавіць; табе бывае цяжка ад аднастайнасці, будзённай карпатлівай працы; камунікабельны і спагадлівы; цягавіты і працаздольны; гаворыш гучна, хутка, выразна; захоўваеш вытрымку ў нечаканай складанай абстаноўцы; у цябе заўсёды добры настрой; хутка засынаеш і прачынаешся; часта несабраны і паспешлівы ў рашэннях – то ты, вядома, **сангвінік**.

Калі ты:  спакойны і стрыманы; паслядоўны і грунтоўны ў справах; асцярожны і разважлівы; умееш чакаць; маўклівы і не любіш пустую балбатню; гаворыш спакойна і роўна, без рэзка выяўленых эмоцый; цярплівы; даводзіш пачатую справу да канца; не траціш упустую сілы; строга прытрымліваешся выпрацаванага распарадку жыцця, сістэмы ў працы; лёгка стрымліваеш парывы; малаўспрымальны да адабрэння і крытыкі; незлаславы, абыякавы да шпілек на свой адрас; пастаянны ў сваіх зацікаўленнях; марудна ўключаешся ў працу і пераключаешся з адной працы на другую; роўны ў адносінах з усімі; любіш акуратнасць і парадак ва ўсім; валодаеш вытрымкай – то ты, без сумнення, **флегматык**.

Калі ты: сарамлівы; губляешся ў новай абстаноўцы; табе цяжка ўстанавіць кантакт з незнаёмымі людзьмі; не верыш у свае сілы; лёгка пераносіш адзіноту; адчуваеш разгубленасць і прыгнечанасць пры няўдачах; схільны паглыбляцца ў сябе; размаўляеш ціха, нават шэптам; міжволі прыстасоўваешся да характару суразмоўцы; уражлівы да слёз; надзвычай успрымальны да адабрэння і крытыкі; вельмі патрабавальны да сябе і тых, хто побач; схільны да падазронасці і недаверу; вельмі адчувальны і лёгка ранімы; надзвычай крыўдлівы; некамунікабельны і скрытны, ні з кім не дзелішся сваімі думкамі; малаактыўны і нясмелы; пакорлівы; імкнешся выклікаць спачуванне і дапамогу ў тых, хто вакол цябе, – то ты **меланхолік**.

Калі колькасць станоўчых адказаў у «пашпарце» тэмпераменту таго ці іншага тыпу складзе 16–20, гэта значыць, што ты маеш значную колькасць рысаў гэтага тыпу тэмпераменту. Калі станоўчых адказаў налічваецца 11–15, то якасці гэтага тэмпераменту ўласцівыя табе ў значнай ступені. Калі станоўчых адказаў 6–10, то якасці гэтага тыпу ўласцівыя табе зусім у невялікай ступені.

(*Штогоднік «Эўрыка»*)

**Практыкаванне 16. Скажыце, ці адпавядае праўдзе сцвярджэнне. Выкарыстоўвайце наступныя выразы.**

Гэта так.
Гэта не зусім так.
Не, гэта не так. / Гэта няпраўда.

• Калі чалавек непаседлівы, мітуслівы, нявытрыманы, запальчывы, рэзкі і прамалінейны ў адносінах з людзьмі, яго характар халерычнага тыпу.

• Флегматыкі звычайна камунікабельныя; валодаюць гучнай, хуткай, выразнай мовай, заўсёды маюць добры настрой.

• Па тым, што чалавек спакойны і стрыманы, паслядоўны і грунтоўны ў справах, асцярожны і разважлівы, умее чакаць, маўклівы і не любіць пустую балбатню, заўсёды пазнаеш сангвініка.

• Калі чалавек сарамлівы, губляецца ў новай абстаноўцы, працуе рыўкамі, схільны да рызыкі, гаворыць хутка, з блытанымі інтанацыямі, то ён меланхолік.

**Практыкаванне 17. Адкажыце на пытанне па тэксце.**

Якія, на вашу думку, найбольш яркія рысы халерыка, сангвініка, флегматыка, меланхоліка?

**Практыкаванне 18. Звярніце ўвагу на несупадзенне роду пры блізкасці вымаўлення і аднолькавым значэнні ў беларускай і рускай мовах наступных слоў:**

| **Беларуская мова** | **Руская мова** |
|---|---|
| рызыка (*ж.*) | риск (*м.*) |
| спрэчка (*ж.*) | спор (*м.*) |
| настрой (*м.*) | настроение (*ср.*) |
| адзінота (*ж.*) | одиночество (*ср.*) |
| падазронасць (*ж.*) | подозрение (*ср.*) |
| недавер (*м.*) | недоверие (*ж.*) |
| колькасць (*ж.*) | количество (*ср.*) |

• Знайдзіце ў тэксце сказы са словамі з табліцы.
• Складзіце ўласныя сказы з гэтымі словамі.

## ГРАМАТЫКА

### Дзеясловы на -а-(ць) І і ІІ спражэння

#### Дзеясловы І спражэння, якія спрагаюцца з захаваннем элемента *а (я)* у суфіксах асновы *-а- (-я-)*, *-ва-*, *-іва- (-ыва-)*, *-оўва-*, *-ніча- (-іча-)*:

| **валод-а-(ць)** | **выхоў-ва-(ць)** | **дзе́йн-іча-(ць)** |
|---|---|---|
| валод-а-**ю** | выхоў-ва-**ю** | дзе́йн-іча-**ю** |
| валод-а-**еш** | выхоў-ва-**еш** | дзе́йн-іча-**еш** |
| валод-а-**е** | выхоў-ва-**е** | дзе́йн-іча-**е** |
| валод-а-**ем** | выхоў-ва-**ем** | дзе́йн-іча-**ем** |
| валод-а-**еце** | выхоў-ва-**еце** | дзе́йн-іча-**еце** |
| валод-а-**юць** | выхоў-ва-**юць** | дзе́йн-іча-**юць** |

### Дзеясловы I і II спражэння, у якіх пры спражэнні *-а-* асновы не захоўваецца:

| I спражэнне | | II спражэнне |
|---|---|---|
| **каз-а́-(ць)**<br>каж-**у́**<br>ка́ж-**аш**<br>ка́ж-**а**<br>ка́ж-**ам**<br>ка́ж-**аце**<br>ка́ж-**уць** | **зв-а-(ць)**<br>зав-**у́**<br>зав-**е́ш**<br>зав-**е́**<br>зав-**ём**<br>зав-**яце́**<br>зав-**у́ць** | **дрыж-а-(ць)**<br>дрыж-**у́**<br>дрыж-**ы́ш**<br>дрыж-**ы́ць**<br>дрыж-**ы́м**<br>дрыж-**ыце́**<br>дрыж-**а́ць** |

! У дзеясловах I спражэння гэтай групы ў адрозненне ад дзеясловаў II спражэння адбываюцца змены ў аснове.
Аснова ўсякаецца (адсякаецца суфікс *-а-*) і адбываюцца наступныя чаргаванні:
<**з ~ ж**> абавя**з**-а-(ць) – абавя**ж**-у, абавя**ж**-аш … абавя**ж**-уць
<**с ~ ш**> зача**с**-а-(ць) – зача**ш**-у, зачэ**ш**-аш … зачэ**ш**-уць
<**х ~ ш**> закалы**х**-а-(ць) – закалы**ш**-у, закалы**ш**-аш … закалы**ш**-уць
<**т ~ ч**> тап**т**-а-(ць) – тап**ч**-у, топ**ч**-аш … топ**ч**-уць
<**к ~ ч**> клі**к**-а-(ць) – клі**ч**-у, клі**ч**-аш … клі**ч**-уць
<**п ~ пл’**> нашчы**п**-а-(ць) – нашчы**пл**-ю, нашчы**пл**-еш … нашчы**пл**-юць
<**м ~ мл’**> дра**м**-а-(ць) – дра**мл**-ю, дрэ**мл**-**еш** … дрэ**мл**-юць
<**ск ~ шч**> пала**ск**-а-(ць) – пала**шч**-у, пало**шч**-аш … пало**шч**-уць
<**цвёрды ~ мяккі**> **рв**-а-(ць) – **рв**-у, рв-еш, рв-**е** … рв-уць
<**Ø галоснага ў корані інфінітыва ~ галосны а (я) у корані асабовай формы**> бр-а-(ць) – б**я**р-у, б**я**р-эш…, б**я**р-уць;
<**г ~ ж**> іл**г**-а-(ць) – ілг-у, іл**ж**-эш, іл**ж**-э, іл**ж**-ом, іл**ж**-аце, ілг-уць

**Практыкаванне 19. Пастаўце дзеясловы ў адпаведную граматычную форму цяперашняга (будучага простага) часу.**

***Узор***: У гэтай цырульні цябе прыгожа пастрыгуць і (прычасаць, I спр., 2).
У гэтай цырульні цябе прыгожа пастрыгуць і прычэшуць.

1. Наш знешні выгляд часам (залежаць, II спр.) ад нашага сну.
2. Мая маці вельмі руплівa (даглядаць, I спр., 1) свае шыкоўныя валасы.
3. Я заўсёды (зважаць, I спр., 1) на вочы чалавека пры першай сустрэчы.
4. Яе манера гаварыць спачатку (здзіўляць, I спр., 1), а потым (прываблiваць, I спр., 1).
5. Калі ты (завязаць, I спр., 2) на шыю гэтую хустку, твая сукенка набудзе яркі акцэнт.
6. Мой настрой адразу (горшаць, I спр., 1), калі я не (атрымліваць, I спр., 1) кампліментаў.
7. Мяне вельмі (кранаць, I спр., 1) яе дзіцячая ўсмешка.
8. Яна (пагартаць, I спр., 1) часопіс і (выбраць, I спр., 2) сваю мадэль.
9. Бабулі (лепшаць, I спр., 1) пасля хваробы на вачах.
10. Гэты касцюм (належаць, II спр.) майму брату, а я час ад часу ў яго (пазычаць, I спр., 1).

**Практыкаванне 20. Устаўце ў дыялогі дзеясловы ў патрэбнай форме асобы і ліку.**

1. – Ты (вытрымаць) любыя касметычныя пакуты для прыгажосці?
   – Не, наўрад ці, прынамсі пакуль што.
2. – Табе не (апрыкраць) хутка твая новая гарэзлівая стрыжка? Ты зусім як падлетак-хуліган!
   – Ды мне апрыкраў мой былы летуценны вобраз! Трэба час ад часу мяняцца.
   – Можа і твая праўда, тады я (жадаць) табе асалоды ад твайго новага іміджу.

## Вінавальны склон назоўнікаў

| Неадушаўлёныя назоўнікі | | |
|---|---|---|
| **Адзіночны лік** | | |
| **мужчынскі род<br>-Ø** | **ніякі род<br>-а, -о (-ё), -е** | **жаночы род<br>-у (-ю), калі назоўнік на -а (-я)** |
| твар, гузік | вок-**а**, брыв-**о**,<br>пол-**е**, жыцц-**ё** | усмешка, шыя→<br>усмешк-**у**, шы-**ю**<br>**-Ø, калі назоўнік на зычны**<br>скронь, рэч |
| **Множны лік** | | |
| **мужчынскі род<br>-ы (-і)** | **ніякі род<br>-ы (-і)** | **жаночы род<br>-ы (-і)** |
| твар-**ы**, гузік-**і** | воч-**ы**, бров-**ы**,<br>пал-**і**, жыцц-**і** | усмешк-**і**, шы-**і**,<br>скрон-**і**, рэч-**ы** |
| **Адушаўлёныя назоўнікі** | | |
| **Адзіночны лік** | | |
| **мужчынскі род -а (-я)** | **ніякі род<br>-ё/-я** | **жаночы род<br>-у (-ю), калі назоўнік на -а(-я)** |
| дзівак, гультай,<br>баязлівец, вучань→<br>дзівак-**а**, гульта-**я**,<br>баязліўц-**а**, вучн-**я** | мышан-**я(ё)**,<br>дзіц-**я** | прыгажуня, модніца→<br>прыгажун-**ю**, модніц-**у**<br>**-Ø, калі назоўнік на зычны**<br>мыш, гусь |
| **Множны лік** | | |
| **мужчынскі род<br>-оў (-ёў), -аў (-яў)** | **ніякі род<br>-Ø** | **жаночы род<br>-Ø/ -яў (-аў), калі назоўнік<br>на -а(-я)** |
| дзівак-**оў**, гульта-ёў,<br>баязліўц-**аў**, вучн-**яў** | мышанят<br>-ей<br>дзяц-**ей** | прыгажунь / прыгажун-**яў**, модніц<br>**-ей (-эй), калі назоўнік на зычны**<br>мыш-**эй**, гус-**ей** |

**Практыкаванне 21. Пастаўце назоўнікі ў форму вінавальнага склону.**

**а) Адзіночнага ліку:**

Адхіліць (прапанова), змяніць (прычоска), атрымаць (заўвага), гартаць (часопіс), выканаць (песня), сустракаць (госць), абараніць (дзяўчына), абвастрыць (праблема), непакоіць (сусед), траціць (цярпенне), выкарыстаць (правіла), заваўёваць (краіна), занядбаць (сад), наведаць (цырульня).

**б) Множнага ліку:**

Чакаць (сыны), чытаць пра (князі), абнадзеіць (турысты), абудзіць (пачуцці), здзяйсняць (планы), зневажаць (канкурэнты), знішчаць (дакументы), люляць (мары), надзімаць (шары), напаткаць (браты), паблытаць (прозвішчы), брукаваць (вуліцы).

### Дзеяслоў *даць*

Дзеяслоў ***даць*** спрагаецца па індывідуальнай мадэлі.

| |
|---|
| да-**м** |
| да-**сі** |
| да́-**сць** |
| дадз-**і́м** (да-**мо́**) |
| да-**сце́** |
| дад-**у́ць** |

**Практыкаванне 22. Утварыце ад асновы дзеяслова даць прыставачныя дзеясловы па схеме і пастаўце іх у пэўную форму асобы і ліку. Вызначце іх значэнні па слоўніку. Падбярыце да кожнага дзеяслова назоўнік у вінавальным склоне.**

***Узор***: Я вы- + да-(ць) + -м → выдам пропуск.
Ты з- + да-(ць) + -сі → здасі квіток.

1. Вы да- + да-(ць) + -… → …
2. Ты ад- + да-(ць) + -… → …
3. Ён / яна за- + да-(ць) + -… → …
4. Яны на- + да-(ць) + -… → …
5. Я па- + да-(ць) + -… → …
6. Мы над- + да-(ць) + -… → …
7. Вы раз- + да-(ць) + -… → …
8. Ён / яна неда- + да-(ць) + -… → …
9. Ты пера- + да-(ць) + -… → …

**Практыкаванне 23. Выберыце тыя назоўнікі са спісаў А і Б, якія спалучаюцца з прыведзенымі прыназоўнікамі, пастаўце іх у форму вінавальнага склону адзіночнага ліку і дапоўніце сказы.**

| Заўтра я іду на … | Учора я хадзіў у … |
|---|---|
| **А** | **Б** |
| лазня | бібліятэка |
| клуб | басейн |
| выстава | паб |
| каток | цырк |
| крама | кірмаш |
| канцэрт | дыскатэка |
| пляж | салон |
| паліклініка | курсы |
| гараж | кавярня |
| школа | прыём |
| танцы | інстытут |

## Выражэнне месца і часу

**цераз (праз)** → вінавальны склон (*каго? што?*)

1. З аднаго боку на другі, упоперак чаго-небудзь.
   Мост **цераз (праз)** раку.
2. Скрозь што-небудзь.
   Дарога ішла **цераз (праз)** лес.
3. Час ці адлегласць, якія павінны прайсці.
   Электрычка прыбывае **цераз (праз)** 20 хвілін.
   **Цераз (праз)** 50 метраў вы ўбачыце магазін.
4. Паўтаральнасць дзеяння ў часе ці прасторы.
   Званкі звоняць **цераз (праз)** 40 хвілін.
   Падарожнікі рабілі прыпынкі для адпачынку **цераз (праз)** 5 кіламетраў.

**Практыкаванне 24. Запішыце сказы, раскрываючы дужкі.**

1. Спачатку табе трэба перайсці цераз (вуліца), а потым павярнуць налева.
2. Антон сказаў, што прыедзе праз (гадзіна).
3. Мне сказалі прымаць гэтыя таблеткі праз (адна гадзіна).
4. Наста сказала, што цераз (хвіліна) здасць кантрольную работу.

5. Нашы сябры праехалі праз (уся Беларусь) на машыне.
6. Школьнікі перавялі бабулю цераз (дарога).
7. Для цябе я прайду праз (усе горы), пераплыву цераз (усе моры, рэкі).
8. Вам трэба прайсці праз (плошча Незалежнасці) да Дома ўрада.

**Выражэнне мэты і напрамку**

Прачытайце словазлучэнні. Звярніце ўвагу на граматычныя адрозненні пры выражэнні мэты і напрамку ў беларускай і рускай мовах.

| **Беларуская мова** | **Руская мова** |
|---|---|
| Ісці **па** падручнікі (*В. скл.*) | Идти **за** учебниками (*Тв. п.*) |
| Стаяць у чарзе **па** білеты (*В. скл.*) | Стоять в очереди **за** билетами (*Тв. п.*) |
| Бегчы **за** аўтобусам (*Тв. скл.*) | Бежать **за** автобусом (*Тв. п.*) |
| Я прыйшоў **па** цябе (*В. скл.*) | Я пришел **за** тобой (*Тв. П.*) |
| Я іду **за** табой (*Тв. скл.*) | Я иду **за** тобой (*Тв. п.*) |

**Практыкаванне 25. А. Прачытайце сказы. Растлумачце, чаму ў адных сказах выкарыстаны прыназоўнік па, а ў другіх за. Выпішыце словазлучэнні са спецыфічным беларускім дзеяслоўным кіраваннем.**

1. Хлопчык пайшоў у магазін па марожанае.
2. Я бег за братам і не мог яго дагнаць.
3. Сястру паслалі па доктара.
4. Сябры зайшлі па мяне.
5. Кот бегаў за мячом.
6. Я еду ў экспедыцыю па туман і пах тайгі.

**Б. Перакладзіце на беларускую мову.**

1. Мой дядя ходит в магазин за хлебом рано утром.
2. За зайцем нет смысла гоняться.
3. Мы заедем за тобой в два часа.
4. За красной машиной ехала синяя.
5. Мне нужно сходить в детский сад за ребенком.

## Вінавальны склон прыметнікаў

| З неадушаўлёнымі назоўнікамі | | | |
|---|---|---|---|
| **Адзіночны лік** | | | |
| **Род** | **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| мужчынскі | на цвёрды зычны | ***-ы*** | прыгож-**ы** твар |
| | на мяккі зычны і *г, к, х* | ***-і*** | ле́тн-**і** дождж<br>мя́кк-**і** погляд |
| ніякі | на цвёрды зычны | ***-ае*** | добр-**ае** вока |
| | на мяккі зычны | ***-яе*** | ле́тн-**яе** надвор’е |
| жаночы | на цвёрды зычны | ***-ую*** | прыгожая кве́тка→ прыгож-**ую** кве́тку |
| | на мяккі зычны | ***-юю*** | ле́тняя альта́нка →<br>ле́тн-**юю** альта́нку |
| **Множны лік** | | | |
| мужчынскі<br>ніякі<br>жаночы | на цвёрды зычны | ***-ыя*** | прыгож-**ыя** тва́ры, кве́ткі, вочы |
| | на мяккі зычны<br>і *г, к, х* | ***-ія*** | ле́тн-**ія** дажджы́, здарэ́нні, альта́нкі<br>мя́кк-**ія** погляды, ры́сы, пёры |
| **З адушаўлёнымі назоўнікамі** | | | |
| **Адзіночны лік** | | | |
| мужчынскі род | на цвёрды зычны | ***-ага*** | прыгожы юна́к→<br>прыгож-**ага** юнака́ |
| | на мяккі зычны | ***-яга*** | позні госць→<br>позн-**яга** госця |
| ніякі род | на цвёрды зычны | ***-ае*** | гарэ́злів-**ае** шчаня́ |
| | на мяккі зычны | ***-яе*** | позн-**яе** дзіця́ |
| жаночы род | на цвёрды зычны | ***-ую*** | прыгожая дзяўчы́на→<br>прыгож-**ую** дзяўчы́ну |
| | на мяккі зычны | ***-юю*** | позняя госця→<br>позн-**юю** госцю |

| Множны лік | | | |
|---|---|---|---|
| мужчынскі<br>ніякі<br>жаночы | на цвёрды зычны | ***-ых*** | прыгож-**ых** юнакоў, дзяўча́т, шчаня́т |
| | на мяккі зычны і *г, к, х* | ***-іх*** | позн-**іх** гасце́й, госцяў, дзяце́й, далёк-**іх** сваякоў |

**Практыкаванне 26. Пастаўце назоўнікі з прыметнікамі ў форму вінавальнага склону.**

Бачу (вузкая талія), (шырокія плечы), (магутная шыя), (зграбная фігурка), (зваблівая ўсмешка), (гарэзлівыя вочы), (цяжкая хада), (пульхныя вусны), (модная прычоска), (доўгія косы), (мілыя кудзеркі), (сівыя скроні), (высокі лоб), (тонкія бровы), (цяжкія павекі), (дробныя зубы).

**Практыкаванне 27. Дапоўніце сказы назоўнікамі (з прыметнікамі) у вінавальным склоне адзіночнага ліку са значэннем часу з прыназоўнікам у і без прыназоўніка.**

***Узор***: Я не бачыў цябе ________

Я не бачыў цябе ў сераду. Я не бачыў цябе *цэлы тыдзень*.

1. Я рыхтаваў гэты даклад ________
2. Ён разглядаў гэта рэзюмэ ________
3. Яны рабілі рамонт на балконе ________
4. Сястра гасцявала ў бабулі ________
5. Брат гуляў за камп’ютарам ________

**Практыкаванне 28. Дапасуйце прыметнікі да назоўнікаў у родзе і ліку.**

Нос (вялікі), вочы (блакітны), вусны (пульхны), бровы (чорны), вейкі (доўгі), радзімка (маленькі), характар (складаны), знешнасць (прывабны), рукі (вялікі), валасы (кучаравы), вушы (адтапыраны), лоб (адкрыты), шыя (доўгі), сківіцы (моцны), твар (прыгожы), погляд (упэўнены), зморшчынка (глыбокі), скура (гладкі), зубы (белы), галава (круглы), пальцы (доўгі), кулакі (моцны), пазногці (пафарбаваны), спіна (роўны), плечы (шырокі), рухі (павольны), постаць (стройны), паводзіны (стрыманы), хада (хуткі), усмешка (шчыры), голас (прыемны).

**Практыкаванне 29. Раскрыйце дужкі, пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе і ліку, а потым пастаўце спалучэнні прыметніка з назоўнікам у форме вінавальнага склону.**

***Узор***: У яе (чырвоны) спадніца.
У яе чырвоная спадніца.
Бачу чырвоную спадніцу.

У яе (блакітны) хустка.
У яго (карычневы) куртка.
У іх (сіні) пінжакі.
У яе (чырвоны) сукенка.
У яго (шэры) нагавіцы.
У іх (прыгожы) гальштукі.
У яе (кароткі) спадніца.
У яго (прыгожы) кашуля.
У іх (белы) халаты.
У яе (ружовы) кофтачка.
У яго (чорны) паліто.
У іх (новы) чаравікі.

У яе (блакітны) вочы.
У яго (прыемны) усмешка.
У іх (выпадковы) сустрэча.
У яе (залаты) пярсцёнак.
У яго (творчы) праца.
У іх (цікавы) экскурсія.
У яе (кароткі) біяграфія.
У яго (стрыманы) характар.
У іх (цудоўны) успаміны.
У яе (значны) поспехі.
У яго (прыгожы) рукі.
У іх (няпросты) лёсы.

**Практыкаванне 30. Слухайце і чытайце тэкст, замест кропак устаўце прыметнікі ў патрэбнай форме.**

## МАЯ СТАРЭЙШАЯ СЯСТРА НІНА

Ніна – мая старэйшая сястра. Яна не падобная да мяне, бо ў яе блакітныя вочы і светлыя валасы. А ў мяне зялёныя вочы і чорныя валасы. У Ніны … свежы колер твару, прыгожыя … вусны. Праўда, трэба сказаць, што зрок у Ніны не вельмі добры, і ёй даводзіцца насіць акуляры. Мая сястра даволі … У яе добрая … фігура. Ніна заўсёды ... і выглядае асабліва прывабна, калі ідзе на шпацыр са сваім сябрам Васілём.

Ніна вывучае замежныя мовы ва ўніверсітэце. Яна ўжо на пятым курсе. Летам яна падпрацоўвала ў турагенцтве. Яна свабодна валодае французскай і нямецкай мовамі, а зараз вывучае італьянскую. Праца ў агенцтве дала ёй магчымасць вандраваць за мяжой. Ніна … любіць знаёміцца з новымі мясцінамі і новымі людзьмі. Ніна нядрэнна гуляе ў тэніс. Але яна

ніколі не займалася ім сур’ёзна. Таму, калі мы гуляем разам, я заўсёды выйграю. Ніна не клапоціцца пра выйгрыш, я думаю, яе захапляе сам працэс гульні.

Ніна любіць дасціпны гумар і жарты. Яна заўсёды падбадзёрвае мяне, бо я не так аптымістычна ўспрымаю жыццё.

У Ніны маецца яшчэ адна выдатная якасць – гэта яе ўседлівасць. Яна можа, калі гэта трэба, доўга займацца … карпатлівай працай. У выніку Ніна заўсёды была выдатніцай: і ў школе, і ва ўніверсітэце.

Я ў захапленні ад сваёй старэйшай сястры. Яна кемлівая, прыгожая і энергічная. Яе сябар Васіль – вельмі … маўклівы і … хлопец. Ніна часта кпіць з яго, а ён зусім не крыўдуе, нават смяецца разам з ёй.

***Словы для даведак***: прыемны, маленькі, высокі, зграбны, элегантны, энергічны, кантактны, аднастайны, спакойны, цярплівы.

**Практыкаванне 31. Адкажыце на пытанні:**

- Што вы даведаліся пра Ніну?
- Як яна выглядае?
- Які ў яе характар, тэмперамент?
- Дзе яна вучыцца? Чым захапляецца?
- Як завуць яе сябра? Што вы можаце пра яго расказаць? (Які ён)?
- А што вы можаце расказаць пра сябе (пра сваю сястру, сяброўку, маці ці пра свайго брата, сябра, бацьку)?

**Табліца колераў**

| Руская мова | Беларуская мова |
|---|---|
| белый | бе́лы |
| черный | чорны |
| синий | сіні |
| зеленый | зялёны |
| желтый | жоўты |
| голубой | блакі́тны |
| серый | шэ́ры |
| красный | чырвоны |
| пунцовый / алый | пунсовы |
| пурпурный / пурпуровый | пурпу́рны / пурпуровы |
| бордовый | бардовы |
| оранжевый | ара́нжавы |
| оливковый | алі́ўкавы |
| охристый | вохрысты |

| салатовый | сала́тны |
|---|---|
| коричневый | кары́чневы |
| лимонный | лімонны |
| лиловый | ліловы |
| фиолетовый | фіяле́тавы |
| сиреневый | бэ́завы |
| розовый | ружовы |
| пепельный | попельны |
| персиковый | пе́рсікавы |
| сливовый | слі́вавы |
| морковный | маркоўны |
| рыжий | ры́жы |
| рыже-коричневый | руды́ |
| золотой | залаты́ |
| серебряный | сярэ́браны |

**Практыкаванне 32. Прачытайце, назавіце прыметнікі. Карыстаючыся табліцай колераў і слоўнікам, перакладзіце выдзеленыя прыметнікі на рускую мову.**

На багатых глебах, угноеных лісцевым бярозавым ападам, сустрэнеш шмат сыраежак і іх родных братоў – валуёў. Якіх толькі афарбовак не маюць гэтыя грыбы і якіх толькі эпітэтаў не заслугоўваюць! Адно толькі іх пералічэнне і зойме шмат часу, і ўразіць: сыраежка алівавая, балотная, *брудна-белая*, вілапластковая, *вінна-чырвоная*, *вохрана-белая*, грабянёва-рабрыстая, густа пластковая, дзявочая, сыраежка-дзяўчынка, дробная, духмяная, ёдаформавая, *жоўтая*, жаўтлявая, *залацістая*, зменлівая, зыркая, ільснявая, кара́левая, крохкая, *крывава-чырвоная*, лілёвая, *малочна-белая*, *маркоўна-чырвоная*, мігдалёвая, мядовая, мяккая, непрыемная, пераспелая, *пурпурова-рудая*, пякучаедкая, бярэзнікавая, *рознакаляровая*, рознапластковая, роднасная, *руда-алівавая*, *руда-фіялетавая*, *ружаватая*, свянелая, *сіва-жоўтая*, *сіва-зяленевая*, *сіне-жоўтая*, *сінявата-зялёная*, смарагдавая, смуродная, сырапахкая, трывалая, харчовая, *цёмна-бэзавая*, *цёмна-фіялетавая*, цісавая, *цынамонавая*, цэлая, не́рушная, чарнелая, *чорна-белая*, *чорна-пурпуровая*, чорная, шарэлая, *шэра-фіялетавая*, *шэрая*.

(*У. Лайкоў*)

## Ступені параўнання прыметнікаў

| **Вышэйшая ступень (кампаратыў)** | |
|---|---|
| Простая форма | Складаная форма |
| зыходная форма + суф. ***-ейш-*** / ***-эйш-*** | ***больш*** / ***менш*** + зыходная форма |
| сме́л-ы + *-ейш-* – смяле́**йшы**<br>му́др-ы + *-эйш-* – мудрэ́**йшы** | **больш** сме́лы<br>**менш** му́дры |
| **Найвышэйшая ступень (суперлятыў)** | |
| прэфікс ***най-*** + кампаратыў<br>*най-* + смяле́йшы – **най**смяле́йшы<br>*най-* + мудрэ́йшы – **най**мудрэ́йшы | ***са́мы***<br>***найбо́льш*** / ***найме́нш*** + зыходная форма<br>**са́мы** сме́лы<br>**найбо́льш** / **найме́нш** му́дры |

! Суфікс ***-ейш-*** ужываецца пасля цвёрдых і мяккіх зычных, ***-эйш-*** пасля зацвярдзелых, ***-ш-*** у суплетыўных асновах.

## Суплетыўныя асновы

| **Кампаратыў праз суфікс *-ш-*** | |
|---|---|
| малы́ – мен**шы** – найменшы<br>вялікі – боль**шы** – найбольшы | добры – ле́п**шы** – найле́пшы<br>дрэ́нны – гор**шы** – найгоршы<br>ке́пскі – гор**шы** – найгоршы |

| **Чаргаванні зычных** | |
|---|---|
| **д // дз** мала**д**ы́ – мала**дз**е́йшы<br>**г // ж** дара**г**і – дара**ж**э́йшы<br>**з // ж** блі**з**кі – блі**ж**э́йшы<br>**к // ч** тон**кі** – тан**ч**э́йшы | **с // ш** вы**с**окі – вы**ш**э́йшы<br>**х // ш** ці**х**і – ці**ш**э́йшы<br>**т // ц** гус**т**ы́ – гус**ц**е́йшы |

! Зрэдку назіраетцца выпадзенне суфікса ***-к-*** / ***-ок-*** / ***-ёк-***: блі*з**к***і – бліжэ́йшы; выс***ок***і – вышэ́йшы; дал***ёк***і – дале́йшы

**Практыкаванне 33. Утварыце простыя формы кампаратыву, звярніце ўвагу на чаргаванне зычных асновы.**

***Узор***: цвёрды – цвярдзейшы.

Багаты, чысты, рэдкі, ціхі, нізкі, кароткі, высокі, сухі, хуткі, доўгі.

**Практыкаванне 34. Утварыце ад простай формы кампаратыву зыходную форму, а потым складаную форму кампаратыву. Адзначце чаргаванні зычных.**

***Узор***: выш**эйш**ы – высокі – **больш** высокі (с // ш).

Смялейшы, весялейшы, навейшы, багацейшы, стражэйшы, маладзейшы, прасцейшы, цішэйшы, бліжэйшы, ніжэйшы, гусцейшы, мацнейшы, смачнейшы, разумнейшы, свяжэйшы, цікавейшы, страшнейшы, хутчэйшы, хітрэйшы, далейшы, глыбейшы, вузейшы, саладзейшы.

**Практыкаванне 35. Праслухайце ўважліва верш. Прачытайце верш, назавіце прыметнікі, ад якіх утворана ступень параўнання.**

Вада па муку пабегла,
Каб стаць ад мукі гусцейшай;
Малачка шукае зацірка,
Каб стаць ад яго бялейшай;
Малачко пабегла па цукар,
Каб стаць яшчэ саладзейшым;
А цукар пабег па хлеб,
Каб стаць яшчэ больш смачнейшым.
А хлеб пайшоў спаць…

І як толькі хлеб прачнецца,
Як толькі яго разбудзяць –
Цукар стане смачнейшы,
Малачко – саладзейшае,
Зацірка стане бялейшая,
А вада тады стане гусцейшая,
І ўсе яны разам збяруцца
У тваёй у глінянай місе…

Ва ўсіх незлічоных войнах
Тлумачылі гэтак голад
Дзецям на мове дзяцей.

(*Я. Сіпакоў*)

**Практыкаванне 36. Утварыце ўсе магчымыя формы параўнання прыметнікаў, адзначце прыметнікі, ад якіх нельга ўтварыць такія формы.**

Смуглявы, вясёлы, чарнявы, кульгавы, светла-блакітны, разумны, глыбокапаважаны, стрыманы, капрызны, вусаты, барадаты, шчаслівы, жывы, мёртвы, вастраносы, дубовы, сонны, сляпы, вялікі, прыгожы, васільковы, вішнёвы, жанаты, спрытны, малады, стараваты, стары, высокі, рыжавалосы, шыракаплечы, шкляны, дабрадушны.

! У рускай мове найвышэйшая ступень параўнання прыметнікаў утвараецца суфіксальным спосабам – далучэннем суфікса ***-ейш-*** ці ***-айш-*** да асновы якаснага прыметніка: мудрый – мудр***ейш***ий, великий – велич***айш***ий. Параўнайце з беларускай мовай (гл. табліцу).

**Практыкаванне 37. Перакладзіце на беларускую мову, параўнайце адпаведныя формы.**

***Узор***: ближ***айш***ая остановка – **най**бліжэйшы прыпынак.

Встреча на высшем уровне, ближайшая деревня, крупнейшее предприятие, мельчайшие частицы, точнейшие приборы, кратчайший путь, тончайшая перегородка, интереснейшая книга, умнейший из нас, древнейшие поселения, величайшие достижения, сладчайший фрукт.

**Параўнальная канструкцыя з кампаратывам прыметніка**

| **Кампаратыў + прыназоўнік + В. с.** |
|---|
| Ён быў разумне́йшы **за** свайго бра́та.<br>Яна́ была́ прыгажэ́йшая **за** сваю́ сястру́.<br>Яны́ былі́ вышэ́йшыя **за** свайго ба́цьку. |

! Кампаратыў у падобных канструкцыях не мае кароткай формы і не выкарыстоўваецца без прыназоўніка. Такія сказы, як ***Ён быў <u>разумней</u> свайго брата*** з’яўляюцца ненарматыўнымі, калькаванымі з рускай мовы.

! Сінанімічнымі з’яўляюцца канструкцыі са злучнікамі ***чым***, ***як***, у якіх назоўнік мае форму назоўнага склону, параўн.:

| Ён быў разумне́йшы, ***чым*** яго брат.<br>Яна́ была́ прыгажэ́йшая, ***як*** яе́ сястра́.<br>Яны́ былі́ вышэ́йшыя, ***чым*** іх ба́цька. |
|---|

**Практыкаванне 38. Утварыце простую форму кампаратыву прыметнікаў. Запішыце сказы з параўнальнымі канструкцыямі.**

*Узор*: Сяргей (нізкі // свой брат) на 15 сантыметраў.
Сяргей ніжэйшы за свайго брата на 15 сантыметраў.
Сяргей ніжэйшы, чым яго брат, на 15 сантыметраў.

1. Вера (малады // свая сястра) на 5 гадоў.
2. Каця (стары // свой брат) на 7 гадоў.
3. Мікола (высокі // свой стрыечны брат) на 10 сантыметраў.
4. Наталля (малады //свой муж) на 3 гады.
5. Пеця (нізкі // свая сястра) на 5 сантыметраў.
6. Мая котка (стары // наш кот) на 8 гадоў.
7. Мой бацька (малады // мая маці) на 4 гады.
8. Мая машына (дарагі // машына суседа) на 2 тысячы долараў.

## Выражэнне прыналежнасці

! Прыналежныя прыметнікі абазначаюць прымету паводле прыналежнасці прадмета пэўнай (індывідуальнай) асобе ці жывой істоце: ***цётчын падарунак, матчына паліто, Васілёва машына, Ірыніна сумка, ластаўчына гняздо***.

| **Аснова назоўніка<br>ж. р. + суф. *-ын-*, *-ін-*** | **Аснова назоўніка<br>м. р. + суф. *-оў-/ -аў-; -ёў- / -еў-*** |
|---|---|
| **Н.** Наташ**ын** канспект | **Н.** бацьк**аў** матацыкл |
| **Р.** Наташ**ын**ага канспекта | **Р.** бацьк**ав**ага матацыкла |
| **Д.** Наташ**ын**аму канспекту | **Д.** бацьк**ав**аму матацыклу |
| **В.** Наташ**ын** канспект /<br>Наташ**ын**ага бацьку | **В.** бацьк**аў** матацыкл /<br>бацьк**ав**ага брата |
| **Т.** Наташ**ын**ым канспектам | **Т.** бацьк**ав**ым матацыклам |
| **М.** у Наташ**ын**ым канспекце | **М.** пры бацьк**ав**ым матацыкле |

**Практыкаванне 39. Утварыце прыналежныя прыметнікі, дапасуйце іх да назоўнікаў.**

| маці | памада |
|---|---|
| дзядуля | машына |

| бабуля | сукенка |
|---|---|
| сястра | камп’ютар |
| брат | гітара |
| сын | матацыкл |
| сусед | сабака |
| суседка | дачка |
| Мікола | падручнік |
| Іван | крэсла |
| інжынер | праект |

**Практыкаванне 40. Прачытайце ўважліва, знайдзіце памылкі пры ўтварэнні прыналежных прыметнікаў і выпраўце іх.**

Бацькін капялюш, дзядуліна крэсла, цёткава хустка, вавёркава дупло, Надзева паліто, Аляксеін сшытак, Міколін подпіс, бабулевы казкі, сыніна кніга, Скарыніна Біблія, Ігарын пенал, Кацевы канспекты, Ваніны боты.

## Прыслоўе

### Ступені параўнання прыслоўяў

| Вышэйшая ступень (кампаратыў) | |
|---|---|
| **Простая форма** | **Складаная форма** |
| зыходная форма + суф. ***-ей / -эй*** | ***больш / менш*** + зыходная форма |
| далёк-а + ***-ей*** – дале́й<br>блі́зк-а + ***-эй*** – бліжэ́й | **больш** далёка<br>**менш** блі́зка |
| **Найвышэйшая ступень (суперлятыў)** | |
| прэфікс ***най-*** + кампаратыў<br>*най- + далей* – **най**дале́й<br>*най- + бліжэй* – **най**бліжэ́й | ***найбо́льш / наймéнш*** + зыходная форма<br>**найбо́льш** далёка<br>**наймéнш** блі́зка |

! Суфікс ***-ей*** пішацца пасля цвёрдых і мяккіх зычных; ***-эй*** пасля зацвярдзелых. Суфіксы, як правіла, пад націскам; ***-ш*** у суплетыўных асновах.

## Суплетыўныя асновы

| Кампаратыў праз суфікс -ш- | |
|---|---|
| ма́ла – мен**ш** – найме́нш | добра – леп**ш** – найле́пш |
| многа – боль**ш** – найбольш | дрэ́нна – гор**ш** – найгорш |
| шма́т – боль**ш** – найбольш | ке́пска – гор**ш** – найгорш |

! Паралельна ўтвараюцца і формы з суфіксам ***-ей /-ай***:

| | |
|---|---|
| ма́ла – ме́н**ей** – найме́ней | добра – ле́п**ей** – найле́пей |
| многа – бол**ей** – найболей | дрэ́нна – го́р**ай** – найгорай |
| шма́т – бол**ей** – найболей | ке́пска – гор**ай** – найгорай |

| Чаргаванні зычных | | | |
|---|---|---|---|
| д // дз | рэ́**д**ка – ра**дз**е́й | т // ц | прос**т**а – прас**ц**е́й |
| г // ж | стро**г**а – стра**ж**э́й | х // ш | ці́**х**а – ці**ш**э́й |
| к // ч | ху́т**к**а – хут**ч**э́й | з // ж | ні**з**ка – ні**ж**э́й |
| с // ш | вы**с**ока – вы**ш**э́й | | |

! Зрэдку назіраецца выпадзенне суфікса ***-к- / -ок- / -ёк-***:
блі́з**к**а – бліжэ́й; выс**ок**а – вышэ́й; дал**ёк**а – дале́й

**Практыкаванне 41. Прачытайце, раскрыйце дужкі, утварыце простую форму кампаратыву. Звярніце ўвагу на чаргаванне зычных асновы, выпадзенне суфіксаў, суплетывізм асноў.**

***Узор***: Сеў (блізка) – сеў бліж**эй**.

Жылі (бедна), сказаў (смела), пацiснуў (моцна), маляваў (дрэнна), расказваў (цікава), гаварыў (ціха), наведваў (рэдка), вярнуўся (позна), устаў (рана), развёў (густа), паехаў (хутка), апусціўся (глыбока), зрабіў (кепска), напісаў (добра), скакаў (высока).

**Практыкаванне 42. Раскрыйце дужкі, выкарыстоўваючы простую форму вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў.**

***Узор***: Пятро раззлаваўся і пачаў гаварыць (моцна).
Пятро раззлаваўся і пачаў гаварыць мацней.

1. Праз колькі часу ён пачаў ехаць (хутка).
2. Ганна паправіла паліто і села (зручна).
3. Сёння сын вярнуўся з работы (позна), чым учора.
4. Навальніца скончылася, і Вера ішла дадому (павольна).
5. Пасля заўвагі настаўніка вучні пачалі паводзіць сябе (ціха).
6. Ад хвалявання голас у яе дрыжаў усё (моцна і моцна).
7. Маці папрасіла сына пасадзіць дрэўцы (густа).
8. Святло патухла, і Алесь пачаў спяваць усё (ціха і ціха).
9. Заняткі сёння, здавалася, працягваліся (доўга), чым звычайна.
10. Мікола выехаў на шырокую асфальтаваную дарогу і паехаў (хутка).

### Параўнальная канструкцыя з кампаратывам прыслоўя

| **Кампаратыў + прыназоўнік + В. с.** |
| --- |
| Вольга чыта́ла хутчэ́й за сваю́ сястру́. |

Сінанімічнымі з’яўляюцца канструкцыі са злучнікамі ***чым***, ***як***, пасля якіх назоўнік мае форму назоўнага склону.

| *Вольга чыта́ла хутчэ́й,* ***чым*** *яе́ сястра́.*<br>*Вольга чыта́ла хутчэ́й,* ***як*** *яе́ сястра́.* |
| --- |

! Канструкцыі з кампаратывам без прыназоўніка: ***Вольга чытала <u>хутчэй</u> сваёй сястры*** – калькаваныя з рускай мовы і лічацца ненарматыўнымі ў беларускай мове.

**Практыкаванне 43. Раскрыйце дужкі. Утварыце параўнальныя канструкцыі з кампаратывам прыслоўя.**

***Узор***: Ку́ртка кашту́е (дорага // суке́нка).
Ку́ртка кашту́е даражэ́**й за** суке́нку.
Ку́ртка кашту́е даражэ́й, чым суке́нка.

1. Бацька ішоў (шпарка // маці).
2. Ірына бегла (павольна // сястра).
3. Боты каштуюць (танна // футра).
4. Мая бабуля пісала (марудна // мой дзядуля).
5. Васіль прыбег да фінішу (хутка // Іван).
6. Мая сястра малюе (прыгожа // я).
7. Сцяпан выканаў заданне (кепска // Ігар).
8. Алесь разбіраецца ў музыцы (добра // Стас).

9. Каця спявала (моцна // яны).
10. Дзядуля гаварыў (ціха // усе).
11. Мой брат глядзеў на жыццё (весела // я).
12. Ганна скакала (высока // свой брат).

! У рускай мове вышэйшая ступень параўнання прыметніка супадае з вышэйшай ступенню параўнання прыслоўяў: *он смел**ее*** (прыметнік) і *сказал смел**ее*** (прыслоўе). У беларускай мове: *ён* (які?) *смял**éйш**ы **за***…; *ён* (які?) *выш**э́йш**ы за*… (прыметнікі) і *сказáў* (як?) *смял**éй за***…; ён скакаў (як?) выш***э́й*** *за*… (прыслоўі).

**Практыкаванне 44. Выберыце ў дужках неабходную для кантэксту форму, абгрунтуйце свой выбар.**

Ісціна (*даражэй, даражэйшая*) за ўсё, бацькі (*мудрэй, мудрэйшыя*) за сваіх дзяцей, наш дом (*вышэй, вышэйшы*) за суседні, мой брат (*разумнейшы, разумней*) за свайго сябра, мая стрыечная сястра (*старэй, старэйшая*) за мяне, Васіль быў (*спрытней, спрытнейшы*) за Андрэя, Вольга была (*прыгажэй, прыгажэйшая*) за сваю сяброўку Таццяну.

**Практыкаванне 45. Прачытайце, знайдзіце сказы, у якіх дапушчаны памылкі, выпраўце і патлумачце іх.**

1. Ваня на два гады старэй мяне.
2. Кастусь свае інтарэсы ставіў вышэй усяго іншага.
3. Чым глыбей чалавек апускаецца ў душу, тым вышэй падымаецца ў сусвет.
4. Возера Нарач глыбей за нашу рэчку.
5. Мёд саладзей за цукар.
6. Бацька дагнаў сына і пайшоў хутчэй.
7. Самалёт рухаецца хутчэй цягніка.
8. Здароўе даражэй багацця.
9. Слоўнік каштаваў даражэй энцыклапедыі.
10. Ажыны буйней за чарніцы.
11. Той дуб быў вышэй і гусцей за бярозу.
12. Сцяпан быў разумней за ўсіх у групе.
13. Мой дзядуля быў больш мудрэйшы за майго бацьку.
14. Сачыненне ў Міколы атрымалася больш цікавейшае, чым у мяне.
15. Мой бацька на 5 гадоў маладзей маёй маці.
16. Машына ў Мікіты больш навейшая, чым у Сяргея.

### 🎧 Практыкаванне 46. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання



## ГАНАРЛІЎКА ГАННА

Так выглядала беларуская вясковая дзяўчына ў першай палове XX ст.
(Паводле рамана Івана Мележа «Людзі на балоце»)

[Цыкл раманаў Івана Мележа «Палеская хроніка» распавядае пра лёс беларускай вёскі ў эпоху саветызацыі і калектывізацыі. Дзеянне хронікі адбываецца ў беларускім Палессі, адным з самых загадкавых і знакавых рэгіёнаў краіны, раннюю гісторыю якога апісваў яшчэ Герадот. Праз паказ жыцця закінутай у балотах вёскі Курані аўтар раскрыў драматычны лёс беларускага народа. Васіль Дзяцел і Ганна Чарнушка – галоўныя героі хронікі, чыё каханне паказваецца на фоне сацыяльных зрухаў.]

Усё лета перад хатай Чарнушкаў ціха грэлася на сонцы маладзенькая рабіна. Ніхто ў Куранях не заўважыў, калі і хто пасадзіў яе, не бачылі як трэба яе і тады, калі яна красавíцкай раніцай апранулася ў лёгкае празрыста-зялёнае плацце з кволых, рэзных лісточкаў. Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, сціплая, непрыкметная. Ніхто не даваў ёй ніякай увагі. Мылі яе, песцілі толькі цёплыя дажджы ды любілі шумець маладым лісцем вятры. Людзі ж яе не заўважалі, спачатку таму, што проста не прыкмецілі, а потым таму, што непрыкметна прывыклі.

І нeспадзявана адбылося незвычайнае: ціхая, нявідная ў жнівеньскім росквіце рабіна заружавела яркім, кідкім хараством, гарачым полымем агністых гронак. І не адны вочы глядзелі на яе здзіўлена, зачаравана: «Глядзі ты!..»

Як тая рабіна, цвіла ў гэтае лета Ганна. Яшчэ, здаецца, учора была падлетак, а вось ужо – дзяўчына, у самай красе сваёй! Калі толькі вырасла!

Глядзелі на Ганну, разважалі і згаджаліся: выспела, нявеста, нічога не скажаш! Часам пры гэтых гаворках успаміналі Ганніну маці-нябожчыцу, казалі, што дачка ва ўсім выйшла ў маці. З аблічча – дык як вылітая: і невялікая ростам, і не гладкая – худая, можна сказаць, і плечы, як у маці, вузкія, і рукі тонкія. І косы чорныя, густыя, аж блішчаць, і смуглявасць на твары такая ж, і шчочкі таксама ж выпінаюцца.

Іншы раз жаночыя языкі меркавалі, што грудзі ў Ганны малаватыя, як кулачкі: чым толькі дзіця карміць будзе, як давядзецца? Але пры ўсім тым Ганну ніяк нельга было палічыць за кволую. З аднаго позірку відаць было – крамя́ная дзяўчына, дужая, сілаю ўся налілася! Вунь якая пругкая ў хадзе, спрытная якая ў рухах, так і відаць – маладосць, сіла ў кожнай жылачцы!

Заўважалі, што перамянілася яна не толькі з аблічча. Багата што інакшае было і ў тым, як яна хадзіла між людзей, – стрымана і паважней, як трымалася з хлопцамі, – стражэй і з нейкай кплівасцю. Нават смяялася яна цяпер інакш, як дасюль, – смех быў ужо не бесклапотны, не пусты па-дзіцячы; і штосьці як бы таілася ў гэтым смеху. Нядаўна глядзела яна на свет адно дзікавата-цікаўнымі вачыма. Як і раней, вочы яе, вільготна-цёмныя, падобныя на спелыя вішні, увесь час блішчэлі, ззяла ў іх няўціхнае хваляванне. Але сачылі яны з-пад шаўкавіста-чорных смелых броваў цяпер з насцярожлівай, пільнай увагаю і, здавалася, толькі і чакалі выпадку кпліва падсмяяцца. Іншы раз маглі яны, як і раней, бліснуць весялосцю, але часта, вельмі часта гарэлі ў іх недавер’е і насмешка. У іх таксама ж нешта таілася, у цудоўных вішнёва-чорных вачах.

Амаль усе куранёўскія цёткі і дзядзькі лічылі, што, набыўшы паважнасці, Ганна стала больш неспакойнай і – аж залішне задзірыстай. Не ўсім даспадобы была і яе ганарыстая ўпэўненасць. Ганна, здавалася, паказвала, што ў яе на ўсё свае сталыя меркаванні, свой цвёрды погляд...

Хлопцы і гарнуліся да яе, і нібы пабойваліся. Ім помнілася, што не лішне асцерагацца і яе язычка. Ведалі яны і тое, што Ганну не дай Бог увесці ў гнеў: тады яна ўмомант страціць роўнасць сваю, забудзецца на ўсё, загарыцца адным. Гарачая, нястрымная, небяспечная яна, ганарліўка Ганна!..

**Іван Мележ** (1921–1976) – беларускі празаік, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі. Аўтар цыкла раманаў «Палеская хроніка» (1961–1976), у якім адлюстравана жыццё беларусаў-палешукоў у 1920–30-я гг.

# МОДУЛЬ 4

## АДЗЕННЕ. КРАМЫ

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы II спражэння на** *-і-(ць)*, *-ы-(ць)*
  - **Дзеясловы I спраження з асновай на зычны**
  - **Дзеясловы руху** *бегчы* **і** *бегаць*
  - **Формаўтварэнне зваротных дзеясловаў**
  - **Творны склон назоўнікаў, прыметнікаў, асабовых, прыналежных займеннікаў**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Абу́так** – обувь
**Адзе́нне** – одежда
**Акуля́ры** – очки
**Ама́ль** – почти
**Бавоўна** – хлопок
**Боты, бот** – сапоги, сапог
**Бранзале́т** – браслет
**Бялі́зна** – белье
**Буршты́н** – янтарь
**Вага́** – вес
**Ва́жыць** – весить
**Вопратка** – одежда
**Воўна** – шерсть
**Га́льштук** – галстук
**Дарагі́** – дорогой
**Дарэ́чы** – кстати
**Завушні́цы** – серьги
**Загортваць (загарну́ць)** – заворачивать (завернуть)
**Заме́ст** – вместо
**Зні́жкі** – скидки
**Зру́чны** – удобный

**Капялю́ш** – шляпа
**Кара́лі** – бусы
**Каштоўны** – ценный
**Каштава́ць** – стоить
**Кра́ма** – магазин
**Кошт** – стоимость, цена
**Кашу́ля** – рубашка
**Ланцужок** – цепочка
**Нагаві́цы** – брюки
**Ная́ўныя** – наличные
**Пакупні́к** – покупатель
**Пальча́ткі** – перчатки
**Паме́р** – размер
**Панчохі, панчоха** – чулки, чулок
**Парасон** – зонт
**Пасава́ць** – идти, подходить к лицу
**Разлі́чвацца (разлічы́цца)** – рассчитываться (рассчитаться)
**Ра́іць (пара́іць)** – советовать (посоветовать)
**Рэ́шта** – сдача
**Ску́ра** – кожа
**Скураны́** – кожаный
**Спадні́ца** – юбка
**Сту́жка** – лента
**Суке́нка** – платье
**Та́нны** –дешевый
**Упрыгожанне, упрыгажэ́нне** – украшение
**Фу́тра** – шуба, мех
**Ху́стка** – платок, косынка
**Чараві́кі, чараві́к** – ботинки, ботинок
**Ту́флі, ту́фель** – туфли, туфля
**Чарга́** – очередь
**Шаль** – шаль
**Ша́лік** – шарф
**Шкарпэ́ткі, шкарпэ́тка** – носки, носок
**Штаны́** – брюки
**Шту́чны** – искусственный
**Я́касны** – качественный
**Я́касць** – качество

**Практыкаванне 1. Праслухайце дыялогі і прачытайце па ролях.**

## ВА ЎНІВЕРМАГУ

***



– Чым Вам дапамагчы?
– Пакажыце, калі ласка, гэты блакітны матэрыял.
– Гэты светлы?
– Не, той, цямнейшы. Гэта чыстая воўна?
– Не, з дадаткам сінтэтыкі.
– Колькі каштуе гэты матэрыял?
– 200 тысяч за метр.
– Падаецца, што гэта задорага.

***

– Алена, падкажы, калі ласка, дзе можна набыць што-небудзь на памяць пра Беларусь?
– У магазінах «Лянок», «Купалінка» ці ў аддзелах сувеніраў ва ўнівермагах. Там ёсць выдатныя мастацкія вырабы ў народным стылі. Можна выбраць што-небудзь арыгінальнае.
– Схадзі са мной, ты мне вельмі дапаможаш, калі параіш, што купіць.
– Без праблем, Ануш, калі ласка.
– У гэтым аддзеле я бачу розных лялек з саломы і лёну. Але я б хацела што-небудзь, так бы мовіць, больш карыснае.
– Тады я магу прапанаваць паглядзець упрыгажэнні: каралі, завушніцы, пярсцёнкі, бранзалеты з дрэва ці гліны. А можа, ты хочаш набыць вышываны абрус з сурвэткамі?
– Дзякуй, я падумаю.

***

– Ліда, глянь сюды, якая сукенка! Мне здаецца, гэта тое, што я шукала: і колер і фасон. Давай зойдзем, я памераю.
– А ці бачыла ты кошт?
– Бачыла, ён сапраўды шалёны, але давай паглядзім. Як кажуць, «купіў не купіў, а патаргавацца можна».
– Ты маеш рацыю.

– Ну паглядзі на мяне. Як я табе падабаюся? Праўда, сукенка мне пасуе? У мяне ёсць скураныя туфлі на высокім абцасе і нават сумка такога самага колеру. Я сапраўды каралева ці гэта такое люстэрка?
– У гэтай сукенцы ты, можа, і каралева, але кашалёк у цябе не каралеўскі.
– Гэта праўда. Пачакаю зніжак. Але пры такім кошце яны павінны быць 90 працэнтаў, каб сукенка стала мне па кішэні.

У магазіне прыгожая жанчына на працягу гадзіны прымярае розныя капелюшы. Нарэшце кажа прадаўшчыцы:
– Вось гэты мне пасуе найлепш.
– Цалкам магчыма, але гэта той самы, у якім вы сюды прыйшлі.

**Практыкаванне 2. Утварыце словазлучэнні з прапанаваных слоў.**

| | |
|---|---|
| апрануць | абутак |
| абуць | парасон |
| загарнуць | абцас |
| скураны | чаравікі |
| баваўняны | завушніцы |
| штучны | ланцужок |
| бурштынавы | кошт |
| танны | пакупка |
| высокі | пальчаткі |
| нізкі | кашуля |
| якасны | шоўк |
| зручны | паліто |
| срэбны | шкарпэткі |

**Практыкаванне 3. Як вы разумееце фразеалагізмы?**

Купіў не купіў, а патаргавацца можна.
Купіў дуду на сваю бяду.
Хітра-мудра і нядорага.
Як з іголкі зняты.
Кінуць вокам.

**Практыкаванне 4. Дапоўніце дыялогі рэплікамі. Карыстайцеся матэрыялам для даведак.**

– Ганна, ці пасуе мне гэты блакітны гальштук?
– ...

– Вам загарнуць ці пакласці ў падарункавы пакет?
– ...
– Будзеце разлічвацца наяўнымі?
– ...
– Які памер вы носіце?
– ...
– Гэта натуральная скура?
– ...

*Матэрыял для даведак*: Не, гэта штучная скура, але вельмі якасная; Не, я разлічуся карткай; Лепш прымер той шэры ў клетку; Звычайна я бяру 43, але ў мяне левая нага большая за правую; Так, калі ласка.

**Практыкаванне 5. У якіх магазінах былі героі і што яны купілі?**

***Узор***: Наташа была ў магазіне «Адзенне», яна купіла белую кофту з карычневымі манжэтамі і каўняром.



Наташа



Светлана



Марына



Таццяна



Сяргей

**Практыкаванне 6. Складзіце свае дыялогі па сітуацыях.**

а) У вас няшмат грошай, але вам трэба зрабіць падарунак сябру.
б) Жонка хоча зайсці ў магазін «Жаночае адзенне», муж ёй пярэчыць.
в) Маці і дачка ў магазіне «Абутак».

🎧 **Практыкаванне 7. Праслухайце тэкст.**

## У ПОШУКАХ САМАГА-САМАГА

З бібліятэкі Аня прыйшла задуменная.

– Куды пойдзем? У рэстаран ці па крамах? – спытаў Алесь.

– Пойдзем па крамах, – сказала Аня. – Мне трэба купіць самае-самае... Не для мяне, а для маёй найлепшай сяброўкі. Яна папрасіла мяне купіць у Мінску самае-самае.

– А што ж гэта такое – самае-самае? Прадукт, рэч або што іншае?

– Сама не ведаю, – прызналася Аня. – Буду пытацца.

– Тады нам трэба наведаць усе крамы: прадуктовыя, прамысловыя, гаспадарчыя, а яшчэ гіпермаркеты і рынкі...

– Выдатна, – сказала Аня. – Але спачатку нам трэба наведаць пункт абмену валюты. Дзе можна выгодней абмяняць расійскі рубель?

– Самы выгодны курс расійскага рубля ў «Беларусбанку».

Пайшлі ў абменнік «Беларусбанка».

– Які курс расійскага рубля? – спытала Аня.

– Продаж – сто восемдзесят, купля – сто восемдзесят тры беларускія рублі за адзін расійскі рубель.

– Калі ласка, памяняйце мне расійскія рублі на беларускія. Мне патрэбен мільён беларускіх рублёў.

– Вось ваша рэшта.

– А ці хопіць грошай, каб купіць самае-самае? – пацікавіўся Алесь.

– Калі не хопіць, абмяняю яшчэ.

У Мінску шмат гандлёвых пунктаў: гандлёвы цэнтр «Сталіца», універсам «Цэнтральны», гіпермаркет «Карона», рынак «Ждановічы», фірменныя магазіны «Ласунак», «Белвест», «Мілавіца», «Крышталь» і мноства іншых гастраномаў, крам і крамак. За дзень усё абысці немагчыма. З чаго пачаць?

Найперш яны наведалі Камароўку. Хто з гасцей Мінска не ведае, што такое Камароўка? Спытайце ў жыхара Каўказа або Сярэдняй Азіі, ці быў ён у Мінску. Ён усміхнецца і адкажа: «Так. Памятаю. Камароўка!».

Яны доўга шукалі «самае-самае» ў радах, дзе гандлявалі садавіной і гароднінай.

Весела зелянелі гуркі, цыбуля, салата, кроп, чырванелі памідоры, радыска, перац.

– А дзе тут бульба? – спытала Аня.

– Вось яна, маладая бульбачка. Колькі просіце за кілаграм?

– Тры тысячы.

– Дарагавата. А ў які кошт ваша бульба?

– Дзве з паловай тысячы.

– А ваша бульба колькі каштуе?

– Дзве тысячы за кілаграм. Бярыце, смачная бульбачка.

– Можа і так. Але дужа яна у вас дробная. Можа, танней аддасцё?

– А як па-беларуску будзе свекла? – спытала Аня.

– Буракі.

– А тыква?

– Гарбуз.

– Праўда? А як жа называецца арбуз?

– Кавун.

– А рэпа?

– Рэпа і ў Афрыцы рэпа.

Нарэшце Аня самастойна набыла пакунак клубніц.

– Самае галоўнае, што я ўжо ведаю, як яны называюцца па-беларуску. А якія ў вас яшчэ растуць ягады?

– Суніцы, чарніцы, маліны, дурніцы, ажыны, журавіны...

– Як мілагучна! Усё, акрамя дурніц. А што за журавіны такія?

– Па-руску гэта «клюква».

– Па-беларуску значна прыгажэй. Хачу журавін!

– Не сезон. Прыязджай увосень.

– Як шкада!

– Паслухай, Аня! Я не ведаю тваю сяброўку, але, можа, самае-самае для яе – гэта не ягады, а аўтамабіль? Давай пашукаем?

Аня згадзілася, хаця не была ўпэўнена, што яе грошай хопіць на аўтамабіль.

Алесь хітраваў. Ён даўно ўжо збіраўся набыць патрыманую іншамарку, каб ездзіць да бацькоў у вёску. І ён павёз Аню на аўтарынак «Малінаўка».

Алесь хадзіў паміж гандлярамі і распытваў.

– Які год выпуску?

– Які аб’ём цыліндраў?

– На чым працуе? Бензін, дызель ці газ?

– Які кіламетраж?

Яму адказвалі:

– Тысяча дзевяцьсот дзевяноста пятага года выпуску.

– Аб'ём адзін і сем дзясятых.

– Працуе на дызельным паліве.

– Праехала сто восемдзесят тысяч кіламетраў.

Аня сумавала, але не паказвала выгляду. Нарэшце яна вымавіла:

– Баюся, што сяброўцы гэта не падыдзе.

– А якая марка патрэбна тваёй сяброўцы? «Мерсэдэс»? «Вольва»? «Фольксваген»?

– Я думаю, што ёй патрэбна сіненькая.

– Ах, сіненькая? – засмяяўся Алесь. – Прабач. Цяпер я зразумеў, што твая сяброўка не цікавіцца машынамі. Нашто тады марнаваць час? Паедзем ва ўніверсам, і там мы абавязкова адшукаем тое самае-самае. Пашукаем што-небудзь з адзення ці абутку.

Аня адразу павесялела.

– Ведаеш, Алесь, наш паход па крамах зусім незвычайны. У Маскве я выбіраю сабе адзенне разам з сяброўкамі. Яны мне раяць: купі тое, набудзь гэта, яно табе да твару. Я слухаюся і набываю. А пасля хлопцы *смяюцца нада* мной або не заўважаюць абноўкі.

– Па-беларуску правільна: **смяюцца з мяне**, – заўважыў Алесь.

– А каб ты не смяяўся з мяне, дапамажы мне выбраць новую сукенку.

– Ведаеш, Аня, я ўжо хвалююся. Я думаю, што такой цудоўнай дзяўчыне, як ты, пасуе ўсялякая сукенка.

– Не выдумляй! Паглядзі, які шырокі выбар! Што ты мне параіш?

– Баюся, што я разбіраюся ў фасонах гэтак сама, як твая сяброўка ў аўтамабілях. Думаю, што табе будзе да твару чырвоны колер. Ведаю дакладна, што сукенка павінна быць не з сінтэтыкі, а з натуральнай тканіны: воўны, бавоўны, лёну.

– Тады я прымераю гэтую.

І Аня схавалася ў прымерачнай. Алесь цярпліва чакаў. У гэты час да яго падышла студэнтка Аленка, тая самая, што ўчора выдатна адказвала на экзамене.

– Дзень добры, Алесь Мікалаевіч!

– Дзень добры.

– Як прыемна вас бачыць! А што вы тут робіце?

– Ды так... стаю...

У гэты час з прымерачнай выйшла Аня ў новай сукенцы і спытала:

– Як табе падабаецца? Ці пасуе мне?

– Яшчэ як пасуе! Як быццам па табе пашытая!

Падчас іх гаворкі Аленка некуды знікла.

– А для сяброўкі нічога не знайшлося, – пашкадавала Аня. – На жаль, яна носіць адзенне іншага памеру.

Зайшлі ў аддзел абутку. Тут Аня папоўніла свой лексікон словамі «боты», «чаравікі», «шкарпэткі», «панчохі» і сёе-тое набыла. Для сябе, а не для сяброўкі.

Быў момант, калі Алесь згубіў сваю спадарожніцу і знайшоў яе ў кандытарскім аддзеле.

– І што ж ты тут робіш? – папытаўся ён.

– Стаю ў чарзе за цукеркамі.

– Правільна будзе: стаяць у чарзе **па цукеркі**.

– Вось які прафесар! Усё вучыць ды вучыць. Затое я цяпер ведаю, што такое «цукар», «цукеркі», «кава», «какава», «пернікі», «слодыч». А словы «торт», «піроўнае», «шакалад» у вас такія ж, як і ў рускай мове...

А самае-самае для сяброўкі не знайшлося і тут.

Яны яшчэ шукалі шчасця ў краме мясапрадуктаў «Кавалачак». Тут Аня пабачыла каўбасы, кумпякі, шынкі, паляндвіцу, вяндліну, сала. Усё гэта мела цудоўны колер і прыемна пахла. Але гэта не падыходзіла для лепшай сяброўкі.

Так прайшоў дзень. Трэба адзначыць, што ім давялося яшчэ раз наведаць пункт абмену валюты. А сумкі, што цягаў Алесь, рабіліся ўсё цяжэйшыя.

– Так і не знайшлі мы самае-самае, – сказала Аня на развітанне. – Не бяда! Пачастую сяброўку цукеркамі. Няхай есць і сама вырашае, што ёй трэба.

– Наперадзе шмат часу, – адказаў Алесь. – Хутка будзем знаёміцца з асаблівасцямі беларускай кухні. Можа, тады мы і знойдзем гэтае самае-самае.

**Практыкаванне 8. Адкажыце на пытанні па тэксце.**

1. Чым гандлююць на рынку «Камароўка»?
2. Якія беларускія назвы садавіны адрозніваюцца ад рускіх?
3. Што Алесь хацеў набыць на рынку «Малінаўка»?
4. Якога колеру сукенку Алесь параіў набыць Ані?
5. Якія беларускія словы даведалася Аня ў аддзеле абутку?
6. Якія беларускія словы даведалася Аня ў кандытарскім аддзеле?
7. Які быў асартымент у аддзеле мясапрадуктаў?

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## ГРАМАТЫКА

### Дзеяслоў

### Дзеясловы II спражэння на -і-(ць), -ы-(ць)

| **куп-і́-(ць)** | **плац-і́-(ць)** | **хадз-і́-(ць)** | **нас-і́-(ць)** | **ва́ж-ы-(ць)** | **натхн-і́-(ць)** |
|---|---|---|---|---|---|
| купл-**ю́** | плач-**у́** | хадж-**у́** | наш-**у́** | ва́ж-**у** | натхн-**ю́** |
| ку́п-**іш** | пла́ц-**іш** | ходз-**іш** | нос-**іш** | ва́ж-**ыш** | натхн-**і́ш** |
| ку́п-**ім** | пла́ц-**ім** | ходз-**ім** | нос-**ім** | ва́ж-**ым** | натхн-**і́м** |
| ку́п-**іце** | пла́ц-**іце** | ходз-**іце** | нос-**іце** | ва́ж-**ыце** | натхн-**іце́** |
| ку́п-**яць** | пла́ц-**яць** | ходз-**яць** | нос-**яць** | ва́ж-**аць** | натхн-**я́ць** |

! Пры змяненні гэтых дзеясловаў суфікс асновы ***-і- (-ы-)*** выпадае. У форме 1-й асобы адзіночнага ліку адбываюцца наступныя чаргаванні канцавых зычных асновы:
<**п ~ пл’**> адха**п**-і́-(ць) – адха**пл**-ю́, к**п**-і-(ць) – к**пл**-ю
<**б ~ бл’**> зава́**б**-і́-(ць) – зава́**бл**-ю, аздо**б**-і-(ць) – аздо**бл**-ю
<**м ~ мл’**> ста**м**-і́-(ць) – ста**мл**-ю́, эконо**м**-і-(ць) – экано**мл**-ю
<**в ~ ўл’**> абна**в**-і́-(ць) – абна**ўл**-ю́, ажыцця**в**-і́-(ць) – ажыцця**ўл**-ю́
<**ф ~ фл’**> разгра**ф**-і́-(ць) – разгра**фл**-ю́
<**з ~ ж**> адво**з**-і-(ць) – адво**ж**-у, замаро**з**-і-(ць) – замаро**ж**-у
<**с ~ ш**> пра**с**-і́-(ць) – пра**ш**-у́, вы́му**с**-і-(ць) – вы́му**ш**-у
<**ц’ ~ ч**> тра́**ц**-і-(ць) – тра́**ч**-у, засме́**ц**-і-(ць) – засме́**ч**-у
<**с’ц’ ~ шч**> абвя**сц**-і́-(ць) – абвя**шч**-у́, запу**сц**-і́-(ць) – запу**шч**-у́
<**дз’ ~ дж**> дага**дз**-і́-(ць) – дага**дж**-у́, мару́**дз**-і-(ць) – мару́**дж**-у

**Практыкаванне 9. Утварыце ад асноў наступных слоў па схемах дзеясловы на *-і-(ць), -ы-(ць)*. Складзіце з імі словазлучэнні або кароткія сказы.**

***Узор***: доўг(і) <г ~ ж> + -ы-(ць) – доўжыць размову; за- + пля́м(а) + і-(ць) – запля́міць сукенку.

1. Лайдак <к ~ ч> + -ы-(ць) – …
2. Ня- + слав(а) + -і-(ць) – ...
3. Ня- + вол(я) + -і-(ць) – …
4. На- + след <е ~ я>, <д ~ дз’> + -і-(ць) – …
5. На- + востр(ы) <о ~ а> + -ы-(ць) – …

6. Малад(ы) <д ~ дз’> + -і-(ць) – …
7. Лісліў(ы) + -і-(ць) – …
8. Крок <к ~ ч> + -ы-(ць) – …
9. Госць <о ~ а> + -і-(ць) – …

**Практыкаванне 10. Пастаўце дзеясловы ў форму 1-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу. Звярніце ўвагу на чаргаванні зычных у аснове.**

Я (паведаміць) навіну, я (натрапіць) на грыб, я (насадзіць) кветак, я (наладзіць) адносіны, я (зарабіць) грошай, я (разбудзіць) брата, я (заахвоціць) калег, я (замовіць) квіток, я (зайздросціць) куміру, я (здзівіць) суседа, я (застудзіць) спіну, я (заправіць) салату.

### Дзеясловы І спражэння з асновай на зычны. Інфінітыў на *-ці*

### Націск на аснове

| Аснова на зычны | Аснова на с (*<с ~ т, ц’>, <с ~ д, дз’>*) |
|---|---|
| **ле́з-(ці)** | **се́с-(ці)** |
| ле́**з**-у | ся́**д**-у |
| ле́**з**-еш | ся́**дз**-еш |
| ле́**з**-е | ся́**дз**-е |
| ле́**з**-ем | ся́**дз**-ем |
| ле́**з**-еце | ся́**дз**-еце |
| ле́**з**-уць | ся́**д**-уць |

### Прошлы час

| я, ты, ён | лез | се-ў |
|---|---|---|
| яно | ле́з-л-а | се́-л-а |
| я, ты, яна | ле́з-л-а | се́-л-а |
| мы, вы, яны | ле́з-л-і | се́-л-і |

### Націск на канчатку

| Аснова на зычны | Аснова на с (<с ~ т, ц’>, <с ~ д, дз’>) | Аснова на зычны (<е ~ Ø> у корані) |
|---|---|---|
| **не́с-(ці)** | **ме́с-(ці)** | **заме́р-(ці)** |
| ня**с**-у́ | мя**т**-у́ | зам**р**-у́ |
| ня**с**-е́ш | мя**ц**-е́ш | зам**р**-э́ш |

| няс-é | мяц-é | замр-э́ |
|---|---|---|
| няс-ём | мяц-ём | замр-ом |
| нес-яцé | мец-яцé | замр-ацé |
| няс-ýць | мят-ýць | замр-ýць |

**Прошлы час**

| я, ты, ён | нёс | мё-ў | замёр |
|---|---|---|---|
| яно | нéс-л-а | мя-л-о | замéр-л-а і замёр-л-а |
| я, ты, яна | нéс-л-а | мя-л-á | замéр-л-а і замёр-л-а |
| мы, вы, яны | нéс-л-і | мя-л-í | замéр-л і замёр-л-і |

**Інфінітыў на -чы**
**аснова на г (<*г ~ ж*>) і на к (<*к ~ ч* >)**

| **Націск на аснове** | | **Націск на канчатку** | |
|---|---|---|---|
| **лéг-(чы)** | **вы́пе-(чы)** | **бераг-(чы́)** | **запя-(чы́)** |
| ля́**г**-у | вы́пе**к**-у | бера**г**-ý | запя**к**-ý |
| ля́**ж**-аш | вы́пе**ч**-аш | бера**ж**-э́ш | запя**ч**-э́ш |
| ля́**ж**-а | вы́пе**ч**-а | бера**ж**-э́ | запя**ч**-э́ |
| ля́**ж**-ам | вы́пе**ч**-ам | бера**ж**-ом | запя**ч**-ом |
| ля́**ж**-аце | вы́пе**ч**-аце | бера**ж**-ацé | запе**ч**-ацé |
| ля́**г**-уць | вы́пе**к**-уць | бера**г**-ýць | запя**к**-ýць |

**Прошлы час**

| я, ты, ён | лёг | вы́пек | запёк |
|---|---|---|---|
| яно | ляг-л-о (лéгла) | вы́пек-л-а | запяк-л-о |
| я, ты, яна | ляг-л-á (лéг-л-а) | вы́пек-л-а | запяк-л-á |
| мы, вы, яны | ляг-л-í (лéг-л-і) | вы́пек-л-і | запяк-л-í |

**Практыкаванне 11. Устаўце ў прыказкі дзеясловы ў патрэбнай форме цяперашняга (будучага простага) часу.**

1. Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не (атрэсціся).
2. Сцеражонага і бог (сцерагчы).
3. Дзе чорт сам не (змагчы), там бабу пашле.

**Практыкаванне 12. Устаўце дзеясловы ў патрэбнай форме.**

**а) Цяперашняга (будучага простага) часу**:

1. Вы позна (класці) спаць дзяцей?
2. Мы (засцерагчы) вас ад небяспекі.

3. Ты (надзерці) бульбы, а мы (напячы) дранікаў.
4. Бацька (падвезці) мяне да ўніверсітэта.
5. Мае фіялкі хутка (зацвісці).
6. Без гаспадароў сад (заняпасці).
7. Мы (запрэгчы) твайго каня.
8. Мы (навалачы) сухога галля, а ты (насячы) дроў у вогнішча.
9. Гэтая балбатня толькі (красці) мой час.
10. Наша каманда абавязкова (перамагчы) з такім капітанам.

**б) Прошлага часу:**

1. Вада (зацячы) за каўнер.
2. Ты (павесці) размову не ў той бок.
3. Даруйце, я (натрэсці) вам крошак.
4. Дзяўчынка (наплесці) косак ляльцы.
5. Ты (знесці) учора мой дыск.
6. Ён (занемагчы) ад горкіх успамінаў.
7. Я (выграбці) апошнія грошы на квіток.
8. За сцяной (заскрэбці) мыш.
9. Бацькі (навезці) падарункаў дзецям.
10. Ён (адкласці) усе справы дзеля нашай сустрэчы.

**Практыкаванне 13. Пастаўце дзеясловы ў форму 2-й асобы множнага ліку. Звярніце ўвагу на націскі і чаргаванні гукаў.**

Адсекчы, зацерці, навесці, злезці, валачы, паберагчы, падмесці, падвесці.

**Практыкаванне 14. Утварыце словазлучэнні мадальных слоў з інфінітывамі наступных дзеясловаў.**

***Узор***: трэба (адвязу) – трэба адвезці.

Неабходна (паднясу), варта (падкладу) дроў, можна (налезу) на непрыемнасці, трэба (падапру) весніцы, патрэбна (падстрыгу) газон, неабходна (падатру) напісанае алоўкам, варта (засяду) за ўрокі, можна (вытрасу) каменьчык з чаравікаў.

## Дзеясловы руху *бегчы* і *бегаць*

Дзеяслоў ***бегчы*** спрагаецца нестандартна. Ён мае канчаткі II спражэння, акрамя 3-й асобы множнага ліку (I спражэння), таму называецца рознаспрагальным.

бяг-**ý**
бяж-**ы́ш**
бяж-**ы́ць**
бяж-**ы́м**
беж-**ыцé**
бяг-**ýць**

### Прошлы час

| я, ты, ён<br>яно<br>я, ты, яна<br>мы, вы, яны | бег<br>бéг-л-а<br>бéг-л-а<br>бéг-л-і |
|---|---|

Дзеяслоў ***бегаць*** спрагаецца па мадэлі дзеясловаў I спражэння з захаваннем суфікса.

**Практыкаванне 15. Раскрыйце дужкі, пастаўце дзеясловы ў патрэбную форму.**

1. Куды яны (бегчы)? – Гэты звер вельмі хутка (бегаць).
2. Ты (бегчы) ва ўніверсітэт? – Мы (бегаць) у парку кожны дзень.
3. Глядзі, як хутка ён (бегчы). – Гэта праўда, што ты (бегаць) з дзевяці гадоў.
4. Дзіця (бегчы) да бацькі. – Хлопцы (бегаць) у двары.

## Формаўтварэнне зваротных дзеясловаў

Зваротныя формы дзеясловаў утвараюцца пры дапамозе структурных элементаў (постфіксаў) ***-ся*** і *-ца* **(***-цца***)**. Выбар ***-ся*** або ***-ца*** **(***-цца***)** залежыць ад граматычнай формы.

| | **-ся** | **-ца (-цца)** |
|---|---|---|
| інфінітыў | **пасля суфіксаў *-ці* і *-чы***<br>абцер<u>ці</u>**ся**<br>берагч<u>ы</u>**ся** | **пасля суфікса *-ц(ь)***<br>віта<u>ц</u>**ца**<br>бачы<u>ц</u>**ца** |
| формы 3-й асобы адз. і мн. л. цяперашняга і будучага простага часу | | **пасля канчаткаў**<br>віта<u>ец</u>**ца**, віта<u>юц</u>**ца**<br>бач<u>ыц</u>**ца**, бач<u>ац</u>**ца** |

| усе астатнія граматычныя формы | пасля формаўтваральных канчаткаў і суфіксаў | |
|---|---|---|

| **апрана́-(ц)-ца** | **згадзі́-(ц)-ца** | **дамаг-(чы́)-ся** | **зара-(чы́)-ся** | **запас-(ці́)-ся** |
|---|---|---|---|---|
| апрана́-ю-ся<br>апрана́-еш-ся<br>апрана́-е-цца | згадж-у́-ся<br>згодз-іш-ся<br>згодз-іц-ца | дамаг-у́-ся<br>дамож-аш-ся<br>дамож-а-цца | зарак-у́-ся<br>зарач-э́ш-ся<br>зарач-э́-цца | запас-у́-ся<br>запас-е́ш-ся<br>запас-е́-цца |
| апрана́-ем-ся<br>апрана́-еце-ся<br>апрана́-юц-ца | згодз-ім-ся<br>згодз-іце-ся<br>згодз-яц-ца | дамож-ам-ся<br>дамож-аце-ся<br>дамог-уц-ца | зарач-ом-ся<br>зарач-ацé-ся<br>зарак-у́ц-ца | запас-ём-ся<br>запас-яцé-ся<br>запас-у́ц-ца |

**Прошлы час**

| | **я, ты, ён** | **яно** | **я, ты, яна** | **мы, вы, яны** |
|---|---|---|---|---|
| **апрана́-(ц)-ца** | апрана́-ў-ся | апрана́-л-а-ся | апрана́-л-а-ся | апрана́-л-іся |
| **згадзі́-(ц)-ца** | згадзі́-ў-ся | згадзі́-л-а-ся | згадзі́-л-а-ся | згадзі́-л-і-ся |
| **дамаг-(чы́)-ся** | дамог-ся | дамаг-л-о-ся | дамаг-л-а́-ся | дамаг-л-і́-ся |
| **зара-(чы́)-ся** | зарок-ся | зарак-л-о-ся | зарак-л-а́-ся | зарак-л-і́-ся |
| **запас-(ці́)-ся** | запас-ся | запас-л-о-ся | запас-л-а́-ся | запас-л-і́-ся |

**Практыкаванне 16. Пастаўце зваротныя дзеясловы ў патрэбнай форме.**

**а) Цяперашняга (будучага простага) часу:**

1. Мая сястра заўсёды (раіцца) са мной, калі купляе абутак.
2. Я вельмі (клапаціцца) аб сваёй знешнасці.
3. Яна (змагацца) са спакусай купіць новыя духі.
4. Я мяркую, гэтыя чаравікі доўга не (знасіцца).
5. – Дзе (знаходзіцца) аддзел ювелірных вырабаў? – На першым паверсе.
6. – Калі вы (зачыніцца)? – Праз паўгадзіны.
7. З маім мужам цяжка хадзіць па крамах, ён занадта (ашчаджацца) і хутка (стамляцца).
8. Дзеці (засмуціцца), калі не атрымаюць гасцінцы.
9. Я ніколі не (сумнявацца), калі набываю новую рэч для мамы. Я добра ведаю яе памер і густ.
10. – Вы (засцерагчыся) ад пакупкі, калі бракуе грошай? – Наўрад ці, я заўзяты шопаголік, я не (стрымацца).

**б) Прошлага часу**

1. Хлопчык (запыніцца) каля навагодняй вітрыны.
2. Сяброўкі (дамовіцца) сустрэцца ў аддзеле касметыкі.
3. Дзіця (расплакацца) перад дарагой цацкай.
4. Пакупнік (абаперціся) на манекен і (спужацца).
5. Мы (заблудзіцца) ў цэнтральным універмагу.
6. Я зусім (знясіліцца) сённяшнімі пошукамі падарунка для жонкі.
7. Я (знемагчыся) ад бясконцых прымерак.

**Практыкаванне 17. Дайце поўныя адказы на пытанні.**

***Узор***: – Ты карыстаешся дысконтнымі карткамі?
– Так, я карыстаюся дысконтнымі карткамі. Гэта зручна і ашчадна. / Не, я не карыстаюся дысконтнымі карткамі. Я іх губляю.

1. Вы цікавіцеся навінкамі моды?
2. Вы вагаецеся, калі купляеце падарункі?
3. Ваша мама модна апранаецца?
4. Вы вылучаецеся сярод іншых манерай апранацца?
5. Вашы сябры згаджаюцца дапамагчы вам з пакупкамі?
6. Вашы бацькі заўсёды задавальняюцца вашымі падарункамі?
7. Вы засяроджваецеся на колеры абноўкі?
8. Вы затрымліваецеся каля прыгожых вітрын?
9. У вашай сям'і хто-небудзь захапляецца моднымі часопісамі?

**Практыкаванне 18. Задайце пытанні да адказаў.**

***Узор***: – Так, я наважуся купіць рэч у крэдыт.
– Вы наважыцеся купіць рэч у крэдыт?

1. – __________?
   – Не, мае сябры ніколі не здагадваюцца, якім будзе мой падарунак.
2. – __________?
   – Так, мы з сястрой раімся з мамай, калі набываем адзенне.
3. – __________?
   – Так, я хутка стамляюся ад крамаў.

**Практыкаванне 19. Устаўце ў дыялогі зваротныя дзеясловы ў адпаведнай граматычнай форме асобы і ліку цяперашняга (будучага простага) часу.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| дзіві́цца | бянтэ́жыцца | спазня́цца | пыта́цца |
| падаба́цца | смяя́цца | ру́піцца | пакры́ўдзіцца |

1. – Я … з твайго парасона. Які незвычайны! Дзе ты яго набыў?

   – Гэта падарунак маёй сяброўкі. У мяне ўсе … Я думаю, яна для гэтага яго і падарыла, але ён мне вельмі …

2. – Ты зноў … Ты ніколі не … аб часе сустрэчы. Што здарылася на гэты раз?
   – Я купіла новыя боцікі. Калі ты іх убачыш, ты мне даруеш.
   – Ды я ўжо даравала, не выбачайся. Вельмі прыгожыя боцікі, але ты не … калі я скажу шчыра?
   – Не, канешне.
   – Мне здаецца, абцасы занадта высокія. Ты не … з гэтай прычыны?
   – Так, але мае ногі такія прыгожыя ў іх.
   – Гэта самы важкі аргумент, я зусім не … з цябе. Я таксма думаю, што жаночы абутак – рэч перадусім эстэтычная, а потым функцыянальная.

### Творны склон назоўнікаў *кім? чым?*

| Адзіночны лік | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі і ніякі род** | | |
| ***-ом***<br>***-ам*** | з цвёрдай асновай | пла́шч – плашч**ом**, крысо – крыс**ом**<br>га́льштук – га́льштук**ам** |
| ***-ём***<br>***-ем*** | з мяккай асновай | шыне́ль – шынял**ём**<br>рэ́мень – рэ́мен**ем** |
| **Жаночы род на -а /-я** | | |
| ***-ой / -ою***<br>***-ай / -аю*** | з цвёрдай асновай на ***р, ж, ш, ч, ц, дж*** | тасьма́ – тасьм**ой** / **-ою**<br>ху́стка – ху́стк**ай** / **-аю**<br>спадні́ца – спадні́ц**ай** / **-аю** |
| ***-ёй / -ёю***<br>***-яй / -яю*** | з мяккай асновай | змяя́ – змя**ёй** / **-ёю**<br>кашу́ля – кашу́л**яй** / **-яю**<br>патэ́льня – патэ́льн**яй** /**-яю** |

| Жаночы род на нулявы канчатак | | |
|---|---|---|
| *-ю* | з цвёрдай асновай | кроў – кроўю, любоў – любоўю |
| | з мяккай асновай | соль – соллю, медзь – ме́ддзю |
| *-у* | на *р, ж, ш, ч, ц, дж* | мыш – мы́шшу, рэч – рэччу |
| **Множны лік** | | |
| *-амі* | з цвёрдай асновай | спадні́ца – спадні́цы – спадні́ц**амі** |
| *-ямі* | з мяккай асновай | кашу́ля – кашу́лі – кашу́л**ямі** |

! Асобныя назоўнікі ў творным склоне могуць мець варыянтныя канчаткі **-ыма /-амі**: *дзве́ры – дзвяр**ы́**ма – дзвяра́мі*; *вочы – вач**ы́**ма – вача́мі,* але: *гру́дзі – грудзь**мі́**, дзе́ці – дзе́ць**мі**, косці – касць**мі́**.*

! У назоўніках жаночага роду на нулявы канчатак у інтэрвакальнай пазіцыі адбываецца падаўжэнне зычных *с, з, л, н, ц, дз, ч, ш, ж*: *Белару́ссю, ма́ззю, столлю, за́сенню, кле́ццю, це́мраддзю, пе́ччу, ці́шшу, бе́здаражжу*.

Назоўнікі, якія заканчваюцца на збег зычных, падаўжэння не маюць: *шчы́расць – шчы́расцю, прыгажосць – прыгажосцю, ра́дасць – ра́дасцю*.

! Пасля зычных *б, ф, р* перад канчаткам *-ю* ставіцца апостраф: *Об'**ю**, ве́рф'**ю**, шы́р'**ю***; пасля ***ў*** апострафа няма: *кроўю, любоўю*.

**Практыкаванне 20. Пастаўце назоўнікі ў творным склоне.**

Магазін, крама, універсам, пакупка, кошт, кнігарня, рэшта, вітрына, шыльда, аб'ява, шопінг, сувенір, адзенне, аддзел, фасон, памер, каса, касір, чэк, мадэль, упакоўка, пакет, папера, цэлафан, рахунак, прадавец, пакупнік, чарга, рубель, абслугоўванне, якасць, гандлярка, каўбаса, хлеб, соль, батон, вада, цукар, алей, кефір, смятана, шампунь, мыла, крэм.

**Практыкаванне 21. Надайце назоўнікам, змешчаным у дужках, форму множнага ліку творнага склону.**

Паліто з (гузік), сукенка з (брыж), кеды з (шнурок), шапка з (матузок), кофта з (гаплік), убор з (стужка), кашуля з (манжэта), папруга з (клёпка), каптур з (кутас), спражка з (каменьчык), пальчаткі з (страз), нагавіцы з (кнопка), джынсы з (клёпка), сарочка з (запанка), футболка з (рукаў), куртка з (кішэня), тэлефон з (опцыя).

**Практыкаванне 22. Пастаўце назоўнікі ў творным склоне, адзначце тыя, у якіх адбываецца падаўжэнне зычных. Выразна прачытайце іх і звярніце ўвагу на вымаўленне падоўжаных зычных.**

Вільгаць, столь, Свіцязь, Нарач, Прыпяць, Об, Сібір, Убарць, сінь, ноч, гасціннасць, гразь, мыш, цемень, печ, кроў, любоў, ростань, далеч, бандэроль, шыр, трэль, сенажаць, цікавасць, гладзь, моль, веліч, бездараж, засень, поўнач, воблачнасць, медзь, гусь, карысць.

**Практыкаванне 23. а) Праслухайце сказы. На слых знайдзіце памылкі ў формах творнага склону назоўнікаў.**

**б) Надайце назоўнікам, што ў дужках, форму творнага склону**.

1. Я іду ў магазін з (сябар, сяброўка, брат, сястра, бацька, суседка).
2. Я нясу сумку з (хлеб, сыр, кефір, каўбаса, капуста, маянэз, кетчуп, алей).
3. Я частуюся (цукерка, зефір, персік, банан, яблык, пірог, груша, ананас).
4. Яны займаюцца (футбол, баскетбол, валейбол, тэніс, плаванне, спорт).
5. Яны захапляюцца (музыка, тэатр, скрыпка, паэзія, танцы, аэробіка).
6. Мы часта сустракаемся з (бацька, цётка, дзядзька, бабуля, дзядуля, сусед).
7. Мы размаўляем з (гандляр, касір, прадавец, касірка, аптэкар, цырульнік).
8. Мы ідзём у школу з (кніжкі, сшыткі, канспекты, ручкі, алоўкі, слоўнікі).
9. Я еду з Камароўкі з (бульба, агуркі, пятрушка, цыбуля, памідоры, салата).

**Практыкаванне 24. Уважліва прачытайце верш, назавіце назоўнікі, якія стаяць у творным склоне, запішыце гэтыя назоўнікі ў назоўным склоне. Назавіце антанімічныя пары.**

Ісціна, адвечная як свет:
Шчасце ходзіць толькі ў пары з горам.

За надзеяй – боль зняверу ўслед.
За пашанай – прыніжэння сорам.
За святлом знаходкі – горыч страты,
За агнём любві – разлукі снег.
За абдымкамі – падножжа здрады…
Ісціна, адвечная як свет.

(*Н. Гілевіч*)

**Творны склон асабовых займеннікаў *з кім?; з чым?***

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| я – мной / мною<br>ты – табой / табою<br>ён – ім<br>яна – ёй / ёю<br>яно – ім | мы – на́мі<br>вы – ва́мі<br>яны́ – і́мі |
| У займенніках, што называюць 3-юю асобу, пасля прыназоўнікаў няма пратэтычнага ***н***-: *з ёй / з ёю; з ім, з імі* | |
| **Перад збегам зычных прыназоўнікі вар'іруюцца** | |
| з – са:<br>**з** ім – **са** мной /-ою<br>пад – пада:<br>**пад** ёй – **пада** мной /-ою | над – нада:<br>**над** ім – **нада** мной / -ою<br>перад – перада:<br>**перад** імі – **перада** мной / -ою |

**Практыкаванне 25. Утварыце пытанні і дайце на іх адказы паводле ўзору. Пастаўце займеннікі ў форму творнага склону. Звярніце ўвагу на прыназоўнікі.**

***Узор***: Мікола пайшоў у тэатр з (я і ты)? // (вы і яны).
Мікола пайшоў у тэатр са мной (-ою) і табой (-ою)?
Не, Мікола пайшоў у тэатр з вамі і імі.

1. Стас паехаў на рынак з (ты і ён)? // (я і яна).
2. Ліда сустрэлася ў краме з (яны і ты)? // (ён і яна).
3. Спрэчка разгарэлася паміж (я і ён)? // (яна і яны).
4. Алесь падзяліў цукеркі і мандарыны паміж (вы і яны)? // (ты і я).
5. Вера хвалілася абноўкамі перад (я і ты)? // (ён і вы).
6. Сур'ёзная задача пастаўлена перад (я і вы)? // (ты і яны).
7. Юльяна паехала на Камароўку з (мы і вы)? // (ён і ты).
8. Ганна сустрэлася ў бібліятэцы з (ён і яна)? // (я і яны).

**Практыкаванне 26. Раскрыйце дужкі, пастаўце займеннікі ў творным склоне.**

Гаварыць з (я), сябраваць з (ён), гуляць з (яны), сустракацца з (яна), развітацца з (вы), паставіць перад (я), пасцяліць перад (яно), сварыцца з (вы), мірыцца з (яны), убачыцца з (яна), бегчы за (ён), ехаць перад (мы), сядзець перад (вы), плаваць з (мы), катацца з (яны), разлічвацца з (я), працаваць з (ты), чытаць з (вы), спяваць з (яны), смяяцца з (я), пісаць з (яна).

### Творны склон прыметнікаў
### *якім? якой? / якою ? якімі?*

| Адзіночны лік | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі і ніякі род** ***якім?*** | | |
| ***-ым*** ***-ім*** | на цвёрдую аснову | нов**ым**, прыгож**ым** |
| | на мяккую аснову | ле́тн**ім**, кароткі**м** |
| **Жаночы род** ***якой? / якою?*** | | |
| ***-ай/-аю*** ***-ой/-ою*** ***-яй/ -яю*** | на цвёрдую аснову пад націскам | стройнай / -аю, модная /-аю залатой / -ою, маладой /-ою |
| | на мяккую аснову | позняй / -яю, сённяшняй /-яю |
| **Множны лік** ***якімі?*** | | |
| ***-ымі*** ***-імі*** | на цвёрдую аснову | сарамлі́вымі, добрымі |
| | на мяккую аснову | познімі, ле́тнімі |

**Практыкаванне 27. Надайце спалучэнням, што ў дужках, форму творнага склону адзіночнага ці множнага ліку.**

Любавацца (новая кофтачка), частаваць (шакаладныя цукеркі), ласавацца (тварожны торт), ганарыцца (залаты пярсцёнак), карыстацца (сталовы сервіз), частавацца (вішнёвае варэнне), парэзацца (востры нож), пахне (прывялы рамонак), віншаваць з (Новы год), задаволены (замежная паездка), незадаволены (навуковы праект), зацікаўлены (нечаканая прапанова), займацца (асабістыя справы), развітвацца з (школьныя сябры), пазнаёміцца з (новыя прыяцелі), цікавіцца (спартыўныя навіны), пісаць (шарыкавая ручка), маляваць (новыя алоўкі), сябраваць з (замежныя студэнты), захапляцца (класічная музыка), заслухацца (прыемны голас).

### Творны склон прыналежных займеннікаў
### *свой, мой, твой, ягоны (яго), ейны (яе), наш, ваш, іхні (іх)*

| Адзіночны лік | |
|---|---|
| **Мужчынскі і ніякі род *чыім?*** | |
| ***-ым /-ім*** | сваі́**м**, маі́**м**, тваі́**м**, ягон**ым** (яго), е́йн**ым** (яе́), на́ш**ым**, ва́ш**ым**, і́хн**ім** (іх) |
| **Жаночы род *чыёй?/чыёю?*** | |
| ***-ёй / -ёю<br>-ай / -аю<br>-яй / -яю*** | сва**ёй** / сва**ёю**, ма**ёй** / ма**ёю**, тва**ёй** / тва**ёю**, ягон**ай** / ягон**аю** (яго), е́йн**ай** / е́йн**аю** (яе́), на́ш**ай** / на́ш**аю**, ва́ш**ай** / ва́ш**аю**, і́хн**яй** / і́хн**яю** (іх) |
| **Множны лік *чыімі?*** | |
| ***-ымі / -імі*** | сваі́**мі**, маі́**мі**, тваі́**мі**, ягон**ымі** (яго), е́йн**ымі** (яе), на́ш**ымі**, ва́ш**ымі**, і́хн**імі** (іх) |

**Практыкаванне 28. Прачытайце пытанне і адкажыце на яго. Утварыце правільныя спалучэнні паводле ўзору.**

*Узор*: Чым ты незадаволены? (свой / стары / камп’ютар)
Я незадаволены сва**ім** стар**ым** камп’ютар**ам**.

1. З кім ты паехаў у магазін? (свой / школьны / сябар)
2. З кім вы сустрэліся ва ўнівермагу? (мой / класны / кіраўнік)
3. З кім ты размаўляў на кірмашы? (твой / стрыечны / брат)
4. З кім яны пайшлі ў кіно? (яе / стрыечны / сястра)
5. З чым яны прыехалі на канцэрт? (свой / новы / гітары)
6. З кім вы пайшлі ў паліклініку? (наш / маленькі / дачка)
7. Чым ён незадаволены? (свой / летні / адпачынак)
8. За кім вы сочыце? (наш / маленькі / дзеці)
9. Чым вы задаволеныя? (свой / новы / абноўкі)
10. Чым яны цікавяцца? (наш / беларускі / мова)
11. Чым вы захапляецеся? (іхні / гістарычны / мінулае)
12. З кім вы развіталіся? (ейны / замежны / госці)

## 🎧 Практыкаванне 29. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання

### КІРМАШ У СМУРГОНЯХ

Так гандлявалі ў казачныя часы, калі жылі
на свеце паны Кубліцкі ды Заблоцкі
(Паводле кнігі казак Пятра Васючэнкі
«Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі»)

[У старадаўнія часы жылі на свеце паны Кубліцкі і Заблоцкі. Іх неверагодныя і вясёлыя прыгоды апісаў у сваім казачным серыяле пісьменнік Пятро Васючэнка.]

Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі. Ото ж былі шалапуты несусветныя! Надта любілі пад'есці. Пан Кубліцкі за сняданкам, бывала, аплятаў засмажанага парсюка. Пан Заблоцкі мог адным махам асушыць кадушку мёду. Нядзіўна, што гаспадарка ў абодвух звялася. Засталася на дваіх адна ўбогая хатка ды агарод. А голад, вядома, не свой брат.



Настала часіна, калі ў паноў нічога не засталося, хлеба ані крошкі, толькі ў падполлі галодныя мышы. Самы час зубы на паліцу пакласці.

– Вось дык дажыліся: ні хлеба, ні табакі, прападаем, як сабакі, – сумна кажа пан Кубліцкі.

Паклікалі яны служку. Была ў іх такая, дзеўка Дрыпа звалася. Яна была паненка летуценная, мела фантазіі.

– Вось што дзеўка: ідзі ў Смургоні на кірмаш, купі хлеба, солі ды тытуню, – загадвае Дрыпе пан Заблоцкі. – А грошы даставай дзе хочаш. Мы табе дазваляем. Ведай нашу ласку.

Пан Заблоцкі ў камерцыі дасведчаны. Аднойчы ў маладосці ён правёў такую гандлёвую аперацыю, пра якую беларусы дагэтуль са смехам прыгадваюць. Адправіўся пан Заблоцкі за мора ў пошуках лёгкага заробку. Там, за морам, накупляў мыла, наладаваў мылам карабель ды плыве назад паціху. Раптам узняўся вецер, пачалася бура, карабель наляцеў на камяні і даў цечу. Увесь тавар змыла. З тае пары людзі кажуць: «Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле».

Дзеўка думала, думала і прыдумала, дзе грошы ўзяць. Была ў яе карова. Вырашыла яна карову прадаць. Выпраўляецца Дрыпа ў Смургоні, уперад сябе карову гоніць.

Там, на рынку, людзей як кіем набіта. Няма дзе іголкай торкнуць. Адразу купілі ў Дрыпы карову за тры талеры. Яна ідзе шчаслівая, зубы сушыць ад радасці, што грошы мае. А яе гандляры за рукавы хапаюць, за світу:

– Купі хустку!

– Купі пернікі!

– Дзеўка, купі мармышкі!

– Купі дзірку ад бубліка!

– Купі чорта лысага!

– Парашок для прусакоў! Лепшы ў свеце сродак для прусакоў! Купі, дзеўка, і праз месяц прусакоў будзе поўная хата! – нахвальвае свой тавар гандляр.

З нейкага будана выйшаў панок у белым хвартуху і кліча:

– Шаноўныя мамзелі, хто хоча пастрыгчыся па апошняй парыжскай модзе, валі сюды!

Дзеўка Дрыпа стала насупраць будана. Панок прыкмеціў яе і пытае:

– Чаго губу адвесіла, шаноўная мамзеля?

– Выбачайце, паночку, – нясмела кажа дзеўка Дрыпа, – а ці не ваша міласць летась стрыгла авечак у пана Кіндзюшкі?

– Не, гэта не я! – адказвае панок. – Я з Парыжа, французскі цырульнік, а па-простаму – пастрыгач. Магу і цябе пастрыгчы, шаноўная паненка. Будзеш найпрыгажэйшая ў свеце.

Хто ж не хоча быць прыгожай? Дзеўка Дрыпа плаціць цырульніку адзін талер, і той робіць з яе парыжскую мамзелю. Выходзіць Дрыпа з

будана ні пава ні варона, а рыхтык абскубаная авечка пана Кіндзюшкі. Усіх вераб’ёў на кірмашы напалохала.

Але яна ідзе вясёлая, бо ў прыполе звіняць яшчэ два талеры. Тут падскоквае да яе цыганка.

– Пазалаці ручку, ясная паненка, а я табе ўсю праўду скажу, за каго замуж пойдзеш.

Дзеўцы цікава. Яна аддае цыганцы другі талер, а тая бярэ дзеўку за руку і пачынае варажыць:

– Чакае цябе, красуня, далёкая дарога і вялікія турботы. Але не бяда, бо пойдзеш замуж за цара Максіміляна.

– А дзе ён жыве? – пытаецца ўзрадаваная дзеўка Дрыпа.

– А пярун яго ведае, – адказвае цыганка і знікае разам з Дрыпіным талерам.

Задумалася Дрыпа:

– Я цяпер паненка самастойная, бо маю грошы – адзін талер. Годзе мне панам служыць! Пайду я ў белы свет свайго жаніха шукаць, цара Максіміляна.

Сказала ды пайшла ў белы свет як у капейку. А знойдзе яна сваё шчасце ці не знойдзе – пра гэта іншым разам.

**Пятро Васючэнка** (нар. 1959) – пісьменнік, літаратуразнаўца. Адзін з аўтараў гэтага падручніка.

# МОДУЛЬ 5

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУХНЯ. ГОСЦІ

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы І спражэння на *-ава-(ць), -ява-(ць)***
  - **Дзеясловы І спражэння тыпу *піць***
  - **Дзеяслоў *есці.***
    **Давальны склон назоўнікаў, прыметникаў**
  - **Трыванне дзеяслова**
  - **Займеннікі: пытальныя і адносныя; няпэўныя, ужыванне няпэўных займеннікаў; адмоўныя займеннікі**
  - **Адмоўныя прыслоўі**
  - **Адмоўныя безасабовыя сказы.**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Абру́с** – скатерть
**Аддава́ць перава́гу** – предпочитать
**Бляша́нка** – жестяная банка
**Відэ́лец** – вилка
**Вячэ́ра** – ужин
**Вячэ́раць** – ужинать
**Гату́нак** – сорт
**Замаўля́ць** / замовіць – заказывать / заказать
**Збіра́ць на стол** – накрывать на стол
**Кавя́рня** – кафе
**Капу́ста** – 1) капуста; 2) щи
**Каштава́ць / пакаштава́ць** – пробовать / попробовать
**Ке́ліх** – бокал, фужер
**Кілі́шак** – рюмка
**Ку́бак** – чашка
**Лы́жка** – ложка
**Напой** – напиток
**Падаба́цца / спадаба́цца** – нравиться / понравиться

**Падсілкава́цца** – перекусить
**Патэ́льня** – сковорода
**Посуд** – посуда
**Раху́нак** – счет
**Сала́та** – салат
**Слоік** – стеклянная банка
**Сма́жыць** – жарить
**Сма́чны** – вкусный
**Смак** – вкус
**Сне́даць** – завтракать
**Сняда́нак** – завтрак
**Сподак** – блюдце
**Сталоўка** – сталовая
**Стра́ва** – блюдо
**Сурвэ́тка** – салфетка
**Тале́рка** – тарелка
**Філіжа́нка** – чашка
**Харчава́цца** – питаться
**Частава́ць / пачастава́ць** – угощать / угостить
**Шкля́нка** – стакан
**Ю́шка** – уха

## Тэматычны слоўнік

**Назвы харчовых (продовольственных) тавараў:**

а) хлебных – батон, бу́лка, хлеб, бохан хлеба;

б) гастранаміі – каўбаса́ (ва́раная, вэ́нджаная), вяндлі́на (ветчина), кансе́рвы / бляша́нка кансе́рваў, сасі́скі, шы́нка (ветчина), я́йкі;

в) малочных – малако тлу́стае, нятлу́стае (жирное, нежирное), кефі́р, смята́на, вяршкі́ (сливки), ма́сла, сыр, тварог, ёгурт;

г) бакалеі – кру́пы, мука́, ка́ва (кофе), кака́ва (какао), гарба́та (чай), але́й (растительное масло), цу́кар (сахар), воцат (уксус);

д) мясных – бара́ніна, свіні́на, я́лавічына (говядина), пту́шка, ку́рыца, ка́чка (утка), са́ла;

е) рыбных – ры́ба, селядзе́ц;

ж) гародніны (овощей), садавіны́ (фруктов), я́гад – бу́льба (картошка), бура́к (свекла), гарбу́з (тыква), каву́н (арбуз), морква (морковь), цыбу́ля (лук), агурок, я́блык (яблоко), малі́ны, сунíцы (земляника), чарні́цы (черника);

з) канды́тарскіх вы́рабаў – пірог, пячэ́нне, пе́рнік (пряник), торт, цуке́рка (конфета), шакала́д;

і) алкагольных напояў – віно, гарэлка, каньяк, піва, шампа́нскае.

**Практыкаванне 1. Праслухайце дыялогі, адкажыце, дзе яны адбываюцца.**

***



– Вазьмі паднос і праходзь сюды. Салату будзеш?
– Буду з памідораў і гуркоў з алеем.
– Тады пастаў яе на паднос, а мне вазьмі мясную. У гэтай салаце з гародніны звычайна замнога воцату. Юшку будзеш?
– Не, лепш вазьму капусту.
– А што на другую страву?
– Дранікі з мясам, як звычайна.
– А я аддаю перавагу запечанай рыбе з гароднінай. Усё?
– Не, я яшчэ хачу гарбаты.
– Цяпер усё?
– Усё.
– Тады праходзь за мной да касы.
– Якая кава ў вас ёсць?
– Калі ласка, ёсць амерыкана, эспрэса, капучына, макачына.
– Калі ласка, адзін кубак капучына і адзін эспрэса са смятанкай без цукру.
– Будзеце яшчэ што-небудзь замаўляць?
– Адно піражнае «Варшаўскае» і пячэнне «Слодыч».
– Калі ласка.
– Дзякуй.

***

– Добры дзень. Што будзеце замаўляць?
– Я б хацела пакаштаваць штосьці беларускае. Што вы параіце?
– На першае магу прапанаваць боршч.
– Даруйце, а хіба боршч – не ўкраінская вынаходка?
– Думаю, што гэта страва агульнаславянская. У нас у меню «Боршч літоўскі». На другое – бульбу з мясам у гаршчочках.

– Як гэта – ў гаршчочках?
– Паглядзіце на суседні столік. У такіх гаршчочках гатуюць мяса з бульбай, цыбуляй і living рознымі соусамі.
– Ну што ж, пакаштуем. Прынясіце, калі ласка, два баршчы, дзве порцыі бульбы з мясам у гаршчочках, дзве салаты з гародніны і дзве філіжанкі зялёнай гарбаты.
– Будзеце што-небудзь піць?
– Калі ласка, проста пітной вады.
– А віно ці гарэлку не замаўляеце?
– А што з нацыянальных напояў прапануеце?
– У нас некалькі гатункаў гарэлкі «Бульбаш», а таксама некалькі гатункаў «Крамбамбулі».
– А што гэта – «Крамбамбуля»?
– Гэта настойка на розных травах.
– Ну, тады пакаштуем «Крамбамбулі».
– Гэта ўвесь заказ?
– Так, пакуль усё.

***

Куды пойдзем абедаць?
– Можна ў нашай сталоўцы. Але там заўсёды чэргі.
– Давай тады перахопім чаго-небудзь у буфеце, трохі падсілкуемся, а грунтоўна паядзім пазней.
– Згода.
– Ці ёсць у вас вольныя столікі?
– На жаль, усе занятыя. Прыйдзецца трохі пачакаць. Калі вы спяшаецеся, можна падсесці да таго століка. Там ёсць два вольныя месцы.
– Дзякуй. Мы лепш пачакаем, пакуль вызваліцца столік на дваіх.
– Калі ласка.

- **Прачытайце дыялогі па ролях.**

**Практыкаванне 2. Прыміце запрашэнне і адмоўцеся ад яго. Адмову аргументуйце. Карыстайцеся матэрыялам для даведак.**

– Пайшлі ў сталоўку.
– ...

– Магу я запрасіць Вас на кубак кавы?
– ...

– Ці не павячэраць нам сёння ў рэстаране?
– ...
– Не хочаш чым-небудзь падсілкавацца?
– ...

***Матэрыял для даведак***: На жаль; мне вельмі шкада; я б з задавальненнем, але ... ; мне не хочацца Вам адмаўляць, але ...

**Практыкаванне 3. Працягніце сказы.**

1. Гаспадыня пачала збіраць на стол. Накрыла стол абрусам, на стале паставіла талеркі, трэба прынесці ...
2. Раніцай я п’ю ...
3. Мне падабаецца салата з ...
4. На гарнір да мяса можна падаць ...
5. Для баршчу неабходна ...
6. Госці прынеслі дзецям у пачастунак ...

**Практыкаванне 4. Адкажыце на пытанні.**

1. Што вы звычайна ясце на сняданак?
2. Якая ваша любімая страва?
3. Які посуд неабходны для прыгатавання ежы?
4. Які посуд павінен быць на святочным стале?
5. Якія прадукты можна набыць у магазіне «Садавіна – агародніна»?
6. Што можна купіць у малочным аддзеле?

**Практыкаванне 5. Перакладзіце на беларускую мову. Звяртайце ўвагу на несупадзенне роду і ліку назоўнікаў у рускай і беларускай мовах. (Гл. Модуль 2).**

Красное яблоко; зеленый салат; черный кофе со сливками; вкусное какао; жареный гусь; гречневая крупа; стеклянная посуда; вкусная селедка.

**Практыкаванне 6. Растлумачце, калі ўжываецца слова густ, а калі – слова смак.**

***Падказка***: На мой густ, гэтая сукенка табе не пасуе.
Трэба пакаштаваць, які гэты торт на смак.

**Перакладзіце на беларускую мову.**

1. Назовите несколько блюд, которые имеют соленый вкус.
2. Вкусы у всех разные.

3. Вкус соленой рыбы Иван помнил с детства.
4. Вкусы Сергея  всегда вызывали удивление друзей.

**Практыкаванне 7.  Растлумачце значэнне фразеалагізма.**

Кату па пяту.
З жабіны прыгаршчы.
Насіцца як кот з селядцом.

**Практыкаванне 8.  Звярніце ўвагу, як словазлучэнне ў беларускай мове адпавядае аднаму дзеяслову ў рускай.**

| Даць веры | Поверить |
|---|---|
| Аддаваць перавагу (чаму-небудзь) | Предпочитать |
| Даць рады (чаму-небудзь) | Справиться |
| Узяць (браць) удзел | Участвовать |

**Перакладзіце на беларускую мову. Выкарыстоўвайце пададзеныя вышэй выразы.**

1. Я говорил правду, но отец мне не поверил.
2. Я предпочитаю кофе со сливками.
3. На пожар сбежались все, но так и не смогли справиться с огнем.
4. В соревнованиях кулинаров принял участие мой брат.
5. Катя никогда не верила чудесным историям.
6. За ужином Алексей предпочитал чай, а не кофе.
7. В конкурсе «Повар года» приняли участие все рестораны Минска.

**Практыкаванне 9.  Праслухайце тэкст.**

## АСАБЛІВАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУХНІ

– А калі мы даведаемся пра асаблівасці беларускай нацыянальнай кухні? – спытала Аня ў мяне назаўтра.

У Мінску шмат рэстаранаў і кавярняў, дзе гатуюць нацыянальныя стравы: «Бульбяная», «Мядуха», «Паляўнічы», «Камяніца», «Ракаўскі бровар». У адну з такіх установоў я і запрасіў маскоўскую госцю. Але ці знойдзем мы тут самае-самае?

Калі б у мяне была машына часу, я запрасіў бы Аню ў XVIII стагоддзе ў палац князёў Радзівілаў. Там госцю пачаставалі б шчупаком, смажаным спераду, звараным пасярэдзіне, спражаным ззаду. Яна пакаштавала б птушку, фаршыраваную рыбай, і рыбу, фаршыраваную птушкай. А галоўнай стравай у Радзівілаў быў пірог з запечанымі ў ім жывымі

жаўранкамі. Адкаркоўваюць бутэлькі з шампанскім – і напалоханыя птушкі вылятаюць на волю! Аня смяецца. Князь Радзівіл падыходзіць да яе і запрашае на паланэз...

Не, мне не падабаецца кухня Радзівілаў.

Лепш запрасіць Аню ў аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Шляхціч Дубатоўк прымае ў сябе не Андрэя Беларэцкага, а нас з Аняй...

І вось на яе талерцы ляжыць гусь з брусн ічным варэннем, індыковая ножка з яблыкамі, салёныя грыбы, дзясятак калдуноў.



«А вось пампушкі з часнаком... А вось, пані, кавалачак шыначкі дзікага япручка...»

«А гэта што?» – пытаецца Аня, поркаючы відэльцам у нешта цёмнае на талерцы.

«Каханенькая ты мая, гэта ласіныя губы ў падсалоджаным воцаце. Еш, абавязкова іх еш».

Пасля чаркі крамбабулі пані збіраецца ўцякаць, але яе затрымліваюць:

«Не, мілая, ты ў мяне адсюль, не пакаштаваўшы халодных пірагоў з гусінай пячонкай, не выйдзеш. Антось, сюды!»

Падышоў Антось з пірагамі.

«Ды я не галодная ўжо, – адбіваецца Аня. – Пад’ела. Вялікі дзякуй».

«Кідайся да госці ў ногі. Бі дурной галавою ў падлогу, прасі, бо госця нас крыўдзіць».

А потым гаспадар запрашае задаволеную Аню на тур мазуркі.

Таксама дрэнна. Хутчэй назад, у дваццаць першае стагоддзе!

Мы з Аняй сядзім удваіх за круглым столікам, засланым чыстым абрусам. Перад намі талеркі, сподкі, нажы, відэльцы, келіхі і чаркі. Падыходзіць ветлівы афіцыянт:

– Што пажадаеце заказаць?

– Дазвольце нам падумаць. Пакажыце, калі ласка, меню.

– Што б ты хацела на першае? – пытаюся я. – Можа, капусту з сушанымі грыбкамі?

– Капуста – гэта першае? – дзівіцца Аня.

– Так у нас называюцца *щи*, – удакладняю я. – А яшчэ ёсць крупнік – курыны суп з крупамі. Зацірка – гэта малочны суп, запраўлены мукой. Я б, можа, заказаў поліўку з баравікамі...

– Горача... – уздыхае Аня.

І мы выбіраем для яе халаднік па-мінску. Смак шчаўя нагадвае мне вёску, матчыну хату...

Мы доўга абмяркоўваем гарачую страву.

– Я ведаю, што для беларусаў бульба – другі хлеб, – кажа Аня. – З яе гатуюць пяцьсот страў...

– Каля тысячы, – удакладняю я. – Хаця я больш люблю самую простую: вараная бульба з кропам і да яе селядзец. Над бульбай уздымаецца духмяная пара... Селядзец прыпраўлены алеем і пасыпаны зялёнай цыбулькаю...

– Вельмі апетытна расказваеш, – хваліць Аня.

– Калі-небудзь згатую для цябе, – абяцаю я.

– У такім разе сёння мы не будзем есці бульбу. Тым больш, што я ўжо ведаю, што такое дранікі.

Аня зазірае ў меню:

– «Калдуны з грыбамі»... Таксама з бульбы?

– Таксама...

– Не падыходзіць. Мне трэба берагчы фігуру... Вось: «мачанка». Гэта не з бульбы?

– Не.

– Тады на другое мачанка. Напэўна, гэта нешта дыетычнае.

Я не спрачаюся.

З’яўляецца ветлівы афіцыянт.

– Калі ласка: поліўка з грыбамі, халаднік па-мінску, дзве порцыі мачанкі...

– Што будзеце піць?

Аня пажадала халоднага светлага піва. Я заказваю яшчэ маленькі графінчык «Белавежскай».

– Гэта гарэлка? – цікавіцца Аня.

– Гэта настойка горкая, на лясных зёлках.

– Што на закуску? – пытаецца афіцыянт.

– Бутэрброды з чырвонай ікрой.

– Што пажадаеце на дэсерт?

– Мы яшчэ падумаем.

– Прыемнага апетыту! – вымаўляе афіцыянт, паставіўшы перад намі першае.

– Смачна з’есці! – зычу я Ані.

– Нешта доўга не нясуць другое, – неўзабаве зазначае Аня.

– Яшчэ гатуецца, – адказваю я. – У гэтым асаблівасць беларускай кухні: працяглае гатаванне. Доўга варыцца, смажыцца, пражыцца, пячэцца... Затое атрымліваецца смачна і ўежна! І яшчэ асаблівасць беларускай кухні: стравы прыпраўляюцца, падбельваюцца, падкалочваюцца. Мукой, малаком, смятанай.

– Халаднік быў халодны. Піва – светлае. Настойка горкая. А вось мачанка... Я думала, што гэта якая-небудзь каша. А тут – бліны. А ў другой місе – каўбаскі, свініна... Алесь – падманшчык... А з чаго прыгатаваны соус?

– Гэта верашчака. Падсмажаная мука, смятана, перчык, лаўровы ліст...

– Гэта не дыетычная страва, – задуменна кажа Аня.

– Затое якая смаката! А як прыемна пахне! Ты толькі пакаштуй! Пасля за вушы цябе не адцягнеш...

Пазней мы п’ём каву.

– Вядома, мачанка – не дыетычная страва, – разважае Аня. – Затое карысная. Вось, гадзіну таму назад у мяне закруцілася ў галаве і стала млосна...

– Гэта ад голаду...

– І было такое адчуванне, што я пра нешта забылася. А пасля мачанкі ў галаве перастала круціцца. І я прыгадала, што працавала ў бібліятэцы ўвесь дзень і забылася паабедаць. Беларуская кухня – проста цуд!

– Шкада, што я не магу прапанаваць табе «самае-самае». Вось бы нам трапіць на банкет да Дубатоўка!

Выявілася, што Аня ўжо прачытала гэтую аповесць.

– Гэта не для мяне, – кажа яна. – Усё занадта каларыйнае... І гэтыя ласіныя губы... Мне шкада ласёў. А слуга Антось? Навошта ён стукаў галавой у падлогу?

– Гэта прымус... Частка беларускага этыкету. Гасцей трэба прымушаць, угаворваць, каб елі.

– Гэта мне падабаецца, – кажа яна. – Прымусь мяне, калі ласка, Алесь, каб я з’ела марожанае з клубніцамі. А пра самае-самае мы даведаемся пазней. Не ўсё адразу. Такія асаблівасці беларускай кухні. Тут усё гатуецца павольна, але надзейна.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ ПА КУЛІНАРЫІ


Белорусская кухня. – Минск: Ураджай, 1984.

*Зайковский Э. М.* Старобелорусская кухня / Э. М. Зайковский, Г. К. Тычко. – Минск: Полымя, 2001.

Літоўская гаспадыня, ці Навука аб утрыманні ў добрым стане хаты. – Мінск: Полымя, 1993.

*Яшкін І. Я.* Грыбы ў традыцыйнай беларускай кухні. – Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 1995.


**Практыкаванне 10. Скажыце, ці адпавядае праўдзе сцвярджэнне. Выкарыстоўвайце наступныя выразы:**

Гэта так. / Я згодны (згодная), што ...
Гэта не зусім так. / Я не зусім згодны (згодная), што..., бо...
Не, гэта не так. / Гэта не праўда. / Я не згодны (не згодная), што ..., бо....

1. Алесь і Ганна былі ў гасцях у Радзівіла.
2. У рэстаране Алесь і Ганна замовілі закуску, першае, другое і дэсерт.
3. Ганна з’ела дранікі.
4. Мачанка – гэта каша з мясам.
5. Паводле старажытнага беларускага этыкету гасцей трэба прымушаць, угаворваць, каб елі.

**Практыкаванне 11. Адкажыце на пытанні па тэксце.**

1. Алесь успомніў аповесць Караткевіча, бо хацеў пачаставаць Ганну старажытнымі стравамі?
2. Як у Беларусі называюцца *щи*?
3. Чаму гавораць, што для беларусаў бульба – другі хлеб?
4. Якая любімая страва Алеся?
5. У чым асаблівасць беларускай кухні?
6. Што такое *верашчака*?

- **Прачытайце тэкст. Значэнне незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

**Практыкаванне 12. Растлумачце значэнне беларускіх фразеалагізмаў. У якой сітуацыі яны ўжываюцца?**

1. Адзін з’ясі і вала, дык адна хвала.
2. Дзе каша ды аладка, там будзе і грамадка.
3. Еш, дурань, бо то з макам!
4. Еш, пакуль рот свеж, бо як памрэш, дык і калом не ўб’еш.
5. Калі на стале гусь і парася, дык работа хараша.
6. Колькі ні еш, а не запяеш.
7. На смачны кусочак знойдзецца раточак.
8. Ядуць – аж насы ўпрысядкі ідуць.
9. Ядуць – аж за вушамі трашчыць.

# ГРАМАТЫКА

## Дзеяслоў

## Дзеясловы I спражэння на *-ава-(ць), -ява-(ць)*

| Націск на аснове | | | Націск на канчатку |
|---|---|---|---|
| **гат-ава́-(ць)** | **гандл-ява́-(ць)** | **ла́с-ава-(ц)-ца** | **зж-ава́-(ць)** |
| гату́-**ю** | гандлю́-**ю** | ла́су-**ю**-ся | зжу-**ю́** |
| гату́-**еш** | гандлю́-**еш** | ла́су-**еш**-ся | зжу-**е́ш** |
| гату́-**е** | гандлю́-**е** | ла́су-**е**-цца | зжу-**е́** |
| гату́-**ем** | гандлю́-**ем** | ла́су-**ем**-ся | зжу-**ём** |
| гату́-**еце** | гандлю́-**еце** | ла́су-**еце**-ся | зжу-**яце́** |
| гату́-**юць** | гандлю́-**юць** | ла́су-**юц**-ца | зжу-**ю́ць** |

! У асабовых формах гэтых дзеясловаў суфікс ***-ава- (-ява-)*** замяняецца суфіксам ***-у- (-ю-)***.

! Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы інфінітыву.

**Практыкаванне 13. Раскрыйце дужкі (дзеясловы ўжывайце ў цяперашнім (будучым) часе).**

***Узор***: Нашы суседзі (будаваць) што? (новая альтанка).
– Нашы суседзі будуюць новую альтанку.

1. Мы (друкаваць) *што*? (кулінарны часопіс).
2. Вы (майстраваць) *што*? (скрыня для папер).

3. Калектыў (абмеркаваць) *што*? (ваш даклад) *калі*? у (наступная серада).
4. Вы (працаваць) *калі*? у (гэтая субота)?
5. Мы (віншаваць) *каго*? (сябры) з новай кватэрай.
6. Загадчык кафедры (накіраваць) *каго*? (я) *куды*? на (канферэнцыя) *калі*? у (пятніца) *на колькі*? на (увесь тыдзень).
7. Вы дарэмна (злавацца) *на каго*? на (дзеці) *за што*? за (беспарадак).
8. Вы (крыўдаваць) *на каго*? на (я) *за што*? за (учарашняя размова)?
9. Я (занатаваць) *што*? (усе твае заўвагі) *чым*? (аловак).
10. Мы (асэнсаваць) *што*? (наша становішча) і прымем *што*? (рашэнне).
11. Я (рыхтаваць) *каму*? (брат) *што*? (падарунак) на вяселле.

**Практыкаванне 14. Устаўце ў пытальныя сказы дзеясловы ў патрэбнай форме асобы і ліку цяперашняга (будучага простага) часу. Адкажыце на пытанні.**

гасцяваць каштаваць падсілкавацца заставацца
святкаваць палуднаваць частаваць мацаваць

1. Вы … на вячэру ў сваіх сяброў?
2. Святочныя застоллі … сям’ю?
3. Ты … штодня?
4. Ты часта … у сваёй бабулі?
5. Чым … вашу сям’ю маці ў дні нараджэння?
6. Вы … нацыянальныя стравы ў вандроўках?
7. Вы … дзяржаўныя святы сваёй краіны?
8. Вы … адным яблыкам на працы?

! У беларускай мове назіраецца тэндэнцыя да выцяснення суфікса ***-ірава- (-ырава-)*** суфіксам ***-ава- (-ява-)*** і адсутнічаюць дзеясловы з суфіксам ***-ізірава-***: *акцэнтаваць, ідэалізаваць, іміграваць, імпартаваць, ліквідаваць*.

**Практыкаванне 15. Запішыце дзеясловы па-беларуску.**

Анкетировать, аргументировать, ассимилировать, вальсировать, гарантировать, группировать, дегустировать, запланировать, имитировать, информировать, компенсировать, координировать.

## Дзеяслоў I спражэння *піць*

| |
|---|
| п’**ю**<br>п’**еш**<br>п’**е**<br>п’**ём**<br>п’**яцé**<br>п’**юць** |

! Па такой жа мадэлі змяняюцца дзеясловы ліць, біць, віць і ўсе вытворныя ад іх прыставачныя.

! Дзеясловы ***ліць*** і ***віць*** могуць спрагацца з захаваннем гука і ў аснове: ***ль-ю*** і ***лі-ю́*** … ***ль-юць*** і ***лі-ю́ць***; ***у-ю́*** і ***ві-ю́*** … ***у-ю́ць*** і ***ві-ю́ць***.

## Дзеяслоў *éсці*

Змяняецца па індывідуальнай мадэлі:

| **éсці** | **аб’éсціся** |
|---|---|
| е-**м** | аб’é-**м**-ся |
| я-**сí** | аб’я-**сí**-ся |
| е-**сць** | аб’é-**с**-**ца** |
| ядз-**íм** / я-**мо** | аб’ядз-í**м**-ся / аб’я-**мо**-ся |
| я-**сцé** | аб’я-**сцé**-ся |
| яд-**ýць** | аб’яд-ý**ц**-ца |

Формы прошлага часу:
я, ты, ён – **е-ў**;
яно – **е-л-а**;
я, ты, яна – **е-л-а**;
яны – **е-л-і**.

**Практыкаванне 16. Дапоўніце сказы паводле ўзору.**

***Узор***: На сняданак я (есці) … і (піць) …
– На сняданак я ем мюслі з ёгуртам і п’ю чорную каву.

1. На вячэру ты (есці) … і (піць) …
2. У абедзенны перапынак ён звычайна (есці) … і (піць) …
3. У малочнай кавярні вы заўсёды (есці) … і (піць) …
4. На вячэру яна ніколі не (есці) … , але (піць) …
5. У гасцях яны (есці) і (піць) …
6. Ён (есці) … і (піць) … толькі па святах.

**Практыкаванне 17. Працуйце ў парах. Задайце пытанні па чарзе і адкажыце на іх поўнымі сказамі. Дзеясловы *есці* і *піць* ужывайце ў формах цяперашняга часу.**

1. Што ты (есці) на сняданак?
2. Які алкаголь (піць) у вашай сям’і па святах?
3. Ці (есці) твой сабака з рукі?
4. Ты (піць) каву?
5. Ці (піць) вы з сябрамі піва?
6. Ты (есці) бутэрброды на працы?
7. Ці (есці) твой бацька цукеркі?
8. У тваёй сям’і вы (есці) разам?
9. Хто-небудзь у тваёй сям’і не (есці) мяса?
10. Ці шмат салодкага ты (есці)?

## Давальны склон назоўнікаў

| **Адзіночны лік** | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі і ніякі род** | | |
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-у*** | стал-у́, кліе́нт-у, су́п-у, са́л-у, пе́чыв-у, це́ст-у, мя́с-у |
| на зацвярдзелыя зычныя ***ж – ш, дж – ч, р, ц*** | | сухар-у́, сы́р-у, наж-у́, відэ́льц-у, тлу́шч-у, селядц-у́ у, вогні́шч-у, пяр-у́ |
| на ***г, х, к*** | | агурк-у́, піраг-у́, арэ́х-у, малак-у́, я́йк-у, ке́ліх-у, рэ́х-у |
| на мяккі зычны (у тым ліку на ***-j***) | ***-ю*** | скры́л-ю, полудн-ю, напо-ю, шча́ў-ю, калосс-ю |

| **Жаночы род (з канчаткам *-а, -я*)** | | | |
|---|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Змены ў аснове** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-е*** | <цвёрды ~ мяккі> | бу́ль**б**-а – бу́ль**б**-е; каўба**с**-а́ – каўба**с**-е́; гароднi**н**-а – гароднi**н**-е |
| | | <д ~ дз’> | ва**д**-а́ – ва**дз**-е́ |
| | | <т ~ ц’> | капу́с**т**-а – капу́с**ц**-е |
| на мяккі зычны (у тым ліку на ***-j***) | ***-і*** | | яе́шн-я – яе́шн-і; цыбу́л-я – цыбу́л-і |

| на зацвярдзелыя зычныя ***ж – ш, дж – ч, р, ц*** | ***-ы*** | | паляндвіц-а – паляндві́ц-ы; ка́ш-а – ка́ш-ы; ікр-а́ – ікр-ы́ |
|---|---|---|---|
| на ***г, х*** | ***-е*** | <г ~ з’> | сма́**г**-а – сма́**з**-е |
| | | <х ~ с’> | скру́**х**-а – скру́**с**-е |
| на ***к*** | ***-э*** (пад націскам) | <к ~ ц> | му**к**-а́ – му**ц**-э |
| | ***-ы*** (не пад націскам) | | ю́ш**к**-а – ю́ш**ц**-ы<br>сква́р**к**-а – сква́р**ц**-ы |

| **Множны лік** | | |
|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-ам*** | стал-а́м, каўба́с-ам, наж-а́м, арэ́х-ам, ка́ш-ам |
| на мяккі зычны | ***-ям*** | напо-ям, ды́н-ям |

| **Жаночы род (з канчаткам Ø)** | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Адзіночны лік** | **Канчатак** | **Множны лік** |
| на губны зычны | ***-і*** | крыв-і́, глыб-і́, любов-і, педа́л-і | ***-ям*** | педа́л-ям |
| на мяккі зычны | | гу́с-і, стол-і, постац-і, споведз-і, ра́дасц-і, сква́пнасц-і | | гус-я́м, стол-ям, постац-ям, споведз-ям |
| на зацвярдзелыя зычныя ***ж – ш, ч, р, ц*** | ***-ы*** | пе́ч-ы, мы́ш-ы, рэ́ч-ы, шчолач-ы, слодыч-ы | ***-ам*** | пе́ч-ам, мыш-а́м, рэ́ч-ам |

**Практыкаванне 18. Раскрыйце дужкі.**

Пярэчыць (дырэктар), варажыць (сястра), параіць (жонка), здрадзіць (слова), зманіць (настаўніца), зычыць (аднакласніца), надакучыць (гаспадыня), наскардзіцца (бабуля), паведаміць (сваякі), пазычыць (сяброўка), належаць (сыны), апавядаць (аўдыторыя), замінаць (доктар), нагадаць (студэнтка), падабацца (суседка), патураць (дачка), усміхацца (юнак), спачуваць (шэф).

! Дзеясловы ***дзякаваць і дараваць*** кіруюць у беларускай мове назоўнікам (займеннікам) у давальным склоне.

Дзякаваць (***каму?***)    дараваць (***каму?***)

**Практыкаванне 19. Раскрыйце дужкі (дзеясловы ўжывайце ў цяперашнім або будучым простым часе).**

1. Я (меркаваць), што бацькі (дараваць) (я) што? (мая памылка).
2. Мы заўсёды (дзякаваць) (мама) за сталом.
3. Бабуля (дараваць) (свая кошка) усё.
4. Брат (дзякаваць) (я) у сваім лісце за што? за (дапамога).
5. Ты (дараваць) (ён) гэтыя словы?
6. Вы (дзякаваць) (мы) дарэмна. Так атрымалася выпадкова.

## Давальны склон прыметнікаў

| **Адзіночны лік** | | |
|---|---|---|
| **Жаночы род** | | |
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-ай*** (не пад націскам) | сма́жан-ай бу́льбе |
| | ***-ой*** (пад націскам) | бульбян-ой ка́шы |
| на мяккі зычны | ***-яй*** | позн-яй вячэ́ры |
| **Мужчынскі і ніякі род** | | |
| на цвёрды зычны | ***-аму*** **(не пад націскам)** | пра́жан-аму гароху |
| | ***-ому*** **(пад націскам)** | бульбян-ому су́пу |
| на мяккі зычны | ***-яму*** | ра́нн-яму сняда́нку |
| **Множны лік** | | |
| на цвёрды зычны | ***-ым*** | бульбян-ы́м стра́вам |
| на мяккі зычны<br>на ***г, к, х*** | ***-ім*** | позн-ім гасця́м<br>далёк-ім сваяка́м |

**Практыкаванне 20. Пастаўце назоўнікі з прыметнікамі ў форму давальнага склону.**

Радуюся (чаму?): карункавая сурвэтка, запечаная гарбуша, салодкая аладка, фаршыраваны шчупак, шакаладная цукерка, вэнджаны кумпяк, сярэбраная лыжка, грыбная поліўка, ячны крупнік, малочная зацірка,

бабуліна локшына, мучныя клёцкі, смачны халаднік, мясная мачанка, тушаная ялавічына, ветлівыя госці, рыбная смажанка, гусіная шыйка, сырная запяканка, мятная гарбата, кіслая капуста, часночныя буракі, маркоўная бабка, сялянскі амлет, вараныя яйкі, аўсяныя блінцы.

## Трыванне дзеяслова

| Незакончанае трыванне (НЗТ) | Закончанае трыванне (ЗТ) |
|---|---|
| **Цяперашні і будучы складаны час** | **Будучы просты час** |
| 1. Дзеянне як працэс:<br>Зараз я **гатую** (**буду гатаваць**) аўсянку. | 1. Аднаразовае дзеянне:<br>Заўтра я **згатую** на сняданак аўсянку. |
| 2. Паўтаральны выніковы працэс:<br>Я **гатую** (**буду гатаваць**) аўсянку некалькі разоў на тыдзень. | 2. Аднаразовы выніковы працэс:<br>Я **згатую** аўсянку і змагу табе дапамагчы. |
| 3. Дзеянне, якое паўтараецца:<br>Я штодзень **гатую** (**буду гатаваць**) аўсянку на сняданак. | |
| **Прошлы час** | **Прошлы час** |
| 1. Дзеянне як працэс:<br>Я **гатаваў** аўсянку 10 хвілін. | 1. Вынік дзеяння:<br>Я **згатаваў** смачную аўсянку. |
| 2. Паўтаральнае дзеянне:<br>Я заўсёды **гатаваў** аўсянку на сняданак. | 2. Аднаразовае дзеянне:<br>Учора я **згатаваў** на сняданак манку. |

## Фармальныя спосабы і сродкі ўтварэння НЗТ і ЗТ

**1. ЗТ + суфіксы *-а- /-я-*, *-ва-*, *-ыва-* / *-іва-*, *оўва-* / *-ёўва-* → НЗТ**

абудз / í-(ць) + -а- → абудж-**á**-(ць)
даказ / á-(ць) + -ва- → дакáз-**ва**-(ць)
аздоб / і-(ць) + -іва- → аздобл-**іва**-(ць)
заслуж / ы́-(ць) + -оўва- → заслуг-**оўва**-(ць)

! Пры далучэнні суфікса ў аснове дзеяслова могуць адбывацца наступныя чаргаванні:

<**дз’ ~ дж**> адра**дз** / í-(ць) → адра**дж**-á-(ць)
<**с’ ~ ш**> запра**с**/ í-(ць) → запро**ш**-ва-(ць)
<**ц’ ~ ч**> вы́пла**ц** / í-(ць) → выплá**ч**-ва-(ць)
<**с’ц’ ~ шч**> пpара**сц** / í-(ць) → праро**шч**-ва-(ць)
<**п ~ пл’**> заха**п** / í-(ц)ца → заха**пл**-я́-(ц)ца

<**б ~ бл’**> зара**б** / í-(ць) → зара**бл-я́**-(ць)
<**м ~ мл’**> атаяса́**м** / і-(ць) → атаяса́**мл**-іва-(ць)
<**в ~ ўл’**> пазба́**в** / і-(ць) → пазба**ўл-я́**-(ць)

**2. НЗ + -ну- → ЗТ**
захін / а́-(ць) + -ну- → захі-**ну́**-(ць)

**3. Прыстаўка + НЗ → ЗТ**
па- + віншава́ць → **па**віншава́ць
ад- + шука́ць → **ад**шука́ць
па- + каштава́ць → **па**каштава́ць

**Практыкаванне 21. Утварыце ад дзеясловаў ЗТ з дапамогай суфіксаў дзеясловы НЗ. Праверце па слоўніку націскі ўтвораных дзеясловаў.**

! У беларускай мове суфікс ***-іва-*** далучаецца толькі да дзеясловаў на ***-і-(ць)***, калі ***-і-*** папярэднічае губны зычны *б, п, м, в*: вы́ха***п***-і-(ць) – выхо***пл***іваць.

! У беларускай мове дзеясловы ЗТ, утвораныя ад дзеясловаў НЗТ на ***-і-(ць)***, ***-а-(ць)***, якім папярэднічае ***j***, захоўваюць ***й*** і перад суфіксам ***-ва-*** (калі ***і***, *а* папярэднічае галосны): *падво*-***і***-(*ць*) [падво**j**іц’] – *падво****й****ваць.*

Вызваліць, заказаць, абнадзеіць, абумовіць, зачараваць, завабіць, натхніць, збочыць, высмеяць, падхапіць, падлавіць, выменяць, засмажыць, асвоіць, закапа́ць, закусіць, выдумаць, падпарадкаваць, падтрымаць.

**Практыкаванне 22. Устаўце патрэбную дзеяслоўную форму НЗТ, утвораную суфіксальным спосабам.**

***Узор***: У суботу мы наладзім вечарыну.
– Па суботах мы наладжваем вечарыны.

1. Мама засоліць гуркі з нашай дачы. – Кожны год мама ________ цэлую бочку гуркоў з нашай дачы.
2. Ты падладзішся пад мой новы расклад? – Я заўсёды ________ пад твой расклад.
3. Вы падсмажыце мяса, а я зраблю салату. – Я кожны раз ________ мяса, давайце сёння наадварот.
4. Ты падклеіў маю кнігу? – Я цэлы вечар учора ________ тваю кнігу.
5. Я думаю, вы атрымаеце прэмію за гэты праект. – Так, я спадзяюся на гэта, мы рэгулярна ________ прэміі за новыя праекты.

6. Твая рана хутчэй загоіцца, калі ты не будзеш яе чапаць. – Твая праўда, мая ранка вельмі доўга ўжо _______.
7. Я абдумаю твае словы. – Ты заўсёды вельмі доўга _______.
8. Мама замесіць цеста, а мы налепім варэнікаў. – Не, па святах я _______ цеста і ляплю для вас варэнікі.
9. Чаму ты нас не папярэдзіў? – Я кожны раз _______, і вы кожны раз забываеце.
10. Ты наведаеш дзядулю, пакуль нас не будзе? – Так, канечне, я заўсёды штодня _______ дзядулю, калі вы з'язджаеце.

**Практыкаванне 23. Пастаўце дзеясловы ў патрэбную форму, дабаўляючы прыстаўкі.**

*Узор*: Міхась (пісаць) ліст, але яшчэ не (пісаць) яго.
Міхась піша ліст, але яшчэ не напісаў яго.

1. Чаму ты не (вячэраць)? – Я ўжо (вячэраць) у сябра?
2. Дзіця (маляваць) кошку, але пакуль не (маляваць) хвост і лапкі.
3. Бацька (чытаць) газету, але (чытаць) толькі першую старонку і заснуў.
4. Чаму ты не (вітацца)? – Я (вітацца) з парога, ты проста не пачула.
5. Ты зноў (варыць) бульбу? – Я яе ўжо (варыць) і цяпер патаўку з маслам.

## Займеннікі
## Пытальныя і адносныя займеннікі

Яны цалкам супадаюць: ***хто? /хто; што? / што; які? / які; чый? / чый***

| Скланенне | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **адуш.** | **неадуш.** | **м. р.** | **н. р.** | **ж. р.** | **мн. л** | **м. р.** | **н. р.** | **ж. р.** | **мн. л.** |
| **Н.** | хто | што | які́ | якое | якая́ | які́я | чый | чыё | чыя́ | чые́ |
| **Р.** | каго | чаго | якога | якога | якой | які́х | чыйго | чыйго | чыёй | чыі́х |
| **Д.** | каму́ | чаму́ | якому | якому | якой | які́м | чыйму́ | чыйму́ | чыёй | чыі́м |
| **В.** | каго | што | як Н. ці Р. | якое | яку́ю | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. | чыё | чыю́ | як Н. ці Р. |
| **Т.** | кім | чым | які́м | які́м | якой / -о́ю | які́мі | чыі́м | чыі́м | чыёй / -ёю | чыі́мі |
| **М.** | кім | чым | у які́м | у які́м | якой | які́м | чыі́м | чыі́х | чыёй | чыі́х |

! Пасля **хто** дзеяслоў заўсёды мае форму мужчынскага роду, пасля **што** – ніякага: *Хто прачытаў апавяданне? Што адбылося ўчора на плошчы?*

**Практыкаванне 24. Устаўце замест кропак займеннікі *хто*, *што* ў неабходнай склонавай форме.**

1. … запрасіў цябе ў госці?
2. … адбылося ўчора ў рэстаране?
3. Для … Васіліна купіла торт?
4. Для … трэба вывучаць замежныя мовы?
5. У … яна пазычыла грошы?
6. З … Ганна пайшла ў тэатр?
7. З … сябры прыйшлі да Веры на дзень нараджэння?
8. … Алесь напісаў Ганне ў лісце?
9. Для … Іван купіў залаты пярсцёнак?
10. … ў цябе ў кішэні?

**Практыкаванне 25. Пабудуйце пытальныя сказы, назавіце займеннікі.**

1. Бацька, каго, для, купіў, аўтамабіль, новы?
2. Ты, вялізнай, носіш, сумцы, у, што, сваёй?
3. Ён, каго, рэстаран «Папараць-кветка», у, запрасіў?
4. Сустрэў, сваю, кінатэатра «Масква», хто, аднакласніцу, каля?
5. Ганне, ва, Алесь, што, купіць, універсаме, прапанаваў?
6. Рэчы, тэатральным, забылі, чые, у, гардэробе?
7. Не, сёння, каго, занятках, было, на?
8. Стравы, бульбы, якія, можна, прыгатаваць, з?
9. Купіла, якую, цэнтры, у, сукенку, «Сталіца», Аня, гандлёвым?
10. Вользе, параіў, адпачываць, хто, паехаць, Прыбалтыку, у?

## Няпэўныя займеннікі ўтвараюцца ад пытальна-адносных займеннікаў *хто, што, які, каторы, чый*

| | |
|---|---|
| пры дапамозе прэфікса ***не-*** | **не́**хта, **не́**шта, **не́**йкі, **не́**чы |
| пры дапамозе прэфікса ***абы-*** | **абы**-хто, **абы**-што, **абы**-які́ |
| пры дапамозе постфікса ***-сьці*** | хто**сьці**, што**сьці**, які́**сьці** |
| пры дапамозе постфікса ***-не́будзь*** | хто-**не́будзь**, што-**не́будзь**,<br>які-**не́будзь** |
| шляхам паўтору | **хто-ніхто**, **што-нішто**, **сёй-той** |
| пры дапамозе слова ***немаве́дама*** | **немаве́дама** хто,<br>**немаве́дама** што |

! Займеннікам, утвораным пры дапамозе прэфікса ***абы-*** ці слова ***немаведама***, адпавядаюць рускія канструкцыі са словамі ***неизвестно***, ***невесть***: *Сделали невесть что. – Зрабілі немаведама што.*

! Прэфікс ***абы-*** і постфікс ***-нéбудзь*** пішуцца праз злучок: ***абы-****хто*, *хто-****нéбудзь***. *Абы* пішацца асобна, калі паміж ім і займеннікам ёсць прыназоўнік: *абы з кім, абы з чым*. Займеннікам з постфіксам ***-небудзь*** адпавядаюць рускія з ***-нибудь, -либо***: *хто-****небудзь*** *– кто-либо.*

! Займеннікам з постфіксам ***-сьці*** адпавядаюць рускія з прэфіксам ***не-*** або постфіксам ***-то***: ***хтосьці – кто-то***.

**Практыкаванне 26. Перакладзіце на беларускую мову, звярніце ўвагу на правапіс няпэўных займеннікаў.**

Что-либо вспоминать, невесть что слушать, пригласить кого-нибудь, читать что-либо, заказать что-нибудь, получить невесть что, купить что-либо, есть неизвестно что, рассказывать что-нибудь, писать кому-нибудь, сделать что-либо, встретиться с кем-нибудь, пить невесть что, подарить кому-либо, попробовать что-нибудь.

## Скланенне

| Пры скланенні змяняецца толькі зыходнае слова | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Н.** | хтосьці | штосьці | нéхта | нéчы | абы-чы́й | якія-нéбудзь |
| **Р.** | кагосьці | чагосьці | нéкага | нéчага | абы-чыйго | якіх-нéбудзь |
| **Д.** | каму́сьці | чаму́сьці | нéкаму | нéчаму | абы-чыйму́ | якім-нéбудзь |
| **В.** | кагосьці | штосьці | нéкага | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. | як Н. ці Р. |
| **Т.** | кімсьці | чы́мсьці | нéкім | нéчым | абы-чыі́м | якімі-нéбудзь |
| **М.** | па кімсьці | у чы́мсьці | па нéкім | у нéчым | абы па чыі́м | якіх-нéбудзь |

**Практыкаванне 27. Утварыце няпэўныя займеннікі пры дапамозе постфікса *-небудзь*. Выкарыстоўвайце іх у неабходнай граматычнай форме.**

***Узор***: Ці быў з вас (хто) у Мінску?
Ці быў з вас хто-небудзь у Мінску?

1. Ці хадзіў (хто) з вас у рэстаран «Ракаўскі бровар»?
2. Ці спадабалася (хто) беларуская нацыянальная кухня?
3. Ці спрабаваў (хто) дранікі з мясам?
4. Ці прапаноўвалі (хто) бліны з мачанкаю?

5. Ці гатаваў (хто) з вас кашу з гарбуза?
6. Ці ведае (хто), што такое «бабка»?
7. Ці піў (хто) з вас мядовы квас?
8. Ці (хто) каштаваў медавуху?
9. Ці пачаставалі (хто) блінамі з чырвонаю ікрою?
10. Ці ведае (хто) рэцэпт «калдуноў»?
11. Ці спадабалася (хто) абслугоўванне ў рэстаране «Ракаўскі бровар»?

***Цікава ведаць!***

Калдуны (рэцэпт)

18 сырых і 3 вараныя бульбіны, 300 г свінога фаршу, 1 цыбуліна, 3 – 4 ст. лыжкі смятаны, соль, перац, алей.

Сырую бульбу натаркаваць, пасаліць і адціснуць. Змяшаць з тоўчанаю варанаю бульбаю. Зрабіць аладкі, начыніць фаршам, у які трэба дадаць соль і перац па смаку. Зробленыя калдуны абсмажыць на алеі, пакласці ў гліняны гаршчок, заліць падліваю з падсмажанай цыбулі і смятаны. Паставіць у духоўку ці печ і запячы.

На талерку пакласці 2 лісты зялёнай салаты, на іх 3 – 4 калдуны і 2 – 3 лыжкі смятаны. Смачна есці!

## Ужыванне няпэўных займеннікаў

| з постфіксам ***-сьці*** / прэфіксам ***не-*** | з постфіксам ***-небудзь*** |
|---|---|
| хтосьці / не́хта, штосьці / не́шта, які́сьці / не́йкі, чы́йсьці / не́чы | хто-не́будзь, што-не́будзь, які-не́будзь, чый-не́будзь |
| * Рэальны і пэўны, але невядомы моўцу прадмет, асоба ці прымета (цяперашні час або прошлы):<br>*Вам хтосьці (не́хта) прынёс кве́ткі. Чы́йсьці (не́чы) ало́вак ляжы́ць на стале́.* | * Зусім няпэўны ці не выбраны моўцам (з некалькіх магчымых) прадмет, асоба ці прымета (цяперашні, прошлы і будучы час):<br>*Хто-не́будзь напіса́ў сачыне́нне? Мне патэлефануе хто-не́будзь?*<br>*Няпэўны, але магчымы прадмет, асоба, факт:<br>*Ён выбіра́е які-не́будзь падару́нак.* |

**Практыкаванне 28. Выберыце неабходны няпэўны займеннік і ўтварыце правільныя выказванні.**

1. – Алесь, ты мне (штосьці, што-небудзь) купіў на кірмашы? – пытае Аня.

2. – Відаць, у (кагосьці, каго-небудзь) звалілася ручка пад стол, – заўважыў настаўнік.
3. – Давайце зойдзем у (якісьці, які-небудзь) рэстаран паабедаем, – прапанаваў Алесь.
4. – У (каго-небудзь, кагосьці) ёсць пры сабе грошы? – спытаўся Мікола.
5. – Нам нарэшце (штосьці, што-небудзь) прынясе афіцыянт? Я такі галодны, – ускіпеў Алесь.
6. – Ты купіла (якіясьці, якія-небудзь) цёплыя рэчы на зіму? – спытала Алеся ў сяброўкі.
7. – Ці чытаў з вас (хтосьці, хто-небудзь) паэмы Купалы? – спытаў Максім Іванавіч.
8. – Я хачу з (кімсьці, кім-небудзь) паехаць на канферэнцыю ў Кіеў. Хто са мной? – спытала Вольга.
9. – У гэтым магазіне ў (кагосьці, каго-небудзь) укралі кашалёк, – заўважыў Пятро.
10. – (Хтосьці, хто-небудзь) падрыхтаваўся сёння да заняткаў? – грозна запытала Святлана Аляксандраўна.

## Адмоўныя займеннікі *ніхто, нішто, ніякі, нічый*

Утвараюцца ад пытальных займеннікаў пры дапамозе часціцы ***ні***.

| | |
|---|---|
| хто – **ні**хто | які́я – **ні**я́кія |
| што – **ні**што | чый – **ні**чы́й |
| які́ – **ні**я́кі | чыя́ – **ні**чыя́ |
| яка́я – **ні**я́кая | чыё – **ні**чыё |
| якое – **ні**я́кае | чые́ – **ні**чые́ |

## Скланенне

| | **ніхто (адуш.)** | **нішто (неадуш)** | **ніякі (м. р.)** | **ніякая (ж. р.)** | **ніякае (н. р.)** | **ніякія (мн. л.)** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Н.** | ніхто | нішто | ніякі | нія́кая | нія́кае | нія́кія |
| **Р.** | нікога | нічога | нія́кага | нія́кай | нія́кага | нія́кіх |
| **Д.** | нікому | нічому | нія́каму | нія́кай | нія́каму | нія́кім |
| **В.** | нікога | нішто | як Н. ці Р. | нія́кую | нія́кае | як Н. ці Р. |
| **Т.** | нікім | нічы́м | нія́кім | нія́кай /-аю | нія́кім | нія́кімі |
| **М.** | ні па кім | ні ў чым | ні ў я́кім | ні ў я́кай | ні ў я́кім | ні ў я́кіх |

! У займенніках ***ніхто, нішто*** націск пры скланенні падае на канчатак.

! У займенніка ***ніякі*** (***-ая, -ае, -ія***) націск пры скланенні падае на галосны асновы.

| | **нічый (м. р.)** | **нічыя (ж. р.)** | **нічыё (н. р.)** | **нічые (мн. л.)** |
|---|---|---|---|---|
| **Н.** | нічы́й | нічыя́ | нічыё | нічые́ |
| **Р.** | нічыйго | нічыёй | нічыйго | нічыі́х |
| **Д.** | нічыйму́ | нічыёй | нічыйму́ | нічыі́м |
| **В.** | Н. ці Р. | нічыю́ | нічыё | Н. ці Р. |
| **Т.** | нічыі́м | нічыёю /-ёй | нічыі́м | нічыі́мі |
| **М.** | ні ў чыі́м | ні ў чыёй | ні ў чыі́м | ні ў чыі́х |

! У займенніках ***нічый, нічыя*** (***-ё, -е***) націск падае на канчатак.

! Калі пры адмоўным займенніку ёсць прыназоўнік, то займеннік пішацца ў тры словы (а чытаецца як адно).

! Прыназоўнік стаіць пасля часціцы ***ні***.

| |
|---|
| нікога – ні **ў** кога |
| нічы́м – ні **аб** чым |
| нічы́м – ні **з** чым |
| ніякі – ні **перад** я́кім |

**Практыкаванне 29. Утварыце выказванні з адмоўнымі займеннікамі паводле ўзору. Звярніце ўвагу на двайное адмаўленне.**

***Узор***: – Яна сустрэла каго-небудзь на прыпынку? // (ніхто)
– Яна ***нікога не*** сустрэла на прыпынку.

1. – Іра можа што-небудзь адказаць на пытанне? // (нішта)
   – …
2. – Аня паведаміла каму-небудзь пра сваё знаёмства? // (ніхто)
   – …
3. – Вольга карыстаецца якой-небудзь касметыкай? // (ніякая)
   – …
4. – Алесь напісаў каму-небудзь пра сваё вяселле? // (ніхто)
   – …

5. – Каця прытрымліваецца чыйго-небудзь меркавання? // (нічыё)
   – …
6. – Сцяпан што-небудзь каму-небудзь павінен аддаць? // (ніхто), (нішто)
   – …
7. – Іван што-небудзь каму-небудзь зрабіў дрэннае? // (ніхто), (нішто)
   – …

**Практыкаванне 30. Уважліва прачытайце пытанні і адказы. Знайдзіце сказы, у якіх адмоўныя рэплікі напісаны з памылкай.**

***Узор***: – З кім ты хадзіла ў магазін? // (ніхто)
– Ні з кім.

1. З кім Вольга паехала адпачываць ў Італію? // (для + ніхто)
2. З кім пазнаёмілася Ганна ў Чэхіі? // (ніхто)
3. Пра што расказваў Алесь пасля сваёй камандзіроўкі? // (пра + нішто)
4. З кім раіцца Вера, калі набывае новае адзенне? // (для + ніхто)
5. Пра каго ўвесь вечар думала Наталля Іванаўна? // (з + ніхто)
6. З кім пабачыўся Алесь каля рэстарана «Камяніца»? // (ніхто)
7. Пра што яны гаварылі ў той вечар? // (нішто)
8. Па кім яна моцна сумавала ў Маскве? // (ніхто)
9. Для каго яна набыла новыя рэчы і парфуму? // (ніхто)
10. З чым яна вярталася з паездкі ў Егіпет? // (нішто)

! Адмоўным займеннікам рускай мовы **некого**, **нечего** ў беларускай мове адпавядаюць спецыфічныя канструкцыі:

| | |
|---|---|
| **некого, нечего** любить, показать (цяперашні час) | ня́ма каго / чаго любі́ць, паказа́ць (***ня́ма*** + адносны займеннік *хто / што* ў адпаведным склоне) |
| **некого, нечего** было любить, показать (прошлы час) | не было каго / чаго любі́ць, паказа́ць (***не было*** + адносны займеннік *хто / што* ў адпаведным склоне) |
| **некого, нечего** будет любить, показать (будучы час) | не бу́дзе каго / чаго любі́ць, паказа́ць (***не бу́дзе*** + адносны займеннік *хто / што* ў адпаведным склоне) |

**Практыкаванне 31. Перакладзіце сказы на беларускую мову, выкарыстоўваючы неабходныя канструкцыі, што адпавядаюць рускім *некого*, *нечего*.**

1. Мне не с кем сходить в ресторан.
2. Моя сестра ни от кого не получила подарков.
3. Мне не с кем поговорить об этой ситуации.
4. Моему другу не с кем посоветоваться.
5. Алексею не с чем было поехать в гости.
6. Анне нечего будет вспомнить.
7. Ольге нечего жалеть.
8. Степану нечего было терять.
9. Анне нечего будет получать.
10. Ирине некого навестить в этом городе.
11. Мне не к кому обратиться за помощью.
12. Мне нечего взять с собой.

**Практыкаванне 32. Праслухайце ўважліва сказы, знайдзіце памылкі ва ўжыванні займеннікаў.**

1. – Ці схадзіў ты, Алесь, учора ў тэатр?
   – Некага было запрасіць, а адзін не пайшоў.

2. Я з сумам паглядзеў на сваю кніжную паліцу: новага нічога няма – чытаць нечага!

3. Па размеркаванні я паехаў у глухую палескую вёсачку, дзе не з кім было словам перакінуцца.

4. Я патраціў учора на аўтарынку ўсе грошы, а сёння не з чым пайсці ў магазін.

5. – Пішуць, што дзяцей нараджаецца ўсё менш і менш…
   – Так, хутка некага будзе вучыць.

6. Мае сябры ўсе паехалі працаваць у Амерыку, і мне не з кім было сёлета бавіць лета.

7. Раніцай я зазірнуў у халадзільнік і зразумеў, што нечага ўзяць з сабой на працу.

## Адмоўныя прыслоўі
## *ніколі, нідзé, нікýды, ніадкýль, нікольki, ніяк*

Утвараюцца ад пытальных прыслоўяў пры дапамозе часціцы ***ні.***

| калí – ніколі | адку́ль – ніадку́ль |
|---|---|
| дзе – нідзé | колькі – нiколькі |
| куды – ніку́ды | як – нія́к |

! Звярніце ўвагу: **калí – нікóлі; куды́ – ніку́ды**.

! У сказах з адмоўнымі прыслоўямі выкарыстоўваецца двайное адмаўленне: *У яго* ***ніколі не*** *было сваёй кватэры.*

**Практыкаванне 33. Утварыце выказванні з адмоўнымі прыслоўямі.**

***Узор***: Ала (калі) не была ў Маскве.
Ала ***ніколі не*** была ў Маскве.

1. Алеся (калі) не мела сваёй дачы.
2. Я (як) не магу дапісаць гэты рукапіс.
3. Ганна (калі) не вывучала беларускую мову.
4. Яна (калі) не карысталася гліняным посудам.
5. Стас (куды) не ездзіў адпачываць гэтым летам.
6. Наталля (колькі) не хвалявалася перад канферэнцыяй.
7. Пятро (як) не мог купіць білет на самалёт.
8. Яны (колькі) не шкадавалі пра сваё знаёмства.
9. Мы (як) не можам сабраць грошы на новую кватэру.
10. Апошнія тры дні ён (куды) не выходзіў з дому.

**Практыкаванне 34. Прачытайце тэкст. Перакладзіце на рускую мову выдзеленыя словы і словазлучэнні, ахарактарызуйце іх граматычныя адрозненні ў беларускай і рускай мовах. Знайдзіце ў тэксце беларуска-рускі міжмоўны амонім.**

## СІМВАЛІЧНЫ СЕЛЯДЗЕЦ

Своеасаблівым сімвалам беларускага яўрэйскага мястэчка ўвайшоў ***селядзец*** і ў гісторыю сусветнага мастацтва, увекавечаны Хаімам Суціным са Смалявічаў і асабліва Маркам Шагалам, сынам беднага разносчыка селядцоў з Віцебска. Селядцы літаральна рассыпаныя ***па Шагалавых творах***. Яны не толькі ***напамінаюць пра*** нішчымнае правінцыйнае дзяцінства, але і вельмі часта ***сімвалізуюць*** няўмольны час, які выслізгвае з рук, як селядзец.

Развітваючыся з родным Віцебскам, Шагал напісаў у дзённіку: «Бывай, Віцебск! Заставайцеся са сваімі селядцамі, землякі!». Але дарэшты развітацца з мінулым так і не ўдалося. Здаецца, і Шагала, і Суціна ўсё жыццё пераследавалі селядцовыя кашмары…

Калі вы ў чарговы раз будзеце ***есці*** звычайнага селядца, прыгадайце, што гэта тасама своеасаблівы сімвал беларускай гісторыі.

(*Алесь Белы*)

## Адмоўныя безасабовыя сказы

| Сродкі выражэння | Прыклады |
|---|---|
| 1. Адмоўнае слова няма (не было) + Р. скл. назоўніка | З адкладу няма ладу.<br>У мяне няма (не было) аргументаў спрачацца. |
| 2. Адмоўнае слова няма (не было) + склонавая форма займенніка хто, што + інфінітыў | Няма з кім параіцца.<br>Не было з каго пасмяяцца.<br>Няма каму паскардзіцца.<br>Не было аб кім клапаціцца. |
| 3. Адмоўнае слова няма (не было) + прыслоўі калі, дзе, куды, як + інфінітыў | Няма дзе схавацца ад горкіх думак.<br>Не было калі забегчы да цябе. |

**Практыкаванне 35. Перакладзіце сказы.**

**а) На рускую мову:**

1. Не было як паспець на цягнік.
2. У цябе няма прычын мне адмовіць.
3. Няма калі наведаць бацькоў.
4. Не было куды пайсці ў нядзелю.
5. На гэта ў мяне не было чаго сказаць.

**б) На беларускую мову:**

1. Не у кого одолжить денег.
2. Совсем негде перекусить.
3. Не к кому напроситься в гости.
4. Некому пожаловаться на свои несчастья.
5. Не с кем посоветоваться.

### 🎧 Практыкаванне 36. Мастацкія тэксты для чытання і аўдзіравання.

## ЕЖА ЛЮДЗЕЙ І БАГОЎ

Так балявалі беларусы ў XIX стагоддзі
(Паводле парадыйных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»)

## БАНКЕТ У ДЫДОНЫ

[Эней, траянскі царэвіч, сын Прыяма, пасля падзення Троі ўцякае са сваёй дружынай на караблі, вандруе па Міжземным моры і трапляе ў Карпагень (Карфаген), дзе ўладарыць царыца Дыдона.
Гаспадыня ладзіць грандыёзны банкет у гонар дарагога госця, да якога мае сардэчную прыхільнасць.
У парадыйным творы паказаны норавы, звычаі, быт, адзенне і ежа беларускага сялянства і шляхты.]

Ўзышлі ў святліцу, пераксціліс,
Эней і «Вотча» прачытаў.
За стол ўсе порадам садзіліс,
Мялянік на стале ляжаў.
Дыдона варыва ўлівала,
Шматкамі мяса ў місы клала
І забяляла малаком.
Трупаціла яна крупеню,
Яечню, руднік, жур, смажэню,
Каму пячэнню з часнаком;
Былі й салодкія пацешкі:
Вяземскі пернікі, арэшкі,
Мязгі й мязюму рашаты.
Дуда вярлюем тут равела,
Сапелка гусыняй шыпела,
Скрыпелі скрыпкі, як каткі...

Вошли в светлицу, покрестились,
Эней и «Отче» прочитал.
За стол в порядке все садились,
Пирог на том столе лежал.
Дидона борщ всем наливала,

Кусками мясо в миски клала
И забелила молоком.
Распределяла всем жаренья,
Кому – кисель, кому – варенья,
Кому печенье с чесноком;
Там были сладкие утехи:
Медовы пряники, орехи,
Снетков, изюму решета.
Медведем дудка там ревела,
Сопелка гусыней шипела,
Скрипела скрипка под смычком...

(*Пераклад з беларускай К. Цітова*)

**Вікенцій Равінскі** (1786–1853) – беларускі пісьменнік, магчымы аўтар паэмы-бурлескі «Энеіда навыварат» («Энеида наизнанку»), пародыі на твор Вергілія.

## ТЛУМАЧЭННЕ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКІХ СЛОЎ

**Мяля́нік** – пірог
**Рудні́к** – кісель
**Жур** – аўсяны кісель
**Мязю́м** – ізюм, разынкі
**Вярлю́й** – мядзведзь

- **Параўнайце арыгінал і пераклад.**

### БАЛЬ НА ПАРНАСЕ

[Палясоўшчык Тарас трапляе на Парнас – гару, якую ў старажытнай Грэцыі лічылі домам Апалона, муз, мастакоў, літаратараў. Але ён сустракае на гэтай гары ўсіх алімпійскіх багоў, якія весяляцца, ядуць і п’юць, як беларускія сяляне.]

Вось затраслася ўся гара:
Зевес на печы зварухнуўся,
Зяўнуў і дужа пацягнуўся
Ды кажа: «Есці ўжо пара!»
Тады праворна дзеўка Геба
Гарэлкі ў чаркі наліла
І, як жарон, букатку хлеба
Прынёсшы, – бразь! – сярод стала!

Яна ў найміткі ў неба ўзята,
Каб есць варыць і плацці мыць.
Нябось, не дарам яе плата –
Ці ж лёгка столькіх накарміць?!
Во, з усяго сабраліс неба!
Як тараканы каля хлеба,
Багі паселі ўкруг стала,
І стравы смачны з печы Геба
Насіць да столу пачала.
Наперш дала яна капусту,
Тады са скваркамі кулеш,
На малацэ крупеню густу
Дае уволю, толькі еж.
І з пастаялкай жур сцюдзёны,
А з кашы сала аж цякло,
Ды і гусяціны смажонай
Уволю ўсім багам было.
Як унясла ж на стол каўбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж слінкі пацяклі ў Тараса
І забурчала ў жываце.
Багі гарэлку піць пачалі,
З насадкі ў чаркі так і льюць!
Падпіўшы, песні заспявалі,
Ну, як у рандзе, ўсе пяюць...




«**Тарас на Парнасе**» – сатырычная паэма, шэдэўр беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Аўтарам лічыцца Канстанцін Вераніцын (1834–1904).

## АДСТУПЛЕННЕ ПЯТАЕ – КУЛІНАРНАЕ

Так частавалі гасцей у другой палове XX стагоддзя
(Паводле рамана ў вершах Ніла Гілевіча «Родныя дзеці»)

Што наша закусь у пашане
У знатакоў застольных страў –
Аб гэтым хораша ў Варшаве
Адзін наш сябра напісаў.

Цытую сцісла па газеце:
«Як журналіст і дыпламат
Я пабадзяўся шмат па свеце
І ўсякіх кухань знаю шмат.

Але якую б вы закуску
Мне ні даўмеліся назваць –
За «парася па-беларуску»
Аддам любую без разваг!

О, млечны дзюдзік на талерцы!
Цалком засмажаны ў духу!
Ягоны вобраз будзе ў сэрцы,
Пакуль не стлею на труху!

О, як ляжыць ён маляўніча
На падагнутых капытках,
Задзёршы ўгору пекны лычык
З пахучай траўкай у зубах!

Як той анёлачак – румяны,
Са скуркай крухкаю, ядкой,
І грэцкай кашаю напханы –
Не абы-як – абы-якой!

У кашы – яблычак мядовы
Ці ўпрэлы пахкі баравік!
Самлець нядоўга там, панове,
Калі к раскошы не прывык!

Я на прыёмах, у застоллях,
Прызнацца вам, і састарэў, –
А для душы сваёй раздолля
Нідзе такога не сустрэў.

Калі б я мог, то ў школах нашых –
Каб падхапіла Польшча ўся –
Прадмет увёў бы: «Як засмажыць
Па-беларуску парася!..»

Што ж, знаць прыемна і не лішне,
Чым слаўны ў свеце родны край.
Ды ты, зямляча, не за іншым,
А за сабой паназірай.

Вось ты ў гасцях – і нават слоўца
Табе сказаць няма калі:
Вяндлінку з водарам ядлоўца
Мяцеш – зараз па два скрылі!

А побач – зірк! – як цуд, як казка –
З каляндрай, з перцам, з часнаком –
Ляжыць вясковая каўбаска,
Таксама ўвітая дымком!

К таму ж падсохла на гарышчы –
Дык толькі плеўка шапаціць!
Умэнт кальцо з паўметра знішчыў –
Адно раз'ятрыў апетыт!

Калі ж дапаў да вантрабянкі –
Цягаць стамілася рука!
Глядзіш – а ўжо кіндзюк крывянкі
На блюда выклалі з гаршка!

О, гэны зверху і сысподу
Наскрозь усмажаны каўбух!
За чатырох змалоў – уходаў!
(Хоць сам ты лічыш, што за двух.)

Паспеў адчуць, што ўжо не слабка
І ў паясніцы, – а на стол
Тым часам едзе ў місе бабка
І парай дыхае пад столь:

З бакоў запечаная ў меру,
У бульбе скварачкі тырчаць… –
І так жа ўслед пайшла на змену –
Хоць замычы – каб не маўчаць!

«Усё! – сказаў. – На гэтым дзякуй!»
А на абрус – нясуць бліны
І к ім – мачанку-верашчаку
З наборам рэбрачак свіных!

Хвіліну выстагнаў ты моўчкі:
«Дзе месца ўзяць? Патоўпіць дзе?»
І неўпрыкмет на два-тры вочкі
Паслабіў пас на жываце…

Ужо не здыхацца! Падпёрла –
Няйначай крушня камянёў!...
А перад носам… ставяць цёрла
Гарачых, тлустых калдуноў!

Калдун!.. Духмяны, самавіты,
У масле ўсмяглы, а паўзверх –
Смятанкай свежаю паліты!
Ну, што? Ізноў глядзіш як звер?

І адчуваеш, адчуваеш:
Няхай хоць згэтуль у труну –
А не зганьбуеш, не стрываеш –
Дасі прытул і калдуну!

Дасі!.. І добра зробіш, браце!
І не ўпікай дарма сябе!
Ты за ядой – як і на працы:
На малацьбе ці на касьбе!

Калі на свеце нехта дзесьці
Умее добра працаваць, –
То ўмее ён і смачна з’есці
І – адпаведна – згатаваць!

Таму – дастойна, без эфекту
Прымай падзяку-пахвалу –
І беларускаму палетку,
І беларускаму сталу!

І цмокні ў ручку гаспадыні,
Каб сонцам пырснула яна,
І ўскінь яшчэ – а то астыне! –
Ускінь на сэрца … калдуна!..

**Ніл Гілевіч** (нар. 1931) – беларускі паэт, літаратуразнаўца, фальклярыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі. Аўтар адзінага ў беларускай літаратуры рамана ў вершах «Родныя дзеці». («Родные дети», 1985), у якім створана панарама жыцця Беларусі другой паловы ХХ стагоддзя.

# МОДУЛЬ 6

## ДОМ. КВАТЭРА

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы І і ІІ спражэння на *-е-(ць), -э-(ць)***
  - **Мадальны дзеяслоў *хацець***
  - **Утварэнне форм загаднага ладу (імператыву) дзеяслова**
  - **Родны склон назоўнікаў, прыметнікаяў, асабовых займеннікаў, прыналежных займеннікаў**
  - **Выражэнне аб'ектных адносін**
  - **Сінтаксічныя канструкцыі з інфінітывамі *чуваць, відаць***
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Будава́ць** – строить
**Буды́нак** – здание
**Выгоды** – удобства
**Гадзі́ннік** – часы
**Га́нак** – крыльцо
**Гары́шча** – чердак
**Гасцёўня** – гостиная
**Дах** – крыша
**Дахоўка** – черепица
**Дзве́ры** – дверь
**Добраўпара́дкаваны** – благоустроенный
**Драўля́ны** – деревянный
**Дрэ́ва** – дерево
**Дыва́н** – ковер
**За́ла** – зал
**Зру́чны** – удобный
**Інтэрна́т** – общежитие
**Калідор** – коридор
**Кана́па** – диван
**Кватэ́ра** – квартира
**Кватара́нт** – квартирант
**Кватэ́рная пла́та** – квартплата

**Коўдра** – одеяло
**Крэ́сла** – стул
**Ла́зня** – баня
**Ле́свіца** – лестница
**Ложак** – кровать
**Люстэ́рка** – зеркало
**Паве́рх** – этаж
**Падлога** – пол
**Пакой** – комната
**Парэ́нчы** – перила
**Пісьмовы стол** – письменный стол
**Побач** – рядом
**Прыбіра́льня** (**туале́т**) – туалет
**Прысту́пкі** – ступени
**Столь** – потолок
**Сцяна́** – стена
**Ула́зіны, уваходзіны** – новоселье
**Ула́сны, ула́сная кватэ́ра** – собственный, собственная квартира
**Фатэ́ль** – кресло
**Фіра́нкі** – занавески
**Цагля́ны** – кирпичный
**Цэ́гла** – кирпич
**Ша́фа** – шкаф
**Шпале́ры** – обои
**Шы́ба** – рама

### Практыкаванне 1. Праслухайце дыялогі.

***

– Ты ўжо даўно жывеш у інтэрнаце?
– Так. З мінулага года.
– А якія тут умовы?
– У цэлым нядрэнныя. Студэнцкі гарадок размешчаны зручна. Побач стадыён.
– Ці ўсе выгоды побач з пакоем?
– У інтэрнаце блочная сістэма. У блоку два пакоі, душавы пакой і прыбіральня.
– Гэта вельмі зручна.
– Я чула, ты будуеш новую кватэру?

– Так. Старая ўжо замалая для нашай сям'і. Ты ж ведаеш, у нас нарадзіліся двайняты. Час мець уласную кватэру, а не жыць з бацькамі.

– Ці далёка ад цэнтра?

– Далекавата, у "Лошыцы", але там добра ходзіць транспарт.

– Які паверх?

– Чацвёрты.

– Колькі пакояў?

– У прынцыпе, тры, але там вольная планіроўка.

– Ці хутка зладзіш улазіны?

– Хачу хутка, але будаўніцтва толькі пачалося.



***

– Калі ласка, праходзьце. Паглядзіце, як мы жывём.

– З задавальненнем. Колькі метраў ваша кватэра?

– Сто дваццаць агульная плошча і дзевяноста жылая.

– Я бачу, у вас вельмі вялікая зала. Прыгожыя шпалеры. Чаму яна пустая?

– Мы толькі замовілі новую мэблю, а старую не сталі ставіць, каб потым не выносіць.

– А што вы плануеце тут паставіць?

– Злева каля сцяны – шафа для посуду, камода. На камодзе тэлевізар. Насупраць канапа і фатэлі. Пасярэдзіне абедзенны стол і шэсць крэслаў.

– Ці будзе дыван?

– Мы не плануем. Нам вельмі падабаецца наша драўляная падлога. У дыване збіраецца столькі пылу, у мужа на яго алергія.

- **Прачытайце дыялогі па ролях.**

**Практыкаванне 2. З лексіка-тэматычнага мінімуму выпішыце словы, якія характарызуюць:**

а) будынак;
б) кватэру;
в) мэблю.

**Дапоўніце групы вядомымі вам словамі.**

**Практыкаванне 3. З дадзеных слоў утварыце словазлучэнні.**

| | |
|---|---|
| будынак | драўляны |
| зала | высокі |
| ложак | шырокі |
| люстэрка | стары |
| коўдра | прыгожы |
| столь | вялікі |
| лесвіца | цагляны |
| падлога | мяккі |
| дыван | круты |

**Практыкаванне 4. Даведайцеся ў вашага сябра, у якіх умовах ён жыве. Пры складанні дыялога карыстайцеся словамі для даведкі.**

***Словы для даведкі***: студэнцкі гарадок; чытальная зала; інтэрнат; у пакоі ціха; зручна (нязручна); прыватная кватэра; здымаць кватэру; паверх.

**Практыкаванне 5. Растлумачце, калі ўжываецца слова *нязручна*, а калі – слова *няёмка*.**

***Падказка***: Мэбля размешчана вельмі нязручна.
Мне няёмка задаваць табе такое пытанне.

**Практыкаванне 6. Перакладзіце на беларускую мову.**

1. Ехать автобусом было неудобно, друзья поехали на метро.
2. В купе было неудобно спать.

3. Спрашивать о деньгах было неудобно.
4. Мне неудобно вас беспокоить.

**Практыкаванне 7. Апішыце будынак.**



**Практыкаванне 8. Слухайце і чытайце тэкст. Замест кропак устаўце патрэбныя словы. Выкарыстоўвайце даведачны матэрыял, словы стаўце ў патрэбнай форме (словы могуць паўтарацца).**

Беларусь – прыгожы край, але, на жаль, з кожным годам застаецца ўсё менш сапраўднага беларускага. У нашых дамах шмат рэчаў з ... і ... ў стылі мадэрн і авангард. Але ўсё ж для сапраўдных рамантычных патрыётаў яшчэ застаюцца невялікія куткі сапраўднай Беларусі. Адзін з іх – «Васілёва сядзіба».

Гаспадары аграсядзібы Алена Сцяпанаўна і яе муж Васіль Іванавіч да пенсіі працавалі ў магазіне. Сёння ў іх іншы клопат – сустракаць, частаваць, прывячаць гасцей у доме, дзе створана ўсё для адпачынку ці забаў тых, хто спяшаецца на вясковыя блінцы.

«Васілёва сядзіба» – гэта новы ўзровень адпачынку ў вёсцы. Чатыры ... на дваіх з усімі ... зробяць незабыўным ваш адпачынак на прыродзе. Міні-атэль вытрыманы ў дызайнерскім вясковым стылі – гэта ... ручной

работы, ... беларускіх мастакоў, ... у разной раме, даматканыя ... вязаныя ... ... У вялікай зале мяккая ... з … насупраць ... стол, накрыты ... Госці могуць гатаваць самі, ёсць прасторная ... з ... і розным ...

У нумарах ёсць усе ... пачынаючы ад добрай сучаснай ... і заканчваючы спадарожнікавым … У кожным ... маецца вялікае ... з балконнымі ... праз якія трапляеш у свой маленькі дворык з альтанкай і мангалам.

Усе ... здаюцца як разам, так і асобна на 6, 12, 24 гадзіны, а таксама на некалькі сутак. Калі вы вырашылі застацца на суткі, то ў кошт уваходзіць ... з традыцыйных беларускіх дамашніх ... Таксама на тэрыторыі сядзібы ёсць двухпавярховая ... на дровах. Першы ... – гэта парылка, другі – ... адпачынку. За дадатковую плату ў лазні збяруць на стол закускі. Пачастуюць свежым мёдам, дамашнімі ... ... ... ... з бочкі, квашанай ... ... ... сокам.



– Улетку адной сям'і з Мінска з маленькімі дзецьмі так спадабаўся наш дом, што аж да восені пражылі тут, – расказвае Алена Сцяпанаўна. – Перад тым, як прыехаць у аграсядзібу, пацікавіліся, якія ... ёсць у доме. А я ім расказваю, што ўсё, як і ў горадзе: ... ... ... Можна купіць, свежанькіх ... ... прама з градкі, пакаштаваць ... ... Можна пакупацца на возеры, у лесе ... ... назбіраць.

***Даведачны матэрыял***: пластык, шкло, нумар, выгоды, мэбля, карціна, люстэрка, дыван, сурвэтка, абрус, канапа, камін, крэсла, кухня, халадзільнік, посуд, сантэхніка, тэлебачанне, акно, дзверы, сняданак,

страва, лазня, паверх, пакой, каўбаскі, вяндліна, грыбы, гуркі, капуста, яблычны, бярозавы, гарачая вада, душ, прыбіральня, памідоры, клубніцы, парэчкі, чарніцы.

**Практыкаванне 9. Звярніце ўвагу, як розным дзеясловам у беларускай мове адпавядае адзін дзеяслоў у рускай.**

| Беларуская мова | Руская мова |
|---|---|
| Адчыніць дзверы<br>Зачыніць дзверы | Открыть дверь<br>Закрыть дверь |
| Адкрыць закон | Открыть закон |
| Разгарнуць кнігу<br>Загарнуць кнігу | Раскрыть книгу<br>Закрыть книгу |
| Расплюшчыць вочы<br>Заплюшчыць вочы | Раскрыть глаза<br>Закрыть глаза |

**Замест кропак устаўце патрэбны дзеяслоў.**

1. Моцны вецер ... маленькае акно.
2. Асцярожна, дзверы ... .
3. Вучоныя хочуць ... таямніцы Чырвонай планеты.
4. Мая шафа не ... на замок.
5. Вучань ... кнігу на дваццатай старонцы.
6. Я ... вочы і ўбачыў блакітнае неба.
7. Студэнты ... канспекты.
8. Я вельмі хацеў спаць, мае вочы самі ... .

**Практыкаванне 10. Праслухайце тэкст.**

## ТАЯМНІЦЫ БЕЛАРУСКАГА ДОМУ

– Вось нехта гаварыў пра таямніцу Беларускага Дому, – казала Аня Алесю. – Дык пакажы мне, што такое сапраўдны беларускі дом!

Алесь тлумачыў, што Беларускі Дом – гэта ідэя. Некалі вялікі Францыск Скарына вучыў, што Дом – гэта Радзіма.

– Ты мне пакажы не ідэю, – настойвала Аня. – Ты мне пакажы сапраўдны беларускі дом.

«Што рабіць? – думаў Алесь. – Куды запрасіць маскоўскую госцю?»

Ён жыве ў аднапакаёвай кватэры ў панэльным будынку. Пісьмовы стол, камп'ютар, тэлевізар, настольная лямпа, шафа з кнігамі. Ложак, засланы ваўнянай коўдрай.

Які ж гэта дом? Гэта проста жытло халасцяка.

Няхай Аня пабачыць іншы беларускі дом.

Алесь нядаўна набыў аўтамабіль. І вось яны з Аняй імчаць па гладкай шашы. Выехалі на самым ранку, каб абярнуцца за дзень. Едуць у палескую вёску Боркі, дзе жывуць яго мама, тата і брат з сям'ёй.

Вуліца шырокая, як у горадзе, паабапал яе прасторныя дамы, шырокія двары. Аню здзіўляе размах пабудоў, багацце зяляніны, дрэў, кветак.

– Такія яны, нашы палескія вёскі, – з гонарам кажа Алесь.

Вось ён, братаў дом, цагляны, на два паверхі, абнесены прыгожым парканам. Дом крыты дарагой дахоўкай. Ён патанае ў маладой лістоце дрэў. На франтоне Аня заўважае «талерку» – спадарожнікавую антэну. На надворку стаіць новы братаў аўтамабіль. Ля брамы кветнік: цвітуць півоні, касачы, шыпшына, наготкі, браткі. Пахне язмін. З ганка сыходзіць брат Косцік,  адчыняе веснічкі.

– Здароў, братка! Дзень добры, ясная паненка! – вітае ён гасцей.

Паказваецца гаспадыня, прыемная бялявая маладзіца, падае руку Алесю і абдымаецца з Аняй.

– Просім да нас у хату, – запрашае яна.

Гасцей таксама сустракае сабака Жук, весела брэша і махае хвастом.

Пачынаюцца агледзіны гаспадаркі.

Кася (так завуць братаву жонку) ганарыцца сваім агародам, на якім паспелі радыска, цыбулька, салата, кроп. За гародам, колькі вока бачыць, цягнуцца шкляныя цяпліцы.

– З гэтага і жывём, – кажа Косцік. – Свежыя гурочкі, памідорчыкі, клубніцы... Бізнес.

Кася даглядае птаства, свойскую жывёлу. Якая ж яна руплівая гаспадыня, усюды паспявае!

Паважна крочаць да сажалкі качкі. Глыбакадумна балбоча філосаф індык. Певень збірае да кучы курэй.

– Які тоўсты гусь! – кажа Аня.

– Тоўстая. «Гусь» па-беларуску – жаночага роду, – тлумачыць Алесь. – А сабака – ён.

– Складана. А як жа будзе гусь-самец?

– Гусак.

– А са свіннёй няма моўнай праблемы? – пытаецца Аня, паказваючы на мамку з парсючкамі.

– Свіння і ў Афрыцы свіння.

– А чаму ў яе ў носе кольца?

– Гэта каб не корпалася ў зямлі.

– А я думала – пірсінг.

Усе смяюцца.

Госці заходзяць у хату. Пакуль Кася гатуе сняданак, Косцік паказвае дом знутры. Праводзіць у гасцёўню, спачывальню з шырокім ложкам. Паўсюль парадак, чысціня. Адчуваецца рука працавітай Касі. Па вінтавой лесвіцы падымаюцца на другі паверх. Тут пакойчыкі дзяцей.

– Дзе ж вашыя дзеткі? – пытаецца Аня.

– Пайшлі ў ягады.

Кася завіхаецца каля пліты. На патэльні сквірчыць яечня. На градцы стаяць шматлікія чыгункі, збанкі, гаршкі, талеркі, міскі, сподачкі. На цвічках вісяць апалонік, друшляк, лапаткі, дошчачкі. Вясковае, здавалася б, начынне. Але Кася мае таксама мікрахвалевую печ, камбайн, міксеры, тостар, кававарку, кавамолку і мноства іншых прылад.

Яечня так міла глядзіць на гасцей сваімі жоўтымі вочкамі, запрашаючы на сняданак! Яна аздоблена зялёнай цыбулькай, памідорчыкамі, кропам.

Алесю не церпіцца сустрэцца з бацькамі.

– Еш, – кажа Косцік. – Мама ў царкве, паспееш.

Гасцей не адпускаюць, пакуль яны не пакаштуюць усіх вясковых прысмакаў – свойскага масла, падсушанага сыру, паляндвічкі, вяндлінкі, салёных груздоў, бурштынавага мёду...

– Якія добрыя, гасцінныя людзі, – кажа Аня. – І жывуць заможна.

– Хто робіць, той і мае, – зазначае Алесь.

– Сынок! – кідаецца на шыю да Алеся мама. Ветліва вітаецца з Аняй. Употай з цікавасцю разглядае яе.

У мамінай хатцы няма тых прасторы і святла, як у братавым доме. Невысокая столь, вузенькія ваконцы. Але ўтульна, чыста. На покуці вісяць абразы. Стол па-святочнаму засланы белым абрусам. У печы цепліцца агонь. На ўслончыку грэецца кот Мурзік.

Мама ведае, што госця цікавіцца старасветчынай, і паказвае Ані рэчы, якія засталіся пасля прадзедаў. Кросны, калаўротак, верацяно.

– Няма каму прасці, няма каму ткаць, – уздыхае мама.

З каморы на свет Божы паказваюцца забытыя рэчы – бойка, дзежка, макацёр, спарыш. А вось кубелец – у ім і цяпер захоўваюць сальца.

А вось дубовы куфар, цёмны, абабіты меддзю, на ім замок, а што пад замком – таямніца.

Алесь уваходзіць у свой пакой і сядае за стол, за якім рыхтаваўся да заняткаў у школе. У шафе – старыя падручнікі і кнігі, якія Алесь чытаў у дзяцінстве. На сцяне фотаздымак – малы Алесік з кошыкам грыбоў. У кутку драўляны конь. Для каго мама трымае яго тут? Алесь больш любіў качацца вунь на тым старым зэдліку...

– У гэтым пакоі час спыніўся, – кажа Аня. – Гэта час твайго дзяцінства.

Між тым вяртаецца тата. Ён хадзіў у рыбу і прынёс вядро залацістых карасёў.

Праз нейкі час мама запрашае гасцей да стала.

– Дзякуй, мама, мы паснедалі ў Косціка, – спрабуе адмовіцца Алесь.

– Дык жа час ужо абедаць!

Ну як тут адмовішся, калі на стале дыміцца маладая бульбачка з кропам, стаяць салёныя гурочкі, у збанку сыракваша, а ў патэльні – засмажаныя ў смятане карасі?..

Алесеў прыезд стаў падзеяй нумар адзін у вёсцы. Яе абмяркоўвалі ў той жа дзень каля калодзежа вясковыя кабеты.

– Алесь дзяўчыну прывозіў. З Масквы. Чарнявую. Нішто сабе дзяўчына, толькі трохі худаватая, – кажа Цярэшчыха.

– Можа, пабяруцца? – кажа Даміцэля. – Дай-то Божа! Дачакалася б маці ўнукаў.

– Далёка шукае... – уздыхае Параска. – Няўжо сваіх дзяўчат не хапае? Вунь мая Марыля – дзяўчына прыгожая, працавітая, а як жа да Алеські горнецца!

Паміж Алесем і Аняй у гэты час была іншая гаворка.

– Я ведаю, што такое Беларускі Дом, – задуменна казала Аня падчас вяртання. – Гэта там, дзе табе добра і ўтульна, дзе цябе заўжды чакаюць. Не мае значэння, што гэта: катэдж, хатка або пакойчык у інтэрнаце.

## ШТО МОЖНА ЎБАЧЫЦЬ У ВЯСКОВЫМ БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ

**Апалонік** – вялікая драўляная лыжка для зачэрпвання ежы
**Бойка** – бандарны выраб; пасудзіна для збівання масла
**Дзе́жка** – бандарны выраб; пасудзіна для захоўвання цеста
**Збан** – гліняная пасудзіна для захоўвання масла ды іншых прадуктаў
**Зэ́длік** – *рус.* табуретка
**Кубе́лец** – бандарны выраб, у якім захоўвалася адзенне, палатно, каштоўныя рэчы, часам прадукты
**Ку́фар** – *рус.* сундук

**Макацёр** – гліняная пасудзіна, якая служыла для расцірання маку ды іншых прадуктаў
**Патэ́льня** – *рус.* сковорода
**Спары́ш** – гліняная пасудзіна з двух злучаных гаршкоў
**Услон** – невялікая пераносная лаўка

**Практыкаванне 11. Адкажыце на пытанні.**

- Што ёсць у кватэры Алеся?
- Чаму Алесь павёз Ганну ў вёску?
- Апішыце дом і гаспадарку брата Алеся.
- Якія прадметы ёсць на кухні Касі?
- Чаму хата, у якой жывуць тата і мама Алеся, нагадвае этнаграфічны музей?
- Як выглядае пакой, у якім вырас Алесь?
- У чым таямніца Беларускага Дома?

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## ГРАМАТЫКА

### Дзеясловы I і II спражэння на *-е-(ць), -э-(ць)*

### I спражэнне

Дзеясловы I спражэння захоўваюць структурны элемент ***-е (-э)*** у асабовых формах.

| **жвав-é-(ць)** | **здол-е-(ць)** | **мякч-э́-(ць)** | **саром-е-(ц)-ца** |
|---|---|---|---|
| жвав-é-ю | здол-е-ю | мякч-э́-ю | саром-е-ю-ся |
| жвав-é-еш | здол-е-еш | мякч-э́-еш | саром-е-еш-ся |
| жвав-é-е | здол-е-е | мякч-э́-е | саром-е-е-цца |
| жвав-é-ем | здол-е-ем | мякч-э́-ем | саром-е-ем-ся |
| жвав-é-еце | здол-е-еце | мякч-э́-еце | саром-е-еце-ся |
| жвав-é-юць | здол-е-юць | мякч-э́-юць | саром-е-юц-ца |

### II спражэнне

Дзесловы II спражэння змяняюцца без суфікса ***-е (-э)***.

| **Націск на аснове** | | **Націск на канчатку** | |
|---|---|---|---|
| **зглéдз-е-(ць)** | **нацярп-é-(ц)-ца** | **ляц-é-(ць)** | **загар-э́-(ць)** |
| зглé**дж**-у | нацяр**пл**-ю́-ся | ля**ч**-ý | загар-ý |

| зглéдз-іш | нацéрп-іш-ся | ляц-íш | загар-ы́ш |
|---|---|---|---|
| зглéдз-іць | нацéрп-іц-ца | ляц-íць | загар-ы́ць |
| зглéдз-ім | нацéрп-ім-ся | ляц-íм | загар-ы́м |
| зглéдз-іце | нацéрп-іце-ся | лец-іцé | загар-ыцé |
| зглéдз-яць | нацéрп-яц-ца | ляц-я́ць | загар-áць |

! У дзеясловах з асновай на мяккі зычны ў форме 1-й асобы адзіночнага ліку адбываюцца наступныя чаргаванні канцавых зычных асновы:
<**п’ ~ пл’**> шы**п**-é-(ць) – шы**пл**-ю́
<**м’ ~ мл’**> шу**м**-é-(ць) – шу**мл**-ю́
<**с’ ~ ш**> ві**с**-é-(ць) – ві**ш**-ý
<**дз’ ~ дж**> засé**дз**-е-(ц)-ца – засé**дж**-у-ся
<**ц’ ~ ч**> шама**ц**-é-(ць) – шама**ч**-ý
<**с’ц’ ~ шч**> хру**сц**-é-(ць) – хру**шч**-ý

**Практыкаванне 12. Утварыце ад асноў наступных слоў па схемах дзеясловы на *-е-(ць)*, *-э-(ць)* I спражэння. Прааналізуйце, ад слоў якіх граматычных класаў утвараюцца такія дзеясловы. Вызначце па слоўніку лексічнае значэнне ўтваральных слоў і спалучыце вытворныя дзеясловы са словамі з рамкі.**

| голас | ад нечаканасці | ад лекаў | лісце | пасля хваробы |
|---|---|---|---|---|
| сумка | ў плячах | паветра | поле | з гора |
| дрэвы | ад ласкавых слоў | | | |

***Узор***: лёгк(і) <к ~ ч> + -э-(ць) – лягчэць. Сумка лягчэе.
па- + сів(ы) + е-(ць) – пасівець. Пасівеў з гора.

1. звонк(і) <к ~ ч> + -э-(ць) – …
2. па- + мажн(ы) + -е-(ць) – …
3. за- + іней + -е-(ць) – …
4. за- + рунь + -е-(ць) – …
5. з- + нерухом(ы) + -е-(ць) – …
6. а- + прытомн(ы) + -е-(ць) – …
7. з- + жоўт(ы) <о ~ а>, <т ~ ц’> + -е-(ць) – …
8. лагодн(ы) + -е-(ць) – …
9. па- + моцн(ы) <о ~ а> + -е-(ць) – …
10. па- + свеж(ы) <э ~ а> + -э-(ць) – …

**Практыкаванне 13. Раскрыйце дужкі. Дзеясловы пастаўце ў патрэбную форму цяперашняга (будучага простага) часу.**

1. Лес у гэтай мясцовасці (радзець і святлець, I спр.).
2. Я (ненавідзець, II спр.) няшчырых людзей.
3. Напрыканцы сезону гэта сукенка (патаннець, I спр.), і тады я яе куплю.
4. Рана на калене (смылець, II спр.) і ніяк не загоіцца.
5. Карціна на сцяне ледзь (ліпець, II спр.), трэба прыладзіць зноў.
6. Дождж (імжэць, II спр.) другі дзень запар, і настрой (марнець, I спр.).
7. На дварэ ціха, толькі (рыпець, II спр.) дзіцячыя арэлькі.
8. Вы (знясілець, I спр.) ад гэтай нуднай аднастайнай працы, давайце я вам дапамагу.
9. На патэльні весела (сквірчэць, II спр.) скваркі.
10. Неба (хмурнець, I спр.), (грымець, II спр.) грымоты, (бліскацець, II спр.) маланка – набліжаецца навальніца.

## Мадальны дзеяслоў *хацéць*

| хач-**ý**; хоч-**аш**; хоч-**а**; хоч-**ам**; хоч-**аце**; хоч-**уць** |
|---|

**Практыкаванне 14. Перакладзіце з рускай мовы на беларускую.**

1. Мы хотим построить дом за городом.
2. Мои соседи хотят начать ремонт. Я хочу уехать на это время в отпуск.
3. Вы хотите купить новую мебель? Я могу порекомендовать вам опытного дизайнера.
4. Ты хочешь завести в доме цветы? Я тебе советую сначала почитать специальную литературу.
5. Мой муж хочет покрасить балкон, но мы никак не можем договориться о цвете.

## Утварэнне форм загаднага ладу (імператыву) дзеяслова

Формы загаднага ладу ўтвараюцца ад асновы 3-й асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу.

## 2-я асоба адзіночнага і множнага ліку

| **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|
| Націск | Суфікс | Прыклады | Форма адз. л. + це |
| на суфіксе | ***-ы*** | навары́(ць) → навáр-аць + ы → навар-ы́ | навары́ + це → навары́-це |
| | ***-ы*** | назвá(ць) → назав-ýць + і → назав-í | назаві́ + це → назаві́-це |
| | ***-і*** | пагадзі(ц)ца → пагóдз-яц -ца + і + ся → пагадз-í-ся | пагадзí-(ся) + це → пагадзí-це-ся |
| на аснове са збегам зычных дзеясловаў на *-і(ць), -ы(ць) і -ну(ць)* | ***-і (-ы)*** | закрэ́слі(ць) → закрэ́**сл**-яць → закрэ́сл-і | закрэ́слі + це → закрэ́слі-це |
| | | запэ́ўні(ць) → запэ́**ўн**-яць → запэ́ўн-і | запэ́ўні + це → запэ́ўні-це |
| | | сохну(ць) → со**хн**-уць → сохн-і | сохні + це → сохні-це |
| на аснове | ***-Ø*** | налáдзі(ць) → налáдз-яць → налáдзь | налáдзь + це → налáдзь-це |
| | | запытá(ць) → запытá [й-у] ць → запытáй | запытáй + це → запытáй-це |
| | | намáза(ць) → намáж-уць → намáж | намáж + це → намáж-це |

! Не па правіле ўтвараюцца формы загаднага ладу наступных дзеясловаў: *éсці → éш → éшце; піць → пі → піце, біць → бі → біце, ліць → лі → ліце; віць → ві → віце; даць → дай → дáйце*

**Практыкаванне 15. Пастаўце дзеясловы ў форму 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу.**

1. (Адчыніць), калі ласка, акно, няма чым дыхаць, такая спёка!
2. Мы ідзём у суботу на вячэру да Юрася, (далучацца) да нас.
3. Не (марнаваць) час, гэту працу можна зрабіць аўтаматычна.
4. (Класціся) ужо спаць, у цябе заўтра адказны дзень.
5. (Пазычыць) мне грошай, калі ласка, вельмі хачу патрапіць на канцэрт.
6. Ніколі не (квапіцца) на чужое!
7. Не (надакучваць) сваімі роспытамі, я сам яшчэ мала што ведаю пра гэта.

8. (Направіць) памылкі ў працы, і можна будзе здаваць артыкул у друк.
9. Не (сумаваць), хутка ўбачымся.
10. (Нагадаць), а якой гадзіне мы сустракаемся ў пятніцу.

**Практыкаванне 16. Выберыце патрэбныя імператывы.**

1. Ніколі не (спазніся – спазняйся) на працу.
2. Хоць раз на тыдзень (наведай – наведвай) бабулю, ёй будзе вельмі прыемна.
3. (Паведамі – паведамляй) сёння сваім сябрам, у колькі мы будзем чакаць іх у суботу.
4. Заўсёды (засцеражыся – засцерагайся) ад злодзеяў.
5. (Скажы – гавары) яму пра гэта заўтра, сёння ён вельмі стомлены.
6. Заўсёды (скажы – гавары) ёй кампліменты, калі ў яе дрэнны настрой.
7. Заўсёды (бяры – вазьмі) бутэрброды з сабой.
8. (Паменшы – памяншай) агонь, выкіпае!
9. Кожны раз, калі каго-небудзь крытыкуеш, (узваж – узважвай) свае словы, пакрыўдзіць чалавека лёгка.
10. Не (адмяні – адмяняй) свае планы, я падладжуся пад тваё.

**Практыкаванне 17. Устаўце ў дыялогі патрэбныя дзеяслоўныя формы.**

1. – (Купі – купляй) сёння на вячэру што-небудзь смачнае.
   – На жаль, я не паспею (заходзіць – зайсці) у краму.
2. – (Дай – давай) мне шклянку халоднай вады, калі ласка.
   – Нельга (піць – выпіць) негатаваную ваду з-пад крана.
3. – (Вымаві – вымаўляй) гэты гук яшчэ раз, паспрабуй.
   – Мне здаецца, у мяне ніколі не (атрымаецца – атрымліваецца).
4. – Не (наблізься – набліжайся) да мяне, ты зусім хворы.
   – Ты маеш рацыю, давядзецца (сустрэцца – сустракацца) пазней.
5. – (Папярэдзь – папярэджвай) бацькоў аб нашым прыездзе на выхадныя.
   – Ужо, я (паведаміў – паведамляў) ім учора.

**Практыкаванне 18. Дайце кароткія парады сябру ў наступных сітуацыях двума спосабамі: канструкцыямі з імператывамі і інфінітывамі.**

***Узор***: Кватэру вашага сябра залівае сусед.

**1 спосаб**. Не *панікуй*! *Выклiч* па тэлефоне супрацоўнікаў аварыйнай службы, потым *падыміся* да суседзяў. Калі ў кватэры нікога няма, *патэлефануй* дыспетчару жыллёва-камунальнай арганізацыі і *раскажы* пра здарэнне. Калі суседзі дома, ветліва і спакойна *абмяркуйце* сітуацыю і *прыміце* рашэнне аб вашых сумесных дзеяннях.

**2 спосаб**. Нельга *панікаваць*! Табе *трэба выклікаць* па тэлефоне супрацоўнікаў аварыйнай службы, потым *варта падняцца* да суседзяў. Калі ў кватэры нікога няма, *неабходна патэлефанаваць* дыспетчару жыллёва-камунальнай арганізацыі і *расказаць* пра здарэнне. Калі суседзі дома, вам *мэтазгодна* ветліва і спакойна *абмеркаваць* сітуацыю і *прыняць* рашэнне аб вашых сумесных дзеяннях.

1. Ваш сябра забыў банкаўскую картку ў банкамаце.
2. Ваш сябра робіць у кватэры рамонт.
3. Ваш сябра збіраецца ў замежнае падарожжа па краіне, дзе вы былі.
4. Ваш сябра першы раз гатуе страву, спосаб прыгатавання якой вы добра ведаеце.
5. Ваш сябра хоча завесці сабаку.

## 1-я асоба множнага ліку

| **Простая форма** | |
|---|---|
| **Канчатак** | **Прыклады** |
| ***-ем (-эм)*** пад націскам | завязём, пячом, жывём, назавём |
| супадае з формай цяперашняга (будучага) часу, калі канчатак ненаціскны або дзеяслоў на ***-і(ць), -ы(ць)*** | прыся́дзем, вяслу́ем, запомнім, бяжы́м |
| ***-ма*** (далучаецца да 2-й асобы адз. л. на -Ø) | глянь + ма → гля́ньма, віта́й + ма → віта́йма, чака́й + ма → чака́йма, кінь + ма → кі́ньма, шану́й + ма → шану́йма |
| **Складаная форма** | |
| *давай(це)* + інфінітыў незакончанага трывання | дава́й(це) пачына́ць, дава́й(це) ра́іцца |

| *давай(це)* + будучы просты час дзеяслова закончанага трывання | дава́й(це) пачнём, дава́й(це) пара́імся |
|---|---|

! Для выражэння ветлівага запрашэння да сумеснага дзеяння ўжываецца форма *хадзе́м(це)*: *хадзем у парк, хадземце на выставу*.

**Практыкаванне 19. Пастаўце дзеясловы ў простую форму 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу.**

***Узор***: (Зайсці) у кавярню, (узяць) па кубку кавы і (абмеркаваць) заўтрашнюю прэзентацыю.
*Зойдзем* у кавярню, *возьмем* па кубку кавы і *абмяркуем* / *абмяркуйма* заўтрашнюю прэзентацыю.

1. (Перакусіць) што-ніштo і (бегчы) на лекцыю.
2. Ну і спёка, (купляць) марожанае ў першай жа краме!
3. (Пачакаць) яе яшчэ троху, можа што здарылася.
4. (Лічыць) грошы і (ехаць) на таксі!
5. Не танна! (Згатаваць) сушы самі!
6. (Ісці) вячэраць, усё астыне.
7. Усё, усё астатняе ўбок, (рыхтаваць) выступленне.
8. (Адпачыць), дзень быў мітуслівы.
9. (Выключаць) тэлевізар, (класціся) спаць!
10. (Берагчы) фігуру, піроЖнае не (есці)!

**Практыкаванне 20. Працуйце ў парах. Адзін выбірае сказы, у якіх складаная форма 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу ўтвараецца з дапамогай інфінітыву, другі – з дапамогай асабовай формы будучага часу.**

1. Сябры, (заказаць) яшчэ шампанскае!
2. Шаноўнае спадарства, (пачынаць) пасяджэнне.
3. Наста, (глядзець) фільм у цішыні.
4. Дзеці, (схавацца) і (пажартуем) з таты!
5. Нас шмат, (гуляць) у кракадзіла.
6. Дзяўчаты, сёння свята, (варажыць).
7. Міхась, (ладаваць) ужо рэчы, а то спознімся.
8. Хлопцы, (паслухаць) навіны!
9. Францыска, (зачыніць) акно, скразняк.
10. Кастусь, (працаваць), часу бракуе!

## 3-я асоба адзіночнага і множнага ліку

| | | |
|---|---|---|
| **Адзіночны лік** | *хай (няха́й)* + 3-я ас. адз. л. цяперашняга (будучага простага) часу | хай (няха́й) бяжы́ць<br>хай (няха́й) назаве́ |
| **Множны лік** | *хай (няха́й)* + 3-я ас. мн. л. цяперашняга (будучага простага) часу | хай (няха́й) бягу́ць<br>хай (няха́й) назаву́ць |

**Практыкаванне 21. Працуйце ў парах па чарзе. Ваш калега пытаецца ў вас парады для свайго сябра (сваяка, калегі і пад.). Выкажыце параду, выкарыстоўваючы імператывы ў форме 3-яй асобы.**

***Узор***: Як прыгатаваць беларускую крамбамбулю?

*Хай* ваша жонка *падрыхтуе* 1 літр гарэлкі, мёд, мускатны арэх, карыцу, гваздзіку і перац. Потым *няхай налье* ў каструлю дзве шклянкі гарэлкі, столькі ж вады і дадасць здробненыя арэх, гваздзіку і карыцу. *Няхай гатуе* дзесяць хвілін. Тады *хай дальe* туды гарэлку, *дадасць* перац, мёд, *накрые* накрыўкай і *вытрымае* 10 хвілін. Потым *няхай працэдзіць* пітво, *налье* ў графін і *падасць* да стала з маленечкімі чарачкамі.

1. Як аздобіць / рацыянальна арганізаваць кухню (дзіцячы пакой, кабінет, балкон, ванную, гасцёўню, вітальню)?
2. Як змагацца з прастудай народнымі сродкамі?
3. Як зладзіць сямейнае свята (хрысціны, вяселле і пад.)?
4. Як выбраць рэч (бытавую тэхніку, веласіпед, машыну і пад.)?
5. Як падрыхтавацца да працяглай вандроўкі па гарах?

## Родны склон назоўнікаў
## (*каго? чаго? адкуль?*)

| **Адзіночны лік** | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі род** | | |
| ***-а / -я*** | – адушаўлёныя<br>– канкрэтныя (якія можна палічыць) | ву́чань – ву́чн**я**, сусе́д – сусе́д**а**<br>кама́р – камар**а́**, бабёр – бабр**а́**<br>нож – наж**а́**, ідэ́лец – відэ́льц**а**<br>стол – стал**а́**, тэлефон – тэлефон**а**<br>аловак – алоўк**а**, слоік – слоік**а** |

| | | |
|---|---|---|
| ***-у / -ю*** | – адцягненыя<br>– рэчыўныя<br>– зборныя<br>– з’явы прыроды<br>– прасторавыя<br>– апрадмечаныя дзеянні (якія нельга палічыць) | смех – сме́х**у**, сум – су́м**у**<br>пясок – пяск**у́**, квас – ква́с**у**<br>малі́ннік – малі́ннік**у**, дубня́к – дубняк**у́**<br>дождж– даждж**у́**, і́ней – і́не**ю**<br>луг – лу́г**у**, шлях – шля́х**у**<br>пад’е́зд – пад’е́зд**у**, раздзе́л – раздзе́л**у** |
| **Ніякі род** | | |
| ***-а / -я*** | | поле – пол**я**, жале́за – жале́з**а**, вядро – вядр**а́**, палатно – палатн**а́** |
| **Жаночы, мужчынскі (на -а/-я) і агульны род** | | |
| ***-ы / -і*** | | ма́ма – ма́м**ы**, печ – пе́ч**ы**, тале́рка – тале́рк**і**<br>ба́цька – ба́цьк**і**, старшыня́ – старшын**і́**<br>Шу́ра – Шу́р**ы**, кале́га – кале́г**і** |

! хле́б**а**, аўс**а́**, жаўтк**а́**;

! за́хад – за́хад**у**, усход – усход**у**, але поўдзень – поўдн**я**;

! год – год**а**, але з год**у** ў год, год ад год**у**;

! ве́чар – ве́чар**а**, але ра́нак – ра́нк**у**, абе́д – абе́д**у**.

**Практыкаванне 22. Пастаўце назоўнікі ў форму роднага склону адзіночнага ліку.**

Ложак, канапа, крэсла, коўдра, сурвэтка, абрус, шклянка, акно, сцяна, стол, падушка, тэлефон, талерка, нож, лыжка, відэлец, збанок, слоік, тарка, каструля, патэльня, сметніца, венік, швабра, вядро, фіранка, пліта, кубак, бутэлька, келіх, дыван, шафа, чайнік, лямпа, люстра, тэлевізар, магнітафон, камп’ютар, прас, фен, расчоска.

**Практыкаванне 23. Устаўце замест кропак канчаткі назоўнікаў. Пры неабходнасці звяртайцеся да слоўніка.**

Вялікага дом … , новай кватэр … , маленькага пако … , прасторнага калідор … , новага акн … , пустога вядр … , старога камп’ютар … , двухкамернага халадзільнік … , чыгуннай патэльн … , вострага наж … , сярэбранага відэльц … , маленькай лыжк … , фарфоравага кубк … , дубовага стал … , крыштальнага келіх … , новай талерк … , мабільнага тэлефон … , залатога гадзіннік ... , мяккай падушк … , пуховай коўдр ...

**Практыкаванне 24. Прачытайце ўважліва. Выберыце неабходныя канчаткі назоўнікаў. Абгрунтуйце свой выбар.**

Парыў ветр (а, у), удар гром (а, у), бутэлька квас (а, у), пах мёд (а, у), бярозавага га (я, ю), зарасці сунічнік (а, у), пасля раздзел (а, у) маёмасці, шклянка ча (я, ю), сукенка з шоўк (а, у), кусты маліннік (а, у), абрус з ільн (а, у), на краі луг (а, у), далёкага шлях (а, у), моцнага бол (я, ю), не было пад'езд (а, у) да дома, ціхага смутк (а, у), залежы торф (а, у), смачнага крупнік (а, у), жадаць поспех (а, у), дробнага дождж (а, у), шырокага стэп (а, у).

**Практыкаванне 25. Прачытайце ўважліва, устаўце прапушчаныя літары, патлумачце фразеалагізмы.**

Ківаць на Пятр…, ні кал… ні двар…, з год… ў год, не выпускаць з від…, не даваць крок… ступіць, без сучк… і задорынк…, сысці з розум…, вярнуць з таго свет…, напусціць туман…, збіць з панталык…, не з таго бок…, не ступіць крок…, не падаваць знак…, камар нос… не падточыць.

**Практыкаванне 26. Складзіце сказы з прыведзеных ніжэй слоў. Правільна выкарыстоўвайце выдзеленыя словы ў родным склоне.**

1. Павінны, чацвёртага, пісаць, студэнты, ***курса*** / ***у***, абавязкова, курсавую.
2. Тэатральнага, сябры, ***гардэроба*** / ***у***, каля, сустрэліся.
3. ***Жэньшэня*** / ***ю***, настрой, настойка, сілы, павышае, надае, і.
4. Пасля, у, здаецца, усё, ***дажджу*** / ***а***, абноўленым, прыродзе.
5. Выехалі, ***двара*** / ***у***, мы, з, пачало, сонца, з-за, калі, толькі, падымацца, ***леса*** / ***у***.
6. Ад, засвяцілася, аўдыторыя, здаецца, яго, уся, ***смеху*** / ***а***, залівістага.

## Выражэнне аб'ектных адносін

| Беларуская мова | Руская мова |
|---|---|
| Смяяцца з каго-небудзь | Смеяться **над** кем-нибудь |
| Кпіць з каго-небудзь | Подшучивать **над** кем-нибудь |
| Здзекавацца з каго-небудзь | Издеваться **над** кем-нибудь |
| Дзівіцца з чаго-небудзь / каго-небудзь | Удивляться чему-небудь / кому-нибудь |

**Практыкаванне 27. А. Прачытайце сказы. Выпішыце словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі.**

1. Не перастаю дзівіцца з прыгажосці возера Нарач.
2. Нядобра здзекавацца з малодшых.
3. Брат часта кпіў з майго выбару адзення.
4. І не думай смяяцца з мяне.
5. Такой цаной туфель прадаўцы проста здзекуюцца з нас.
6. Аляксей любіў кпіць з першакурснікаў.
7. Не бойся, я не буду з цябе смяяцца.
8. Каця сама здзівілася са свайго рашэння.

**Б. Перакладзіце на беларускую мову.**

1. Смеяться над моими промахами вошло у него в привычку.
2. Я всегда удивлялась находчивости и быстроте мысли брата.
3. Этот парень еще в детстве издевался над котами.
4. Отец любил по-доброму подшутить над сыном.

## Родны склон прыметнікаў (*якога? якой?*)

| **Адзіночны лік** | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі і ніякі род** | | |
| ***-ага*** | на цвёрдую аснову | ***якога?***<br>нов**ага** капелюшá |
| ***-ога*** | на ***г, к, х*** | шклян**ога** кéліха<br>малéньк**ага** акнá |
| ***-яга*** | на мяккую аснову | сíн**яга** алоўка |
| **Жаночы род** | | |
| ***-ай / -ае*** | на ***г, к, х*** | ***якой?***<br>вялíк**ай** / **-ае** кватэ́ры |
| ***-ой / -ое*** | на цвёрдую аснову | стар**ой** / **-ое** канáпы |
| ***-яй / -яе*** | на мяккую аснову | сíн**яй** / **-яе** сукéнкі |

**Практыкаванне 28. Надайце спалучэнням форму роднага склону, звярніце ўвагу на канчаткі прыметнікаў і назоўнікаў.**

Прасторны пакой, светлы калідор, новы дом, высокая столь, роўная сцяна, прыгожы дыван, зручнае крэсла, кніжная паліца, новая пліта, дубовая камода, маленькі балкон, настольная лямпа, учарашняя газета, драўляная лыжка, старая патэльня, ільняны абрус, белая сурвэтка, сіняя фіранка.

**Практыкаванне 29. Слухайце і чытайце тэкст. Знайдзіце несупадзенні з гуказапісам.**

## СЛОВА ПРА СЯБРА

Некалькі гадоў мы жылі па-суседску. За ***сцяной*** майго ***кабінета*** была Валодзева спальня, густоўна і шчодра напоўненая рознай даўнінай: ***разьбой, ліццём, чаканкай, шкатулкамі***. Нястомны ***падарожнік***, выдатны знаўца роднай прыроды, ён умеў акружыць сябе ўсім тым, што было люба яго сэрцу.

Аднойчы за сцяной пачуўся асцярожны, але настойлівы стук ***малатка***. У тым месцы, дзе гэты гук цэнтраваўся, пачаў вытыркацца вялікі цвік. Я пабег да настаўніка. ***Караткевіч*** збіраўся прыладзіць на сцяне старадаўняга драўлянага ***анёла***, а для гэтага трэба было ўбіць ***цвік***, прытым надзейны. Нічога не кажучы, я запрасіў яго да сябе. Перад маёй сцяной ***сусед*** застыў у недаўменні: цвік лез не вастрыём, а капялюшыкам. Разгублены, збянтэжаны, ён глядзеў на сцяну з поўнай дзіцячай ***верай*** у цуд. І гэта быў той Караткевіч, які, як часам здавалася, ведаў усё на свеце, меў тры вышэйшыя ***адукацыі***, зайздросную ***памяць***, усебаковую і грунтоўную ***начытанасць***.

І мне прыйшлося прызнацца, каб потым ужо ўдвух зарагатаць. Гадоў некалькі назад, рыхтуючы ***кватэру*** да рамонту, я выдзіраў цвікі з-пад ***карцін***, але найбольшы выцягнуць паленаваўся і, забіўшы яго на ўсю глыбіню, пакінуў у шафе. І трэба ж было, каб здарылася менавіта так: той цвік, што забіваўся пад анёла, трапіў якраз у мой падпольны, і ён, вядома ж, палез ***капялюшыкам*** наперад.

(*Паводле Я. Брыля*)

- Задайце пытанні да тэксту і адкажыце на іх.
- Раскажыце пра сваю кватэру (свой пакой).
- Што вы можаце расказаць адметнага пра кватэру (пакой) свайго суседа (сябра, сяброўкі)?
- Выпішыце выдзеленыя назоўнікі, дапасуйце да іх прыметнікі і запішыце словазлучэнні ў форме роднага склону адзіночнага ліку. Падкрэсліце канчаткі.

**Практыкаванне 30. Да назоўнікаў падбярыце адпаведныя прыметнікі (гл. даведку), запішыце ў фоме роднага склону адзіночнага ліку.**

Кватэра, відэлец, шафа, міска, кубак, стол, дыван, столь, каструля, чайнік, збанок, вядро.

***Даведка***: сярэбраны, фарфоравы, мяккі, пісьмовы, утульны, дубовы, глыбокі, электрычны, пусты, нізкі, трохлітровы, гліняны.

**Практыкаванне 31. Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі, запішыце ў форме роднага склону адзіночнага ліку.**

Яблык, ананас, мёд, кава, квас, воцат, гарбата, алей, бульба, бурак, кавун, кмен, цынамон, батон, шчаўе, агурок, салата, хлеб, цукерка, печыва.

## Родны склон асабовых займеннікаў (*каго? чаго?*)

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| я – мяне́<br>ты – цябе́<br>ён – яго<br>яна́ – яе́<br>яно – яго | мы – нас<br>вы – вас<br>яны́ – іх |

! У займенніках, што называюць 3-юю асобу, пасля прыназоўнікаў няма пратэтычнага **н-**: ***у яго, у яе, у іх***.

**Практыкаванне 32. Пастаўце асабовыя займеннікі ў форму роднага склону.**

Падышоў блізка да (ён), звярнуўся за дапамогай да (яна), пабудаваў дом для (яны), купіў кватэру для (я), прыгатаваў абед для (мы), прывёз прадукты для (вы), вельмі падобны да (яна), моцна спалохаўся (ён), заказалі мэблю для (мы), набылі новы дыван для (вы), спяклі пірог для (яны), купілі цукеркі для (яно), падбег хуценька да (яна), прыехаў у госці да (я).

## Родны склон прыналежных займеннікаў
## *мой, твой, свой, ягоны (яго), ейны (яе), наш, ваш, іхні (іх)*

| Адзіночны лік | Мужчынскі і ніякі род |
|---|---|
| ***-го / -ага***<br>***-яга*** | ***чыйго?***<br>май**го**, твай**го**, свай**го**, ягон**ага** (яго), е́йн**ага** (яе́), на́ш**ага**, ва́ш**ага**, і́хн**яга** (іх) |
| **Жаночы род** | |
| ***-ёй /-ай /***<br>***-яй*** | ***чыёй?***<br>ма**ёй**, тва**ёй**, сва**ёй**, ягон**ай** (яго), е́йн**ай** (яе́), на́ш**ай**, ва́ш**ай**, і́хн**яй** (іх) |

**Практыкаванне 33. Устаўце замест кропак прыналежны займеннік у форме роднага склону. Запішыце паводле ўзору.**

***Узор***: Ірына не мела … кватэры. // (свой)
Ірына не мела сва**ёй** кватэры.

1. У бацькі не было … машыны. // (свой)
2. Кальцавая дарога праходзіць каля … мікрараёна. // (наш)
3. У Вольгі няма … кнігі. // (мой)
4. Мы ехалі ўздоўж … рэчкі. // (ваш)
5. Аксана звярнулася да … урача. // (твой)
6. Мікола застаўся без … шакаладкі. // (свой)
7. Мы адпачывалі каля … дачы. // (ваш)
8. Яны доўга спрачаліся пасля … выступлення. // (мой)
9. Разложыстыя ліпы растуць каля … школы. // (наш)
10. Васіліна з павагай ставіцца да … бацькоў. // (свой)
11. Гэту легенду маці ведала ад … дзядулі. // (свой)
12. Ігнат сеў каля … сястры. // (твой)

## Родны склон назоўнікаў
## (*каго? чаго? адкуль?*)

| **Множны лік** | | |
|---|---|---|
| **Мужчынскі і ніякі род** | | |
| ***-аў / -яў***<br>***-оў / -ёў*** | ку́бак – ку́бк**аў**, ву́чань – ву́чн**яў**<br>збанок – збанк**оў**, вераб́ей – вераб'**ёў** | |
| **Жаночы род на -а/-я** | | |
| нулявы канчатак | | сцяна́ – сцен, сям'я́ – сяме́й, рука́ – рук<br>ні́ва – ніў, жняя́ – жней, рака́ – рэк |
| ***-аў / -яў*** | на збег зычных | лí**чб**а – лí**чб**аў, паро**мх**а – чаромх**аў**<br>ла́**зн**я – ла́зн**яў**, кавя́**рн**я – кавя́рн**яў** |
| **Жаночы род на зычны** | | |
| ***-ей***<br>***-эй/-аў*** | на мяккі<br>на зацвярдзелы | часць – часц**е́й**, гусь – гус**е́й**<br>печ – пяч**э́й**, мыш – мыш**э́й**<br>рэч – рэ́ч**аў** |

! Канчатак ***-ей***: *чалаве́к – людз**е́й**, конь – кон**ей**, дзіцё – дзяц**е́й**, госць – гасц**е́й*** і інш.

! Канчатак ***-яў*** у назоўнікаў жаночага роду: *вяршыня – вяршын**яў**, хва́ля – хва́л**яў***.

! Нулявы канчатак у назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду: *дзень – дзён, слова – слоў.*
! Канчатак ***-ай***: *грошы – грош**ай**.*

**Практыкаванне 34. Пастаўце словы, змешчаныя ў дужках, у форму роднага склону множнага ліку.**

Кошык (грыб), пачак (цукерка), мяшок (яблык), бляшанка (кансервы), шмат (яблыня), прыгожых (кветка), букет (рамонак), стрыечных (сястра), палявых (мыш), марскіх (хваля), не хапае (грошы), скрыня (агурок), шклянка (арэх), кілаграм (шампіньён), вясёлых (хлопец), маладзенькіх (дзяўчына), шчаслівых (дзень), запазычаных (слова), славянскіх (мова), доўгіх (ноч), школьных (форма), спелых (персік), высокіх (чаромха), няходжаных (сцежка), сярэбраных (медаль), залатых (пярсцёнак).

## Родны склон прыметнікаў

| Множны лік | | |
|---|---|---|
| ***-ых***<br>***-іх*** | на цвёрдую аснову<br>на мяккую аснову<br>на ***г, к, х*** | ***якіх?***<br>спе́л**ых** суні́ц, нов**ых** кніг<br>сін**іх** суке́нак, позн**іх** кве́так<br>сух**і́х** галі́н, мя́кк**іх** дываноў<br>салодк**іх** цуке́рак, доўг**іх** размоў |

**Практыкаванне 35. Дапішыце замест кропак канчаткі прыметнікаў, патлумачце іх.**

Нечакан… гасцей, ветлів… гаспадароў, смачн… страў, салодк… ігруш, спел... суніц, духмян… хлябоў, модн… рэстаранаў, шампанск… він, утульн… кавярняў, зручн… крэслаў, маленьк… шкалікаў, крыштальн… ваз, мядов… напояў, вясёл… людзей, дасціпн… жартаў, застольн… песень, урачыст… прамоў, шчыр… тостаў, сардэчн… пажаданняў, доўг… размоў.

**Практыкаванне 36. Падбярыце да назоўнікаў адпаведныя прыметнікі (гл. даведку), запішыце словазлучэнні ў форме роднага склону множнага ліку, звярніце ўвагу на канчаткі прыметнікаў.**

Ільны, лясы, вуліца, дзяўчаты, дамы,  тавары, дровы, мадэлі, азёры, цукеркі, беларусы.

***Даведка***: зялёныя, сінія, гасцінныя, высокія, шырокія, сучасныя, шакаладныя, прыгожыя, блакітныя, сухія, спартыўныя.

## Родны склон прыналежных займеннікаў
## *мой, твой, свой, ягоны (яго), е́йны (яе), наш, ваш, і́хні (іх)*

| Множны лік | |
|---|---|
| ***-іх / -ых*** | ***чыіх?***<br>ма**і́х**, тва**і́х**, сва**і́х**, ягон**ых** (яго), е́йн**ых** (яе́), на́ш**ых**, ва́ш**ых**, і́хн**іх** (іх) |

**Практыкаванне 37. Пастаўце словазлучэнні, змешчаныя ў дужках, у форму роднага склону множнага ліку.**

Звярнуцца да (твае суседзі), прыехаць да (свае сябры), купіць машыну для (свае дзеці), пайсці ў госці да (яго таварышы), запрасіць на вечарыну да (яе знаёмыя), набыць тэлевізар для (нашы дзеці), атрымаць пасылку ад (твае родныя), купіць камп'ютар для (вашы ўнукі), атрымаць ліст ад (мае аднакурснікі), прыехаць на фуршэт да (твае бацькі).

## Сінтаксічныя канструкцыі з інфінітывамі
## *чуваць, відаць*

| Тып канструкцыі | Сродкі выражэння | Прыклады |
|---|---|---|
| двухсастаўны сказ (дзейнік + выказнік) | інфінітывы *чуваць, відаць* + Н. скл. назоўніка | *Чуваць суседская размова.*<br>*На даляглядзе відаць вёска.* |
| аднасастаўны безасабовы сказ | інфінітывы *чуваць, відаць* + В. скл. назоўніка | *Чуваць суседскую размову.*<br>*На даляглядзе відаць вёску.* |

**Практыкаванне 38. Перакладзіце сказы з беларускай мовы на рускую.**

1. За ракой відаць лес.
2. З пляжа чуваць музыку.
3. З дзіцячага пакоя чуваць смех і валтузню.
4. Як заўсёды, з цукеркай! Адразу відаць заўзятага аматара салодкага.
5. У аўдыторыі чуваць шэпты і жарты.

### 🎧 Практыкаванне 39. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання

## ГАРАДСКІ ІНТЭР'ЕР

(Паводле апавядання Адама Глобуса «Вова Вова»)

У плане пакой квадратны. Вышыня сцяны роўная яе даўжыні. Акно і дзверы зачынены. У пакоі цёпла. Пахне шпалерным клеем. Падлога акуратна заслана абгортачнай паперау. На паперы, пасярэдзіне пакоя, стосам ляжаць стужкі шпалераў. Стужкі аднолькавай даўжыні. Сцены, з якіх знялі старыя шпалеры, падобныя да геаграфічных картаў, а дзіркі ад цвікоў – на абазначэнні населеных пунктаў. Аконная рама акрэслівае чатыры фрагменты мікрараённага краявіду. Аконная рама белая, як столь і дзверы. У адным з чатырох кутоў стаяць лескі, каля іх – табурэт. Калі куты пакоя злучыць па столі ўяўнымі дыяганалямі, якраз у кропку перакрыжавання ўбіты крук, на якім вісіць шкляны шараабрысны свяцільнік. Шар не гарыць. У пакоі светла. За акном дзень. На падваконні ляжаць каўпакі ад дзвюх разетак і выключальніка, адвёртка і шэсць вінтоў. Шыбы запацяваюць, зацягваюцца мутнасцю. Кубічная прастора адгароджана ад свету стандартным акном, пабеленай столлю, дашчанай падлогаю і гладкімі дзвярыма.

**Адам Глобус** (сапр. Уладзімір Адамчык; нар. 1958) – празаік, паэт, эсэіст, прадстаўнік авангардысцкай плыні сучаснай беларускай літаратуры.



# МОДУЛЬ 7

## СВЯТЫ

- **Як павіншаваць?**
- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы I спражэння на *-ну-(ць)***
  - **Дзеясловы руху *ісці – хадзіць, ехаць – ездзіць***
  - **Месны склон назо прыметнікаў**
  - **Адмоўныя безасабовыя сказы**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Ад шчырага сэ́рца** – от всего сердца
**Віншава́ць** – поздравлять
**Вялі́кдзень** – Пасха
**Вясе́лле** – свадьба
**Весялі́цца** – веселиться
**Гаспада́р / гаспады́ня** – хозяин / хозяйка
**Гасці́нны** – гостеприимный
**Гваздзі́к** – гвоздика
**Госць** – гость
**Дзень народзінаў (дзень нараджэ́ння)** – день рождения
**Жада́ць** – желать
**Жарт** – шутка
**Жартава́ць** – шутить
**Запраша́ць / запрасі́ць** – приглашать / пригласить
**Запрашэ́нне** – приглашение
**Звы́чай** – обычай
**Зы́чыць** – желать
**Імяні́ны** – именины
**Кве́ткі** – цветы
**Каля́ды** – Рождество, Святки
**Напярэ́дадні** – перед (днем), накануне
**Настрой** – настроение
**Падару́нак** – подарок
**Пажада́нне** – пожелание

**Раство / Ражаство** – Рождество
**Ру́жа** – роза
**Свя́та** – праздник
**Святкава́ць** – праздновать
**Святочны** – праздничный
**Танцава́ць** (**та́нчыць**) – танцевать
**Трады́цыя** – традиция
**Урачы́сты** – торжественный
**Шаноўны** – уважаемый
**Шчы́ры** – открытый
**Шчырава́ць** – стараться

**🎧 Практыкаванне 1. Праслухайце дыялогі .**

– Сурай, ты ўжо ў Мінску больш за год, ведаеш лепш за мяне звычаі беларусаў.

– Так, Ханмамет, магчыма, ведаю. А што цябе цікавіць?

– Нас з Надзірам запрасіла да сябе ў госці Вераніка.

– У яе нейкае свята?

– Здаецца, не. Вераніка запрасіла нас на дранікі. Яна так і сказала: "Запрашаю вас з Надзірам у нядзелю да нас на дранікі". А я не ведаю, з чым трэба прыходзіць "на дранікі".

– Найлепш будзе, калі вы прынесяце кветкі. Ёй будзе прыемна. Акрамя таго, гэта звычай. У беларусаў не прынята прыходзіць у госці з пустымі рукамі. Нават калі вас запрасілі не на дзень нараджэння ці вяселле, а проста на гарбату ці "дранікі".

– Дзякуй за параду. А можа, прынесці цукеркі? Вераніка іх вельмі любіць.

– Можна і цукеркі. Але абавязкова пахваліце стравы, якімі вас будуць частаваць.

***

– Алеся, дапамажы мне. Мне здаецца, я штосьці зрабіла няправільна.

– Калі ласка, Джасцін. Я да тваіх паслуг.

– Учора я хадзіла ў госці да Насты. Зайшла ў краму і папрасіла чатыры ружы. Прадаўшчыца спытала па-англійску: «Decorate?» Я адказала: «Yes, decorate». Прадаўшчыца ўзяла чорную стужку і завязала ёю ружы. Мне падалося гэта дзіўным, але я падумала, што беларусы так упрыгожваюць букеты. Наста ўзяла ў мяне кветкі, але вельмі дзіўна паглядзела на мяне. Што я зрабіла не так?

– О, Джасцін! У нас не дорaць цотную колькасць кветак жывым людзям. Прадаўшчыца завязала чорную стужку, бо ты папрасіла чатыры ружы. Да Насты ты прыйшла як на пахаванне.

– Божа мой! Які жах! Як няёмка! Але ў нас у Амерыцы заўсёды дораць дзве, чатыры ці шэсць кветак. Трэба папрасіць прабачэння ў Насты.

***

– Ліда, паслухай, у якую непрыемную сітуацыю мы з мужам патрапілі. Нас запрасіў у госці яго кампаньён з Ірана. Мы купілі кветкі, цукеркі і добрае французскае віно.

– Здаецца, усё нармальна.

– Я таксама так думала. Але ты памыляешся. Калі муж дарыў віно, спадар Шахрыяр проста маўчаў, але калі муж працягнуў кветкі і сказаў: «Гэта вашай жонцы», то пачуў: «Каторай?». Я працягнула цукеркі і хутка сказала: «Гэта вашым дзецям».

– Так. Вельмі няёмка. Трэба ведаць чужыя звычаі.

**Прачытайце дыялогі па ролях.**

**Раскажыце, як прынята хадзіць у госці ў вас на радзіме.**



**Практыкаванне 2. Прачытайце пажаданні. Адкажыце, у якой сітуацыі іх можна ўжыць і каму адрасаваць.**

1. Поспехаў у працы і асабістым жыцці!
2. З найлепшымі пажаданнямі!
3. Творчых поспехаў вам!

4. Будзьце здаровыя ды шчаслівыя!
5. Хай вам шчасціць!
6. Хай збудзецца, на што спадзяецца!
7. Шчаслівых дваццатых угодкаў!
8. Каб табе лёс не здрадзіў!
9. Каб доўгія гады жыў, здаровы быў ды пра бацькоў не забываўся!
10. Будзьце здаровы, жывіце багата!
11. Каб пілося, елася і больш хацелася!

## Як павіншаваць?

Са святам!
Віншую Вас з юбілеем!
З днём народзінаў!

З Калядамі!
Віншую з Днём настаўніка!

Дзякуй!
Вялікі дзякуй!
Вялікі дзякуй Вам (табе) за віншаванне!

І Вас (цябе) таксама!

**Практыкаванне 3. Дапішыце віншавальныя паштоўкі.**




Паважаны ... !
Віншую Вас з ...!
Жадаю ... !

Дарагая ...!
Віншую з ...!
Зычу ...!

**Практыкаванне 4. Як вы думаеце, што такое свята?**

Італьянцы гавораць, што свята – гэта цырк. Вы згодныя з гэтым? Якая ваша думка? Што для вас свята?



**Для мяне свята – гэта ...**

Падарожжа
Святочны стол
Паездка ў госці
Выхадны дзень
Святочны салют
Падарункі
Кветкі
Многа клопату

**Практыкаванне 5. Каму з гэтых людзей вы пажадаеце *поспехаў у працы, прыемнага адпачынку, здароўя і шчасця, сто гадоў жыцця, вялікага кахання, удачы ва ўсіх справах?***

Кастусь і Марына нядаўна пажаніліся.
Алена скончыла ўніверсітэт і пачынае працаваць у школе.
Аляксею Васільевічу сёння 50 гадоў.

**Практыкаванне 6. Адкажыце на наступныя выказванні.**

– Мы купілі кватэру!
– …

– У мяне нарадзіўся сын!
– …

– У маіх бацькоў сёння залатое вяселле!
– …

– Мая дачка стала алімпійскай чэмпіёнкай!
– …
– Я абараніў дысертацыю!
– …

**Практыкаванне 7. Пастаўце рэплікі дыялога ў патрэбным парадку.**

– Мая жонка перадае вам прывітанне і таксама зычыць здароўя Святлане і яе дачушцы. А вы ўжо вырашылі, як яе назавяце?

– З чым?
– Добры дзень, Лідзія Паўлаўна!
– Добры дзень, Міхась!
– Так, мы вельмі рады, мы вельмі хацелі ўнучку. Вялікі дзякуй.
– Няма за што. Усяго найлепшага.
– Я жадаю вам, каб яна была здаровай, разумнай, добрай і прыгожай.
– Лідзія Паўлаўна, вас можна павіншаваць?
– Здаецца, у вашай дачкі нарадзілася дачка?
– Галоўнае, каб яна была добрым чалавекам. Дзякуй вам, Міхась, за віншаванне!
– Яшчэ не. Дачка думала, што народзіцца сын, таму хацела назваць Ягорам, а нарадзілася дачка. Будзем думаць разам, калі ўнучка будзе дома.

**Пра што вы даведаліся з дыялогу?**
**Перадайце інфармацыю ад 3-й асобы.**

**Практыкаванне 8. Праслухайце палілог.**

– Лэйла, ты бачыла аб'яву пра заўтрашнюю сустрэчу ў цэнтры беларускай мовы?
– Не, Назар. А што за сустрэча?
– Напісана, што замежным студэнтам, якія вывучаюць беларускую мову, вядомы этнограф раскажа пра звычаі беларусаў.
– Гэта, мабыць, будзе вельмі цікава. А ты пойдзеш?
– Натуральна. Айдана, Джэнет, Яна, Самвел і Карэн будуць таксама. Я гаварыў з імі. Прыходзьце і вы з Назімам.
– У колькі?
– Напісана – а першай гадзіне.
– Дзякуй. Абавязкова прыйдзем.



***Прафесар***: Вітаю вас, сябры, у гэтым цудоўным цэнтры беларускай мовы і культуры лінгвістычнага ўніверсітэта. Жадаю вам поспехаў і ўсяго найлепшага ў новым годзе. Мне вельмі прыемна сустрэцца з вамі перад зімовымі святамі. Можа быць, у вас ужо ёсць пытанні пра звычаі беларусаў?

***Назар***: Дзякуй вам, спадар прафесар. Скажыце, калі ласка, чаму ў Беларусі два святы Раства. Я бачыў: на календары чырвоным колерам адзначана 25 снежня і 7 студзеня.

***Прафесар***: У Беларусі пражываюць хрысціяне дзвюх канфесій – праваслаўныя і католікі. Царква і касцёл жывуць па розных календарах, юліянскім і грыгарыянскім. Вось і атрымалася, што каталікі адзначаюць Раство, ці Каляды, 25 снежня, а праваслаўныя 7 студзеня. Гэтыя дні непрацоўныя для ўсіх: і для хрысціян, і для мусульман, і для іудзеяў.

***Лэйла***: А чаму беларусы называюць Раство Калядамі?

***Прафесар***: Каляды – дахрысціянскае свята, звязанае з перыядам зімовага сонцастаяння. З усталяваннем хрысціянства было прымеркаванае да святаў Раства Хрыстовага і Вадохрышча. Традыцыі Каляд пасля прыняцця новай веры не забыліся і паспяхова ўвайшлі ў хрысціянства ды разам з ім дайшлі да нашых дзён. Слова ***каляда*** запазычанае з лацінскай мовы, дзе ***calendae*** значыць ‘***першы дзень месяца***’. Відаць, першапачаткова гэтае свята было звязана з пачаткам года, паколькі даўнія рымскія святы – календы – адзначаліся з 1 па 5 студзеня, а пазней у сувязі з хрысціянскім уплывам аднесена да свята нараджэння Хрыста. Каляды працягваюцца з 24 снежня па 5 студзеня ў католікаў і з 6 па 18 студзеня ў праваслаўных. У Каляды ўваходзяць тры святы: Раство, Новы год і Хрышчэнне. Да кожнага з гэтых свят гатавалася абавязковая рытуальная ежа – куцця – каша з тоўчаных ячменных круп. Да куцці падавалі ўзвар.

***Самвел***: О, я ведаю, што гэта! Я каштаваў узвар у нашай сталоўцы.

***Прафесар***: Не, даражэнькі, гэта не тое. У сталоўцы гэта быў звычайны кампот з сушаных яблыкаў. А сапраўдны святочны ўзвар гаспадыня гатавала з мёду, сушаных яблыкаў і груш, настойвала суткі і падавала разам з куццёй.

***Джэнет***: Гэта толькі дзве стравы?

***Прафесар***: Урачыстая вячэра перад святам называлася Святы вечар і складалася з 12 страў. За стол сядалі, як толькі на небе з’яўлялася першая зорка.

***Айдана***: А вы не маглі б сказаць, чаму на стале павінна быць 12 страў?

***Прафесар***: Калядны час – гэта 12 дзён, іх называюць сляткамі, яны адпавядаюць 12 сузор’ям. Успомніце, колькі месяцаў у годзе? Царква звязвае 12 народных святочных страў з дванаццаццю апосталамі. Столькі вучняў было ў Ісуса Хрыста.

***Назар***: А якія моцныя напоі пілі?

***Прафесар***: Ніякіх, толькі ўзвар. Віно, наліўка, каўбасы, свежаніна, сыр, яечня, бліны з верашчакай – усё гэта ставяць на стол назаўтра, на абед на само Раство.

***Карэн***: А я чуў, што яшчэ спяваюць спецыяльныя песні, толькі я забыў, як яны называюцца.

***Яна***: Я ведаю. Гэта калядкі ці шчадроўкі.

***Джэнет***: Ты ўвогуле ўсё ведаеш, ты ж беларуска.

***Яна***: Так, я сапраўды беларуска, я з Новасібірска. У нас ёсць беларускі цэнтр. Мы там адзначаем беларускія святы. Але ў Беларусі я ўпершыню і беларускую мову ў школе не вывучала.

***Прафесар***: Сапраўды гэтыя песні называюцца калядкі. Увечары моладзь і дзеці стваралі калядны гурт. Пераапранутыя калядоўнікі спыняліся ля кожнага двара ў чаканні, калі гаспадар запросіць іх у хату. Спявалі песні, скакалі пад скрыпачку і бубен. За гэта атрымлівалі пачастункі (сала, каўбасу), а таксама грошы.

***Карэн***: Яны прасілі грошы, бо былі бедныя?

***Прафесар***: Не. Пачаставаць калядоўнікаў было гонарам. Хто прагоніць калядоўнікаў – прагоніць шчасце. Я ведаю, што ў вашым універсітэце студэнты таксама ладзяць калядныя выступленні і нават ходзяць па аўдыторыях. Так што, калі да вас зойдуць, – радуйцеся і не шкадуйце даць хоць малыя грошы. Гэта на вашае шчасце, як вы яго цэніце.

***Яна***: Я перапрашаю. Я бачыла ў калядным гурце казу. Што гэта за сімвал?

***Прафесар***: Цэнтральнай дзеючай асобай каляднага гурту была каза – жвавы, здатны да танцаў хлопец, апрануты ў вывернуты кажух. Ён трымаў у руках зробленую з дрэва або з паперы галаву казы. Казу суправаджаў павадыр, які павінен быў умець складна гаварыць. У гурт таксама ўваходзілі музыканты, механошы, песеннікі, якія падтрымлівалі галоўных дзеючых асоб. Каза – знак ураджайнасці, дабрабыту і здароўя. Пад рытуальную песню Каза павінна зазірнуць ва ўсе куты хаты, бо ўсюды, куды паглядзіць, будзе ў Новым годзе стаяць мех са збожжам, з бульбай, ляжаць каўбасы ды іншыя прыпасы. Беларусы вераць, што Каза валодае лячэбнымі ўласцівасцямі і каго яна бадане, той у новым годзе будзе здаровы.

***Назар***: Вялікі дзякуй за размову. Вы так цікава расказалі пра беларускія звычаі. Але я думаю, што Каляды – не адзінае цікавае беларускае свята. Я спадзяюся, гэта не апошняя наша сустрэча з вамі.

***Прафесар***: Дзякуй на добрым слове. Канечне, вы маеце рацыю. У беларусаў шмат розных народных свят. Калі вам спадабалася, нашы сустрэчы могуць стаць рэгулярнымі. А той, хто цікавіцца беларускімі звычаямі і традыцыямі, можа прачытаць кніжку «Сімволіка беларускага народнага свята».

**Практыкаванне 9. Адкажыце на пытанні.**

1. Чаму ў Беларусі Раство святкуюць два разы?
2. Што абазначае слова «каляда»?
3. Хто ўваходзіў у калядны гурт?
4. Чаму трэба частаваць калядоўнікаў?

**Практыкаванне 10. Прачытайце палілог. Падрыхтуйце яго пераказ у форме маналога.**

**Практыкаванне 11. Назавіце святы, якія адзначаюць у вашай краіне. Адзначце, якія з іх народныя, якія дзяржаўныя, якія сямейныя. Раскажыце пра іх.**

## 🎧 Практыкаванне 12. Праслухайце тэкст.

### КУПАЛЬСКІЯ МРОІ

Канікулы! Як гэта добра! Радуюцца і студэнты, і аспіранты, і выкладчыкі. Аня на кароткі час ад’ехала ў Маскву, але неўзабаве вярнулася. Яна працягнула сваю камандзіроўку, бо ёй вельмі спадабалася ў Мінску.

– Я буду збіраць моўны матэрыял для сваёй дысертацыі, – паведаміла яна Алесю. – Пра Беларускі дом я ўжо ведаю. Цяпер будзем вывучаць тэму «Беларускія народныя святы». Што мне паведаміць мой прафесар?

– Святаў на Беларусі шмат, – кажа Алесь. – Ёсць дзяржаўныя святы: Дзень Незалежнасці, Свята Перамогі, Дзень абаронцаў Айчыны, Восьмага сакавіка. А паводле народнага календара што ні дзень, то свята або прысвятак, бо ўшаноўваюць якогасьці святога. Але самыя галоўныя ў нас – Каляды, Маслянка, Радаўніца, Сёмуха, Дзяды. Ну і, вядома ж, Вялікдзень або Пасха. Але іх яшчэ дачакацца трэба. Затое заўтра, шостага ліпеня, у нас Купалле.

– Купалле... – кажа Аня. – Ноч на Івана Купалу... Яе адзначаюць у многіх краінах Еўропы. Але я ведаю, што ў Беларусі гэта свята неяк звязана з імем Янкі Купалы, вашага народнага паэта.

– Ён нарадзіўся ў купальскую ноч. Калі яна самая кароткая, а белы дзень самы доўгі. Купальскія стыхіі – агонь і вада – далі моц яго таленту. Ён і сам быў – як агонь, як вада. Дык мы ж на яго радзіму і паедзем Купалле сустракаць. У Вязынку.



Хата, дзе нарадзіўся Купала, ахутана змрокам. Музей не працуе. Праз цёмныя вокны не пабачыш калыскі, у якой гадаваўся будучы паэт. Дый ягоны дух не можа заставацца ў гэтых сценах, калі так зырка палае купальскае вогнішча.

Полымя шугае аж пад нябёсы.

– Я ведаю, што дзяўчаты і хлопцы скакалі цераз купальскае вогнішча. Агонь ачышчае, – кажа Аня.

– Паспрабуй пераскоч, – усміхаецца Алесь.

– Лепш не спрабаваць. Такая мая доля.

Засталося толькі ўвайсці ў карагод і заспяваць «Купалінку». Аня ўжо ведае гэтую песню.

Палае і круціцца смаляное кола – сімвал сонца і няспыннай хады часу.

Гарыць саламяная ведзьма. Прападай, нячыстая сіла! Твой час прайшоў. Годзе чыніць ліха добрым людзям.

Каля рэчкі разыгрываецца другая дзея купальскага ігрышча.

Дзяўчаты і юнакі ўваходзяць у ваду, аблітую месяцовым святлом.

Адбываецца ачышчэнне вадой.

– А вось наш вялікі прапаведнік Кірыла Тураўскі не ўхваляў купальскіх гульняў. Казаў, што ад іх бывае юнакам спакуса, а дзяўчатам распуста.

– Можа, Кірыла Тураўскі і меў рацыю. Не цягне мяне ў рэчку, – прызнаецца Аня. – Старая ўжо. Дый холадна. Пойдзем лепш папараць-кветку шукаць.

Уздоўж рэчкі яны накіраваліся ў бярозавы гай.

Іх абганялі купальскія вянкі, якія несла хуткая рачная плынь.

**Купалінка**

Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Мая дочка у садочку
Ружу, ружу поле,
Ружу, ружу поле,
Белы ручкі коле.

Кветачкі рве
Кветачкі рве,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.

***

Пошук папараць-кветкі пры святле мабільнікаў – старадаўні і новы звычай.

Штораз яны думалі, што знайшлі яе.

Але папараць-кветка абарочвалася то гнілушкай, то буйной кропляй расы, то асколкам бутэлечнага шкла.

– Няйнакш, ведзьма пашкодзіла, – уздыхнуў Алесь.

– Папараць не цвіце... Няўжо ты не памятаеш школьныя ўрокі батанікі?

– Здараюцца моманты, калі цвіце...

Пурпуровай кветкаю расцвіло сонца.

– Вось і скончылася лета, – уздыхнула Аня. – Цяпер ноч пачне падаўжацца. І вакацыі неўзабаве скончацца. Сумна.

– Нічога, – адказаў Алесь. – Будзем чакаць Калядаў. Тады сонца зноў паверне на лета.

**Янка Купала** (сапр. Іван Дамінікавіч Луцэвіч; 1882–1942) – паэт, драматург, класік беларускай літаратуры. Народны паэт Беларусі. Раздумваў над праблемамі, надзвычай актуальнымі ў эпоху глабалізацыі: «прарок і народ», «мастак і ўлада», «сусветны разлад», «нацыя і чалавечы Сусвет».

**Кірыла Тураўскі** (каля 1113 – пасля 1190) – царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў. Аўтар малітваў, казанняў, словаў, павучанняў, прытчаў. Праславіўся надзвычайным красамоўствам.

## БЕЛАРУСКІ ЯЗЫЧНІЦКІ ПАНТЭОН

**Белабог і Чарнабог** – багі дабра і зла
**Вялéс** – апякун свойскай жывёлы
**Дажбог** – бог Сонца
**Жыва** – багіня жыцця
**Жыжаль** – бог агню і кавальства
**Зюзя** – бог зімы, марозу і п’янства
**Кон** – бог лёсу
**Купáла** – бог фізічнага кахання, дастатку
**Лáда** – багіня парадку (ладу), апякунка шлюбаў
**Ляля** – багіня кахання і вясны
**Пярýн** – валадар грому і маланак
**Род** – творца жыцця, апякун усяго жывога
**Цёця** – багіня восені і ўраджаю
**Ярыла** – апякун урадлівасці, расліннай і чалавечай

**Практыкаванне 13. Адкажыце на пытанні.**

1. Купалле – народнае, дзяржаўнае ці сямейнае свята?
2. Чаму прысвечана свята Купалле?
3. Калі адзначаецца Купалле на Беларусі?
4. Як звязаны народны паэт Беларусі Янка Купала з Купаллем?
5. Якія стыхіі дзейнічаюць на Купалле? Якія абрады з імі звязаны?
6. Які міф звязаны з папараць-кветкай?

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## ГРАМАТЫКА

### Дзеяслоў

### Дзеясловы I спражэння на *-ну-(ць)*

| Націск на аснове | | Націск на канчатку | |
|---|---|---|---|
| **згар-нý-(ць)** | **знíк-ну-(ць)** | **імк-нý-(ц)ца** | **варух-нý-(ць)** |
| згар-н-ý | знíк-н-у | імк-н-ý-ся | варух-н-ý |
| згор-н-еш | знíк-н-еш | імк-н-éш-ся | варух-н-éш |
| згор-н-е | знíк-н-е | імк-н-é-цца | варух-н-é |
| згор-н-ем | знíк-н-ем | імк-н-ём-ся | варух-н-ём |
| згор-н-еце | знíк-н-еце | імк-н-яцé-ся | варух-н-яцé |
| згор-н-уць | знíк-н-уць | імк-н-ýц-ца | варух-н-ýць |

| Прошлы час | | |
|---|---|---|
| я, ты, ён | згар-нý-ў, імк-нý-ў-ся, варух-нý-ў | знік |
| яно | згар-нý-л-а, імк-нý-л-а-ся, варух-нý-л-а | знíк-л-а |
| я, ты, яна | згар-нý-л-а, імк-нý-л-а-ся, варух-нý-л-а | знíк-л-а |
| мы, вы, яны | згар-нý-л-і, імк-нý-л-і-ся, варух-нý-л-і | знíк-л-і |

! Большасць дзеясловаў на *-ну-(ць)* захоўваюць суфікс у формах прошлага часу. Але частка дзеясловаў (непрадуктыўных) ужываецца без суфікса: *мéрз-ну-ць – мéрз-л-і, пáх-ну-ць – пáх-л-і.*

**Практыкаванне 14. Пастаўце дзеясловы ў форму 2-й асобы множнага ліку. Звярніце ўвагу на націск.**

Вы (апынýцца, дакранýцца, дасягнýць, загарнýць, змокнуць, змоўкнуць, мінýць, паглынýць, падманýць, нырнýць, пазбéгнуць, пазяхнýць).

**Практыкаванне 15. Устаўце патрэбную форму дзеясловаў *апранýць – апранáць, апранýцца – апранáцца*.**

1. Я заўсёды _______ хутка, і мяне ніхто ніколі не чакае.
2. Мая маленькая дачка не любіць _______ сама, таму я яе _______
3. Мая сяброўка _______ сёння новае паліто, і я яе не адразу пазнаў у метро.
4. Ты сёння вельмі цёпла _______? Ты не хварэеш?
5. Заўтра я ўжо _______ вясновую куртку, бо надвор'е будзе цудоўнае.
6. Калі ты хутка зараз _______ , мы паспеем яшчэ на апошнюю электрычку.
7. Не люблю зіму за тое, што трэба _______ цёпла.
8. Калі вы _______ гэтае доўгае футра на пікнік, вам будзе вельмі нязручна рухацца.
9. Калі вы _______ гэты плашч, вы выглядаеце як герой гангстарскага кінафільма.
10. Дазвольце, я дапамагу вам _______ ?

## Дзеясловы руху *ісці́ – хадзíць, éхаць – éздзіць*

| **ісці́** | **ехаць** |
|---|---|
| ід-ý | éд-у |
| ідз-éш | éдз-еш |
| ідз-é | éдз-е |
| ідз-ём | éдз-ем |
| ідз-яцé | éдз-еце |
| ід- ýць | éд-уць |

! Дзеясловы *хадзіць* і *ездзіць* спрагаюцца, як усе дзеясловы на *-і-(ць)*.

! Імператыў ад дзеяслова *ехаць – едзь(це)*.

**Практыкаванне 16. Устаўце патрэбныя формы дзеясловаў (*ісці – хадзіць, ехаць – ездзіць*).**

1. Ты _______ заўтра на экскурсію?
   – Так, я часта _______ на экскурсіі з гэтай групай.
2. Вы _______ ў аўторак з намі ў кіно?
   – Не, мы ніколі не _______ ў кіно ў будзённы дзень.
3. Іра, ты _______ у Варшаву на аўтобусе?
   – Гэтым разам так, але звычайна я _______ у Варшаву на цягніку.

4. Куды ты _______ з такой вялікай сумкай?
   – Па пятніцах я _______ у хакейную секцыю, гэта мая экіпіроўка.

**Практыкаванне 17. Слухайце і чытайце. Устаўце ў дыялогі неабходныя формы дзеясловаў (*ісці – хадзіць, ехаць – ездзіць*).**

### На прыпынку

– Прывітанне, Стас! Сто гадоў цябе не бачыў!
– Прывітанне, Юрась! Так, сапраўды, мы даўно не бачыліся!
– Ты адкуль і куды?
– Я _______ з бібліятэкі. Я пішу зараз дыплом, таму часта _______ у бібліятэку.
– А куды ты _______ зараз?
– _______ на сустрэчу з Дамінікай.
– А хто гэта – Дамініка?
– Гэта мая сяброўка, мы з ёй разам _______ на фотакурсы.
– А як даўно вы _______ на фотакурсы?
– Ды ўжо два месяцы.
– А як часта вы _______ ?
– Мы _______ двойчы на тыдзень, па панядзелках і пятніцах.
– Тады поспехаў вам.
– Дзякуй, даруй, мой аўтобус.
– Бывай, да сустрэчы.

### Размова па тэлефоне

– Прывітанне, Наталля. Як маешся?
– Дзякуй, усё добра. Як справы ў цябе?
– Мы _______ у суботу за горад, надвор'е абяцаюць шыкоўнае, далучайся.
– Дзякуй, але апошнім часам па суботах я _______ да бабулі, яна нешта зусім расхварэлася. А вы _______ па выхадных за горад?
– Як атрымліваецца. У мінулыя выхадныя _______ да сваякоў у Гомель, а ў наступныя _______ на вяселле да брата.
– Гэта добрая навіна, павіншуй яго ад мяне.
– Дзякуй, тады бывай. Тэлефануй, як палепшае бабулі.

**Практыкаванне 18. Выберыце з рамкі патрэбны дзеяслоў з прасторавай прыстаўкай.**

| перайсці з’е́хаць прые́хаць зайсці падысці увайсці прае́хаць сысці аб’е́хаць |
|---|

1. _______ патрэбны прыпынак.
2. _______ у Кіеў.
3. _______ у памяшканне.
4. _______ вуліцу.
5. _______ да стала.
6. _______ з горада.
7. _______ да сястры.
8. _______ з пятага паверха.
9. _______ я́му.

**Практыкаванне 19. Устаўце прыставачныя дзеясловы *ісці – хадзіць*, *ехаць – ездзіць* у патрэбнай граматычнай форме.**

1. Калі ты звычайна _______ з дома?
2. Яна заўсёды _______ да мяне ў пакой без стуку.
3. Калі я быў студэнтам, я заўсёды _______ з інтэрната за дзесяць хвілін да пачатку лекцыі.
4. Калі ты будзеш _______ кожную хвіліну да мяне ў пакой, я не змагу працаваць.
5. Бацька _______ заўтра на дачу.
6. Увечары да нас _______ госці, трэба рабіць вячэру.
7. Яна заўсёды _______ з кветкамі.
8. Заўтра брат _______ са сваёй нявестай.
9. Я _______ на машыне да твайго дома праз хвілін дзесяць.
10. Звычайна я _______ да інстытута за паўгадзіны.

## Месны склон назоўнікаў

| **Адзіночны лік** | | | |
|---|---|---|---|
| **Жаночы род (назоўнікі з канчаткам -а, -я)** | | | |
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Змены ў аснове** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-е*** | <цвёрды ~ мяккі><br><д ~ дз’><br><т ~ ц’> | сця**н-**á – на сця**н-**é<br>мо**д-**а – аб мо**дз-**е<br>ха́**т-**а – у ха́**ц-**е |

| Адзіночны лік | | | |
|---|---|---|---|
| **Жаночы род (назоўнікі з канчаткам -а, -я)** | | | |
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Змены ў аснове** | **Прыклады** |
| на мяккі зычны (у тым ліку на *–j*) | *-і* | | скры́н-я – у скры́н-і<br>госц-я – аб госц-і<br>сям’-я́ – у сям’-і́<br>[с’амj-а – у с’амj-і] |
| на зацвярдзелыя зычныя ***ж – ш, дж – ч, р, ц*** | *-ы* | | пу́др-а – аб пу́др-ы<br>ра́туш-а – у ра́туш-ы<br>табліц-а – у табліц-ы |
| на ***г, х*** | *-е* | <г ~ з’><br><х ~ с’> | адлі**г**-а – аб адлі**з**-е<br>эпо**х**-а – аб эпо**с**-е |
| на ***к*** | ***-э*** (пад націскам) | <к ~ ц> | му**к**-а́ – у му**ц**-э́ |
| | ***-ы*** (не пад націскам) | | вясёл**к**-а – аб вясёл**ц**-ы |

| Жаночы род (назоўнікі з -Ø) | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчаток** | **Адзіночны лік** | **Канчатак** | **Множны лік** |
| на губны зычны | *-і* | свякроў – аб свекрыв-і́ | *-ях* | свекрыв-і́-аб свекрыв-я́х |
| на мяккі зычны | | па́параць – аб па́парац-і | | ры́сі – аб ры́с-ях<br>рысь – аб ры́с-і |
| на зацвярдзелыя зычныя **ж – ш, ч, р, ц** | *-ы* | ноч – аб ноч-ы | *-ах* | ночы – аб нач-а́х |

| Мужчынскі і ніякі род | | | |
|---|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Змены ў аснове** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | *-е* | <цвёрды ~ мяккі><br><br><д ~ дз’><br><br><т ~ ц’> | спіс – у спіс-е<br>сын – аб сы́н-е<br>гняз**д**-о –<br>у гняз**дз**-е́<br>мос**т** – на мос**ц**-е<br>патрыё**т** – аб<br>патрыё**ц**-е |

<table>
<tr><td rowspan="2">на мяккі зычны<br>(у тым ліку на -j)</td><td>неасабовы → -і</td><td></td><td>я́сень – на я́сен-і<br>гай – у га-і́<br>галлё – на галл-і́</td></tr>
<tr><td>асабовы → -ю</td><td></td><td>кава́ль – аб<br>кавал-ю́<br>збаві́цель – аб<br>збаві́цел-ю</td></tr>
<tr><td rowspan="2">на зацвярдзелыя зычныя ж – ш, дж – ч, р, ц</td><td>неасабовы → -ы</td><td></td><td>турні́р – на<br>турні́р-ы<br>пляж – на<br>пля́ж-ы<br>паве́тра – у<br>паве́тр – ы</td></tr>
<tr><td>асабовы → -у</td><td></td><td>друка́р – аб<br>друкар – у́<br>уцяка́ч – аб<br>уцекач-у́<br>ганарлі́вец – аб<br>ганарлі́ўц-у</td></tr>
<tr><td rowspan="3">на г, х</td><td>асабовы → -у</td><td></td><td>астролаг – аб<br>астролаг-у</td></tr>
<tr><td>неасабовы → -е</td><td><г ~ з’><br><х ~ с’></td><td>снег – на сне́з-е<br>паве́рх – на<br>паве́рс-е</td></tr>
<tr><td>неасабовы → -у</td><td>пры адсутнасці чаргаванняў</td><td>тварог – аб твараг-у́<br>рэ́х-а – аб рэ́х-у<br>мех – у мях-у́</td></tr>
<tr><td colspan="4">Чаргаванні <г ~ з’>, <х ~ с’> праяўляюцца ў невялікай колькасці неасабовых беларускіх назоўнікаў: у астрозе, на версе, у гаросе / у гароху, у кажусе / кажуху, на лузе, на начлезе, на парозе, аб плузе, на розе (жывёлы). Большасць беларускіх назоўнікаў, а таксама ўсе запазычанні ўжываюцца з канчаткам -у: аб подыху, арэху, насарогу, лопуху, мурагу, пасагу, моху, мозгу, на рагу (вуліцы); аб аншлагу, догу, допінгу, пудынгу, ланцугу, каталогу.</td></tr>
<tr><td>на к</td><td>-у</td><td></td><td>маладзі́к – аб<br>маладзік-у́<br>вока – у вок-у<br>дзіва́к – аб дзівак-у́<br>кры́тык – аб<br>кры́тык-у</td></tr>
</table>

| Множны лік | | |
|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-ах*** | ха́т-а – ха́т-ы – аб ха́т-ах<br>ра́туш-а – ра́туш-ы – аб ра́туш-ах<br>вясёлк-а – вясёлк-і – аб вясёлк-ах |
| | | гнязд-о – гнёзд-ы – у гнёзд-ах<br>сын – сын-ы́ – аб сын-а́х<br>вок-а – воч-ы – на вач-а́х |
| на мяккі зычны | ***-ях*** | скры́н-я – скры́н-і – у скры́н-ях |
| | | гай – га-і́ – у га-ях<br>збаві́цель – збаві́цел-і – аб збаві́цел-ях |

**Практыкаванне 20. Утварыце па словаўтваральнай схеме асабовыя назоўнікі.**

***Узор***: даслед/ава/ць + -чык- → ‘той, хто нешта даследуе’ даследчык, (і)лг/а/ць + -ун- → ‘той, хто ілжэ’ ілгун.

1. мытн(я) + -ік- → ‘той, хто працуе на мытні’
2. абаран/я/ць <а ~ о> + -ец- → ‘той, хто абараняе’
3. песн(я) + -яр- → ‘той, хто спявае песні’
4. вер/ы/ць + -нік- → ‘той, хто верыць у Бога’
5. гандл/ява/ць + -яр- → ‘той, хто гандлюе’
6. карыста(ц)ца + -льнік- → ‘той, хто карыстаецца чым-небудзь’
7. марудз/і/ць <дз’ ~ д> + -Ø-(а) → ‘той, хто заўсёды марудзіць’
8. вуч/ы/цца + -ань- → ‘той, хто вучыцца’
9. змаг/а/цца + -ар- → ‘той, хто змагаецца’
10. кірав/а/ць <в ~ ў> + -нік- → ‘той, хто нечым кіруе’

**Практыкаванне 21. Пастаўце назоўнікі ў форму меснага склону адзіночнага ліку.**

***Узор***: вучыцца ў (каледж) – вучыцца ў каледжы; набыць у (аптэка) – набыць у аптэцы.

Клапаціцца аб (бяспека), ехаць у (цягнік), сядзець на (ланцуг), віно ў (келіх), убачыць на (вішня), гуляць па (плошча), марыць аб (рыцар), прывітанне ў (паштоўка), грошы на (рахунак), думаць аб (вучань), празрыстая вада ў (крыніца), шкадаваць аб (памылка), карабель у (гавань), убачыць у (даль), кілім на (падлога), расказаць аб (подзвіг), пашукаць у (слоўнік), сустрэцца ў (жнівень), захоўваць у (халадзільнік).

**Практыкаванне 22. Адкажыце на пытанні. У адказах выкарыстайце назоўнікі ў форме меснага склону з прыназоўнікамі *ў* і *на*.**

***Узор***: – Дзе вы жывяце? (горад, вёска, Мінск)
– Я жыву ў горадзе, у вёсцы, у Мінску.

– Дзе вы зараз знаходзіцеся? (вуліца, плошча, тэатр, вакзал, урок)
– Я зараз знаходжуся на вуліцы, на плошчы, у тэатры, на вакзале, на ўроку.

1. – Дзе вы працуеце? (фабрыка, завод, паліклініка, пошта, магазін, лабараторыя, офіс, бібліятэка)
2. – Дзе вы вучыцеся? (інстытут, школа, каледж, універсітэт, курсы)
3. – Дзе вы былі ўчора? (выстава, музей, канцэрт, спектакль, экскурсія, экзамен, лекцыя, станцыя, цырк, кірмаш, запраўка)
4. – Дзе вы адпачываеце? (дыскатэка, парк, поўдзень, пляж, крама, мора)

## Месны склон прыметнікаў

| **Адзіночны лік** | | |
|---|---|---|
| **Жаночы род** | | |
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-ай***<br>(не пад націскам) | нов-ая суке́нка – у нов-ай суке́нцы |
| | ***-ой***<br>(пад націскам) | ільнян-а́я суке́нка – у льняной суке́нцы |
| на мяккі зычны | ***-яй*** | сённяшн-яя сустрэ́ча – на сённяшн-яй сустрэ́чы |
| **Мужчынскі і ніякі род** | | |
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-ым*** | нов-ы касцю́м – у нов-ым касцю́ме<br>гу́чн-ае рэ́ха – аб гу́чн-ым рэ́ху |
| на мяккі зычны | ***-ім*** | сённяшн-і ве́чар – на сённяшн-ім ве́чары<br>позн-яе здарэ́нне – аб позн-ім здарэнні |

| Множны лік | | |
|---|---|---|
| **Тып асновы** | **Канчатак** | **Прыклады** |
| на цвёрды зычны | ***-ых*** | нов-ыя суке́нкі,<br>касцю́мы – у нов-ых суке́нках, касцю́мах |
| на мяккі зычны | ***-іх*** | сённяшн-ія прыгоды –<br>аб сённяшн-іх прыгодах |
| на ***г, к, х*** | | высок-ія боты – у высок-іх ботах |

**Практыкаванне 23. Раскрыйце дужкі.**

1. У (старая капліца) знайшлі старажытны рукапіс.
2. У (гліняны гладыш) малако доўга не кісне.
3. Ледзь пазнаў цябе ў (зімовая шапка).
4. Надышоў час падумаць аб (навагоднія падарункі).
5. На (шакаладная цукерка) намалявана вядомая карціна.
6. Мама вельмі дбае аб (свежая ежа).
7. Сябры сустрэліся ў (цэнтральная кнігарня).
8. Я шукаю ідыёмы для курсавой працы ў (мастацкі твор).
9. У (электронная картатэка) нацыянальнай бібліятэкі ты абавязкова знойдзеш гэта выданне.
10. Дрэвы стаялі ў (казачная шэрань).

**Практыкаванне 24. Папрацуйце ў парах з картай Беларусі. Задайце адно аднаму пытанні па чарзе і адкажыце на іх. У адказах выкарыстоўвайце назоўнікі з прыметнікамі ў месным склоне (напрыклад, *поўнач, поўдзень, усход, захад, … вобласць, Заходняя Беларусь, цэнтральны рэгіён*). Дапоўніце адказы любой інфармацыяй, якой валодаеце.**

***Узор***: – Дзе знаходзіцца Віцебск?
– Віцебск знаходзіцца на паўночным усходзе Беларусі. Гэта абласны цэнтр. У Віцебску нарадзіўся і жыў Марк Шагал.




**Практыкаванне 25. Прачытайце тэкст, раскрыйце дужкі, вызначце склон назоўнікаў.**

## ВАЛАЧОБНІЦТВА НА БЕЛАРУСІ



Валачобніцтва – старажытны беларускі звычай, які меў месца падчас Вялікадня. Апрача (чаго? Беларусь) гэты абрад вядомы толькі ва (чым? дзе? усходнія раёны) Польшчы ды дзе-нідзе ў (каго? сербы). На (чым? дзе? тэрыторыя) Беларусі распаўсюджаны ў (чым? дзе? цэнтральная і паўночна-заходняя частка), амаль не сустракаецца на (чым? дзе? Палессе).

Назва ***валачобніцтва*** паходзіць ад (чаго? старажытны тэрмін) «валачоба», што азначае «баранаванне». У (чым? калі? пачатак)

Вялікадня, у (што? калі? ноч) з першага на другі дзень, збіраўся валачобны гурт. Яго ўдзельнікі называліся (кім? валачобнікі). Гурт складаўся з запявалы, падпявальнікаў, музыкі і механошы. Валачобнікі абыходзілі (што? сялянскія двары), спявалі пад (чым? вокны) (каму? гаспадары) валачобныя песні, зычылі (чаму? сям'я) шчасця. Потым валачобнікі гаварылі (што? імправізаваныя віншаванні) кожнаму ў (чым? сям'я): асобна (каму? гаспадар, гаспадыня, нежанаты сын ці незамужняя дачка). Яны жадалі (чаго? здароўе, прыбытак, плён, ураджай, шчаслівы шлюб). Пасля гэтага гаспадары дзякавалі (каму? валачобнікі) і давалі ім «валачобнае» – падарункі. Гэта былі каўбасы, сыр, фарбаваныя яйкі, велікодныя булкі. Падарункі збіраў і насіў у (чым? вялікі мех) механоша. Калі гаспадары аказваліся сквапнымі, то маглі пачуць ад (каго? валачобнікі) і праклёны.

Старажытныя беларусы лічылі, што валачобны абрад спрыяе (чаму? ураджай, дабрабыт), засцерагае ад (чаго? нягоды). Зараз валачобны абрад страціў аграрна-магічны сэнс і бытуе як вясёлая святочная забава.

### 🎧 Практыкаванне 26. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання

## КАЛЯДЫ
### Так адзначалі Ражаство Хрыстова і Новы год беларусы напрыканцы XIX стагоддзя
### (Паводле паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»)

Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята...
Куцці гаршчок ужо ў калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
І вось цяпер гаршчок з куццёю,
Як цар даўнейшаю парою,
Ў пачэсны кут, на свой прастол,
Стаўляўся з гонарам за стол
На гэта сена пад багамі,
Ўладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень – персона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хоць ён фаміліі глінянай...

Ялінка ў хаце так прыгожа!
І колькі радасці і ўцехі!
На ёй валоскія арэхі,

А з пазалочанай паперкі
Глядзяць панадныя цукеркі;
І больш на ёй няма нічога,
Ды хіба ж дзецям трэба многа?
Даволі з іх і той прынады –
Яны davольны, яны рады.

У хаце добры лад і згода,
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасць вечара святога –
Не ўчуеш слова ты благога,
І ўсе прыбраліс і памыліс,
Міхал з Антосем падгаліліс
І парасчэсвалі чупрыны.
– Ну, засцілайце стол, мужчыны! –
І стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог –
На сене колісь быў Сын-Бог –
І роўным пластам рассцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
І прад сабой кладуць аладку,
Відэльцы, лыжкі разбіраюць
І стравы першае чакаюць...

Міхал бутэльку адтыкае,
Бо ўжо закуска тут чакае:
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба –
Сама да іх імкнецца губа.
Гарэлка, радасць-весялуха,
Прыемна булькае для вуха
І гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
– Ну, што ж, Антось, здароў будзь, браце!
Няхай дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,

Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась,
Няхай раяцца добра пчолы,
І самі будзем мы вясёлы;
За год дай Божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.
– Дай Божа! – дзядзька адазваўся
І сам з прамовай звarачаўся,
П'ючы цяпер да гаспадыні, –
Падатак кожнай дай часіне,
На ўсё гатовы ў кожным часе.

І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя з лета.
Але не ўсё яшчэ і гэта:
Аздоблен квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы –
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй, – цішком скажу між намі, –
Каб і язык не ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі –
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш – абліжыся.
За праснaчкамі йшлі кампоты,
Кісель з мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куццёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак той аддаць,

Стары звычай ушанаваць.
І после гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся без меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.

На першы дзень святых Калядак –
Такі ўжо быў стары парадак –
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене –
Здавён-даўна вялося й гэта –
Уважна зернетак шукалі
І па тых зернетках гадалі,
Які зародзіць хлеб налета.

# МОДУЛЬ 8

## СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ. ВОЛЬНЫ ЧАС

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы I спражэння на** ***-о-(ць)***
  - **Дзеясловы руху на** ***везці – вазіць, весці – вадзіць, несці – насіць***
  - **Безасабовыя сказы (псіхічны і фізіялагічны стан чалавека)**
  - **Утварэнне і скланенне назваў маладых істот**
  - **Скланенне назоўнікаў мужчынскага роду на** ***-а-(-я)***
  - **Лічэбнік**
  - **Спалучальнасць  назоўнікаў з колькаснымі лічэбнікамі**
  - **Парадкавыя лічэбнікі. Скланенне**
  - **Зборныя лічэбнікі. Дробавыя лічэбнікі**
  - **Выражэнне прычыны і выніку. Складаныя сказы са злучнікамі бо (таму што) і таму**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Тэа́тр** – **акадэмі́чны, класі́чны, суча́сны, драматы́чны, оперы і бале́та, апер́эты (музкаме́дыі), эстра́дны Театр** – академический, классический, современный, драматический, оперы и балета, оперетты (музкомедии), эстрадный

**Ля́лечны тэатр** – кукольный театр

**ТЮГ (тэа́тр ю́нага гледача́)** –  ТЮЗ (театр юного зрителя)

**Глядзе́ць спекта́кль, бале́т; слу́хаць канцэ́рт, оперу** – смотреть спектакль, балет; слушать концерт, оперу

**Рэпертуар тэатра** – репертуар театра

**Тэатра́льны сезон** – театральный сезон

**Спекта́кль**: **дра́ма, каме́дыя, меладра́ма, траге́дыя** – спектакль: драма, комедия, мелодрама, трагедия

**Прэм’е́ра** – премьера

**Фільм** – дакумента́льны, тэлевізі́йны, баяві́к, гістары́чны, каме́дыя, музы́чны, тры́лер, фантасты́чны, серыя́л, шматсеры́йны – Фильм: документальный, телевизионный, боевик, исторический, комедия, музыкальный, триллер, фантастический, сериал, многосерийный

**Кінасту́жка** –  кинолента
**Маста́цкі** – художественный
**Прыгодніцкі** – приключенческий
**Фільм жа́хаў** – фильм ужасов
**Роля** – роль
**Выконваць** – исполнять
**Іграць ролю –** играть роль
**Актор (актрыса / акторка) –** актер (актриса)
**Артыст (артыстка) –** артист (артистка)
**Глядач –** зритель
**Глядзець –** смотреть
**Слухач –** слушатель
**Адпачываць –** отдыхать
**Адпачынак –** отдых, отпуск
**Аматар –** любитель
**Выстава (выстаўка) –** выставка
**Задавальненне –** удовольствие
**Задаволіць –** удовлетворить
**Захапленне –** восхищение
**Захапляцца –** увлекаться
**Білет (квіток) –** билет
**Мастак –** художник
**Мастачка –** художница
**Мастацтва –** искусство
**Месца –** место
**Цікава –** интересно
**Цікавіцца –** интересоваться
**Шпацыр –** прогулка
**Спорт –** спорт
**Адбывацца / адбыцца –** состояться
**Бяспека –** безопасность
**Выігрываць (выйграваць) / выйграць –** выигрывать / выиграть
**Вынік –** результат
**Вядомы –** известный
**Гульня –** игра во что-либо
**Займацца –** заниматься
**Збірацца –** собираться
**Ігра –** игра (на инструменте, актерская)
**Карысна –** полезно

**Карысць** – польза
**Лік** – счет
**На карысць** – в пользу (на пользу)
**Паляванне** – охота
**Перамагаць / перамагчы** – побеждать / победить
**Перамога** – победа
**Праігрываць(прайграваць) / прайграць** – проигрывать / проиграть
**Спаборніцтвы** – соревнования
**Стадыён** – стадион
**Сучасны** – современный
**Творчасць** – творчество
**Тэлебачанне** – телевидение
**Чэмпіён** – чемпион
**Шкада** – жаль
**Шкода** – вред
**Шкодны** – вредный

працаваць → ***на чым?*** → на камп'ютары





гуляць → ***у што?*** → у тэніс, у хакей





іграць → ***на чым?*** → на флейце, на гітары

**Практыкаванне 1. Папрацуйце ў парах. Даведайцеся ў сябра, што ён умее рабіць, што ён хоча навучыцца рабіць.**

*Узор*: – Ты ўмееш працаваць на камп'ютары?
– Не, не ўмею, але хачу навучыцца.

– Ты ўмееш іграць на піяніна?
– Так, умею.

| іграць<br>працаваць<br>гуляць | у<br>на | акардэон, баскетбол, трактар, балалайка, домбра, шахматы, цымбалы, ноўтбук |
|---|---|---|

**Практыкаванне 2. Праслухайце аб'явы.**

Музей сучаснага жывапісу запрашае на выставу

**ТАЦЦЯНЫ ГАРДАШНІКАВАЙ**
**«ГУЛЬНЯ Ў КОШКІ»**



У экспазіцыі прадстаўлены 25 карцін з выявамі розных катоў і кошак, якія надзелены чалавечым абліччам, атрыбутамі і антуражам вядомых персанажаў, акцёраў, гістарычных дзеячаў.

Аўтар праекта
**ТАЦЦЯНА ГАРДАШНІКАВА**
займаецца жывапісам, плакатам, а таксама кніжнай люстрацыяй

Выстава працуе да 20 сакавіка

Пр. Незалежнасці, 47. Т. 288-24-68



У апошні час усё большую папулярнасць набывае конны спорт і ўсё большая колькасць людзей займаецца ў конных клубах, наведвае розныя спаборніцтвы і турніры. На адкрытай пляцоўцы коннаспартыўнай базы ў пасёлку Ратамка 11–13 ліпеня пройдзе першынство Беларусі па выездцы сярод юнакоў і дзяўчат да 18 гадоў.

Выездка – вышэйшая школа верхавой язды, яе гісторыя пачалася 2 тысячы гадоў таму ў Старажытнай Грэцыі, а ў 1912 г. гэты від спорту ўпершыню быў уключаны ў праграму Алімпійскіх гульняў

## НОЧ У СТЫЛІ MINIMAL




У атмасферу музыкі minimal-techno вы зможаце акунуцца на вечарынцы 23 жніўня ў клубе «Рэактар». Ацаніце музыку беларускага дыджэя SlavaUncle – арганізатара міжнароднага фестывалю Power. Стыль minimal-techno ў апошнія гады заваёўвае ўсё большую папулярнасць сярод аматараў электронікі. Глыбокае і інтэнсіўнае гучанне гэтай музыкі надае вечарынкам непаўторны настрой.

**Хто, дзе і калі выступае?**
**Хто што выконвае?**

| Выступаць<br>Выступіць | Дзе? |
|---|---|
| Выконваць<br>Выканаць | Што? |
| Адбыцца | Дзе?<br>Калі? |

**Практыкаванне 3. Пра што была размова? Пастаўце рэплікі ў патрэбным парадку. Узнавіце пачатак размовы.**



– Ведаеш, Алеся, я зусім не маю часу, зараз вельмі шмат спраў. А ты не можаш купіць білеты?

– Праўда? А я і не ведала. Тады давай замовім. А адрас у інтэрнэце ў цябе ёсць?

– Ала, мы не вырашылі, хто будзе купляць квіткі.



– Давай.

– Я таксама заўтра і паслязаўтра не маю вольнага часу, але квіткі можна замовіць па тэлефоне ці па інтэрнэце. Па інтэрнэце танней.

– То тады давай зараз жа патэлефануем у касу.

– На жаль, не, але вось у афішы ёсць тэлефон для замовы квіткоў.

**Практыкаванне 4. Спалучэнню рускіх займеннікаў *друг друга* адпавядаюць беларускія *адзін аднаго*, формы якіх залежаць ад роду і ліку асобы. Прачытайце табліцу і вызначце заканамернасці перакладу канструкцый *друг друга* на беларускую мову.**

| **Руская мова** | **Беларуская мова** |
|---|---|
| Братья увидели *друг друга*. | Браты ўбачылі *адзін аднаго*. |
| Сёстры увидели *друг друга*. | Сёстры ўбачылі *адна адну*. |
| Дети увидели *друг друга*. | Дзеці ўбачылі *адно аднаго*. |

| Брат и сестра увидели *друг друга*. | Брат і сястра ўбачылі *адно аднаго*. |
|---|---|
| Братья не виделись *друг с другом*. | Браты не бачыліся *адзін з адным*. |
| Сёстры не виделись *друг с другом*. | Сёстры не бачыліся *адна з адной*. |
| Дети не виделись *друг с другом*. | Дзеці не бачыліся *адно з адным*. |
| Брат и сестра не виделись *друг с другом*. | Брат і сястра не бачыліся *адно з адным*. |
| Друзья относятся *друг к другу* как братья. | Сябры ставяцца *адзін да аднаго* як браты. |
| Лена и Павел никогда не занимают денег *друг у друга*. | Алена і Павел ніколі не пазычаюць грошы *адно ў аднаго*. |
| Дети шли *друг за другом*. | Дзеці ішлі *адно за адным*. |

**А. Устаўце займеннікі ў патрэбнай форме.**

1. Сябры прывіталіся ...
2. Сяброўкі не пішуць ...
3. У нашым класе ўсе паважаюць ...
4. Хлопцы падалі рукі ...
5. Кацяняты гулялі ...
6. Студэнткі спісалі кантрольную ...
7. Муж і жонка рэгулярна тэлефануюць ...
8. Баксёры пазнаёміліся ...
9. Ала і Алеся размаўляюць па тэлефоне ...

**Б. Перакладзіце на беларускую мову.**

1. Студент и профессор поздоровались друг с другом.
2. Муж и жена не говорили друг с другом.
3. Братья берут друг у друга деньги.
4. Наташа и Таня не любят друг друга.
5. Друзья подпевали друг другу.
6. Подруги задавали вопросы друг другу.
7. Дети бегали друг за другом.

| **Як часта?** | |
|---|---|
| кожны | дзень, вечар, панядзелак, аўторак, чацвер, тыдзень |
| | штодзень, штовечар, штоноч, штотыдзень |
| кожнае | лета |
| | штолета |

| кожную | секунду, хвіліну, сераду, пятніцу, нядзелю<br>зіму, вясну, восень |
|---|---|
| | штовесну, штолета, штовосень, штозіму, штохвіліны |

**Практыкаванне 5. Вы не зразумелі, калі (як часта). Перапытайце.**

*Узор*: – Мы днём ходзім у басейн.
– Калі вы ходзіце? Вы штодзень ходзіце ў басейн?

– Па вечарах я гляджу тэлевізар.
– ...? ...?

– Паплаўскія кожнае лета адпачываюць на возеры Нарач.
– ...? ...?

– Васіль кожную восень ездзіць у вёску да сваіх бацькоў.
– ...? ...?
– Ганна Пятроўна кожную хвіліну глядзіць на свой гадзіннік.
– ...? ...?

**Практыкаванне 6. Праслухайце тэкст.**

## СПАТКАННЕ НА СТАДЫЁНЕ «ДЫНАМА»

Хобі... У кожнага чалавека сваё хобі. Васіль збірае маркі. Сяргей любіць рыбалку. Святлана разводзіць акварыумных рыбак. Таццяна з сябрамі вандруе па беларускіх рэках на байдарках.

А якія захапленні ў нашых герояў?

Алесь любіць тэатр. Ён хацеў бы запрасіць Аню ў Купалаўскі тэатр на «Паўлінку».
Але Аня захапляецца футболам. Што тут паробіш? Такое ў яе хобі.

А сёння на стадыёне «Дынама» якраз гуляюць лепшы беларускі клуб БАТЭ і «Вікторыя» з Чэхіі. Алесь купляе квіткі і запрашае Аню на матч. І вось яны сядзяць на трыбуне, а поруч з імі – група моладзі.

– Аня, чаму ты выбрала футбол? – дапытваецца Алесь. – Я думаў, што табе больш падабаецца фігурнае катанне.

– Па-першае, цяпер лета, – адказвае Аня. – Па-другое, у маёй сям'і ўсе любілі футбол. Па-трэцяе, футбол – гэта таксама тэатр. Ты бачыў, як на футболе смяюцца і плачуць? А яшчэ я люблю бокс.

– Напэўна, ты любіш глядзець на прыгожых мужчын, – жартуе Алесь.



Гульня пачалася. Аня ўважліва сочыць за падзеямі і засвойвае спартыўную лексіку.

– Як па-беларуску называецца тое, куды гол забіваюць? – пытаецца яна.

– Вароты.

– Нецікава. Я б назвала гэта «брама». А варатар – «брамавік».

– Арыгінальна! – смяецца Алесь.

– А як будзе «нападающий»?

– Нападаючы.

– А я б назвала яго «атакоўца». А «защитник»?

– Абаронца.

– Значыць, «полузашитник» будзе «паўабаронца»?

– Так.

Група моладзі актыўна абмяркоўвае падзеі на полі, і ад яе Аня засвойвае словы «вуглавы», «штрафны», «па-за гульнёй», «папярэджанне», «выдаленне».

А вось і гол! Яго забілі госці. Стадыён перажывае, уздыхае. Толькі Алесь не сумуе.

– А як па-беларуску будзе «болеть»? – нечакана пытаецца Аня.

– «Хварэць», – адгукаецца Алесь.

– Не тое! Я пра футбол.

– Значыць, «перажываць», «спачуваць». Няма дакладнага эквівалента. А я не аматар футбола.

– Бачу, – кажа Аня.

За хвіліну да заканчэння матча Брэсан забівае гол у «дзявятку» са штрафнога ўдару. Стадыён падымаецца, усе шчаслівыя, віншуюць адзін аднаго. Беларусы адквіталі гол, зраўнялі лік, зрабілі нічыю, ёсць шанц адыграцца на выездзе. Асабліва весяліцца група моладзі.

– А ты як быццам і не рады, – упікнула Алеся Аня. – Які ж ты пасля таго патрыёт?

– Я патрыёт роднай мовы, – жартуе Алесь. – І потым – мне трошкі чэхаў шкада. Яны госці. І так стараліся... А мы ж у Празе пазнаёміліся!

– Гэта ўважлівая прычына... – задуменна кажа Аня.

**Практыкаванне 7. Адкажыце на пытанні.**

1. Якія хобі можа мець той ці іншы чалавек?
2. Чым захапляецца Алесь?
3. Аматаркай чаго з’яўляецца Аня?
4. Чаму Ані падабаецца футбол?
5. Якую беларускую спартыўную лексіку засвоіла Аня?
6. Які вынік гульні?

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## ГРАМАТЫКА

### Дзеясловы І спражэння на *-о-(ць)*

| Мяккая аснова | | Цвёрдая аснова |
|---|---|---|
| **пал-о-(ць)** | **намал-о-(ць)** | **адпар-о-(ць)** |
| пал-ю́ | намял-ю́ | адпар-ý |
| пол-еш | наме́л-еш | адпор-аш |
| пол-е | наме́л-е | адпор-а |
| пол-ем | наме́л-ем | адпор-ам |
| пол-еце | наме́л-еце | адпор-аце |
| пол-юць | наме́л-юць | адпор-уць |

! Формы прошлага часу ўтвараюцца згодна з правілам ад асноў інфінітыва.

**Практыкаванне 8. Выберыце патрэбныя дзеясловы, пастаўце іх у форму цяперашняга (будучага простага) часу.**

| вы́параць | размалоць | пакалоць |
|---|---|---|
| раскалоцца | калоць | |

1. Цяжкія думкі _______ галаву.
2. Мама акуратна _______ рукаў, і мы зробім табе камізэльку.
3. Дзеці, асцярожна з вожыкам, усе рукі _______!
4. Калі не прыйдзем да згоды, наш калектыў ______ на два лагеры.
5. Зараз _______ каву і будзем рыхтаваць дэсерт.

## Дзеясловы руху

***ве́зці – вазі́ць, ве́сці – вадзі́ць, не́сці – насі́ць***

**Практыкаванне 9. Устаўце дзеясловы везці – вазіць, весці – вадзіць, несці – насіць у патрэбнай граматычнай форме.**

1. Ты заўсёды _______ з сабой пашпарт?
2. Брат ужо шмат гадоў _______ машыну.
3. Я іду ў госці і _______ кветкі гаспадыні.
4. Вы кожнае лета _______ дзяцей на мора?
5. Кожную нядзелю я _______ дачушку ў басейн.
6. У цябе заўсёды такая цяжкая сумка! Што ты _______ у ёй?
7. Мы _______ табе торт. Рыхтуй каву.
8. Куды вы _______ столькі кніг? – Мы перасяляемся ў іншы кабінет.
9. Вы часта _______ з сабой сабаку на цягніку? Ці маеце вы дазвол?

**Практыкаванне 10. Запомніце ідыёмы і прыдумайце з імі сітуацыі.**

**Весці рэй** – быць завадатарам, верхаводзіць
**Вадзіць дзяды** – драмаць, спаць седзячы
**Вазамі вазіць** – пра вялікую колькасць
**За плячамі не насіць** – пра тое, што не абцяжарвае
**Несці ахінею** – гаварыць глупства

**Практыкаванне 11. Выберыце неабходны прыставачны дзеяслоў і ўстаўце ў сказы ў патрэбнай граматычнай форме.**

1. Звычайна я (прыносіць / прыне́сці) табе цукеркі, а заўтра (прыносіць / прыне́сці) свой пірог.

2. Па выхадных я (адводзіць / адве́сці) сына да бабулі, а заўтра (адводзіць / адве́сці) да сяброўкі.
3. Штораніцы мяне да ўніверсітэта (падвозіць / падве́зці) сябра, а заўтра (падвозіць / падве́зці) брат.
4. Маці (пане́сці / панасіць) дзіця на руках, і яно заснула.
5. Па вечарах я (вы́весці / выводзіць) сабаку на двор.
6. Што яшчэ трэба (адносіць / адне́сці) на кухню?
7. Вы не (дане́сці / даносіць) гэты чамадан да машыны, ён вельмі цяжкі.
8. Сцяжынка (даве́сці / даводзіць) мяне да сажалкі і згубілася.
9. Таксіст дрэнна ведаў горад і (заве́зці / завозіць) мяне зусім не туды.
10. Я (праве́сці / праводзіць) цэлы дзень у пошуках патрэбнай інфармацыі.

## Безасабовыя сказы
## (псіхічны і фізіялагічны стан чалавека)

1. Давальны склон назоўніка (асабовага займенніка) + безасабовы зваротны дзеяслоў:

*Яму не спіцца (не ляжыцца, не працуецца, не малюецца).*
*Яму не спалася (не ляжалася, не працавалася, не малявалася).*

2. Вінавальны склон назоўніка (асабовага займенніка) + безасабовы дзеяслоў:

*Яго ліхаманіць.*
*Яго ліхаманіла.*

3. Давальны склон назоўніка (асабовага займенніка) + дзеяслоўная звязка (стаць, рабіцца, здавацца) + прэдыкатыўнае слова:

*Яму цяжка (радасна, весела, балюча).*
*Яму было (стала, зрабілася) цяжка (радасна, весела, балюча).*
*Яму будзе цяжка (радасна, весела, балюча).*

4. Безасабовы дзеяслоў:

*На душы змрачнее (святлее).*
*На душы змрачнела (святлела).*

**Практыкаванне 12. Апішыце свой псіхічны (фізіялагічны) стан у наступных сітуацыях, выкарыстаўшы пададзеныя словы.**

**Дзеясловы**: нядужыцца, нездаровіцца, лепшае, горшае, звініць у галаве, коле ў баку, не сядзіцца, не думаецца, не спяваецца, кінула ў пот, не маўчалася, добра елася і пілося, дыхалася на поўныя грудзі, лёгка ўстаецца.

**Прэдыкатыўныя словы**: добра, дрэнна, сумна, лёгка, спакойна, неспакойна, трывожна, прыемна, страшна, холадна, цёпла, крыўдна, смешна, сорамна, ціха, святочна, тужліва, чароўна.

1. Вы завяршылі цяжкую справу, якая каштавала вам вялікіх высілкаў, але прынесла задавальненне.
2. Вы захварэлі на грып / атруціліся нясвежымі прадуктамі ў самы непажаданы для вас час.
3. Вы атрымалі нечаканую навіну, якая вас вельмі ўзрушыла.
4. Вы закахаліся.
5. Вы пазнаёміліся з фільмам (кнігай, карцінай, архітэктурным помнікам, горадам і пад.), які вас вельмі ўразіў.

## Утварэнне і скланенне назваў маладых істот

воўк + -ан- → ваўчаня́ (ё)
гусь + -ян- → гусяня́ (ё)

! Некаторыя назвы маладых істот свойскіх жывёл з’яўляюцца невытворнымі словамі: *цяля (ё), жарабя (ё), шчаня (ё), парася (ё), ягня (ё)*.

| | | |
|---|---|---|
| **Н.** | ваўчан-я́ (ё) | ваўчаня́т-ы |
| **Р.** | ваўчаня́ц-і | ваўчаня́т |
| **Д.** | ваўчаня́ц-і | ваўчаня́т |
| **В.** | ваўчан-я́(ё) | ваўчаня́т |
| **Т.** | ваўчан-ём | ваўчаня́т-амі |
| **М.** | аб ваўчаня́ц-і | ваўчаня́т-ах |

! Па такой жа мадэлі скланяюцца назоўнікі *дзіця* (ё), *хлапчаня* (ё), *блізня* (ё).

**Практыкаванне 13. Утварыце ад назоўнікаў назвы маладых істот і пастаўце іх у форме, якую патрабуе галоўнае слова.**

*Узор*: казка пра (мыш) – казка пра мышаня.

Адпусціць (бобр) <о ~ а>;
бараніць (медзведзь);
гуляць з (кот) <о ~ а>, <т ~ ц’>;
лашчыць (заяц) <ц ~ ч>;
дзівіцца з (зубры);
дапамагчы (ліса) <с ~ с’>;
захапляцца (леў) <э ~ Ø>, <ў ~ в’>;
назіраць за (качка) <к ~ Ø>;
сачыць за (бусел) <э ~ Ø>, <л ~ л’>;
даць корму (індыкі) <к ~ ч>;

## Скланенне назоўнікаў мужчынскага роду на *-а (-я)*

| Адзіночны лік | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Націск на аснове | | | | | | Націск на канчатку |
| на цвёрды | на г, к, х | | на зацвярдзелы | на мяккі | | усе тыпы асноў |
| гарэ́з-а | Я́нк-а | кале́г-а | задзір-а | | ціхон-я | ляўш-á |
| гарэ́з-ы | Я́нк-і | калег-і | задзір-ы | | ціхон-і | ляўш-ы́ |
| гарэ́з-у | Я́нк-у | кале́г-у | задзір-у | | ціхон-ю | ляўш-ы́ |
| гарэ́з-у | Я́нк-у | кале́г-у | задзір-у | | ціхон-ю | ляўш-ý |
| гарэ́з-ам | Я́нк-ам | кале́г-ам | задзір-ам | | ціхон-ем | ляўш-ой / -ою |
| гарэ́з-е | Я́нк-у | кале́г-у | задзір-у | | ціхон-ю | ляўш-ы |

| Множны лік | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Націск на аснове | | | | Націск на канчатку |
| на цвёрды | на г, к, х | на зацвярдзелы | на мяккі | усе тыпы асноў |
| гарэ́з-ы | кале́г-і | задзір-ы | ціхон-і | ляўш-ы́ |
| гарэ́з | кале́г | задзір | ціхонь | ляўш-э́й |
| гарэ́з-ам | кале́г-ам | задзір-ам | ціхон-ям | ляўш-áм |
| гарэ́з | кале́г | задзір | ціхонь | ляўш-э́й |
| гарэ́з-амі | кале́г-амі | задзір-амі | ціхон-ямі | ляўш-áмі |
| гарэ́з-ах | кале́г-ах | задзір-ах | ціхон-ях | ляўш-áх |

**Практыкаванне 14. Раскрыйце дужкі.**

Ушчуваць (манюка Васіль), ганарыцца (Янка Купала, Францыск Скарына), дамовіцца з (стыляга Вінцусь), спаткацца з (разявака Пракоп), захапіцца (Барыс Сачанка), памірыцца з (задавака Анатоль), даслаць ліст (дзядзька Базыль), здзіўляцца з (нахаба Антось), патэлефанаваць (бадзяга Мікола), жартаваць з (недарэка Жэня), дапамагчы (няўмека Лявон), здзейсніць дзякуючы (непаседа Сяржук), спазніцца праз (маруда Міхась), прыехаць да (гуляка Язэп), ставіцца да (выскачка Пятрусь), кпіць з (недарэка Паўлюк).

## Лічэбнік

### Лічэбнікі *два, дзве*

| **Два** + наз. м. р. і н. р. | **Дзве** + наз. ж. р. |
|---|---|
| **Н.** два | **Н.** дзве |
| **Р.** двух | **Р.** дзвюх |
| **Д.** двум | **Д.** дзвюм |
| **В.** два / двух | **В.** дзве / дзвюх |
| **Т.** двума | **Т.** дзвюма |
| **М.** аб двух | **М.** аб дзвюх |

**Практыкаванне 15. Устаўце замест кропак неабходныя лічэбнікі *два* ці *дзве* ў патрэбнай форме.**

1. На маім гадзінніку зараз амаль … гадзіны.
2. Алесь сустрэў … сваіх сяброў.
3. На гэтым тыдні выпадае аж … святы.
4. Мікола паслаў бандэролі сваім … сяброўкам.
5. Васіль павіншаваў са святам … ветэранаў.
6. На юбілей маці прыехалі … яе стрыечныя сястры.
7. … гадамі раней Мікола пасадзіў гэтую бярэзінку.
8. Вольга вельмі захаплялася гэтымі … паэтамі.
9. Да … новых школ першага верасня ланцужкамі сцякаліся вучні.
10. … сваімі сяброўкамі Каця надзвычай ганарылася.

! Лічэбнікі ***два, дзве, тры, чатыры*** ў творным склоне заканчваюцца на ***-ма***: *дву**ма**, дзвю**ма**, тры**ма**, чатыр**ма***.

**Практыкаванне 16. Пастаўце спалучэнні лічэбнік + назоўнік у форму творнага склону.**

Два вучні, дзве студэнткі, два кошыкі, два вядры, дзве кнігі, два падручнікі, два алоўкі, дзве жанчыны, дзве гітары, тры матацыклы, дзве машыны, чатыры аўтобусы, дзве карціны, тры мабільнікі, два ноўтбукі.

! У колькасных лічэбніках у творным склоне ў інтэрвакальнай пазіцыі падаўжаецца **ц**

| пяць – пяццю<br>дваццаць – дваццаццю<br>трыццаць – трыццаццю<br>дваццаць пяць – дваццаццю пяццю<br>трыццаць пяць – трыццаццю пяццю<br>пяцьдзясят пяць – пяццюдзесяццю пяццю<br>шэсцьдзясят пяць – шасцюдзесяццю пяццю<br>семдзесят пяць – сямюдзесяццю пяццю<br>восемдзесят пяць – васьмюдзесяццю пяццю<br>**Але**: *шасцю, сямю, васьмю!* |
|---|

**Практыкаванне 17. Запішыце сказ, раскрыйце дужкі і замяніце лічбы словамі.**

Наш кіёск папоўніўся 845 (новы падручнік),
215 (вялікі сшытак для малявання),
186 (мяккі аловак),
555 (беларуска-рускі слоўнік),
397 (кніга для дамашняга чытання),
2478 (дапаможнік для абітурыентаў).

**Практыкаванне 18. Запішыце лічэбнікі ў форме патрэбнага склону.**

Над: 329; 657; 278; 543; 894;     Каля: 432; 876; 948; 765; 539.

**Практыкаванне 19. Выпраўце, дзе трэба, памылкі, запішыце правільна.**

Двумя, дзвюмя, двума, дзевяцю, дванаццаццю, васеммю, двумямі, трыццацю, пяцідзесяццю, сямюдзесяццю, пяццюдзесяццю пяцю, дваццаццю пяццю, трыццаццю шасццю, васьмюдзесяццю шасцю, васьмідзесяццю.

**Практыкаванне 20. Выпраўце памылкі, абгрунтуйце свой адказ.**

1. Да дзвюх хлопцаў нечакана падбегла ўстрывожаная дзяўчынка.
2. Дзвумя сваімі сынамі надта ганарыўся бацька.
3. У тое лета Ігнат выдаў замуж дзвух сваіх дачок.
4. Паміж двюх лаў пад абразамі туліўся невялічкі стол.
5. Пра дзвух хлопцаў з першага курса гаварылі непрыемныя рэчы.
6. Дзьвум студэнткам прапанавалі перайсці на перакладчыцкі факультэт.
7. Пецька дзвух слоў не мог звязаць.
8. За двумя зайцамі пагонішся – ніводнага не зловіш.

**Практыкаванне 21. Прачытайце ўважліва, знайдзіце колькасныя лічэбнікі, якія маюць форму роду, запішыце іх у творным склоне.**

Тройка, дзве, сёмы, пяць, шасцёрка, чатыры, два, восемсот, пяцьдзясят, пятнаццаць, семдзесят восем, дзевяноста чатыры, трыста сорак шэсць, дзвесце пяцьдзясят восем.

## Спалучальнасць назоўнікаў з колькаснымі лічэбнікамі

| Назоўны склон | | Родны склон |
|---|---|---|
| **Адзіночны лік** | **Множны лік** | **Множны лік** |
| 1 | 2, 3, 4, 22, 23, 24, 32, 33, 34 | 5 – 20, 25 – 30 і г. д. |
| адзін (21, 31) дзень<br>адна (41, 151) кніга<br>адно (51, 271) вядро | дзве (22, 32, 42) кветкі<br>два (22, 32, 42) сталы<br>тры (23, 33, 43) алоўкі<br>чатыры (24, 34, 44) дубы | 5 вуліц<br>17 бяроз<br>20 відэльцаў<br>25 падручнікаў |

**Практыкаванне 22. Спалучыце кожны лічэбнік з назоўнікамі, што ў дужках, звярніце ўвагу на склон, лік назоўнікаў, а таксама на канчаткі.**

2, 3, 4 (свята, нядзеля, госць, запрашэнне)
22, 33, 44 (парад, мітынг, феерверк, дэманстрацыя)
122, 223, 334 (абрад, будзень, адпачынак, вандроўка)
5, 6, 7 (вяселле, развод, шлюб, канцэрт)
25, 26, 47 (юбілей, пастаноўка, звычай, спектакль)
125, 226, 347 (фільм, урачыстасць, салют, вечарына)

**Практыкаванне 23. Раскрыйце дужкі паводле ўзору.**

***Узор***: 4 (новы стол) – чатыры сталы – сталы (якія?) новыя – чатыры новыя сталы.

3 (калядны дзень), 2 (земляробчае свята), 4 (царкоўнае свята), 2 (арганізаваны мітынг), 24 (святочны дзень), 23 (тэатральная пастаноўка), 34 (яркі салют), 42 (каляндарны абрад), 54 (прыгожы феерверк), 72 (цікавая вандроўка), 83 (шчырае запрашэнне), 152 (урачыстая прэзентацыя), 324 (народная песня), 542 (святочны канцэрт).

## Парадкавыя лічэбнікі. Скланенне

! Парадкавыя лічэбнікі ўтвараюцца ад колькасных і скланяюцца як прыметнікі

| Простыя | Складаныя |
|---|---|
| адзі́н – пе́ршы<br>два – другі́<br>пяць – пя́ты<br>сем – сёмы<br>дзе́вяць – дзявя́ты | пяцьдзяся́т – пяцідзяся́ты<br>дзве́сце – двухсоты<br>тры́ста – трохсоты<br>пяцьсот – пяцісоты<br>дзевяцьсот – дзевяцісоты |
| !!! пе́ршы, другі́, трэ́ці, чацвёрты, пя́ты, … адзіна́ццаты, двана́ццаты, трына́ццаты, … двацца́ты, … саракавы́, пяцідзяся́ты, … соты, двухсоты, трохсоты … – **скланяюцца як прыметнікі**. | |
| **Н.** пя́ты | **Н.** трохсоты |
| **Р.** пя́тага | **Р.** трохсотага |
| **Д.** пя́таму | **Д.** трохсотаму |
| **В.** як Н. ці Р. | **В.** як Н. ці Р. |
| **Т.** пя́тым | **Т.** трохсотым |
| **М.** у пя́тым | **М.** у трохсотым |

! У **састаўных** парадкавых лічэбніках, тыпу: *дзве́сце восемдзесят шэсць, пяцьсот шэсцьдзясят восем* і г. д. наогул скланяецца толькі апошняе слова: *дзве́сце восемдзесят шостага, пяцьсот шэ́сцьдзясят восьмага* і г. д.

**Практыкаванне 24. Ад колькасных лічэбнікаў утварыце парадкавыя, складзіце з імі словазлучэнні паводле ўзору.**

***Узор***: 1 – першы – першы будынак.

2, 4, 6, 7, 11, 18, 29, 43, 158, 286, 754, 972, 1348, 2485, 3429.

! Парадкавыя састаўныя лічэбнікі, што заканчваюцца на ***тысячны***, ***мільённы***, ***мільярдны***, утвараюцца ад роднага склону адпаведных колькасных лічэбнікаў, пішуцца ў адно слова і скланяюцца як прыметнікі: ***двухсотсямідзесяціпяцітысячны, двухсотсямідзесяціпяцітысячнага*** і г. д.

Па такім прынцыпе ўтвараюцца прыметнікі са спалучэнняў лічэбнік + назоўнік – ***дваццаціпяцігадовы, саракашасцікіламетровы***.

**Практыкаванне 25. Запішыце словамі паводле ўзору.**

***Узор***: 28-тысячны жыхар – дваццацівасьмітысячны жыхар.

35-градусны мароз, 478-кіламетровы шлях, 853-тысячны сшытак, 285-мільённы тэлевізар, 964-тысячны дом, 596-мільённы падручнік.

**Практыкаванне 26. Паслухайце тэкст, звярніце ўвагу на вымаўленне колькасных і парадкавых лічэбнікаў.**

Самая вялікая афіцыйна зарэгістраваная колькасць дзяцей у адной маці – 69. Гэта была першая з дзвюх жонак селяніна Фёдара Васільева (нар. у 1707 г. у горадзе Шуі за 241 км ад Масквы). Яна нараджала 27 разоў: 16 двайнят, 7 трайнят, 4 чацвярні. 27 лютага 1782 г. манахі Нікольскага манастыра паведамілі аб гэтым у Маскву. Прыкладна 67 дзяцей выжылі. Вядома, што імператрыца Кацярына праявіла цікавасць да паведамлення. Дзеці, большасць якіх выжылі і дажылі да сталых гадоў, былі народжаны ў перыяд з 1725 па 1765 г.

У цяперашні час больш за ўсіх у свеце дзяцей мае Леанціна Альбіна з Чылі (нарадзілася ў 1921 г.), якая ў 1981 г. нарадзіла сваё 55-е апошняе дзіця. Муж яе Херарда Альбіна паведаміў, што пасля іх вяселля ў 1943 г. у іх нарадзілася 5 трайнят (усе хлопчыкі). 40 дзяцей (24 хлопчыкі і 16 дзяўчынак) жывыя, 15 дзяцей загінулі ў час землятрусу і пры родах.

(*З Кнігі рэкордаў Гінеса*)

- **Прачытайце тэкст. Назавіце колькасныя і парадкавыя лічэбнікі, праскланяйце 3 – 4 з іх на выбар. Ад колькасных лічэбнікаў вусна ўтварыце парадкавыя, 1–2 з іх праскланяйце пісьмова.**

## Зборныя лічэбнікі *абодва, абедзве*

У зборных лічэбніках ***абодва***, ***абедзве*** скланяецца толькі другая частка паводле ўзору ***два***, ***дзве***.

| **абодва** + ***наз. м. р.*** **(*муж.*+ *муж.*)** | **абедзве** + ***наз. ж. р.*** **(*жан.* + *жан.*)** |
|---|---|
| **Н.** абодва | **Н.** абе́дзве |
| **Р.** абодвух | **Р.** абе́дзвюх |
| **Д.** абодвум | **Д.** абе́дзвюм |
| **В.** абодва / абодвух | **В.** абе́дзве / абе́дзвюх |
| **Т.** абодвума | **Т.** абе́дзвюма |
| **М.** аб абодвух | **М.** аб абе́дзвюх |

! ***Двое, трое, абое*** (апошняе пра пра мужчыну і жанчыну разам) – скланяюцца як прыметнікі на мяккі зычны ў мн. л. (***сіні***): *дваіх, траіх, дваім, траім* і г. д.

! Пры скланенні лічэбніка ***абое*** ва ўскосных склонах націск на канчатку: ***абаі́х, абаі́м, абаі́мі*** і г. д.

! Лічэбнікі ***чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзявяцера, дзясяцера*** – скланяюцца як прыметнікі на цвёрды зычны (***новы***): *чацвярых, пяцярых, чацвярым, пяцярым* і г. д.

**Практыкаванне 27. Праскланяйце пісьмова зборныя лічэбнікі, утварыце і запішыце з імі сказы.**

Абодва, абедзве, абое, пяцёра, шасцёра, сямёра.

**Практыкаванне 28. Устаўце замест кропак лічэбнікі *абедзве, абодва, абое* ў патрэбнай форме.**

1. Маці ўзяла сына за руку, і яны … выйшлі з хаты.
2. … яе сыны вучыліся ў горадзе.
3. Каця і Вольга прыехалі ў Мінск, яны … паступілі ў БДУ.
4. … мае браты жывуць і працуюць у Польшчы.

5. … рукамі трымалася Вера Іванаўна за пасаду дырэктара магазіна.
6. Сцяпан Савельевіч і дачка яго Людміла выйшлі з метро, і яны … накіраваліся ў бок амерыканскага пасольства.

## Дробавыя лічэбнікі

У дробавых лічэбніках *адна пятая, дзве дзясятыя, пяць шостых, сем сотых* … першая частка скланяецца як адпаведны колькасны лічэбнік, другая – як парадкавы: *дзве дзясятыя, дзвюх дзясятых*.

! *Дзве, тры, чатыры* – ***-ыя, -ія***: *дзве трэц**ія**, тры дзясят**ыя**, чатыры сот**ыя**; пяць, шэсць, сем…* – ***-ых***: *пяць дзясят**ых**, шэсць сот**ых**…*

**Практыкаванне 29. Прачытайце лічэбнікі.**

2/4; 3/5; 6/10; 2 3/10; 5 3/4; 3 5/6; 7/10; 8/100; 9 5/100.

**Практыкаванне 30. Уважліва прачытайце, выпраўце, дзе трэба, памылкі.**

Дзве сотых, тры дзясятых, чатыры сотых, пяць сотых, пяць дзясятых, сем сотых, дзве цэлых і тры сотыя, тры цэлыя і дзве дзясятых, пяць цэлых і пяць дзясятых, сем цэлых і дзве дзясятых.

## Лічэбнікі *паўтара, паўтары*

Лічэбнікі ***паўтара, паўтары*** не скланяюцца.

| | |
|---|---|
| ***паўтара́*** + назоўнік м. і н. р.<br>***паўтары́*** + назоўнік ж. р. | ***паўтара́*** гектара, ***паўтара́*** вядра<br>***паўтары́*** тоны, ***паўтары́*** нормы |

! Лічэбнікі ***паўтара, паўтары*** ў Н. і В. склонах спалучаюцца з назоўнікамі Р. склону адзіночнага ліку: *паўтара кілаграма, паўтары нормы* – сувязь кіраванне. Ва ўсіх астатніх склонах – сувязь дапасаванне: Д. *паўтара кілаграмам, паўтары нормам*; Т. *паўтара кілаграмамі, паўтары нормамі*; М. *аб паўтара кілаграмах, аб паўтары нормах*. У Р. склоне наглядаецца варыянтнасць: *паўтара кілаграма і паўтара кілаграмаў.*

**Практыкаванне 31. Устаўце замест кропак прапушчаныя літары, спалучыце лічэбнікі з назоўнікамі.**

1. Паўтар… соткі маці адвяла пад клубніцы.
2. Паўтар… тыдня бесперапынна ліў дождж.
3. Ала Васільеўна выконвае ў школе паўтар… стаўкі.
4. За паўтар… тысячы беларускіх рублёў цяпер нічога не купіш.
5. Паўтар… гектара было засаджана капустаю.
6. Ураджай памідораў сёлета ў паўтар… раза лепшы, чым летась.
7. Антось хуценька выпіў паўтар… шклянкі малака.
8. Вера дадала ў пірог паўтар… лыжкі мёду.
9. Паўтар… кошыка агуркоў маці аддала суседцы.
10. Паўтар… тысячы долараў патраціла сёлета Лена на адпачынак.

## Выражэнне прычыны і выніку. Складаныя сказы са злучнікамі *бо (таму што)* і *таму*

| Я хачу запісацца ў фітнэс-цэнтр.<br>Я люблю спорт. |
|---|
| Я хачу запісацца ў фітнэс-цэнтр, бо я люблю спорт.<br>Я люблю спорт, таму я хачу запісацца ў фітнэс-цэнтр. |




**Практыкаванне 32. Растлумачце: а) прычыну; б) вынік.**

1. Я не пайду на хакейны матч. Я не аматар хакея.
2. Мы не пайшлі гуляць у футбол. Было дрэннае надвор’е.
3. Урок фізкультуры праходзіў у зале. На вуліцы ішоў дождж.
4. Наташа не ходзіць у басейн па нядзелях. У гэты час там многа дзяцей.
5. Гэты фітнэс-цэнтр мне не падабаецца. Там няма тэніснай залы.
6. Сёння вечарам Максім вольны. У яго няма трэніроўкі.

**Практыкаванне 33. Закончыце фразы.**

Алесь запрасіў Наташу на экскурсію, бо...
Алесь не запрасіў Наташу на экскурсію, таму ...
Каманда "Юнацтва" перамагла з лікам 4:2, бо ...
Каманда "Юнацтва" перамагла з лікам 4:2, таму ...
Я люблю іграць на гітары, таму ...
Я хацела купіць білеты на канцэрт Фрэнсіса Гоі, бо …
Мая сям'я любіць актыўны адпачынак, таму ...
Мая сям'я бярэ ўдзел у велапрабегу, бо ...

🎧 **Практыкаванне 34. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання.**

## ПАЛЯВАННЕ НА ГЛУШЦА

Так бавіла час беларуская шляхта ў канцы XIX стагоддзя
(Паводле паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»)

[У тыя часы таксама ладзіліся «царскія паляванні». Лоўчыя і леснікі рыхтавалі для паноў пікнік у лесе, высочвалі для іх дзічыну. Ляснік Міхал вядзе да глушцовага тока пана Свіду.]

Міхал здалёк пайшоў цянькамі;
Гатовы план даўно ён мае,
Ідзе і Свіду навучае,
Гаворыць з прыціскам, хоць ціха,
Каб не ўстрывожыць тое ліха.
– Вось тут, паночку, «такавіска»,
Глушэц асочаны ўжо блізка,
Няхай жа пан ідзе ціхутка,
Бо гэта штучка вельмі чутка:
Не асцярогся – і прапала. –
І Свіда слухае Міхала,
Што толькі той ні загадае.
Міхал над панам волю мае,
Цяпер ён пан хоць на мінутку.
«Скачы ж, браток, пад маю дудку,
Прызнай жа мне і ты пашану!» –
Міхал у думках кажа пану.
– Як скокну я – і пан хай скача;

Спынюся я – і пан спыніся!
Глядзі ж, панок, не памыліся,
Каб тут не вынікла няўдача! –
Міхал замёр, стаіць маўкліва,
А з ім і Свіда нерухліва.
У лесе значна пасвятлела,
І вось дзесь блізка, перш нясмела
Заграў глушэц і абарваўся
Ды зноў зачаў, разбалбатаўся.
Міхал даў знак. Скок-скок! спыніўся,
З ім радам Свіда апыніўся.
Ці бачыць пан? унь-унь чарнее…
Ой, не: хай пан цярпець умее! –
А Свіда стаў пароць гарачку
І ўжо у стрэльбе ўзвёў сабачку.
– Не руш! не руш, пан! о, крый божа:
Пан папсаваці справу можа! –
Яшчэ мінуту улучылі,
На крокаў дваццаць падступілі.
Цяпер глушэц, як на далоні,
Сядзіць, бы шула, у заслоне
Хваёвых лапак, хвост мятлою,
Як бы любуецца сабою,
Балбоча, крэхкае і свішча;
Глушэц склікае на ігрышча,
А мо хваленні жыццю правіць
І гэты бор спрадвечны славіць.
Міхал і Свіда той часінай
Стаялі моўчкі пад ялінай.
Пан Свіда стрэльбу падымае
І доўга цэліцца… страляе.
Бух! – грукнуў стрэл, лес узбудзіўся!
Дымок раўнюткаю стралою
Жахнуў старую гэту хвою,
З якой глушэц даўно зрадніўся;
раптам з ёю разлучыўся,
У момант звяў і страціў сілы
І не паспеў разняць ён крылы,
На мяккі дол, на мох зялёны

Упаў, насмерць акрываўлёны;
Ўзнялась галоўка і апала,
Два разы лапка задрыжала,
Навек застыла нерухома.
А Сіда рад быў, рад вядома:
Рублём Міхала ён трактуе,
Цыгарай хвацкаю частуе.

## МОДУЛЬ 9

### ВАНДРОЎКІ. ПАМЯТНЫЯ МЯСЦІНЫ. ПРЫРОДА

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Выражэнне кірунку руху**
  - **Дзеяслоў I спражэння з асновай *-ня-(ць)***
  - **Дзеясловы I спражэння на *-а(я)* у інфінітыве; *-н* (у аснове цяперашняга ці будучага часу)**
  - **Дзеяслоў I спражэння *ўзяць***
  - **Умоўны лад дзеяслова**
  - **Дзеясловы ўмоўнага ладу ў складаным сказе**
  - **Формак ўмоўнага ладу ў простым сказе (выражэнне ветлівай просьбы)**
  - **Дзеепрыметнік**
  - **Безасабовыя сказы (стан прыроды)**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

### ЛЕКСІКА

**Бюро даве́дак** – справочное бюро
**Вандрава́ць / павандрава́ць** – путешествовать / попутешествовать
**Вандроўка** – путешествие
**Вандроўнік** – путешественник
**Заме́жнік** – иностранец
**Заме́жны** – иностранный, заграничный
**Здарожыцца** – устать с дороги
**Кіру́нак, напра́мак** – направление
**Мы́тнік** – таможенник
**Мы́тня** – таможня
**Межава́ць** – граничить
**Мяжа́** – граница
**Накіроўвацца / накірава́цца** – направляться / направиться
**Паве́траны тра́нспарт** – воздушный транспорт
**Падарожжа** – путешествие

**Падарожнік** – путешественник
**Падарожнічаць** – путешествовать
**Папярэ́джанне** – предупреждение
**Папярэ́джваць / папярэ́дзіць** – предупреждать / предупредить
**Папярэ́дні** – предварительный, предыдущий
**Прыпы́нак** – остановка
**Раскла́д** – расписание
**Рух** – движение
**Ру́хацца / ру́шыць** – двигаться / двинуться
**Рэ́йка** – рельс
**Спазне́нне** – опоздание
**Спазня́цца / спазні́цца** – опаздывать / опоздать
**Спыня́цца / спыні́цца** – останавливаться / остановиться
**Хваля́вацца** – волноваться
**Ху́ткасць** – скорость
**Ху́ткі** – скорый
**Цягні́к** – поезд
**Чака́ць** – ожидать
**Чыгу́начны вакза́л** – железнодорожный вокзал
**Чыгу́нка** – железная дорога
**Шчаслі́вай даро́гі!** – счастливого пути!



## 🎧 Практыкаванне 1. Праслухайце дыялогі.

***

– Калі ласка, тры білеты да Гомеля ў купэйным вагоне.
– На якое чысло?
– На дваццатае верасня.
– Хвілінку. Цягнік 186, вагон трэці, месцы пятае і шостае.
– Прабачце, а калі будзем у Гомелі?
– Зранку, а дзясятай.
– Дзякуй.
– Калі ласка.



***

– Прабачце, як мне прайсці ці праехаць да чыгуначнага вакзала? Я вельмі спяшаюся на цягнік.
– Лепш праедзьце адзін прыпынак на метро да станцыі «Плошча Незалежнасці», а там пройдзеце праз падземны пераход.
– А ці ёсць бюро даведак у будынку вакзала?
– Так, там ёсць таксама і электронны расклад руху цягнікоў.
– Вялікі дзякуй.

– Як вы дабіраліся да Мінска? Вы ехалі цягніком ці ляцелі самалётам?
– Ехалі, але не толькі цягніком.
– А як?
– Спачатку машынай да Кіева, а потым цягніком Кіеў – Мінск.
– Здарожыліся?
– Не вельмі. У купэ мы ехалі толькі ўдваіх.

***

– Я чула, ты летам была ў Швецыі.
– Так, гэта праўда.
– Чым дабіралася: цеплаходам ці самалётам?
– Туды і адтуль самалётам. Так хутчэй і зручней.
– Натуральна. Асабліва калі маеш грошы.

- **Прачытайце дыялогі па ролях.**

**Практыкаванне 2. Праслухайце міні-дыялогі. Адкажыце, дзе яны могуць адбывацца.**

– Хадзі сюды. Вось нашы месцы. Сумку пакладзі на паліцу.
– А ці можна, я сяду каля акна? Пагляджу на беларускія краявіды.

– Гэты аўтобус ідзе на вакзал?
– Не, адсюль да вакзала можна дабрацца толькі трамваем.

– Ці не пагадзіліся б вы памяняцца месцамі? Баюся, мой сын можа ноччу зваліцца з паліцы.
– Добра, пайду вам насустрач, хаця такая перспектыва мяне не радуе.

– Вы ўжо атрымалі свой багаж?
– Яшчэ не. А вы ўжо і на памежны і мытны кантроль?

**Практыкаванне 3. Ці ведаеце вы, якім відам транспарту карысталіся героі. Складзіце сказы.**

| | |
|---|---|
| Баба-Яга | конь |
| Папялушка | гусі |
| Дзюймовачка | карэта з гарбуза |
| Ілья Мурамец | асёл |
| Нільс | ластаўка |
| Санча Панса | дыван-самалёт |
| Дон Кіхот | печка |
| Герда | падводная лодка |
| Ямеля | мятла |
| Барон Мюнхгаўзен | ядро гарматы |
| Іван Царэвіч | ракета |
| Аладзін | алені |
| Нязнайка | воўк |
| Капітан Нема | |






## Выражэнне кірунку руху

**Куды?**

↓

Я еду **ў** інстытут.
Я еду **ва** ўніверсітэт.
Я еду **да** мамы.
Мы хадзілі **на** стадыён **на** футбольны матч.

**Адкуль?**

↓

Ірына ідзе **з** інстытута.
Марына ідзе **ад** сяброўкі.
Мы ідзём з матча **са** стадыёна.

**Куды?**

↓

**У (ВА) / НА** → вінавальны склон (*каго? што?*)
**ДА** → родны склон (*каго? чаго?*)

**Адкуль?**

↓

**З (СА)** → родны склон (*каго? чаго?*)
**АД** → вінавальны склон (*каго? што?*)

**З** вёскі **ў** Мінск мы ехалі аўтобусам.
**Са** Смаленскай вуліцы **на** вакзал едзем на таксі.

| Прыстаўка | Прыназоўнік | Прыклады |
|---|---|---|
| **па-** | **у**<br>**на**<br>**да** | Яна паехала ў Беларусь.<br>на канферэнцыю.<br>да бацькоў. |
| **пры-** | **у**<br>**на**<br>**да** | Яна прыехала ў Беларусь.<br>на канферэнцыю.<br>да бацькоў. |
| **з-** | **з**<br>**ад** | ад Яна з’ехала з Беларусі.<br>з канферэнцыі.<br>ад бацькоў. |
| **ува-**<br>**у-** | **у** | Яна ўвайшла ў магазін.<br>Машына ўехала ў яму. |

| | | |
|---|---|---|
| **вы-** | **з**<br>**на**<br>**у** | Машына выехала з горада.<br>Яна выйшла на вуліцу.<br>Яна выйшла ў магазін. |
| **пра-** | **цераз (праз)**<br>**міма** | Яна прайшла праз калідор на кухню.<br>Ён праехаў міма дома. |
| **пера-** | **цераз (праз)**<br>**на**<br>**у** | Яны перайшлі цераз вуліцу.<br>на другую лінію метро.<br>ў залу. |
| **да-** | **да** | Яна даехала да сваёй станцыі. |

**Практыкаванне 4. Устаўце правільны прыназоўнік.**

1. ... Полацка ... Мінск мы прыехалі позна ноччу.
2. Бацькі паехалі ... вакзал дзве гадзіны назад.
3. Калі мы прыляцелі ... Маскву, нас ніхто не сустрэў.
4. Алена прыйшла ... працу рана.
5. Студэнты прыехалі ... ўніверсітэт.
6. ... чэмпіянат свету па хакеі прыехалі каманды ... розных краін.
7. ... Гродна мы даехалі на машыне.

**Практыкаванне 5. Праслухайце тэкст.**

## КАЗКІ ЛЯСОЎ І БАЛОТ

Аня наведала Белавежскую пушчу і вярнулася ў захапленні. Яна пабачыла зблізку прадстаўнікоў беларускай фаўны – лася, высакароднага аленя, ваўка. З акна аўтобуса яна ўгледзела чародку дзікоў. Разглядала тысячагадовы дуб, які шасцёра людзей не могуць абхапіць. Пабывала і ў Віскулях, дзе некалі пачыналася Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Беларускі Дзед Мароз, які мае рэзідэнцыю ў Пушчы, пяшчотна паціснуў ёй ручку і паскардзіўся, што ўлетку яму не па сабе.

Вось толькі цар Пушчы – зубр – крыху яе расчараваў. Стаяў ён нячэсаны, сумны.

– Гэта таму, што ў вальеры, – патлумачыў Алесь. – На волі ён іншы. Вялізны, велічны, люты ў гневе. Трое паляўнічых ледзьве памяшчаліся ў яго паміж рагамі, як пісаў пра тое Мікола Гусоўскі ў «Песні пра зубра».

– Гэта гіпербала... Або паляўнічыя ў XVI стагоддзі былі маленькія...

Ані яшчэ больш захацелася паглядзець дзікую прыроду Беларусі. І вось яны з Алесем выпраўляюцца ў грыбы.

– Які ў вас ландшафт! – дзівіцца Аня, гледзячы ў акно аўтамабіля.

– Што асаблівага? Пагоркі, лагчыны...

– А ты бачыў стэп? Роўнядзь. Едзеш – і бачыш, што Зямля круглая.

Алесь павёў Аню запаветнымі сцежкамі. Кожны заўзяты грыбнік мае такія. Каля маладых елачак дружна ўзышлі маслякі. Духмяныя, жоўценькія, хоць ты на хлеб іх намазвай. У бярэзніку Алесь падабраў некалькі маладых абабкаў, з прыгожымі, у панчошках, ножкамі. На ўскрайку асінніку яго чакаў яркі чырвонагаловік. А сярод сівых імхоў павытыркаліся лісічкі – быццам зліткі золата.

Аня любавалася хвоямі, што, нібы арганныя трубы, цягнуліся ўгору. У ельніку было ціха, змрочна і таямніча. Бярозкі, хоць і не такія бялюткія, як у Падмаскоўі, нагадвалі дзяўчат, прыбраных у вясельныя строі.

А Алесь распавядаў ёй лясныя былі і байкі. Пра тое, як лось лечыць мухаморамі свае хваробы. Пра тое, як драпежная расліна расянка заваблівае ў свае пасткі мух. Пра русалак, што гушкаюцца на дрэвах, зачапіўшыся косамі за галіны. Пра Лесуна, які бывае ростам з хвою, а бывае, стане маленькі, як жучок.

Пры гэтым Алесь паспяваў падбіраць грыбы і класці іх у кошык.

Аня раптам заўважыла, што Алесеў кошык амаль поўны, а ў ейным боўтаюцца тры сыраежкі. Ёй стала крыўдна. І яна папрасіла ў думках Лесуна: «Дапамажы мне, дзядуля! Я таксама хачу назбіраць грыбоў».

Лясун у гэты час пра нешта гаманіў з хвоямі. Але ён пачуў просьбу Ані і падумаў: «Гэта дзяўчына добрая. Па лесе ідзе асцярожна, кветкі не топча, мухаморы нагамі не падкідае. Трэба ёй дапамагчы».

І вось Ані ківае галавой важны, нібы генерал, баравік. Вакол яго з верасу павытыркалі галовы яго сямейнікі, маладыя баравічкі. Аня асцярожна здымае іх і кладзе ў кошык. Грыбы белыя, крамяныя, чыстыя, бо надвор’е халаднаватае, і грыбныя мухі яшчэ не разгуляліся.

– Сапраўдны скарб! – радуецца Алесь. – У нас іх яшчэ называюць каласавікамі, бо якраз жыта каласуе.

Аня шчаслівая. Яна шукае ўдачы ў лагчыне і трапляе ў балотца. Мох ізумрудны, мяккі, ногі патанаюць у ім, нібы ў персідскім дыване. Круглае вадзяное люстэрка глядзіць на Аню, быццам вялікае чорнае вока. Над вадою застылі залатыя стракозы. І пахне, моцна пахне багун, ажно ў галаве пачынае круціцца...

... А вунь на купцы сядзіць джэнтльмен зялёнага колеру, з зялёнай барадой, з жабінымі лапкамі замест рук і ног. Джэнтльмен грае на дудцы і маніць да сябе Аню. Яна міжволі робіць крок яму насустрач і ... адчувае, як багна пачынае засмоктваць яе з апетытным чмяканнем.

Ачуньвае Аня ў дужых руках Алеся.

– А дзе грыбы? – кволым голасам пытаецца Аня.

– Потым прынясу. Галоўнае – з балота выбрацца.

* * *

Вясёлыя языкі полымя, патрэскванне вогнішча, глыток гарачай кавы – і можна забыцца пра балотныя страхі. Але Аня не забылася:

– Што гэта было?

– Гэта Балотнік завабіў цябе ў сваю пастку. Або хто іншы з ягоных сваякоў: Аржавень, Багнік ці Лазавік.

– А калі сур’ёзна?

– Калі ты такая рэалістка, то, магчыма, водар багуну плюс кісларод. Гэта ж балота – лёгкія Еўропы!

– Як можна ганарыцца балотам, калі ў вас столькі цудоўных азёр?

– А колькі на ім птушак, дзівосных раслін! А ты бачыла балота ўвосень? На зялёным абшары як бы кропелькі крыві – журавіны паспелі...

– «Лёгкія Еўропы», – уздыхае Аня. – Хто б мог падумаць, што кісларод бывае шкодны.

... У бяздоннай багне, закапаўшыся ў глей, таксама ўздыхаў тоўсты, аблеплены ракаўкамі і п’яўкамі Балотнік. Такую дзяўчыну ўпусціў!

**Мікола Гусоўскі** (1470-я – пасля 1533) – паэт-лацініст, дыпламат, прадстаўнік беларускага Рэнесансу. Аўтар паэмы «Песня пра зубра» (1523), у якой апісаў аблічча, нораў і паводзіны звера, асаблівасці палявання на яго, перадаў хараство беларускай прыроды, заклікаў да міру ў Еўропе.

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## РАСЛІНЫ, ЖЫВЁЛЫ, ДУХІ БЕЛАРУСКАГА ЛЕСУ І БАЛОТА

**Аба́бак** – подберезовик
**Аржаве́нь, ба́гнік, балотнік, лазаві́к** – духи болота
**Багу́н** – багульник
**Вадзяні́к** – водяной
**Ве́рас** – вереск
**Глушэ́ц** – глухарь
**Лясу́н** – леший
**Хвоя** – сосна
**Чырвонагаловік** – подосиновик

**Практыкаванне 6.** **Выпішыце з тэксту беларускія назвы дзікіх звяроў, раслін, грыбоў.**

**Практыкаванне 7.** **Адкажыце на пытанні.**

1. Куды паехалі ў падарожжа Алесь з Аняй?
2. Што ўбачыла і пра што даведалася Аня ў Белавежскай пушчы?
3. Якія легенды расказаў Алесь?
4. Якія грыбы назбіраў Алесь?
5. Што здарылася з Аняй у багне? Было гэта сном ці явай?
6. Чаму балоты называюць «лёгкімі Еўропы»?

## ГРАМАТЫКА

### Дзеясловы I спражэння з асновай *-ня-(ць)*

| **Прыстаўка на галосны** | | **Прыстаўка на зычны** | | **Прыстаўка на д** | |
|---|---|---|---|---|---|
| **-ня- ~ йм- (-м)** | | **-ня- ~ -нім- = -дым-** | | **-ня- ~-нім- = -ым-** | |
| пера-ня́-(ць) | пры-ня́-(ць) | уз-ня́-(ць) | | пад-ня́-(ць) | |
| пера-йм-у́ | пры-м-у́ | уз-нім-у́ | уз-дым-у́ | пад-нім-у́ | пад-ым-у́ |
| пяро-йм-еш | пры́-м-еш | уз-ні́м-еш | уз-ды́м-еш | пад-ні́м-еш | пад-ы́м-еш |
| пяро-йм-е | пры́-м-е | уз-ні́м-е | уз-ды́м-е | пад-ні́м-е | пад-ы́м-е |
| пяро-йм-ем | пры́-м-ем | уз-ні́м-ем | уз-ды́м-ем | пад-ні́м-ем | пад-ы́м-ем |
| пяро-йм-еце | пры́-м-еце | уз-ні́м-еце | уз-ды́м-еце | пад-ні́м-еце | пад-ы́м-еце |
| пяро-йм-уць | пры́-м-уць | уз-ні́м-уць | уз-ды́м-уць | пад-ні́м-уць | пад-ы́м-уць |

### Дзеясловы I спражэння на *а(я)* у інфінітыве *-н* (у аснове цяперашняга ці будучага часу)

| **пача́-(ць)** | **мя-(ць)** |
|---|---|
| пачн-у́ | мн-у |
| пачн-еш | мн-еш |
| пачн-е́ | мн-е |
| пачн-ём | мн-ём |
| пачн-яце́ | мн-яце́ |
| пачн-у́ць | мн-уць |

**Практыкаванне 8. Выберыце патрэбны дзеяслоў і пастаўце яго ў неабходную граматычную форму.**

1. Ты (даняць / даймаць) сваімі роспытамі каго заўгодна!
2. Пазаўчора я (пачаць / пачынаць) збіраць дакументы, каб атрымаць шэнгенскую візу.
3. Нас (прыняць / прымаць) сёння ў амбасадзе?
4. Калі ты (падняць / падымаць) каўнер, табе будзе значна цяплей.
5. А хто гэта з табой (абдымацца / абняцца) на гэтым фота?
6. Мы ўжо месяц (зняць / здымаць) кватэру ў гэтым раёне.
7. Я ўпэўнены, ты (успрымаць / успрыняць) гэты фільм па-іншаму, калі прачытаеш кнігу.
8. Дазвольце, я (заняць / займаць) сваё месца.
9. У мінулую суботу мы (наняць / наймаць) няньку для дачкі, мяркуем, цяпер мы будзем мець час сустракацца з сябрамі.
10. Калі ты (выняць / вымаць) рукі з кішэняў, я змагу ацаніць тваю абноўку.

## Дзеяслоў І спражэння *ўзяць*

| |
|---|
| вазьм-у́ |
| возьм-еш |
| возьм-е |
| возьм-ем |
| возьм-еце |
| возьм-уць |

## Прошлы час

| | |
|---|---|
| (я, ты, ён) | узя-ў |
| (яно) | узя-л-о |
| (я, ты, яна) | узя-л-а́ |
| (мы, вы, яны) | узя-л-і́ |

## Запомніце ідыёмы

**Браць (узяць) на веру** – давяраць, калі нельга праверыць
**Браць на пуп** – фізічна перанапружвацца
**Браць на цыгу́ндар** – прыцягваць да адказнасці
**Браць ногі на плечы (у рукі)** – хутка ўцякаць
**Браць (узяць) пад ува́гу** – улічыць, выносячы рашэнне

**Браць (узяць) у галаву́** – многа думаць пра нешта
**Браць шлюб** – выходзіць замуж, жаніцца
**Узяць моду** – займець прывычку

**Практыкаванне 9. Выберыце патрэбную форму асобы і ліку цяперашняга (будучага простага) часу дзеясловаў *браць / узяць*.**

1. Ты заўсёды (браць / узяць) з сабой парасон?
2. Вы (браць / узяць) дзяцей у адпачынак у гэтым годзе?
3. Вы штогод (браць / узяць) адпачынак у верасні. Вы любіце восень?
4. Мы заўсёды (браць / узяць) нашага сабаку на дачу.
5. Мае бацькі штомесяц (браць / узяць) абанемент на канцэрты ў філармонію.
6. Сёння ў буфеце я (браць / узяць) толькі салату, учора ў гасцях я аб'еўся гаспадыніным тортам.
7. Я чуў, ты едзеш у падарожжа? Не забудзь (браць / узяць) карты гарадоў, дзе плануеш быць.
8. Праз месяц прыязджае з канцэртам мой любімы выканаўца, білет дарагі, трэба падумаць, дзе (браць / узяць) грошы.
9. (Браць / узяць) мяне ў наступным годзе ў горы? – Звычайна мы не (браць / узяць) непадрыхтаваных людзей, але цябе мы (браць / узяць), ты ўмееш быць дысцыплінаваным.
10. Звычайна я (браць / узяць) таксі, калі вяртаюся з гасцей.

**Практыкаванне 10. Дайце адмоўныя адказы на пытанні.**

***Узор***: Ты *ўзяў* мае кнігі? – Не, я не *браў*.

1. Вінцусь прынёс гэтыя кветкі? – Не, ён не _________.
2. Вы наладзілі гэту экскурсію? – Не, мы не _________.
3. Ты размаляваў кніжку? – Не, я не _________.
4. Брат сказаў маме пра гэта? – Не, ён не _________.
5. Ты змяў мой ложак? – Не, я не _________.
6. Дачка выразала столькі фігурак? – Не, яна не _________.
7. Міхась прыйшоў на трэніроўку? – Не, ён не _________.
8. Бацька паправіў памылкі ў маім тэксце? – Не, ён не _________.
9. Ты пазычыў ёй грошы? – Не, я не _________.
10. Вы склалі мае рэчы? – Не, мы не _________.

**Практыкаванне 11.** **Утварыце ад дзеясловаў руху *плыць*, *ехаць*, *бегчы*, *ісці*, *несці*, *ляцець* прыставачныя і ўстаўце іх у сказы ў патрэбнай граматычнай форме.**

*Узор*: Ты бачыла яго ўчора? – Так, ён *заходзіў (заязджаў)* учора да мяне.

1. Калі яго не спыніць, ён _______ далёка ў мора.
2. Мы _______ ўздоўж гэтага будынка ўчора.
3. Ён _______ дыстанцыю лепш за ўсіх.
4. Я _______ усе кнігарні, але так і не знайшоў гэта выданне.
5. Я _______ да твайго дома хвілін праз дзесяць.
6. Што яшчэ трэба _______ на кухню?
7. Ты можаш _______ гэту раку?
8. _______ ўбок, ты замінаеш нам.
9. Мая канарэйка ўчора _______ з клеткі.
10. Мой бацька – журналіст. Ён _______ увесь свет.

## Умоўны лад дзеяслова

| | |
|---|---|
| я, ты, ён | прыйшоў **бы** |
| яно | прыйшло **б** |
| я, ты, яна | прыйшла **б** |
| мы, вы, яны | прыйшлі **б** |

## Дзеясловы ўмоўнага ладу ў складаным сказе

**Калі б** ты ўчора **прыняў** лекі, сёння ты **пачуваўся б** значна лепш.
Ты **пачуваўся б** значна лепш, **каб** учора прыняў лекі.
Сёння я вельмі заняты, **інакш пайшоў бы** з табой у тэатр.

## Форма ўмоўнага ладу ў простым сказе (выражэнне ветлівай просьбы)

Я хацеў бы пагаварыць з вамі зараз жа.
Не маглі б вы мне дапамагчы?

**Практыкаванне 12.** **Дапоўніце сказы формамі ўмоўнага ладу.**

1. Калі б я ведаў(ла) некалькі замежных моў, я _______.
2. Калі б я стаў(ла) нябачным(ай), я _______.
3. Калі б я выйграў(ла) мільён, я _______.

4. Калі б я стаў(ла) самым уплывовым палітыкам, я _______.
5. Калі б я меў(ла) магчымасць шмат падарожнічаць, я _______.

## Дзеепрыметнік

### Дзеепрыметнікі прошлага часу

| Залежны стан | Утварэнне | Прыклады |
|---|---|---|
| інф. + суф. + канчатак | ад асновы інфінітыва пераходных дзеясловаў закончанага трывання | |
| *-н-* | ад дзеясловаў на ***-аць / -яць*** | пабудава́**ць** – пабудава́-**н**-ы<br>наму́л**яць** – наму́ля-**н**-ы |
| *-ен- / -ён-; -ан-* | ад дзеясловаў на ***-ыць / -іць*** і на ***зычны*** (*акрамя р*) | скас**і́ць** – ско́ш-**ан**-ы<br>абкле́**іць** – абкле́-**ен**-ы<br>прыне́**сці** – прыне́с-**ен**-ы |
| *-т-* | ад дзеясловаў на ***-нуць / -уць***; на ***-ыць / -іць*** (якія ў корані маюць адзін склад);<br>на ***-аць / -яць*** (толькі некато-рыя) | абгар**ну́ць** – абго́рну-**т**-ы<br>аб**у́ць** – абу́-**т**-ы<br>пам**ы́ць** – па-мы́-**т**-ы<br>паш**ы́ць** – па-шы́-**т**-ы<br>пач**а́ць** – пача́-**т**-ы |

| Незалежны стан | Утварэнне | Прыклады |
|---|---|---|
| інф. + суф. + канчатак | ад асновы інфінітыва непераходных дзеясловаў | |
| *-л-* | ад дзеясловаў на ***-ець / -эць*** | пасіве́ць – пасіве́-**л**-ы<br>збяле́ць – збяле́-**л**-ы |
| | ад некаторых на ***-ці*** | пастарэ́ць – пастарэ́-**л**-ы<br>зарасці – зарос-**л**-ы |
| *-ш-*<br>*-ўш-* | Суфіксы ***-ш-*** (пасля зычных) і ***-ўш-*** (пасля галосных) аманімічныя дзеепрыслоў-ным, таму непажаданыя ў выкарыстанні! | пабяле́-**ўш**-ы<br>пачырване́-**ўш**-ы<br>! такія формы пажадана за-мяняць на дзеепрыметнікі з суф. ***-л-***:<br>пабяле́-**л**-ы, пачырване́-**л**-ы |

! Чаргаванні ў корані ***б*** // ***бл***, ***п*** // ***пл***, ***в*** // ***ўл***, ***м*** // ***мл***, ***дз*** // ***дж***, ***с*** // ***ш***, ***ц*** // ***ч***, ***сц*** // ***шч***, ***г*** // ***ж***: *узнагародзіць – узнагароджаны, славіць – злоўлены, купіць – куплены, аздобіць – аздоблены, скасіць – скошаны, дапусціць – дапушчаны* і пад.

! Дзеепрыметнікі цяперашняга часу залежнага і незалежнага стану з суфіксамі ***-уч- / -юч-***; ***-ач- /-яч-***; ***-ом- / -ём-***; ***-ім- / -ым-*** не выкарыстоўваюцца ў беларускай мове. (Могуць ужывацца толькі ва ўстойлівых спалучэннях ці спалучэннях тэрміналагічнага характару: *рухаючая сіла, бастуючыя студэнты, рэкамендуемая літаратура* і пад.)

! У беларускай мове ад зваротных дзеясловаў дзеепрыметнікі не ўтвараюцца.

**Практыкаванне 13. Утварыце дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу пры дапамозе суфіксаў *-н-, -ен-, -ан-, -т-*.**

***Узор***: засеяць – засея-**н**-ы.

Патрывожыць, асвятліць, вызваліць, прыпаяць, аднавіць, падклеіць, расплавіць, развеяць, скасіць, падпісаць, ахутаць, разліць, абсмяяць, заспакоіць, прынесці, запрасіць, вымыць, перашыць, падбіць, абгарадзіць.

**Практыкаванне 14. Запішыце адпаведныя дзеясловы, ад якіх утвораны наступныя дзеепрыметнікі.**

***Узор***: абсыпаны – ***абсыпаць***.

Убачаны, запалены, астуджаны, вывучаны, пашыты, сагнуты, абмыты, куплены, накормлены, упрыгожаны, пераплецены, перастаўлены, рассыпаны, падрыхтаваны, атулены.

**Практыкаванне 15. Утварыце дзеепрыметнікі залежнага стану і дапасуйце іх да назоўнікаў; у дзеепрыметніках адзначце суфіксы.**

***Узор***: (Купіць) білеты – купл-***ен***-ыя білеты.

(Сфатаграфаваць) мясціны, (убачыць) краіны, (падрыхтаваць) рэчы, (набыць) падарункі, (пафарбаваць) дамы, (падмесці) вуліцы, (дагледзець) помнікі, (вымыць) вокны, (прайсці) маршруты, (асвятліць) праспекты, (купіць) абноўкі, (згубіць) пашпарт, (знайсці) кашалёк, (патраціць) грошы.

**Практыкаванне 16. Перабудуйце выразы паводле ўзору. Утварыце ад падкрэсленых дзеясловаў дзеепрыметнікі незалежнага стану з суфіксам -*л*-.**

***Узор***: Дзяўчынка пачырванела ад сораму.
**Пачырванелая** ад сораму дзяўчынка.

Сын загарэў пад чэрвеньскім сонцам; маці пасівела ад перажыванняў за дзяцей; зямля здзірванела без догляду; валасы выгаралі за спякотнае лета; хлопец узмужнеў за гады службы ў войску; вучань пачырванеў ад заўвагі настаўніка; дзіця заружавела ад марозу.

**Практыкаванне 17. Прачытайце ўважліва, адзначце тыя дзеепрыметнікі, якія не адпавядаюць граматычным і арфаграфічным нормам беларускай мовы.**

Купленныя падарункі, смяючаяся дзяўчына, расстаўляны посуд, танцуючы хлопец, прыгатаваная вячэра, створатыя групы, затоеная ўсмешка, пагасшая зорка, заблытанныя валасы, разбушаваўшаеся мора, ахутаны туманам, падвяўшыя кветкі, разгубіўшаяся пасажырка, убачэныя краявіды.

**Практыкаванне 18. Падбярыце характэрныя для беларускай мовы адпаведнікі (гл. даведку).**

***Узор***: меняющийся – зменлівы.

Скользящий, обслуживающий, угрожающий, уничтожающий, работящий, военнослужащий, последующий, выступающий, отдыхающие, пламенеющий, подходящий.

***Даведка***: някепскі, слізготны, пагрозлівы, абслуговы, палымяны, знішчальны, вайсковец, выступоўца, курортнікі, працавіты, наступны.

**Практыкаванне 19. Прачытайце ўважліва сказы на рускай і беларускай мовах. Прааналізуйце пераклад рускіх дзеепрыметнікаў на беларускую мову. Адзначце спосабы, якімі перададзены неўласцівыя для беларускай мовы дзеепрыметнікі.**

| | |
|---|---|
| 1. Приближался крутой перелом, совершенно *изменивший* всю их *последующую* жизнь. (*М. Лесков*) | 1. Набліжаўся круты перелом, *які кардынальным чынам змяніў усё іх далейшае жыццё*. |

| | |
|---|---|
| 2. Луна освещала её сухие, *потрескавшиеся* губы и заостренный подбородок. (*М. Горький*) | 2. Месяц асвятляў яе сухія, *патрэсканыя* вусны і завостраны падбародак. |
| 3. Как в тени огромного дуба прячутся все *окружающие* его кустарники, так все другие чувства склонялись перед этой новой властью. (*М. Лермонтов*) | 3. Як пад ценем вялізнага дуба хаваецца кустоўе, *што яго акружае (атуляе)*, так усе іншыя пачуцці схіляліся перад гэтай новай уладаю. |
| 4. – Голубчик мой, что же мне делать? – сказала женщина *умоляющим голосом*. (*А. Чехов*) | 4. – Даражэнькі мой, што ж мне рабіць? – сказала жанчына *з мальбой* у голасе. |
| 5. Язык служит мастеру, делая его *непобедимым* властителем дум, и поражает самозванца, *использующего* его для акробатических трюков. (*О. Кухаренко*) | 5. Мова служыць майстру, робячы яго *непераможным уладаром* думак, і знішчае (паражае) самазванца, *які выкарыстоўвае* яе для акрабатычных выкрунтасаў. |
| 6. Интерпретация – это творческий процесс, *требующий* концентрации мысли и чувства, не *терпящий* поверхностности. (*О. Кухаренко*) | 6. Інтэрпрэтацыя – гэта творчы працэс, *які патрабуе* сканцэнтраванасці думкі і пачуцця і *не трывае* павярхоўнасці. |
| 7. Негодование, *выражавшееся* на его лице, не изменилось, но он более ничего не сказал и вышел. (*М. Лесков*) | 7. *З усё тым жа гневам (абурэннем) на твары*, ён больш нічога не сказаў і выйшаў. |
| 8. Тихий, *манящий* шум моря звал к себе. (*М. Горький*) | 8. Ціхі, *прыцягальны* шум мора клікаў да сябе. |

**Практыкаванне 20. Прачытайце ўважліва сказы, перакладзіце іх на беларускую мову, замяняючы рознымі магчымымі спосабамі неўласцівыя для беларускай мовы дзеепрыметнікі.**

1. От костра поднимались вверх сверкающие искры. 2. В комнату неожиданно вошла радостная смеющаяся дочь. 3. Юноша, поющий тихим голосом, привлекал всеобщее внимание. 4. Земля, поросшая густой зеленой травой, походила на яркий ковер. 5. Девушка, купившая билет до Таллина, неожиданно сдала его обратно в кассу. 6. Возле метро я заметил маленького мальчика, торгующего семечками. 7. Воздух раздражал нервы

странным запахом, щекотавшим нос. 8. Мужчина шел быстро и не обращал внимания на идущих рядом людей.

! Дзеепрыметнік разам з залежнымі словамі ўтварае дзеепрыметны зварот, які можа стаяць як пасля слова, якое ён паясняе, так і перад ім: *Памідоры*, ***прывязаныя да пруткоў****, чырванелі на сонцы.* ***Прывязаныя да пруткоў*** *памідоры чырванелі на сонцы*.

**Практыкаванне 21. Замяніце залежныя сказы дзеепрыметнымі зваротамі.**

1. Дрэвы, якія былі ахутаны інеем, нагадвалі казачных персанажаў.
2. Каця надзела ў школу паліто, якое яна купіла летам у Італіі.
3. Пеця паказваў сваім сябрам фотаздымкі, якія ён зрабіў падчас адпачынку ў Крыме.
4. Над горадам узвышаліся горы, што густа параслі зелянінаю.
5. Мы з задавальненнем смакавалі юшку з рыбы, якую злавілі ў гэтым возеры.
6. Маці парэзала вялікімі кавалкамі пірог, які яна спякла для гасцей яшчэ ўчора.
7. Верачка абула чаравічкі, што купіла ў буціку на праспекце Незалежнасці.

## Безасабовыя сказы (стан прыроды)

1. **Безасабовы дзеяслоў** (*адліжыць, завіднецца, змеркнуцца, зарэць, нахмарыцца, разаднець, распагодзілася, сутоньваецца*)

   *Увесь дзень дажджыць (дажджыла).*
   *Пагодзіцца (Пагодзілася).*

2. **Безасабовы дзеяслоў + Т. скл. назоўніка**
   *Пахне (пахла) прэлым лісцем.*
   *Ранак завалакло туманам.*
   *З ракі цягне (цягнула) халадком.*

3. **Дзеясловы**
   *бярэцца (бралася)*
   *збіраецца (збіралася)*
   *хіліць (хіліла)* + **прыназоўнік + назоўнік ва ўскосным склоне**
   *ісці (ішло)*
   *паказвае (паказвала)*
   *Бярэцца (бралася) пад поўню.*

*Збіраецца (збіралася) на дождж.*
*Хіліцца (хілілася) на адлігу.*
*Ідзе (ішло) на восень.*
*Паказвае (паказвала) на пагоду.*

4. **Дзеяслоўная звязка ў безасабовай форме + інфінітыў**

*Пачынае (пачынала) днець.*
*Днямі стане цяплець. Удзень стала цяплець.*

5. **Дзеяслоўная звязка ў безасабовай форме + прэдыкатыў (халадна, сцюдзёна, ветрана, ясна, спякотна, душна, ціха і пад.)**

*Заўтра будзе ветрана. Учора было ветрана.*
*Хутка стане ціха. Нечакана стала ціха.*

**Практыкаванне 22. Трансфармуйце сказы ў безасабовыя.**

***Узор***: Пачалася адліга. – Пачало адліжыць.

1. Дзень ясны.
2. Настала спёка.
3. Хутка пачнецца дождж.
4. Усталявалася пагода.
5. Хмары завалаклі неба.

**Практыкаванне 23. Дапоўніце канструкцыі безасабовымі сказамі.**

***Узор***: Я люблю час сутак, калі…
– Я люблю час сутак, калі пачынае змяркацца.

1. Я не гляджу фільмы, у якіх _______.
2. Мяне раздражняе ўвосень, калі _______.
3. Я не падарожнічаю па краінах, дзе _______
4. Мне падабаецца гуляць па вечарах, калі _______.
5. Мы выязджаем за горад, калі _______.
6. Я не хадзіў на пляж, калі _______.

## 🎧 Практыкаванне 24. Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання

### ПАН ЛЕС

Лес – гэта храм.
У ім акрыяе Хам.
Лес – гэта святарнае мейсца,
для душаў аблудных меса.

Меў золата, срэбра Крэз,
але, калі б ён убачыў
хоць раз
наш
бурштынавы Лес
вышэй ад варагавых мачтаў, –
паблякнула б срэбра яго
і золата б паржавела,
пад ногі б каменнем лягло
і сэнсу б суздром не мела,

бо Лес – гэта больш, чым лес.
Вам ранілі гострым сэрца,
крывавіць, баліць парэз,
і хочацца толькі смерці –



**Анатоль Сыс** (1959–2005) – паэт. У яго творчасці спалучаліся грамадзянскія, міфалагічныя і філасофскія матывы.

стрывайце, знайдзіце моц
дайсці, дапаўзці да Лесу,
ён з Боскай крыві прарос
пакутнікам правіць месу,

ён спыніць жывіцай кроў –
такога не змогуць людзі,
і, быццам прадвесні гром,
у вас немаўля абудзіць.

Жыццё, і тым болей смерць
загубяць свой сэнс цялесны –
Пан Лес не дазволіць мець
пачуццяў, што шкодзяць Лесу,

бо нельга паганіць храм,
бо нельга святое нішчыць,
куды ж тагды прыйдзе Хам
ад хамства душу ачысціць?



# МОДУЛЬ 10

**ГОРАД**

- **Навучальныя тэксты**
- **Граматыка:**
  - **Дзеясловы I спражэння на *-ва-j***
  - **Аднаскладовыя дзеясловы I спражэння**
  - **Дзеепрыслоўе**
  - **Ужыванне дзеепрыслоўных зваротаў**
  - **Безасабовыя мадальныя сказы**
- **Мастацкі тэкст для чытання і аўдзіравання**

## ЛЕКСІКА

**Брук** – мостовая
**Брукава́ны** – мощеный
**Ве́жа** – башня
**Ву́ліца** – улица
**Дзе́яч** – деятель
**Дом ура́да** – Дом правительства
**Заву́лак** – переулок
**Лічы́льнік** – счетчик
**Пала́ц** – дворец
**Па́мятныя мясці́ны** – достопримечательности
**Пераход** – переход
**Пе́шкі** – пешком
**Плошча** – площадь
**Помнік** – памятник
**Праспе́кт** – проспект
**Прыпы́нак** – остановка
**Прыпыні́цца** – остановиться
**Рог** – угол
**На рагу́ (чаго?)** – на углу (чего?)
**Славу́тасці** – достопримечательности

| | |
|---|---|
| Як праехаць? | у цэнтр, на вуліцу, на бульвар, на плошчу |
| Як даехаць? | да цэнтра, да вуліцы, да бульвара, да плошчы |
| Як дабрацца? | да цэнтра, да вуліцы, да бульвара, да плошчы |

| Як мы паедзем?<br>Ехаць | на аўтобусе, на тралейбусе, на трамваі, на метро, на таксі<br>*чым? як?* аўтобусам, тралейбусам, трамваем, метро, таксі |
|---|---|

| Чакаць | чаго? | аўтобуса, тралейбуса, трамвая, таксі |
|---|---|---|

| Браць<br>Узяць | што? | таксі |
|---|---|---|

| Ісці | | пешкі |
|---|---|---|

| Рабіць / зрабіць перасадку | дзе?<br>калі?<br><br>на што? | у цэнтры, на станцыі, на прыпынку<br>праз адзін (два, тры ...) прыпынак (прыпынкі)<br>на аўтобус, тралейбус, трамвай, метро |
|---|---|---|

**Практыкаванне 1. Праслухайце дыялог, звярніце ўвагу на інтанацыю рэплік-удакладненняў.**

– Скажыце, калі ласка, дзе знаходзіцца гасцініца «Еўропа»?
– Гасцініца «Еўропа»? На плошчы Свабоды.
– А як даехаць да яе?
– Як даехаць? Мы зараз каля Палаца спорту... Вам найлепш ехаць аўтобусам.
– Аўтобусам?
– Так. Вам трэба прайсці на прыпынак каля магазіна «Рамонак», праедзеце дваццаць пятым аўтобусам да плошчы Свабоды, пяройдзеце вуліцу Леніна да гасцініцы «Еўропа». Яна знаходзіцца на рагу вуліцы Леніна і Інтэрнацыянальнай.
– Гэта далёка?
– Не, адзін прыпынак. Вы можаце прайсці пешкі па праспекце Пераможцаў.
– Дзякуй.
– Калі ласка.

• **Прачытайце дыялог па ролях.**

**Запомніце!**

**помнік *каму?***

**Практыкаванне 2.** **Каму (чаму) гэтыя помнікі?**


Францыск Скарына


Максім Багдановіч


Янка Купала


Якуб Колас

**Складзіце словазлучэнні.**

Помнік:
Мікола Гусоўскі,
Еўфрасіння Полацкая,
літаратурныя героі,
пісьменнік,
паэт,
спявак,
героі-падпольшчыкі.


«У нескладовае»

**Практыкаванне 3.** **Прачытайце назвы беларускіх гарадоў. Вы ведаеце што-небудзь пра іх?**

Мінск, Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Магілёў, Нясвіж, Навагрудак.

**Практыкаванне 4. Паглядзіце на карту Беларусі. Назавіце гарады. Утварыце ад назваў гарадоў прыметнікі.**




***Узор***: Полацк – полацкі

**Глыбокае – глыбоцкі**
**Маладзечна – маладзечанскі**
**Гродна – гродзенскі**
**Баранавічы – баранавіцкі**
**Орша – аршанскі**

**Практыкаванне 5. Пастаўце прыметнікі ў правільнай форме.**

(Каменны) будынкі, (гранітны) пліта, (чыгуначны) станцыя, (мемарыяльны) комплексы, (скульптурны) кампазіцыя, (святочны) настрой, (вечны) агонь, (канцэртны) праграма, (дарожны) знакі, (прыгожы)

царква, (вулічны) рух, (прыгарадны) электрычка, (пешаходны) пераход, (сталічны) магазіны.

**Практыкаванне 6. Складзіце словазлучэнні.**

***Узор***: Музей – народны – творчасць
Музей народнай творчасці

Музей – гісторыя – Вялікая Айчынная вайна, сталіца – Беларусь, плошча – беларускі – сталіца, карціны – беларускія – мастакі, дворык – універсітэт, будынак – чыгуначны – вакзал, урад – Рэспубліка Беларусь, першая лінія – мінскі – метро, класік – беларускі – літаратура, плошча – Незалежнасць, плошча – Якуб Колас, плошча – Перамога, вуліца – Францыск Скарына, Дом – урад, касцёл – святыя – Сымон і Алена.

**Практыкаванне 7. Пастаўце дзеяслоў у правільнай форме.**

1. Галоўны праспект Мінска ... у пасляваенныя гады.
2. Асноўныя славутасці горада ... у цэнтры.
3. Турыстычнае бюро ... гасцям сталіцы экскурсіі па самых цікавых месцах горада.
4. У многіх беларускіх гарадах ... Вечны агонь – гэта сімвал памяці пра тых, хто не вярнуўся з вайны.
5. Скульптура хлопчыка, які ... лебедзя.
6. Да кожнага свята горад ... рознакаляровымі агнямі.
7. Вуліца Янкі Купалы ... праспект Незалежнасці ў самым цэнтры горада.

**Дзеясловы для даведак**: сфарміравацца, перасякаць, гарэць, размяшчацца, прапанаваць, абдымаць, упрыгожваць.

**Практыкаванне 8. Пастаўце назоўнікі ў правільнай форме.**

У цэнтры (галоўная вуліца);
насупраць (новы будынак);
уздоўж (вялікая рака);
побач са (стары касцёл);
перад (гранітны манумент);
пад (зямля); пасярод (маленькі сквер),
ад... да (Мінск, Масква)

**Практыкаванне 9. Паглядзіце на карту Мінскага метрапалітэна. Прачытайце назвы станцый, якія размяшчаюцца на плошчах. Якія станцыі яшчэ будуюцца?**




**Практыкаванне 10. Слухайце тэкст, знаходзьце на карце станцыі метро, дзе размешчаны плошчы.**

## ЗАПРАШАЕМ НА ЭКСКУРСІЮ ПА МІНСКУ

У цэнтры Мінска ёсць некалькі плошчаў, яны маюць вялікае значэнне для жыцця горада. Давайце зробім экскурсію па карце і пазнаёмімся з імі.

**Прывакзальная плошча.** Гэта пачатак нашай экскурсіі. Тут знаходзіцца «Брама горада» – гэта два адзінаццаціпавярховыя жылыя дамы, іх называюць вежамі, яны як бы запрашаюць пачаць шлях у горад.



Сама назва «Прывакзальная» гаворыць пра тое, што тут размешчаны вакзал. Прывакзальную плошчу называюць плошчай трох вакзалаў. Акрамя чыгуначнага тут знаходзіцца вакзал прыгарадных цягнікоў, а таксама аўтавакзал «Цэнтральны».

Галоўнай вуліцай Мінска з'яўляецца праспект Незалежнасці, на якім размешчаны чатыры плошчы.

**Плошча Незалежнасці** – гэта галоўная адміністратыўная плошча горада. Тут размешчаны Дом урада, тут працуюць урад і парламент Рэспублікі Беларусь. Насупраць Дома ўрада знаходзіцца галоўны корпус Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ва ўнутраным дворыку ўніверсітэта можна ўбачыць скульптуры славутых дзеячаў беларускай культуры. Гэта Францыск Скарына, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі і Мікола Гусоўскі.

Побач з універсітэтам высокі будынак – Упраўленне метрапалітэна. Мінскае метро пабудавана нядаўна: першая лінія метро адчынена ў 1984 г. і праходзіць па праспекце Незалежнасці. Другая лінія – яна перасякае праспект – адчынена ў 1991 г. Побач з Упраўленнем – Гарадскі выканаўчы камітэт, ці мэрыя. Як бы замыкае праспект самы высокі будынак на плошчы – Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка.



Упрыгожвае плошчу Чырвоны касцёл святых Сымона і Алены. Ён пабудаваны ў 1910 г. Гэта адзін з самых цікавых будынкаў Мінска. Незвычайная гісторыя гэтага будынка. Заказчыкамі яго будаўніцтва былі муж і жонка Вайніловічы. Яны вырашылі пабудаваць касцёл у памяць пра сваіх дзяцей Сымона і Алену, якія рана памерлі. Іх імёнамі названы дзве маленькія вежы.



Ад плошчы Незалежнасці пачынаецца галоўны праспект горада – праспект Незалежнасці, які сфарміраваўся ў пасляваенныя гады. Пачынаюць праспект два будынкі: злева – гасцініца «Мінск», справа – Галоўпаштамт.

**Кастрычніцкая плошча** – галоўная плошча беларускай сталіцы. Цэнтральнае месца на плошчы займае Палац Рэспублікі, тут праводзяцца канцэрты, спектаклі, кангрэсы. Гэта самая вялікая канцэртная зала. Побач вялікі будынак з дзесяццю калонамі – Палац культуры прафсаюзаў. Тут праходзяць канцэрты, вечарыны, выставы, дыскатэкі.

На плошчы ўсе спыняюцца каля памятнага знака «Пачатак дарог Беларусі». Гэта гранітны камень у форме піраміды, прывезены з Партугаліі. Вакол каменя – карта дарог з указаннем адлегласці ад Мінска да сталіц суседніх дзяржаў, абласных і раённых цэнтраў краіны.

Побач з плошчай – невялікі сквер, любімае месца адпачынку мінчан. Сквер – сведка старой гісторыі Мінска. Зараз ён называецца Тэатральны. Гэта не выпадкова: тут знаходзіцца Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Кожны новы сезон тэатр адкрывае спектаклем класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы «Паўлінка».



У 1874 г. у цэнтры сквера з’явіўся невялікі фантан «Хлопчык з лебедзем». Скульптура была ўстаноўлена ў гонар пуску першай лініі водаправода ў Мінску. Насупраць стадыёна «Дынама», на перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і Кірава размяшчаецца будынак Выканаўчага камітэта Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**Плошча Перамогі** – наступная плошча на праспекце Незалежнасці. Манумент Перамогі пабудаваны ў 1954 годзе. Гэта помнік усім беларусам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.



Абеліск у цэнтры плошчы – адна з самых высокіх пабудоў у горадзе, на версе яго – ордэн Перамогі. Перад абеліскам устаноўлены 12 тумбаў з зямлёй з гарадоў-герояў, на іх можна прачытаць: Масква, Ленінград, Кіеў, Валгаград, Керч, Тула, Адэса, Севастопаль, Новарасійск, Смаленск, Мурманск, Брэсцкая крэпасць. На плошчы гарыць Вечны агонь. Да яго прыходзяць мінчане і госці сталіцы, прыносяць кветкі. У пешаходным пераходзе ёсць мемарыяльная зала, на сцяне якой напісана 564 прозвішчы Герояў Савецкага Саюза – беларусаў, якія загінулі на розных франтах у час вайны, а таксама ўсіх герояў, якія загінулі на тэрыторыі Беларусі.

**Плошча Якуба Коласа**. Якуб Колас (1882 – 1956) – пісьменнік, класік беларускай літаратуры. У цэнтры плошчы – помнік Якубу Коласу. Пісьменнік сядзіць на вялікім камені. Злева і справа героі ягоных твораў. На гэтай плошчы заўсёды шматлюдна: тут знаходзіцца ЦУМ «Мінск», побач – Беларуская дзяржаўная філармонія, недалёка ад плошчы Камароўскі рынак, ці па-народнаму «Камароўка».

**купіць (падарыць) што-небудзь на памяць** ***пра каго? / пра што?***

**пабудаваць што-небудзь у памяць (у гонар)** ***каго? / чаго?***

**Практыкаванне 11. Устаўце ў сказы пададзеныя вышэй канструкцыі.**

1. Назвалі плошчу ... вялікага паэта.
2. Падарыў дзяўчыне паштоўку ..., каб яна не забыла мяне.
3. Устанавіць манумент ... герояў.
4. Купіла кнігу ... пра горад, у якім былі на экскурсіі.
5. Пабудавалі царкву ... усіх святых зямлі беларускай.

**Практыкаванне 12. Знайдзіце ў тэксце адказы на пытанні.**

1. У памяць пра каго быў пабудаваны Чырвоны касцёл?
2. У памяць пра каго ў Тэатральным скверы ўстаноўлены помнік?
3. У гонар якой падзеі быў устаноўлены фантан са скульптурай «Хлопчык і лебедзь»?

**Практыкаванне 13. Выкарыстоўваючы інфармацыю тэксту, скажыце, пра што ідзе размова. Свой адказ пачніце з фраз: *Размова ідзе пра...; гаворка ідзе пра тое, што...; справа ў тым, што...; у тэксце гаворыцца пра тое, што...***

1. Брама горада...
2. Першая лінія..., другая лінія...
3. Касцёл у памяць пра ...
4. Пачынаецца кожны новы тэатральны сезон...
5. Гранітны камень у форме пірамiды ...
6. З зямлёй гарадоў-герояў...
7. Героі ягоных твораў...

**Практыкаванне 14. Праслухайце тэкст.**

## ПАЗНАЙ БЕЛАРУСЬ!

Аня ў задуменні вывучае экскурсійную карту «Пазнай Беларусь!».

На поўначы выява Полацка, самага старажытнага горада Беларусі. Першая летапісная згадка пра яго датуецца 862 г. Вежы Сафійскага сабора, Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр і крыж Еўфрасінні Полацкай, які невядома куды падзеўся.

Учора яны з Алесем хадзілі вулкамі гэтага горада. Любаваліся вежамі Сафійскага сабора, стоячы на высокім беразе Дзвіны.

Наведалі манастыр, дзе іх правялі ў келлю Ефрасінні Полацкай. Аня ўжо ведала гісторыю дзяўчыны, якая ў дванаццаць гадоў не захацела пайсці замуж, а пастрыглася ў манахіні, каб служыць Богу. У тыя часы, у далёкім XII стагоддзі, дзяўчат выдавалі замуж рана... Але каб у такім юным узросце зрабіць такі сур’ёзны выбар?

«Яна шукала самарэалізацыі, – раздумвала Аня. – Дзе б яшчэ жанчына магла займацца навукамі, збіраць і перапісваць кнігі, як не ў манастыры? Замужжа тады было як няволя...».

Алесь расказаў ёй пра падземны Полацкі лабірынт, які цягнецца праз увесь горад, нават пад Дзвіною. Пісьменнік Вацлаў Ластоўскі апісаў містычнае жыццё, якое адбываецца ў нетрах Лабірынтаў. Жрацы – нашчадкі пагаслай Полацкай цывілізацыі – праводзяць тут таямнічыя эксперыменты, ладзяць містычныя сходы. Яны захавалі святыні Полацкай зямлі, у тым ліку і бібліятэку Ефрасінні Полацкай.

Полацкі лабірынт шукаюць і археолагі, і аматары-дыгеры, але пакуль знаходзяць толькі дрэнажныя збудаванні.

– Кажуць, што Полацкі лабірынт пачынаецца адсюль, – паказвае Алесь.

Яны стаяць каля ўваходу ў будынак гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вясёлыя юнакі і дзяўчаты выбягаюць з корпуса, у якім чатырыста гадоў таму вучыліся шкаляры-езуіты...

У 1960-я гг. частка былога езуіцкага калегіуму была ўзарваная, а ў XXI стагоддзі будынкі аднавілі.

Час збіраць камяні...

Яны блукалі сцежкамі, па якіх калісьці хадзілі Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі... Дня не хапіла, каб абысці ўсе музеі, карцінныя галерэі. Не хапіла часу і на тое, каб наведаць Наваполацк, у якім размясціўся знакаміты завод «Нафтан». На ім вырабілі той самы бензін, на якім Алесь прыехаў у Полацк...

Мала часу.

Аня стаіць перад картай «Пазнай Беларусь!». Колькі ўсяго цікавага! Напрыклад, замкі. У кожнага свая таямніца. Вось Крэўскі замак, у якім быў задушаны вялікі князь Кейстут. Некаторыя маюць сваіх прывідаў. Па Нясвіжскім палацы блукае здань Чорнай Панны – няшчаснай Барбары Радзівіл. У Мірскім замку быў заўважаны прывід якойсьці маленькай Сонечкі. А ў Гальшанах здань пасялілася ў касцёле францысканаў. Гэта жонка будаўніка, якую ў свой час замуравалі ў сцяне, каб мацнейшая была...

Аню вабіць містыка, але заўтрашні дзень яна хоча правесці так, каб на душы было светла.

Бо заўтра яе апошні дзень у Мінску.

Пра гэта Алесь яшчэ не ведае.

Заўтра яны пойдуць гуляць па Мінску, па яго чыстых, светлых, шырокіх праспектах, вуліцах і плошчах. Чысты, дагледжаны горад, гасцінныя, усмешлівыя жыхары. Трэба пайсці на самым ранку, калі Алесеў сусед яшчэ збіраецца на свой трактарны завод. Трэба больш

пабачыць, паўсюль пабываць. І каля адноўленай ратушы, і на Нямізе, і ў Старым горадзе, і ў Траецкім прадмесці, і каля Опернага тэатра, і на плошчы Перамогі... А напрыканцы вандроўкі зайсці ў Батанічны сад, дзе так хораша цвітуць вяргіні і гладыёлусы.

А ўвечары будзе тэатр, «Паўлінка», камедыя Янкі Купалы. Аня яе ўжо прачытала. Знаёмая з часоў Шэкспіра гісторыя: дзеці кахаюцца, а бацькі супраць. Не хочуць выдаць Паўлінку за настаўніка татка і мамка, бо ён з мужыкоў, а яны – шляхта. Што ж рабіць беднай дзяўчыне? Не пускаюць замуж праз дзверы, дык яна ў вакно палезе! Ці ж не феміністка? А які смешны там пан Адольф Быкоўскі! Як жа гэта ўсё будзе на сцэне, дзе выступаюць лепшыя акцёры Беларусі?

А як адбудзецца тая важная размова з Алесем?

– Алесь, – скажа яна, – мне вельмі шкада. Мне трэба ехаць. Заўтра.

Учора ёй патэлефанаваў ён. Былы муж, які «памёр». Але цяпер ён аджыў. Казаў, што не можа без яе.

Паверыць яму?

А што скажа Алесь?

А раптам ён пакрыўдзіцца?

Што ж яму сказаць, каб не засмучаўся?

«Алесь, – скажа яна. – Дзякуй табе за ўсё. За тое, што адкрыў для мяне Беларусь. Толькі пазнаць яе да канца я не паспела. Час прабег хутка. Але адно я ведаю дакладна: пра тое самае-самае галоўнае. Пра тое, што ёсць толькі ў Беларусі. Гэта беларуская мова. Шануйце яе. Я яе вельмі люблю. Я нават думаць навучылася па-беларуску».

І яшчэ:

«Я абавязкова сюды вярнуся. Не крыўдуй на мяне».

***

Алесь таксама атрымаў тэлефанаванне. Ад мамы.

– Алеська, – пыталася яна, – як ты? Як маскоўская прыгажуня? Перадавай ёй прывітанне. Калі ўжо да нас прыедзеш? Як мы цябе чакаем! А Марыля як па табе сумуе! Такая дзяўчына – прыгожая, працавітая! Жаніўся б, сыночак! Так хочацца ўнукаў дачакацца...

– Добра, мама, я падумаю, – адказаў Алесь, памаўчаўшы.

**Ефрасіння Полацкая** (каля 1101–1167) – рэлігійны і культурны дзеяч, першая святая зямлі Беларускай, па паходжанні полацкая князёўна, унучка Усяслава Брачыслававіча (Чарадзея).

**Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938) – пісьменнік, грамадскі дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф. Аўтар аповесці «Лабірынты» (1923), «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» (1924), «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» (1926). Быў расстраляны ў часы палітычных рэпрэсій 1930-х гг.

**Барбара Радзівіл** (1520–1551) – каралева польская і вялікая княгіня Вялікага Княства Літоўскага (1550–1551), другая жонка караля Жыгімонта (Сігізмунда) II Аўгуста. Пасля смерці першага мужа маладая ўдава Барбара ўступіла ў патаемную любоўную сувязь з будучым каралём. Браты Барбары, Мікалай Радзівіл Чорны і Мікалай Радзівіл Руды, выкрылі гэта і прымусілі маладога караля ажаніцца з Барбараю (1547). Неўзабаве маладая каралева памерла ад загадкавай хваробы. Як сведчыць паданне, непрыкаяная душа Барбары пасялілася ў Радзівілавым палацы ў Нясвіжы і паказваецца ў аблічы Чорнай Панны.

**Сімяон Полацкі** (1629–1680) – беларускі і рускі паэт, драматург, рэлігійны дзеяч, асветнік. У 1664 г. пераехаў у Маскву, дзе стаў настаўнікам пры двары цара Аляксея Міхайлавіча.

- **Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

**Практыкаванне 15. Скажыце, ці адпавядае праўдзе сцвярджэнне. Выкарыстоўвайце пададзныя ніжэй выразы.**

Гэта так. / Я згодны (згодная).
Гэта не зусім так.
Не, гэта не так. / Гэта няпраўда. / Я не згодны (не згодная).

1. Полацк знаходзіцца на поўначы Беларусі.
2. Алесь вазіў Ганну ў Наваполацк.
3. Пад Полацкам ёсць падземны лабірынт.
4. У кожным беларускім замку жывуць прывіды.
5. Ефрасіння Полацкая пайшла ў манастыр, бо не хацела выходзіць замуж.
6. Ганна хацела паехаць у Батанічны сад, бо там танныя кветкі.
7. Ганна чытала і глядзела па тэлевізары камедыю «Паўлінка».
8. Маці Алеся хоча, каб ён ажаніўся з Ганнай.

**Практыкаванне 16. Адкажыце на пытанні.**

1. У які горад ездзілі Алесь і Ганна на экскурсію?
2. Якія дзеячы беларускай культуры згадваюцца ў тэксце?

3. На якой рацэ стаіць Полацк?
4. Якія замкі ўбачыла Аня на карце «Пазнай Беларусь!»?
5. Чаму Ганна вырашыла тэрмінова ехаць у Маскву?

## ГРАМАТЫКА

### Дзеясловы І спражэння на *-ва -j*

| **да-вá-(ць)** | **прызна-вá-(ц)ца** | **паўста-вá-(ць)** |
|---|---|---|
| да-ю́ | прызна-ю́-ся | паўста-ю́ |
| да-éш | прызна-éш-ся | паўста-éш |
| да-é | прызна-é-(ц)ца | паўста-é |
| да-ём | прызна-ём-ся | паўста-ём |
| да-яцé | прызна-яцé-ся | паўста-яцé |
| да-ю́ць | прызна-ю́ц-ца | паўста-ю́ць |
| мы-юць | вымы-юц-ца | шы-юць |

! Формы загаднага ладу гэтыя дзеясловы ўтвараюць ад асновы інфінітыву з захаваннем суфікса ***-ва-***: *давай, прызнавайся, паўставай*.

### Аднаскладовыя дзеясловы І спражэння

### Дзеясловы *брыць, выць, крыць, мыць, ныць, рыць, шыць, гніць*

| **мы-(ць)** | **вы́мы-(ц)ца** | **шы-(ць)** |
|---|---|---|
| мы́-ю | вы́мы-ю-ся | шы́-ю |
| мы́-еш | вы́мы-еш-ся | шы́-еш |
| мы́-е | вы́мы-е-(ц)ца | шы́-е |
| мы́-ем | вы́мы-ем-ся | шы́-ем |
| мы́-еце | вы́мы-еце-ся | шы́-еце |

### Дзеясловы *чуць, жыць, стаць*

| *чу- // чуj* | *жы- // жыв-* | *ста- // стан-* |
|---|---|---|
| **чу-(ць)** | **жы-(ць)** | **ста-(ць)** |
| чу́-ю | жыв-у́ | ста́н-у |
| чу́-еш | жыв-éш | ста́н-еш |
| чу́-е | жыв-é | ста́н-е |
| чу́-ем | жыв-ём | ста́н-ем |
| чу́-еце | жыв-яцé | ста́н-еце |
| чу́-юць | жыв-у́ць | ста́н-уць |

! Па мадэлі дзеяслова чуць спрагаюцца дзеясловы абуць, разуць; па мадэлі дзеяслова жыць – плыць, слыць, злоўжыць; па мадэлі стаць – дзець, стрэць (сустрэць), дастаць, адзець, раздзець.

**Запомніце ідыёмы**

**Жыць з мазаля** – жыць на сродкі, здабытыя ўласнай працай
**У горы жыць ды з перцам есці** – пра жаданне мець што-небудзь пры адсутнасці ўмоў
**Век зжыць – не мех сшыць** – пра складанасці і супярэчнасці жыцця
**Жыць як у Бога за дзвярыма (за печчу, за плячыма, за пазухай) / Жыць як Адам у раі** – пра бесклапотнае жыццё
**Жыць як набяжыць** – жыць як даводзіцца, па абставінах

**Практыкаванне 17. Выберыце патрэбныя дзеясловы з рамкі, устаўце іх у пытальныя сказы ў неабходнай граматычнай форме. Адкажыце на пытанні.**

мы́цца устава́ць дава́ць надава́ць жыць

1. Як даўно вы ўжо _______ ў Мінску?
2. У колькі вы _______ зранку?
3. Вы _______ значную ўвагу сваёй знешнасці штодня?
4. Якім гігіенічным сродкам вы _______?
5. Вы _______ чаявыя афіцыянтам?

**Практыкаванне 18. Устаўце патрэбны дзеяслоў у неабходнай граматычнай форме.**

*Узор*: Я заўтра (адзець – адзяваць) на экскурсію шорты і лёгкую кашулю. – Я заўтра адзену на экскурсію шорты і лёгкую кашулю.

1. Вы (даць – даваць) мне на дзень свой фотаапарат?
2. Мой маленькі сын (раздзявацца – раздзецца) вельмі марудна. Я яму заўсёды дапамагаю.
3. Выдавецтва (выдаць – выдаваць) гэту кнігу толькі ў наступным годзе. Мяркую, увесь тыраж (прадацца – прадавацца) вельмі хутка.
4. Ты (надзець – надзяваць) сёння гэтую сукенку? Мне здаецца, яна будзе не да месца, сустрэча будзе афіцыйнай.
5. Я штодня (адзець – адзяваць) джынсы і світар. Гэта зручна, але жонка са мной не згодная.

6. Калі ты (здаць – здаваць) рукапіс у друк?
7. Ты калі-небудзь (аддаць – аддаваць) мне мой часопіс? Ён ужо неаднойчы быў мне патрэбны.
8. Зараз я (абуцца – абувацца) і дапамагу дзецям.
9. Мой сябра заўсёды (даць – даваць) мне парады, а сам усё робіць насуперак сваім словам.
10. Вы (перадаць – перадаваць) маё прывітанне Аляксею? Дзякуй, я вельмі ўсцешаны, што ўсё скончылася як найлепш.

**Практыкаванне 19. Слухайце і чытайце тэкст. Раскрыйце дужкі. Пастаўценазоўнікі(займеннікі)з прыметнікамі ў патрэбную склонавую форму.**

## КАРАЛЕЎСКІ ГОРАД ГРОДНА

Гродна, або Гародня – унікальны горад (Беларусь). Яго статус на (тэрыторыя) (наша краіна) заўсёды быў асаблівым. У (старажытнасць) ён не ўваходзіў ні ў склад (Полацкая зямля), ні ў (Турава-Пінскае княства). З (пачатак) XII ст. быў (цэнтр) (самастойнае гродзенскае княства) і (фарпост) на (заходнія землі) (Беларусь). Геаграфічнае размяшчэнне па (сярэдняе цячэнне) (Нёман) рабіла яго (ключ) да (ўсё Панямонне). Нёман – культавая рака для (беларусы, літоўцы, палякі) – у (старажытнасць) быў адной з (перыферыйная галіна) (знакаміты шлях) «з варагаў у грэкі». Стругі (вікінгі) рэзалі яго з (поўнач) на (поўдзень) і з (поўдзень) на (поўнач). Старажытнагрэчаскі географ Пталемей называў Нёман Крonанам – ракой часу. Мясцовыя балцкія плямёны ласкава звалі Нямунас – «дамашняя рака».

Унікальнасць Гродна заключаецца не толькі ў яго (геаграфічнае палажэнне), бо ў (старажытнасць) кожны горад узнікаў не выпадкова. Культурна-гістарычная своеасаблівасць горада ў тым, што тут ацалелі шматлікія помнікі, аб’яднаныя ў (ансамблі), па якіх можна вывучаць (гісторыя) горадабудаўніцтва. Тут, у адрозненне ад (большасць) беларускіх гарадоў, захаваліся помнікі практычна (усе мастацкія стылі) – ад гатычнага да канструктывізму. Яны з’яўляюцца (сведкі) (розныя эпохі) не толькі ў (жыццё) горада, але і (уся Беларусь), а часам і (уся Усходняя Еўропа). Аднак справа не столькі ў (архітэктурныя збудаванні), колькі ў (непаўторны невынішчальны дух), які лунае над (горад) з (векапомныя часы). Быццам людзі, якія жылі калісьці ў (горад), назаўсёды пакінулі тут (часцінка) (свая душа). У (скляпенні) замкаў, у (сутонні) касцёлаў і

напаўразбураных палацаў, у (цень) паркавых алей чуюцца іх галасы. Каралі і каралевы, магнаты-мецэнаты, кардыналы, замежныя паслы, знакамітыя навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, артысты лічылі гэты горад сваім. Сёння яны з (лёгкасць) пазналі б любімыя месцы: у цэлым Стары горад такі ж, як 200–400 гадоў таму, хаця шмат якія збудаванні мы згубілі.

18 лютага 1988 г. Савет Міністраў БССР абвясціў Стары Гродна (помнік) горадабудаўніцтва і архітэктуры. Такім статусам у (наша краіна) валодае толькі адзін горад – Гродна. Выключна таму, што менавіта тут, нягледзячы на (шматлікія пасляваенныя страты), захавалася агульная планіроўка і забудова Старога горада.

Гаворачы пра Гродна, часта даводзіцца ўжываць словы «самы», «адзіны», «першы». Гэта самы «еўрапейскі» горад у (Беларусь). Адзіны, у якім захавалася такая колькасць (культавыя помнікі), не кранутых (разбуральная хваля) атэізму. Адзіная ў (Беларусь) каралеўская рэзідэнцыя з двума практычна (ацалелыя замкі). Першая аптэка, медыцынская акадэмія, газета, батанічны сад, першы і самы старажытны вежавы гадзіннік, першы заапарк у (Беларусь) таксама знаходзяцца ў Гродна і па-ранейшаму вабяць сюды мноства (турысты) з (розныя краіны).

## Дзеепрыслоўе

| **Незакончанае трыванне** | | |
|---|---|---|
| **Суфіксы** | **Утварэнне** | **Прыклады** |
| **-учы / -ючы** (I спр.) | ад асновы цяперашняга часу | чыта́ць – чыта́-еш – чыта́-**ючы** |
| **-ачы / -ячы** (II спр.) | | разві́т-ва-ц-ца – разві́т-ва-**ючы**-ся |

| **Закончанае трыванне** | | |
|---|---|---|
| **Суфіксы** | **Утварэнне** | **Прыклады** |
| **-ўшы** | ад асновы прошлага часу на галосны | купі́-ў + -ўшы – купі́-**ўшы**<br>прачыта́-ў + -ўшы – прачыта́-**ўшы** |
| **-шы** | ад асновы прошлага часу на зычны | заве́з-ці/завёз- + -шы – завёз-**шы**<br>прыне́с-ці/прынёс- + -шы – прынёс-**шы** |

! Націск у дзеепрыслоўяў на -**учы** / **-ючы** залежыць ад націску дзеяслова:

* калі ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеяслова націск прыпадае на аснову, то ён захоўваецца і ў форме дзеепрыслоўя: *чыта́ць – (яны) чыта́-юць – чыта́ючы; піса́ць – (яны) пі́ш-уць – пі́шучы*;

* калі ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеяслова націск прыпадае на канчатак, то ў форме дзеепрыслоўя націскны будзе апошні склад **-чы́**: *жаць – (яны) жн-у́ць – жнучы́; піць – (яны) п'ю́ць – п'ючы́*.

! Мадэль утварэння дзеепрыслоўяў на **-учы** / **-ючы**; **-ачы** / **-ячы** ў рэдкіх выпадках парушаецца. Ад такіх дзеясловаў, як *баяцца, крычаць, дрыжаць, спаць* утвараюцца формы на **-учы** / **-ючы**: *баючы́ся, крычучы́, дрыжучы́, сплючы́*. Націск у такіх дзеепрыслоўях прыпадае на апошні склад суфікса.

**Практыкаванне 20. Прачытайце ўважліва прыказкі, назавіце дзеепрыслоўі.**

1. Добрае тое дзіця, што пойдзе плачучы, а вернецца скачучы.
2. Даганяючы, пацалуешся, але не нацалуешся.
3. Не вер каню, запрагаючы, а маладой жонцы, у дарогу выбіраючыся.
4. Не кайся, рана ўстаўшы і маладым ажаніўшыся.
5. Хто, ажаніўшыся, круціцца, той да ліха дакруціцца.
6. Каля мукі ходзячы, запылішся, а каля вады ходзячы, замочышся.
7. Не паклаўшы, не шукай.
8. Не палажыўшы, не возьмеш.
9. Пытаючыся – дапытаешся, а шукаючы – знойдзеш.
10. Не пераскочыўшы рэчкі, не гавары «гоп».
11. Не хваліся нажаўшы, а хваліся змалаціўшы.
12. Сеўшы ды паеўшы і адпачыць можна.
13. Круцячыся, далёка закруцішся, але не выкруцішся.
14. Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.
15. Не пастаяўшы ў парозе, не сунься на кут.

! Дзеепрыслоўе разам з залежнымі словамі ўтварае дзеепрыслоўны зварот. У сказе ён заўсёды выдзяляецца коскамі: *Алесь сцішана ляжаў на ложку,* ***чытаючы захапляльны раман***.

**Практыкаванне 22. Утварыце сказы з дзеепрыслоўным зваротам. Звярніце ўвагу на трыванне дзеясловаў.**

***Узор***: (Прачытаць) артыкул, Ірына патэлефанавала сваёй сяброўцы.
***Прачытаўшы*** артыкул, Ірына патэлефанавала сваёй сяброўцы.

1. (Падпісаць) заяву, Ніна выйшла з кабінета рэктара.
2. Вольга паспешліва перарыла сумачку, (шукаць) у ёй мабільны тэлефон.

3. (Апрануцца) ва ўсё новае, Віктар паехаў на заняткі.
4. (Прыехаць) з камандзіроўкі, Ганна наведала маці.
5. Ветліва (павітацца), хлопец прапанаваў дзяўчыне марожанае.
6. (Углядацца) у твары незнаёмых, жанчына позіркам шукала сваю дачку.
7. (Разглядваць) фотаздымкі, я ўспамінала свой сёлетні адпачынак.
8. (Выканаць) урокі, Каця пайшла пагуляць на вуліцу.
9. (Разлічвацца) ў супермаркеце, я зразумела, што на ўсё не хопіць грошай.
10. (Пад'ехаць) некалькі прыпынкаў, далей я вырашыла пайсці пешкі.

**Практыкаванне 23. Утварыце дзеепрыслоўі незакончанага трывання і вусна складзіце з імі сказы. (Звярніце ўвагу на тое, што ў беларускай мове дзеепрыслоўі ўтвараюцца практычна ад усіх дзеясловаў, у тым ліку і ад тых, якія ў рускай мове такой формы не маюць.)**

Мыць, шыць, ліць, віць, браць, жаць, піць, пісаць, рэзаць, мазаць, вянуць, сохнуць, ляжаць, сядзець, глядзець, спяваць, хацець, віснуць.

## Ужыванне дзеепрыслоўных зваротаў

| Няправільна | Правільна |
|---|---|
| *Здаючы экзамен па хіміі, у мяне калацілася сэрца і дрыжалі рукі.*<br>(дзеепрыслоўе павінна адносіцца да таго ж суб'екта, што і дзеяслоў-выказнік, які мае значэнне асноўнага дзеяння) | Калі я здаваў экзамен па хіміі, дык у мяне калацілася сэрца і дрыжалі рукі. |
| *Апынуўшыся ў войску, яму здалося, што ён самы няўдалы ў гэтай грамадзе.*<br>(нельга выкарыстоўваць дзеепрыслоўі ў безасабовых сказах)<br>! Выключэнні складаюць сказы з інфінітывам. | Калі ён апынуўся ў войску, то яму здалося, што ён самы няўдалы ў гэтай грамадзе.<br>На чужы лоб сягаючы, трэба і свой падставіць.<br>Хораша, стаміўшыся, ляжаць у траве пасля ўтомнай дарогі. |

| | |
|---|---|
| *Добра папрацаваўшы, заданне было выканана.*<br>(нельга выкарыстоўваць дзеепрыслоўі ў пасіўных канструкцыях) | Добра папрацаваўшы, яны справіліся з заданнем.<br>(Добра папрацаваўшы, яны выканалі заданне.) |
| *Заходзячы ў аўдыторыю, студэнтка хуценька села за парту.*<br>*Ехаўшы ў вёску, Васіль думаў пра сваю каханую.*<br>(дзеепрыслоўе павінна мець адпаведнае дзеяслову трыванне) | Зайшоўшы ў аўдыторыю, студэнтка хуценька села за парту.<br>Едучы ў вёску, Васіль думаў пра сваю каханую. |
| *Вучачыся дзесяць гадоў у гімназіі, Стас паступіў ва ўніверсітэт.*<br>(дзеепрыслоўе трэба суадносіць з выказнікам у часе) | Правучыўшыся дзесяць гадоў у гімназіі, Стас паступіў ва ўніверсітэт. |
| *Седзя на беразе ракі, я любаваўся купаламі царквы.*<br>(памылкі могуць узнікаць пад уплывам рускай мовы) | Седзячы на беразе ракі, я любаваўся купаламі царквы. |

**Практыкаванне 24. Прачытайце ўважліва. Выпраўце памылкі ў выкарыстанні дзеепрыслоўных зваротаў. Звяртайце ўвагу на трыванне дзеясловаў.**

1. Апынуўшыся ў глухім лесе, яму здалося, што ён не знойдзе дарогі дадому.
2. Вячэраючы, іх словы былі калючымі, сухімі і бессэнсоўнымі.
3. Развітваючыся з сябрамі, Алесь шпарка пакрочыў па дарозе.
4. Выйшаўшы з дзвярэй аўтобуса, падумалася, што гэта не той прыпынак, які яму трэба.
5. Уваходзячы ў клас, Цімох сеў за парту.
6. Наталля засумавала, слухаўшы музыку.
7. Каля вады хадзіўшы, замочышся.
8. Вучыўшыся ў звычайнай школе пяць гадоў, я паступіў у ліцэй.
9. Прыходзячы з выстаўкі, дачка падзялілася ўражаннямі з бацькам.
10. Гуляючы ў скверы, нам стала холадна.
11. Чакая сына з работы, маці чамусьці хвалявалася.
12. Сцёпка доўга стаяў на ганку, любаваўшыся навальніцаю.

## Безасабовыя мадальныя сказы

| Сродкі выражэння мадальнага значэння | Прыклады |
|---|---|
| 1. Безасабовы мадальны дзеяслоў (*карцела, карціць, хацецца, хацелася, свярбела, жадацца, жадалася*) + інфінітыў | Яму расхацелася есці.<br>Ёй карцела ўсё напісаць яму.<br>Моцна хочацца спаць.<br>Свярбела хоць каму-небудзь расказаць навіну. |
| 2. Безасабова-прэдыкатыўнае слова (*можна, трэба, варта, неабходна, нельга*) + інфінітыў | Можна спадзявацца на добрае надвор’е.<br>Неабходна дарабіць справу сёння.<br>Варта пра гэта падумаць.<br>Трэба як найхутчэй туды трапіць.<br>Нельга губляць час. |
| 3. Інфінітыў у мадальным значэнні загаду або неабходнасці (немагчымасці) дзеяння | Маўчаць!<br>Паспаць бы.<br>Хутчэй бы даехаць.<br>Памаўчаць бы табе!<br>Быць (не быць) табе сапраўдным прафесіяналам. |

**Практыкаванне 25. Трансфармуйце сказы ў безасабовыя.**

*Узор*: Я хачу паехаць улетку ў Германію. – Мне хочацца паехаць улетку ў Германію.
Ты павінен трошку патрываць. – Табе трэба трошкі патрываць.

1. Яна жадае (хоча, прагне) абнавіць свой гардэроб.
2. Вы маеце магчымасць узяць з сабой у падарожжа сваю кінакамеру.
3. Мы хочам дапамагчы вам.
4. Я вымушаны вярнуцца.
5. Я маю моцнае жаданне набыць машыну.
6. Вы павінны дзейнічаць сумесна.
7. Вы не маеце права так жорстка выказвацца!
8. Я хацеў бы разлічваць на тваё разуменне.
9. Мы не можам сабе дазволіць рухацца так марудна.
10. Ты мусіш зрабіць перасадку праз два прыпынкі.

**Практыкаванне 26. Прачытайце тэкст. Значэнні незнаёмых слоў праверце па слоўніку.**

## САЮЗ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ

Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД), аб’яднанне суверэнных дзяржаў, утварылася на большай частцы тэрыторыі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік ў выніку Белавежскіх пагадненняў 1991, падпісаных кіраўнікамі Беларусі, Расіі, Украіны 8 снежня 1991 года ў беларускай урадавай рэзідэнцыі каля былога хутара Віскулі Пружанскага раёна ў Белавежскай пушчы. Ад імя дзяржаў – заснавальніц СССР яны канстатавалі, што СССР як суб’ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе існаванне, і падпісалі Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў у складзе Рэспублікі Беларусь, РСФСР і Украіны. СНД абвяшчалася адкрытай для далучэння іншых дзяржаў.

Кіраўнікі 11 суверэнных дзяржаў, былых рэспублік СССР, падпісалі 21 снежня 1991 года Пратакол да Пагаднення аб стварэнні Садружнасці, у якім падкрэслівалася, што Азербайджан, Арменія, Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Малдова, Расія, Таджыкістан, Туркменістан, Узбекістан і Украіна ўтвараюць СНД, і Дэкларацыю, якая пацвердзіла прыхільнасць гэтых дзяржаў да супрацоўніцтва ў розных сферах знешняй і ўнутранай палітыкі. Парламенты краін – членаў СНД ратыфікавалі Белавежскія пагадненні.




СНД дзейнічае на аснове Статута, прынятага Саветам кіраўнікоў дзяржаў 22 студзеня 1993 года. Садружнасць заснавана на пачатках суверэннай роўнасці ўсіх яе членаў. Дзяржавы – члены СНД з’яўляюцца самастойнымі і раўнапраўнымі суб’ектамі міжнароднага права. СНД не з’яўляецца дзяржавай і не валодае наднацыянальнымі паўнамоцтвамі.

Узаемадзеянне краін у рамках СНД ажыццяўляецца праз яго каардынуючыя інстытуты: Савет кіраўнікоў дзяржаў, Савет кіраўнікоў урадаў, Міжпарламенцкую Асамблею СНД, Выканаўчы камітэт, размешчаныя ў Расіі і Беларусі.

Некаторыя краіны Садружнасці стварылі асобныя аб’яднанні: Саюз Беларусі і Расіі, Мытны саюз (Беларусь, Расія, Казахстан, Кыргызстан, Таджыкістан) і іншыя.

Рэспубліка Беларусь выступае за развіццё СНД, больш цесныя эканамічнае, палітычнае і ваеннае супрацоўніцтва і інтэграцыю; была адным з ініцыятараў падпісання дагавораў і пагадненняў аб Мытным саюзе, адзінай эканамічнай прасторы, калектыўнай бяспецы, фарміраванні зоны свабоднага гандлю.

**Практыкаванне 27. Адкажыце на пытанні:**

1. Калі і дзе было подпісана Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў?
2. Якія дзржавы былі заснавальніцамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў?
3. Калі быў падпісаны Пратакол да Пагаднення аб стварэнні СНД?
4. Ці з’яўляецца СНД дзяржавай?
5. Колькі краін уваходзяць у СНД?
6. Разгледзьце юбілейную марку, выпушчаную да дваццацігоддзя СНД. Сцягі якіх краін адлюстраваны на ёй?
7. Якім чынам ажыццяўляецца ўзаемадзеянне краін у рамках СНД?
8. У якіх сферах ўзаемадзейнічаюць краіны?
9. Ці могуць краіны Садружнасці ствараць асобныя аб’яднанні?
10. Што вы яшчэ ведаеце пра гісторыю і дзейнасць СНД?

- **Перакажыце тэкст па-руску, а потым па-беларуску.**

# КЛЮЧИ К УПРАЖНЕНИЯМ
# КЛЮЧЫ ДА ПРАКТЫКАВАННЯЎ

## МОДУЛЬ 1

**8.** 1. Меў. 2. Прыехалі. 3. Жыла. 4. Сустрэў, быў. 5. Дапамагла. 6. Адпачываем. 7. Ездзіла. 8. Выхавалі. 9. Пачаў. 10. Нарадзіла. 11. Працаваў. 12. Убачыў(ла). 13. Пакахалі. 14. Прывёз. 15. Бралі. 16. Падарожнічалі. 17. Гатавала. 18. Скончыў.

**9.** 1. Выпекла. 2. Збярог (зберагла). 3. Бавіў. 4. Трос (трэсла). 5. Захавала. 6. Хварэў (хварэла). 7. Песціла. 8. Рос. 9. Перамог (перамагла). 10. Хлусіў (хлусіла).

**10.** Сустрэць цябе, сказаць ёй, гаварыць з імі, убачыць іх, прапанаваць вам, падарыць яму, купіць мне, папрасіць цябе, сябраваць з ёй, чытаць нам, пісаць пра іх, пазнаёміцца з вамі, наведаць яго, параіць ёй.

**11.** 1. З ёй (ёю); 2. з табой (-ою); 3. нам; 4. вас; 5. мне; 6. у іх; 7. пра яго; 8. ім; 9. да яго; 10. ёй; 11. з імі; 12. нас.

**13.** Гэта мой, твой, яго/ягоны, яе/ейны, іх, наш, ваш (дом, пакой, чамадан, тэлефон, мяч, матацыкл, тэлевізар, стол, веласіпед, капялюш, прынтар, альбом, пярсцёнак, гадзіннік, фотаздымак); Гэта мая, твая, яго/ягоная, яе/ейная, іх, наша, ваша (кватэра, сумка, ручка, скрыпка, машына, куртка, парфума, заколка); Гэта мае, твае, яго/ягоныя, яе/ейныя, іх, нашы, вашы (сшыткі, алоўкі, лыжы, канькі, чаравікі, боты, кветкі, акуляры); Гэта маё, тваё, яго/ягонае, яе/ейнае, іх, наша, ваша (паліто, трумо, пано).

**16.** У мяне ёсць сяброўка Зоя. У яе заўтра святочны дзень. Яна сустракае гасцей з Амерыкі. Гэта яе стрыечны брат Барыс і яго жонка Ірына. Яны жывуць у Бостане. Барыс выкладае музыку ў каледжы, а Ірына працуе бухгалтарам. Зоя не бачыла іх больш за дзесяць гадоў. У іх будзе цікавая сустрэча, ім будзе пра што пагаварыць.

**18.** Купіць (каму) сабе, любіць (каго) сябе, пакпіць (з каго) з сябе, ганарыцца (кім) сабой/-ою, зненавідзець (каго) сябе, гаварыць (пра каго) пра сябе, напісаць (каму) сабе, прачытаць (пра каго) пра сябе, пакінуць (у каго) у сябе, пашыць (каму) сабе, здзекавацца (з каго)

з сябе, змагацца (з кім) з сабой/-ою, крыўдзіцца (на каго) на сябе, выдумляць (пра каго) пра сябе, нарэзаць (каму) сабе, даравацць (каму) сабе, злавацца (на каго) на сябе, думаць (пра каго) пра сябе, пакласці (каму) сабе, любавацца (кім) сабой/-ою, падрыхтаваць (для каго) для сябе.

**19.** 1. Сабе; 2. цябе; 3. цябе, без цябе; 4. сябе; 5. сабе; 6. табе; 7. сябе; 8. ад сябе, да сябе; 9. цябе; 10. сябе; 11. табе, сабе.

## МОДУЛЬ 2

**4.** **А.** 1. рыхтаваць. 2. гатаваць. 3. гуляць. 4. іграць. 5. кахаць. 6. любіць. **Б.** 1. У дзяцінстве мы гулялі ў футбол. 2. Студэнтка не рыхтавала рэферат. 3. Маша хацела навучыцца іграць на арфе. 4. Мая бабуля гатавала вельмі добра. 5. «Я больш не кахаю цябе. Давай застанемся сябрамі». 6. Мой бацька любіў чытаць перад сном.

**15.** 1. Чытае, чытаеш, чытаю, чытаюць, чытаем. 2. Сядзіць, седзіце, сядзім, сядзяць, сядзяць. 3. Ходзім, ходзіць, ходзіш, хаджу, ходзяць, ходзяць.

**17.** 1. Ездзяць. 2. Парушу. 3. Пачынаюць. 4. Іграе, ходзяць, ведае, спявае, збірае, слухаем, вучым. 5. Хваліце. 6. Размаўляеш. 7. Трацяць, лічыць. 8. Выязджаем, сустракаем. 9. Берацe. 10. Думаю. 11. Праходзіш.

**18.** 1. Аплачвае. 2. Шукае. 3. Ведае. 4. Бяром. 5. Працягвае. 6. Задавальняе. 7. Атрымаеш. 8. Мару. 9. Зволяць. 10. Заключаеце. 11. Разгледзяць. 12. Азнаёміць. 12. Зайздросціш, стамляе. 13. Трачу.

**20.** Сыны, дочкі, браты, сёстры, дзяды, бабулі, нявесткі, зяці, суседы, суседкі, сяброўкі, сябры, настаўнікі, настаўніцы, вучні, вучаніцы, студэнты, студэнткі, аспіранты, аспіранткі, беларусы, беларускі, мінчане, сяляне, грамадзяне.

**21.** Моры, палі, азёры, адрасы, карані, камяні, прафесары, лясы, вокны, карпусы, сыны, лісты, крылы, настаўнікі, дырэктары.

**22.** 1) *зборныя назоўнікі*: сучча, вецце, голле, каменне, бярвенне, алешнік, дубняк, калоссе, пер'е, звяр'ё, студэнцтва, лістота, сялянства, бедната, апаратура, агентура;
2) *назоўнікі ў форме множнага ліку*: галіны, сукі, камяні, бярвёны, алешыны, дубы, каласы, струны, пёры, звяры, студэнты, лісты, промні.

**23.** Дубовыя дзверы, жалезныя дзверы, дробныя крупы, грэцкія крупы, сырыя дровы, сіняе чарніла, фіялетавае чарніла, дрэнныя паводзіны, выдатныя адносіны, шырокія грудзі, спелыя маліны, слоік спелых малін, кошык малін, кіслыя журавіны, смачныя буякі, чырвоныя парэчкі, вядро спелых парэчак, міска спелых парэчак, салодкія суніцы, кошык салодкіх суніц, буйныя ажыны, шклянка буйных ажын.

**24.** Дзень кароткі, абед смачны, работа прыемная, адлегласць невялікая, дарога доўгая, выкладчык упэўнены, санітар вясёлы, медсястра маладая, урач уважлівы, хірург вопытны, вайсковец разгублены, кандуктар сціплы, настаўніца абаяльная, будаўнік нявопытны, бібліятэка новая, школа прасторная.

**26.** Салат (м.) – салата (ж.), кофе (м.) – кава (ж.), какао (с.) – какава (ж.), зал (м.) – зала (ж.), собака (ж.) – сабака (м.), пион (м.) – півоня (ж), гусь (м.) – гусь (ж.), мозоль (ж.) – мазоль (м.), медаль (ж.) – медаль (м.), полынь (ж.) – палын (м.), яблоко (с.) – яблык (м.), шкаф (м.) – шафа (ж.), комод (м.) –камода (ж.), запись (ж.) – запіс (м.), подпись (ж.) – подпіс (м.), карман (м.) – кішэня (ж.), фальшь (ж.) – фальш (м.), жатва (ж.) – жніво (н.), боль (ж.) – боль (м.), жалость (ж.) – жаль (м.), тень (ж.) – цень (м.), вилка (ж.) – відэлец (м.), рукопись (ж.) – рукапіс (м.), георгин (м.) – вяргіня (ж.), продажа (ж.) – продаж (м.), жизнь (ж.) – жыццё (н.).

**27.** Селядзец вэнджаны, кава распушчальная, салата мясная, гусь смажаная, яблык чырвоны, пыл моцны, медаль залаты, рукапіс старажытны, палын горкі, сабака злосны, камода дубовая, капыт конскі, таполя стройная, продаж выгодны.

**28.** Актавая зала, духмяная табака, дубовая камода, жоўтая вяргіня, чырвоны гваздзік, белая гусь, невыносны фальш, вэнджаны селядзец, вялікі ахапак, высокая таполя, кіслае шчаўе, зялёная салата, доўгі надпіс, горкі палын, леташні перапіс, доўгае жыццё, маленькі мазоль, смачны яблык, сярэбраны медаль, злосны сабака, неразборлівы запіс, нясцерпны боль, пачак цукерак, ахапак сена.

## МОДУЛЬ 3

**19.** 1. Залежыць. 2. Даглядае. 3. Зважаю. 4. Здзіўляе, прываблівае. 5. Завяжаш. 6. Горшае, не атрымліваю. 7. Кранае. 8. Пагартае, выбера. 9. Лепшае. 10. Належыць, пазычаю.

**20.** 1. Вытрымаеш. 2. Апрыкрае, жадаю.

**21.** а) Адхіліць прапанову, змяніць прычоску, атрымаць заўвагу, гартаць часопіс, выканаць песню, сустракаць госця, абараніць дзяўчыну, абвастрыць праблему, непакоіць суседа, губляць цярпенне, выкарыстаць правіла, заваўёваць краіну, занядбаць сад, наведаць цырульню.

б) Чакаць сыноў, чытаць пра князёў, абнадзеіць турыстаў, абудзіць пачуцці, здзяйсняць планы, зневажаць канкурэнтаў, знішчаць дакументы, люляць мары, надзімаць шары, напаткаць братоў, паблытаць прозвішчы, брукаваць вуліцы.

**22.** 1. Дадасце. 2. Аддасі. 3. Задасць. 4. Нададуць. 5. Падам. 6. Наддадзім (наддамо). 7. Раздасце. 8. Недадасць. 9. Перадасі.

**23.** Заўтра я іду на выставу, каток, канцэрт, пляж, танцы, кірмаш, дыскатэку, курсы, прыём. Учора я хадзіў у лазню, клуб, краму, паліклініку, гараж, школу, бібліятэку, басейн, паб, цырк, салон, кавярню, інстытут.

**24.** 1. Цераз вуліцу. 2. праз гадзіну. 3. праз адну гадзіну. 4. цераз хвіліну. 5. праз усю Беларусь. 6. цераз дарогу. 7. праз усе горы; цераз усе моры, рэкі. 8. праз плошчу Незалежнасці.

**25.** Б. 1. Мой дзядзька ходзіць па хлеб раніцай. 2. За зайцам няма сэнсу ганяцца. 3. Мы заедзем па табе ў дзве гадзіны. 4. За чырвонай машынай ехала сіняя. 5. Мне трэба схадзіць у дзіцячы садок па дзіця.

**26.** Бачу вузкую талію, шырокія плечы, магутную шыю, зграбную фігурку, зваблівую ўсмешку, гарэзлівыя вочы, цяжкую хаду, пульхныя вусны, модную прычоску, доўгія косы, мілыя кудзеркі, сівыя скроні, высокі лоб, тонкія бровы, цяжкія павекі, дробныя зубы.

**28.** Нос вялікі, вочы блакітныя, вусны пульхныя, бровы чорныя, вейкі доўгія, радзімка маленькая, характар складаны, знешнасць прывабная, рукі вялікія, валасы кучаравыя, вушы адтапыраныя, лоб адкрыты, шыя доўгая, сківіцы моцныя, твар прыгожы, погляд упэўнены, зморшчынка глыбокая, скура гладкая, зубы белыя, галава круглая, пальцы доўгія, кулакі моцныя, пазногці пафарбаваныя, спіна роўная, плечы шырокія, рухі павольныя, постаць стройная, паводзіны стрыманыя, хада хуткая, усмешка шчырая, голас прыемны.

**29.** Блакітная хустка – блакітную хустку, карычневая куртка – карычневую куртку, сінія пінжакі – сінія пінжакі, чырвоная сукенка – чырвоную сукенку, шэрыя нагавіцы – шэрыя нагавіцы, прыгожыя

гальштукі – прыгожыя гальштукі, кароткая спадніца – кароткую спадніцу, прыгожая кашуля –прыгожую кашулю, белыя халаты – белыя халаты, ружовая кофтачка – ружовую кофтачку, чорнае паліто – чорнае паліто, новыя чаравікі – новыя чаравікі, блакітныя вочы – блакітныя вочы, прыемная ўсмешка – прыемную ўсмешку, выпадковая сустрэча – выпадковую сустрэчу, залаты пярсцёнак – залаты пярсцёнак, творчая праца – творчую працу, цікавая экскурсія – цікавую экскурсію, кароткая біяграфія – кароткую біяграфію, стрыманы характар – стрыманы характар, цудоўныя ўспаміны – цудоўныя ўспаміны, значныя поспехі – значныя поспехі, прыгожыя рукі – прыгожыя рукі, няпростыя лёсы – няпростыя лёсы.

**30.** Прыемны, маленькія, высокая, зграбная, элегантная, энергічная, кантактная, аднастайнай, спакойны, цярплівы.

**32.** Багаты – багацейшы, чысты – чысцейшы, рэдкі – радзейшы, ціхі – цішэйшы, нізкі – ніжэйшы, кароткі – карацейшы, высокі – вышэйшы, сухі – сушэйшы, хуткі – хутчэйшы, доўгі – даўжэйшы.

**33.** Смялейшы – смелы – больш смелы,
весялейшы – вясёлы – больш вясёлы,
навейшы – новы – больш новы,
багацейшы – багаты – больш багаты,
стражэйшы – строгі – больш строгі,
маладзейшы – малады – больш малады,
прасцейшы – просты – больш просты,
цішэйшы – ціхі – больш ціхі,
бліжэйшы – блізкі – больш блізкі,
ніжэйшы – нізкі – больш нізкі,
гусцейшы – густы – больш густы,
мацнейшы – моцны – больш моцны,
смачнейшы – смачны – больш смачны,
разумнейшы – разумны – больш разумны,
свяжэйшы – свежы – больш свежы,
цікавейшы – цікавы – больш цікавы,
страшнейшы – страшны – больш страшны,
хутчэйшы – хуткі – больш хуткі,
хітрэйшы – хітры – больш хітры,
далейшы – далёкі – больш далёкі,
глыбейшы – глыбокі – больш глыбокі,
вузейшы – вузкі – больш вузкі,
саладзейшы – салодкі – больш салодкі.

**34.** Густы, белы, салодкі, смачны.

**35.** *Прыметнікі, ад якіх нельга ўтварыць ступені параўнання*: смуглявы, чарнявы, кульгавы, светла-блакітны, глыбокапаважаны, вусаты, барадаты, жывы, мёртвы, вастраносы, дубовы, сонны, сляпы, васільковы, вішнёвы, жанаты, стараваты, рыжавалосы, шыракаплечы, шкляны, дабрадушны.

**36.** Сустрэча на найвышэйшым узроўні, найбліжэйшая вёска, найбуйнейшае прадпрыемства, найдрабнейшыя часціцы, найдакладнейшыя прыборы, найкарацейшы шлях, найтанчэйшая перагародка, найцікавейшая кніга, найразумнейшы з нас, найстаражытнейшыя паселішчы, найвялікшыя дасягненні, найсаладзейшы плод.

**37.** 1. Маладзейшая за сваю сястру // маладзейшая, чым яе сястра; 2. старэйшая за свайго брата // старэйшая, чым яе брат; 3. вышэйшы за свайго стрыечнага брата // вышэйшы, чым яго стрыечны брат; 4. маладзейшая за свайго мужа // маладзейшая, чым яе муж; 5. ніжэйшы за сваю сястру // ніжэйшы, чым яго сястра; 6. старэйшая за нашага ката // старэйшая, чым наш кот; 7. маладзейшы за маю маці // маладзейшы, чым мая маці; 10. даражэйшая за машыну суседа // даражэйшая, чым машына суседа.

**38.** Матчына памада, дзядулева машына, бабуліна сукенка, сястрын камп’ютар, братава гітара, сынаў матацыкл, суседаў сабака, суседчына дачка, Міколаў падручнік, Іванава крэсла, інжынераў праект.

**39.** Бацькаў капялюш, дзядулева крэсла, цётчына хустка, вавёрчына дупло, Надзіна паліто, Аляксееў сшытак, Міколаў подпіс, бабуліны казкі, сынава кніга, Скарынава Біблія, Ігараў пенал, Каціны канспекты, Ваневы боты.

**40.** Жылі бядней, сказаў смялей, паціснуў мацней, маляваў горш (горай), расказваў цікавей, гаварыў цішэй, наведваў радзей, вярнуўся пазней, устаў раней, развёў гусцей, паехаў хутчэй, апусціўся глыбей, зрабіў горш (горай), напісаў лепш (лепей), скакаў вышэй.

**41.** 1. Хутчэй; 2. зручней; 3. пазней; 4. павольней; 5. цішэй; 6. мацней і мацней; 7. гусцей; 8. цішэй і цішэй; 9. даўжэй; 10. хутчэй.

**42.** 1. Шпарчэй за маці; 2. павольней за сястру; 3. танней за футра; 4. марудней за майго дзядулю; 5. хутчэй за Івана; 6. прыгажэй за мяне; 7. горш за Ігара; 8. лепш за Стаса; 9. мацней за іх; 10. цішэй за ўсіх; 11. весялей за мяне; 12. вышэй за свайго брата.

**43.** Даражэйшая; мудрэйшыя; вышэйшы; разумнейшы; старэйшая; спрытнейшы; прыгажэйшая.

**44.** 1. Ваня на два гады старэйшы за мяне. 2. Кастусь свае інтарэсы ставіў вышэй за ўсё іншае. 3. Чым глыбей чалавек апускаецца ў душу, тым вышэй падымаецца ў сусвет. 4. Возера Нарач глыбейшае за нашу рэчку. 5. Мёд саладзейшы за цукар. 6. Бацька дагнаў сына і пайшоў хутчэй. 7. Самалёт рухаецца хутчэй, чым цягнік. 8. Здароўе даражэйшае за багацце. 9. Слоўнік каштаваў даражэй, чым энцыклапедыя. 10. Ажыны буйнейшыя за за чарніцы. 11. Той дуб быў вышэйшы і гусцейшы за бярозу. 12. Сцяпан быў разумнейшы за ўсіх у групе. 13. Мой дзядуля быў больш мудры, чым мой бацька. 14. Сачыненне ў Міколы атрымалася больш цікавае, чым у мяне. 15. Мой бацька на 5 гадоў маладзейшы за маю маці. 16. Машына ў Мікіты больш новая, чым у Сяргея.

## МОДУЛЬ 4

**9.** 1. Лайдачыць. 2. Няславіць. 3. Няволіць. 4. Наслядзіць. 5. Навастрыць. 6. Маладзіць. 7. Лісліваць. 8. Крочыць. 9. Гасціць.

**10.** Паведамлю, натраплю, насаджу, наладжу, зараблю, разбуджу, заахвочу, замоўлю, зайздрошчу, здзіўлю, застуджу, запраўлю.

**11.** 1. Не атрасешся. 2. Сцеражэ. 3. Не зможа.

**12.** а) 1. Кладзяце. 2. Засцеражом. 3. Надзярэш, напячом. 4. Падвязе. 5. Зацвітуць. 6. Занепадзе. 7. Запражом. 8. Навалачом, насячэш. 9. Крадзе. Пераможа.
б) 1. Зацякла. 2. Павёў. 3. Натрос. 4. Напляла. 5. Знёс. 6. Занямог. 7. Выграб. 8. Заскрэбла. 9. Навезлі. 10. Адклаў.

**13.** Адсечаце, затраце, наведзяце, злезеце, валачаце, пабераажаце, падмецяце, падведзяце.

**14.** Паднесці, падкласці, налезці, падперці, падстрыгчы, падцерці, засесці, вытрасці.

**15.** 1. Бягуць, бегае. 2. Бяжыш, бегаем. 3. Бяжыць, бегаеш. 4. Бяжыць, бегаюць.

**16.** а) 1. Раіцца. 2. Клапачуся. 3. Змагаецца. 4. Зносяцца. 5. Знаходзіцца. 6. Зачыніцеся. 7. Ашчаджаецца, стамляецца. 8. Засмуцяцца. 9. Сумняваюся. 10. Засцеражацеся, стрымаюся.
б) 1. Запыніўся. 2. Дамовіліся. 3. Расплакалася. 4. Абаперся, спужаўся. 5. Заблудзіліся. 6. Знясіліўся. 7. Знямогся.

**19.** 1. Дзіўлюся, пытаюцца, падабаецца. 2. Спазняешся, не рупішся, не пакрыўдзішся, не бянтэжышся, смяюся.

**20.** Магазінам, крамай, універсамам, пакупкай, коштам, кнігарняй, рэштай, вітрынай, шыльдай, аб'явай, шопінгам, сувенірам, адзеннем, аддзелам, фасонам, памерам, касай, касірам, чэкам, мадэллю, упакоўкай, пакетам, паперай, цэлафанам, рахункам, прадаўцом, пакупніком, чаргой, рублём, абслугоўваннем, якасцю, гандляркай, каўбасой, хлебам, соллю, батонам, вадой, цукрам, алеем, кефірам, смятанай, шампунем, мылам, крэмам.

**21.** Паліто з гузікамі, сукенка з брыжамі, кеды са шнуркамі, шапка з матузкамі, кофта з гаплікамі, убор са стужкамі, кашуля з манжэтамі, папруга з клёпкамі, каптур з кутасамі, спражка з каменьчыкамі, пальчаткі са стразамі, нагавіцы з кнопкамі, джынсы з клёпкамі, сарочка з запанкамі, футболка з рукавамі, куртка з кішэнямі, тэлефон з опцыямі.

**22.** Вільгаццю, столлю, Свіцяззю, Нараччу, Прыпяццю, Об'ю, Сібір'ю, Убарцю, сінню, ноччу, гасціннасцю, граззю, мышшу, цеменню, печчу, кроўю, любоўю, ростанню, далеччу, бандэроллю, шыр'ю, трэллю, сенажаццю, цікавасцю, гладдзю, моллю, веліччу, бездаражжу, засенню, поўначчу, воблачнасцю, меддзю, гуссю, карысцю.

**23.** 1. Я іду ў магазін з сябрам, сяброўкай, братам, сястрой, бацькам, суседкай. 2. Я нясу сумку з хлебам, сырам, кефірам, каўбасой, капустай, маянэзам, кетчупам, алеем. 3. Я частуюся цукеркай, зефірам, персікам, бананам, яблыкам, пірагом, грушай, ананасам. 4. Яны займаюцца футболам, баскетболам, валейболам, тэнісам, плаваннем, спортам. 5. Яны захапляюцца музыкай, тэатрам, скрыпкай, паэзіяй, танцамі, аэробікай. 6. Мы часта сустракаемся з бацькам, цёткай, дзядзькам, бабуляй, дзядулем, суседам. 7. Мы размаўляем з гандляром, касірам, прадаўцом, касіркай, аптэкарам, цырульнікам. 8. Мы ідзём у школу з кніжкамі, сшыткамі, канспектамі, ручкамі, алоўкамі, слоўнікамі. 9. Я еду з Камароўкі з бульбаю, агуркамі, пятрушкаю, цыбуляю, памідорамі, салатай.

**25.** 1. З табой (-ою) і ім // са мной (-ою) і ёй (ёю). 2. з імі і табой (-ою) // з ім і ёй (ёю). 3. паміж мной (-ою) і ім // паміж ёй (ёю) і імі. 4. паміж вамі і імі // паміж табой (-ою) і мной (-ою). 5. перада мной (-ою) і табой (-ою) // перад ім і вамі. 6. перада мной (-ою) і вамі // перад табой (-ою) і імі. 7. з намі і вамі // з ім і табой (-ою). 8. з ім і ёй (ёю) // са мной (-ою) і імі.

**26.** Са мной/мною, з ім, з імі, з ёй/ёю, з вамі, парада мной/мною, перад ім, з вамі, з імі, з ёй/ёю, за ім, перад намі, перад вамі, з намі, з імі, са мной/мною, з табой/табою, з вамі, з імі, са мной/мною, з ёй/ёю.

**27.** Новай кофтачкай, шакаладнымі цукеркамі, тварожным тортам, залатым пярсцёнкам, сталовым сервізам, вішнёвым варэннем, вострым нажом, прывялым рамонкам, Новым годам, замежнай паездкай, навуковым праектам, нечаканай прапановай, асабістымі справамі, школьнымі сябрамі, новымі прыяцелямі, спартыўнымі навінамі, шарыкавай ручкай, новымі алоўкамі, замежнымі студэнтамі, класічнай музыкай, прыемным голасам.

**28.** 1. Са сваім школьным сябрам. 2. з маім класным кіраўніком. 3. з тваім стрыечным братам. 4. з яе/ейнай стрыечнай сястрой. 5. са сваімі новымі гітарамі. 6. з нашай маленькай дачкой. 7. сваім летнім адпачынкам. 8. за нашымі маленькімі дзецьмі. 9. сваімі новымі абноўкамі. 10. нашай беларускай мовай. 11. іхнім гістарычным мінулым. 12. яе/ейнымі замежнымі гасцямі.

## МОДУЛЬ 5

**6.** 1. Назавіце некалькі страў, якія маюць салёны смак. 2. Густы ва ўсіх розныя. 3. Смак салёнай рыбы Іван памятаў з дзяцінства. 4. Густ Андрэя заўсёды выклікаў здзіўленне сяброў.

**8.** 1. Я гаварыў праўду, але бацька мне не даў веры. 2. Я аддаю перавагу каве са смятанкай. 3. На пажар збегліся ўсе, але так і не змаглі даць рады агню. 4. У спаборніцтвах кулінараў узяў удзел мой брат. 5. Каця ніколі не давала веры цудоўным гісторыям. 6. За вячэрай Аляксей аддаваў перавагу гарбаце, а не каве. 7. У конкурсе на «Кухара года» ўзяў удзел усе рэстараны Мінска.

**13.** 1. Мы друкуем кулінарны часопіс. 2. Вы майструеце скрыню для папер. 3. Калектыў абмяркуе ваш даклад у наступную сераду. 4. Вы працуеце ў гэтую суботу? 5. Мы віншуем сяброў з новай кватэрай. 6. Загадчык кафедры накіруе мяне на канферэнцыю ў пятніцу на увесь тыдзень. 7. Вы дарэмна на дзяцей за беспарадак. 8. Вы крыўдуеце на мяне за ўчарашнюю размову? 9. Я занатую ўсе твае заўвагі алоўкам. 10. Мы асэнсуем наша становішча і прымем рашэнне. 11. Я рыхтую брату падарунак на вяселле.

**14.** 1. Застаяцеся. 2. Мацуюць. 3. Палуднуеш. 4. Гасцюеш. 5. Частуе. 6. Каштуеце. 7. Святкуеце. 8. Падсілкуецеся.

**15.** Анкетаваць, аргументаваць, асіміляваць, вальсаваць, гарантаваць, групаваць, дэгуставаць, запланаваць, імітаваць, інфармаваць, кампенсаваць, каардынаваць.

**16.** 1. Ясі, п'еш. 2. Есць, п'е. 3. Ясце, п'яце. 4. Не есць, п'е. 5. Ядуць, п'юць. 6. Есць, п'е.

**17.** 1. Ясі. 2. П'юць. 3. Есць. 4. П'еш. 5. П'яце. 6. Ясі. 7. Есць. 8. Ясце. 9. Не есць. 10. Ясі.

**18.** Пярэчыць дырэктару, варажыць сястры, параіць жонцы, здрадзіць слову, зманіць настаўніцы, зычыць аднакласніцы, надакучыць гаспадыні, наскардзіцца бабулі, паведаміць сваякам, пазычыць сяброўцы, належаць сынам, апавядаць аўдыторыі, замінаць доктару, нагадаць студэнтцы, падабацца суседцы, патураць дачцэ, усміхацца юнаку, спачуваць шэфу.

**19.** 1. Я мяркую, бацькі даруюць мне маю памылку. 2. Мы заўсёды дзякуем маме за сталом. 3. Бабуля даруе сваёй кошцы ўсё. 4. Брат дзякуе мне ў сваім лісце за дапамогу. 5. Ты даруеш яму гэтыя словы? 6. Вы дзякуеце нам дарэмна. Так атрымалася выпадкова.

**20.** Радуюся карункавай сурвэтцы, запечанай гарбушы, салодкай аладцы, фаршыраванаму шчупаку, шакаладнай цукерцы, вэнджанаму кумпяку, срэбранай лыжцы, грыбной поліўцы, ячнаму крупніку, малочнай зацірцы, бабулінай локшыне, мучным клёцкам, смачнаму халадніку, мясной мачанцы, тушанай ялавічыне, ветлівым гасцям, рыбнай смажанцы, гусінай шыйцы, сырнай запяканцы, мятнай гарбаце, кіслай капусце, часночным буракам, маркоўнай бабцы, сялянскаму амлету, вараным яйкм, аўсяным блінцам.

**21.** Вызваляць, заказваць, абнадзейваць, абумоўліваць, зачароўваць, забаўляваць, натхняць, збочваць, высмейваць, падхопліваць, падлоўліваць, выменьваць, засмажваць, асвойваць, закопваць, закусваць, выдумваць, падпарадкоўваць, падтрымліваць.

**22.** 1. Засольвае. 2. Падладжваюся. 3. Падсмажваю. 4. Падклейваў. 5. Атрымліваем. 6. Загойваецца. 7. Абдумваеш. 8. Замешваю. 9. Папярэджваю. 10. Наведваю.

**23.** 1. Вячэраеш, павячэраў. 2. Малюе, не намалявала. 3. Чытае, прачытаў. 4. Вітаешся, павітаўся. 5. Варыш, зварыў (зварыла).

**24.** 1. Хто. 2. што. 3. каго. 4. чаго. 5. каго. 6. кім. 7. чым. 8. што. 9. каго. 10. што.

**27.** 1. Хто-небудзь. 2. каму-небудзь. 3. хто-небудзь. 4. каму-небудзь. 5. хто-небудзь. 6. хто-небудзь. 7. хто-небудзь. 8. хто-небудзь. 9. каго-небудзь. 10. хто-небудзь. 11. каму-небудзь.

**28.** 1. Што-небудзь. 2. кагосьці. 3. які-небудзь. 4. каго-небудзь. 5. што-небудзь. 6. якія-небудзь. 7. хто-небудзь. 8. кім-небудзь. 9. кагосьці. 10. хто-небудзь.

**29.** 1. Нічога. 2. нікому. 3. ніякай. 4. нікому. 5. нічыйго. 6. нікому, нічога. 7. нікому, нічога.

**30.** 1. Ні для каго; 2. ні пра што; 3. ні з кім; 4. ні для каго; 5. ні з чым; 6. ні пра каго.

**31.** 1. Няма з кім. 2. ні ад каго. 3. няма з кім. 4. няма з кім. 5. не было з чым. 6. не будзе чаго. 7. няма чаго. 8. не было чаго. 9 не будзе чаго. 10. няма каго. 11. няма да каго. 12. няма чаго.

**32.** 1. Не было каго. 2. няма чаго. 3. не было з кім. 4. няма з чым. 5. не будзе каго. 6. не было з кім. 7. няма чаго.

**33.** 1. Ніколі. 2. ніяк. 3. ніколі. 4. ніколі. 5. нікуды. 6. нікалькі. 7. ніяк. 8. нікалькі. 9. ніяк. 10. нікуды.

## МОДУЛЬ 6

**6.** 1. Ехаць аўтобусам было нязручна, сябры паехалі на метро. 2. У купэ было нязручна спаць. 3. Пытацца пра грошы было няёмка. 4. Мне няёмка вас турбаваць.

**8.** З пластыку і шкла, нумары, выгодамі, мэбля, карціны, люстэрка, дываны, сурвэткі, дарожкі, канапа, з крэсламі, камін, абрусам, кухня, халадзільнікам, посудам, выгоды, сантэхнікі, тэлебачаннем, нумары, акно, дзвярыма, нумары, сняданак, страў, лазня, паверх, пакой, каўбаскамі, вяндлінай, грыбамі, гуркамі, капустай, яблычным, бярозавым, выгоды, гарачая вада, душ, прыбіральня, памідораў, гуркоў, клубніц, парэчак, чарніц, суніц.

**9.** Расчыніў; зачыняюцца; адкрыць; не зачыняецца; адгарнуў; расплюшчыць; загарнулі; заплюшчыліся.

**12.** 1. Званчэць. Голас званчэе (званчэў). 2. Памажнець у плячах. 3. Заінець. Дрэвы заінелі. 4. Зарунець. Поле зарунее (зарунела). 5. Знеру’хомець ад нечаканасці. 6. Апрытомнець пасля хваробы. 7. Зжаўцець. Лісце

(зжаўцее) зжаўцела. 8. Лагаднець ад ласкавых слоў. 9. Памацнець, памацнець ад лекаў. 10. Пасвяжэць. Паветра пасвяжэе (пасвяжэла).

**13.** 1. Радзее і святлее. 2. Ненавіджу. 3. Патаннее. 4. Смыліць. 5. Ліпіць. 6. Імжыць, марнее. 7. Рыпяць. 8. Знясілееце. 9. Сквірчаць. 10. Хмурнее, грымяць, бліскаціць.

**14.** 1. Мы хочам пабудаваць дом за горадам. 2. Мае суседзі хочуць пачаць рамонт. Я хачу з’ехаць на гэты час у адпачынак. 3. Вы хотите купить новую мебель? Я могу порекомендовать вам опытного дизайнера. 4.Ты хочаш завесці ў доме кветкі? Я табе параю спачатку пачытаць спецыяльную літаратуру. 5. Мой муж хоча пафарбаваць балкон, але мы ніяк не можам дамовіцца пра колер.

**15.** 1. Адчыні. 2. Далучайся. 3. Не марнуй. 4. Кладзіся. 5. Пазыч. 6. Квапся. 7. Не надакучвай. 8. Папраў. 9.Не сумуй. 10. Нагадай.

**16.** 1. Не спазняйся. 2. Наведвай. 3. Паведамі. 4. Засцерагайся. 5. Скажы. 6. Гавары. 7. Бяры. 8. Паменшы. 9. Узважвай. 10. Не адмяняй.

**17.** 1. Купі, зайсці. 2. Дай, піць. 3. Вымаві, не атрымаецца. 4. Не набліжайся, сустрэцца. 5. Папярэдзь, паведаміў.

**19.** 1. Перакусім, бяжым. 2. Купляем. 3. Пачакаем. 4. Лічым, едзем. 5. Згатуем. 6. Хадзем. 7. Рыхтуем. 8. Адпачннем. 9. Выключаем, кладземся. 10. Беражэм, не ядзім (ямо).

**20.** Інфінітыў 2, 3, 5, 6, 7, 10.

**22.** Ложка, канапы, крэсла, коўдры, сурвэткі, абруса, шклянкі, акна, сцяны, стала, падушкі, тэлефона, талеркі, нажа, лыжкі, відэльца, збанка, слоіка, таркі, каструлі, патэльні, сметніцы, веніка, швабры, вядра, фіранкі, пліты, кубка, бутэлькі, келіха, дывана, шафы, чайніка, лямпы, люстры, тэлевізара, магнітафона, камп’ютара, праса, фена, расчоскі.

**23.** Вялікага дома, новай кватэры, маленькага пакоя, прасторнага калідора, новага акна, пустога вядра, старога камп’ютара, двухкамернага халадзільніка, чыгуннай патэльні, вострага нажа, сярэбранага відэльца, маленькай лыжкі, фарфоравага кубка, дубовага стала, крыштальнага келіха, новай талеркі, мабільнага тэлефона, залатога гадзінніка, мяккай падушкі, пуховай коўдры.

**24.** Парыў ветру, удар грому, бутэлька квасу, пах мёду, бярозавага гаю, зарасці сунічніку, пасля раздзелу маёмасці, шклянка чаю, сукенка з шоўку, кусты малінніку, абрус з ільну, на краі лугу, далёкага шляху, моцнага болю, не было пад’езду да дома, ціхага смутку, залежы торфу, смачнага крупніку, жадаць поспеху, дробнага дажджу, шырокага стэпу.

**25.** Ківаць на Пятра; ні кала ні двара; з году ў год; не выпускаць з віду; не даваць кроку ступіць; без сучка і задорынкі; сысці з розуму; вярнуць з таго свету; напусціць туману; збіць з панталыку; не з таго боку; не ступіць кроку; не падаваць знаку; камар носа не падточыць.

**26.** 1. Курса; 2. гардэроба; 3. жэньшэню; 4. дажджу; 5. двара, лесу; 6. смеху.

**27.** **Б.** 1. Смяяцца з маіх промахаў увайшло ў яго ў звычку. 2. Я заўсёды дзівілася са знаходлівасці і хуткасці думкі брата. 3. Гэты хлопец яшчэ ў дзяцінстве здзекаваўся з катоў. 4. Бацька любіў па добраму пакпіць з сына.

**28.** Прасторнага пакоя, светлага калідора, новага дома, высокай/-ае столі, роўнай/-ае сцяны, прыгожага дывана, зручнага крэсла, кніжнай/-ае паліцы, новай/-ае пліты, дубовай/-ае камоды, маленькага балкона, настольнай/-ае лямпы, учарашняй/-ае газеты, драўлянай/-ае лыжкі, старой/-ое патэльні, ільнянога абруса, белай/-ае сурвэткі, сіняй/-яе фіранкі.

**29.**

### Слова пра сябра

Некалькі гадоў мы жылі па-суседску. За сцяной майго кабінета была Валодзева сталовая, густоўна і шчодра напоўненая рознай даўнінай: разьбой, ліццём, чаканкай, шкатулкамі. Нястомны падарожнік, выдатны знаўца роднай гісторыі, ён умеў акружыць сябе ўсім тым, што было люба яго сэрцу.

Аднойчы за сцяной пачуўся асцярожны, але настойлівы стук малатка. У тым месцы, дзе гэты гук цэнтраваўся, пачаў вытыркацца вялікі цвік. Я пабег да суседа. Караткевіч збіраўся прыладзіць на сцяне старадаўняга драўлянага анёла, а для гэтага трэба было ўбіць цвік, прытым надзейны. Нічога не кажучы, я запрасіў яго да сябе. Перад маёй сцяной сусед застыў у недаўменні: цвік лез не вастрыём, а капялюшыкам. Разгублены, збянтэжаны, ён глядзеў на сцяну з поўнай дзіцячай верай у цуд. І гэта быў той Караткевіч, які, як часам здавалася, ведаў усё на свеце, меў тры

вышэйшыя адукацыі, зайздросную памяць, усебаковую і грунтоўную начытанасць.

І мне прыйшлося прызнацца, каб потым ужо ўдвух зарагатаць. Гадоў некалькі назад, рыхтуючы кватэру да рамонту, я выдзіраў цвікі з-пад карцін, але найбольшы выцягнуць паленаваўся і, забіўшы яго на ўсю глыбіню, пакінуў у сцяне. І трэба ж было, каб здарылася менавіта так: той цвік, што забіваўся пад анёла, трапіў якраз у мой падпольны, і ён, вядома ж, палез капялюшыкам наперад. (*Паводле Я. Брыля*)

**30.** Утульнай кватэры, сярэбранага відэльца, дубовай шафы, глыбокай міскі, фарфоравага кубка, пісьмовага стала, мяккага дывана, нізкай столі, трохлітровай каструлі, электрычнага чайніка, глінянага збанка, пустога вядра.

**31.** *Можа быць так*: чырвонага яблыка, вялікага ананаса, духмянага мёду, чорнай/-ае кавы, мядовага квасу, яблычнага воцату, зялёнай/-ае гарбаты, сланечнікавага алею, смачнай/-ае бульбы, цукровага бурака, спелага кавуна, сухога кмену, мялёнага цынамону, свежага батона, кіслага шчаўя, зялёнага агурка, смачнай/-ае салаты, чэрствага хлеба, шакаладнай/-ае цукеркі, салодкага печыва.

**32.** Яго, яе, іх, мяне, нас, вас, яе, яго, нас, вас, іх, яго, яе, мяне.

**33.** 1. Сваёй; 2. нашага; 3. маёй; 4. вашай; 5. твайго; 6. сваёй; 7. вашай; 8. майго; 9. нашай; 10. сваіх; 11. свайго; 12. тваёй.

**34.** Грыбоў, цукерак, яблыкаў, кансерваў, яблынь, кветак, рамонкаў, сясцёр, мышэй, хваляў, грошай, агуркоў, арэхаў, шампіньёнаў, хлопцаў, дзяўчын, дзён, слоў, моў, начэй, формаў, персікаў, чаромхаў, сцежак, медалёў, пярсцёнкаў.

**35.** Нечаканых гасцей, ветлівых гаспадароў, смачных страў, салодкіх ігруш, спелых суніц, духмяных хлябоў, модных рэстаранаў, шампанскіх він, утульных кавярняў, зручных крэслаў, маленькіх шкалікаў, крыштальных ваз, мядовых напояў, вясёлых людзей, дасціпных жартаў, застольных песень, урачыстых прамоў, шчырых тостаў, сардэчных пажаданняў, доўгіх размоў.

**36.** Сініх ільноў, зялёных лясоў, шырокіх вуліц, прыгожых дзяўчат, высокіх дамоў, спартыўных тавараў, сухіх дроў, сучасных мадэляў, блакітных азёр, шакаладных цукерак, гасцінных беларусаў.

**37.** Тваіх, сваіх, сваіх, яго/ягоных, яе/ейных, нашых, тваіх, вашых, маіх, тваіх.

## МОДУЛЬ 7

**14.** Вы апыняцеся, дакраняцеся, дасягняце, загорнеце, змокнеце, змоўкнеце, міняце, паглыняце, падманеце, нырняце, пазбегнеце, пазяхняце.

**15.** 1. Апранаюся. 2. Апранацца, апранаю. 3. Апранула. 4. Апрануўся (апранулася). 5. Апрану. 6. Апранешся. 7. Апранацца. 8. Апраняце. 9. Апранаеце. 10. Апрануцца.

**16.** 1. Едзеш, езджу. 2. Ідзяце, ходзім. 3. Едзеш, езджу. 4. Ідзеш, хаджу.

**17.** **На прыпынку**. Іду (еду). Хаджу (езджу). Ідзеш (едзеш). Іду (еду). Ходзім. Ходзіце. Ходзіце. Ходзім.
**Размова па тэлефоне**. Едзем. Хаджу (езджу). Ездзіце. Ездзілі. Едзем.

**18.** 1. Праехаць. 2. Прыехаць. 3. Увайсці. 4. Перайсці. 5. Падысці. 6. З’ехаць. 7. Зайсці. 8. Сысці. 9. Аб’ехаць.

**19.** 1. Выходзіш. 2. Заходзіць (заходзіла). 3. Выходзіў. 4. Заходзіць. 5. Паедзе. 6. Прыйдуць. 7. Прыходзіць (прыходзіла). 8. Прыйдзе (прыедзе). 9. Пад’еду. 10. Даязджаю.

**20.** 1. Мытнік. 2. Абаронец. 3. Пясняр. 4. Вернік. 5. Гандляр. 6. Карыстальнік. 7. Маруда. 8. Вучань. 9. Змагар. Кіраўнік.

**21.** Клапаціцца аб бяспецы, ехаць у цягніку, сядзець на ланцугу, віно ў келіху, убачыць на вішні, гуляць па плошчы, марыць аб рыцару, прывітанне ў паштоўцы, грошы на рахунку, думаць аб вучню, празрыстая вада ў крыніцы, шкадаваць аб памылцы, карабель у гавані, убачыць у далі, кілім на падлозе, расказаць аб подзвігу, пашукаць у слоўніку, сустрэцца ў жніўні, захоўваць у халадзільніку.

**22.** 1. На фабрыцы, на заводзе, у паліклініцы, на пошце, у магазіне, у лабараторыі, у офісе, у бібліятэцы. 2. У інстытуце, у школе, у каледжы, ва ўніверсітэце, на курсах. 3. На выставе, у музеі, на канцэрце, на спектаклі, на экскурсіі, на экзамене, на лекцыі, на станцыі, у цырку, на кірмашы, на запраўцы. 4. На дыскатэцы, у парку, на поўдні, на пляжы, у краме, на моры.

**23.** 1. У старой капліцы. 2. У гляняным гладышы. 3. У зімовай шапцы. 4. Аб навагодніх падарунках. 5. На шакаладнай цукерцы. 6. Аб свежай ежы. 7. У цэнтральнай кнігарні. 8. У мастацкім творы. 9. У электроннай картатэцы. 10. У казачнай шэрані.

**25.** Беларусі, ва ўсходніх раёнах, у сербаў. На тэрыторыі, у цэнтральнай і паўночна-заходняй частцы, на Палессі.

Ад старажытнага тэрміна. У пачатку Вялікадня, у ноч. Валачобнікамі. Сялянскія двары, пад вокнамі, гаспадарам, сям'і. Імправізаваныя віншаванні, у сям'і, гаспадару, гаспадыні, нежанатаму сыну ці незамужняй дачцэ. Здароўя, прыбытку, плёну, ураджаю, шчаслівага шлюбу. Валачобнікам. У вялікім мяху. Ад валачобнікаў.

Ураджаю, дабрабыту, ад нягод.

## МОДУЛЬ 8

**4.** **А.** 1. адзін з адным. 2. адна адной. 3. адно аднаго. 4. адзін аднаму. 5. адно з адным. 6. адна ў адной. 7. адно аднаму. 8. адзін з адным. 9. адна з адной.

**Б.** 1. Студэнт і прафесар павіталіся адзін з адным. 2. Муж і жонка не гаварылі адно з адным. 3. Браты не бяруць адзін у аднаго грошы. 4. Наташа і Таня не любяць адна адну. 5. Сябры падпявалі адзін аднаму. 8. Сяброўкі задавалі пытанні адна адной. 9. Дзеці бегалі адно за адным.

**8.** 1. Колюць. 2. Выпара. 3. Паколеце. 4. Расколецца. 5. Размелем.

**9.** 1. Носіш. 2. Водзіць. 3. Нясу. 4. Возіце. 5. Ваджу (важу). 6. Носіш. 7. Нясём. 8. Несяце. 9. Возіце.

**11.** 1. Прыношу, прынясу. 2. Адводжу, адвяду. 3. Падвозіць, падвязе. 4. Панасіла. 5. Выводжу. 6. Аднесці. 7. Не данесяце. 8. Давяла. 9. Завёз. 10. Правёў.

**13.** Адпусціць бабраня, бараніць медзведзяня, гуляць з кацянём, лашчыць зайчаня, дзівіцца з зубраняці, дапамагчы лісяняці, захапляцца львянём, назіраць за качанём, сачыць за буслянём, аддаваць час індычаняці.

**14.** Ушчуваць манюку Васіля, ганарыцца Янкам Купалам, Францыскам Скарынам, дамовіцца са стылягам Вінцусём, спаткацца з разявакам Пракопам, захапіцца Барысам Сачанкам, памірыцца з задавакам Анатолем, даслаць ліст дзядзьку Базылю, здзіўляцца з нахабы Антося, патэлефанаваць бадзягу Іллю, жартаваць з недарэкі Жэні, дапамагчы няўмеку Лявон, здзейсніць дзякуючы непаседу Сержуку, спазніцца праз маруду Міхася, прыехаць да гулякі Язэпа, ставіцца да выскачкі Петруся, кпіць з недарэкі Паўлюка.

**15.** 1. Дзве; 2. двух; 3. два; 4. дзвюм; 5. двух; 6. дзве; 7. двума; 8. двума; 9. дзвюх; 10. дзвюма.

**16.** Двума вучнямі, дзвюма студэнткамі, двума кошыкамі, двума вёдрамі, дзвюма кнігамі, двума падручнікамі, двума алоўкамі, дзвюма жанчынамі, дзвюма гітарамі, трыма матацыкламі, дзвюма машынамі, чатырма аўтобусамі, дзвюма карцінамі, трыма мабільнікамі, двума ноўтбукамі.

**17.** Наш кіёск папоўніўся васьмюстамі сарака пяццю новымі падручнікамі, двумастамі пятнаццаццю вялікімі сшыткамі для малявання, ста васьмюдзесяццю шасцю мяккімі алоўкамі, пяццюстамі пяццюдзесяццю пяццю беларуска-рускімі слоўнікамі, трымастамі дзевяноста сямю кнігамі для дамашняга чытання, дзвюма тысячамі чатырмастамі сямюдзесяццю васьмю дапаможнікамі для абітурыентаў.

**18.** Над: трымастамі дваццаццю дзевяццю, шасцюстамі пяццюдзесяццю сямю, двумастамі сямюдзесяццю васьмю, пяццюстамі сарака трыма, васьмюстамі дзевяноста чатырма; Каля: чатырохсот трыццаці двух, васьмісот сямідзесяці шасці, дзевяцісот сарака васьмі, сямісот шасцідзесяці пяці, пяцісот трыццаці дзевяці.

**19.** Двума, дзвюма, двума, дзевяццю, дванаццаццю, васьмю, двума, трыццаццю, пяццюдзесяццю, сямюдзесяццю, пяццюдзесяццю пяццю, дваццаццю пяццю, трыццаццю шасцю, васьмюдзесяццю шасцю, васьмюдзесяццю.

**20.** 1. двух; 2. двума; 3. дзвюх; 4. дзвюх; 5. двух; 6. дзвюм; 7. двух; 8. двума.

**21.** Дзвюма, двума.

**23.** Тры калядныя дні, два земляробчыя святы, чатыры царкоўныя святы, два арганізаваныя мітынгі, дваццаць чатыры святочныя дні, дваццаць тры тэатральныя пастаноўкі, трыццаць чатыры яркія салюты, сорак два каляндарныя абрады, пяцьдзясят чатыры прыгожыя феерверкі, семдзесят дзве цікавыя вандроўкі, восемдзесят тры шчырыя запрашэнні, сто пяцьдзясят дзве ўрачыстыя прэзентацыі, трыста дваццаць чатыры народныя песні, пяцьсот сорак два святочныя канцэрты.

**24.** Другі, чацвёрты, шосты, сёмы, адзінаццаты, васямнаццаты, дваццаць дзявяты, сорак трэці, сто пяцьдзясят восьмы, дзвесце восемдзесят шосты, семсот пяцьдзясят чацвёрты, дзевяцьсот семдзясят другі, тысяча трыста сорак восьмы, дзве тысячы чатырыста восемдзесят пяты, тры тысячы чатырыста дваццаць дзявяты.

**25.** Трыццаціпяціградусны мароз; атырохсотсямідзесяцівасьмікіламетровы шлях; васьмісотпяцідзесяцітрохтысячны сшытак; двухсотвасьмідзесяціпяцімільённы тэлевізар; дзевяцісотшасцідзесяцічатырохтысячны дом; пяцісотдзевяностаташасцімільённы падручнік.

**28.** 1. Абое; 2. абодва; 3. абедзве; 4. абодва; 5. абедзвюма; 6. абое.

**29.** Дзве чацвёртыя, тры пятыя, шэсць дзясятых, дзве цэлыя і трыдзясятыя, пяць цэлых і тры чацвёртыя, тры цэлыя і пяць шостых, сем дзясятых, восем сотых, дзевяць цэлых і пяць сотых.

**30.** Дзве сотыя, тры дзясятыя, чатыры сотыя, пяць сотых, пяць дзясятых, сем сотых, дзве цэлыя і тры сотыя, тры цэлыя і дзве дзясятыя, пяць цэлых і пяць дзясятых, сем цэлых і дзве дзясятыя.

**31.** 1. Паўтары; 2. паўтара; 3. паўтары; 4. паўтары; 5. паўтара; 6. паўтара; 7. паўтары; 8. паўтары; 9. паўтара; 10. паўтары.

## МОДУЛЬ 9

**4.** 1. З, у. 2. на. 3. у. 4. на. 5. ва. 6. на, з. 7. да.

**8.** 1. Доймеш. 2. Пачаў. 3. Прымуць. 4. Паднімеш / падымеш. 5. Абнімаецца / абдымаецца. 6. Знімаем. 7. Успрымеш. 8. Займу. 9. Нанялі. 10. Вымеш.

**9.** 1. Бярэш. 2. Бераце. 3. Бяром. 4. Бяруць. 5. Вазьму. 6. Узяць. 7. Узяць. 8. Возьмеце, бяром, возьмем. 9. Бяру.

**10.** 1. Не прыносіў. 2. Не наладжвалі. 3. Не размалёўваў. 4. Не гаварыў. 5. Не змінаў. 6. Не выразала. 7. Не прыходзіў. 8. Не папраўляў. 9. Не пазычаў. 10. Не складвалі.

**11.** 1. Заплыве. 2. Праязджалі. 3. Прабег (прабяжыць). 4. Абышоў (аб’ездзіў). 5. Падыду (пад’еду). 6. Вынесці (аднесці). 7. Пераплыць. 8. Адыдзі. 9. Вылецела. 10. Аб’ехаў.

**13.** Патрывож*ан*ы, асветл*ен*ы, вызвал*ен*ы, прыпая*н*ы, адноўл*ен*ы, падкле*ен*ы, расплаўл*ен*ы, развея*н*ы, скош*ан*ы, падпіс*ан*ы, ахут*ан*ы, разлі*т*ы, абсмяя*н*ы, заспако*ен*ы, прынес*ен*ы, запрош*ан*ы, вымы*т*ы, перашы*т*ы, падбі*т*ы, абгародж*ан*ы.

**14.** Убачыць, запаліць, астудзіць, вывучыць, пашыць, сагнуць, абмыць, купіць, накарміць, упрыгожыць, пераплесці, пераставіць, рассыпаць, падрыхтаваць, атуліць.

**15.** Сфатаграфаваныя мясціны, убачаныя краіны, падрыхтаваныя рэчы, набытыя падарункі, пафарбаваныя дамы, падмеценыя вуліцы, дагледжаныя помнікі, вымытыя вокны, пройдзеныя маршруты, асветленыя праспекты, купленыя абноўкі, згублены пашпарт, знойдзены кашалёк, патрачаныя грошы.

**16.** *Загарэлы* пад чэрвеньскім сонцам сын; *пасівелая* ад перажыванняў за дзяцей маці; *здзірванелая* без догляду зямля; *выгаралыя* за спякотнае лета валасы; *узмужнелы* за гады службы ў войску хлопец; *пачырванелы* ад заўвагі настаўніка вучань; *заружавелае* ад марозу дзіця.

**17.** Купленныя падарункі, смяючаяся дзяўчына, расстаўляны посуд, танцуючы хлопец, прыгатаваная вячэра, створатыя групы, затоеная ўсмешка, пагасшая зорка, заблытанныя валасы, разбушаваўшаеся мора, ахутаны туманам, падвяўшыя кветкі, разгубіўшаяся пасажырка, убачэныя краявіды.

**18.** Скользящий – слізготны обслуживающий – абслуговы, угрожающий – пагрозлівы, уничтожающий – знішчальны, работящий – працавіты, военнослужащий – вайсковец, последующий – наступны, выступающий – выступоўца, отдыхающие – курортнікі, пламенеющий – палымяны, подходящий – някепскі.

## МОДУЛЬ 10

**5.** Каменныя будынкі, гранітная пліта, чыгуначная станцыя, мемарыяльныя комплексы, скульптурная кампазіцыя, святочны настрой, вечны агонь, (канцэртная праграма, дарожныя знакі, прыгожая царква, вулічны рух, прыгарадная электрычка, пешаходны пераход, сталічныя магазіны.

**6.** Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сталіца Беларусі, плошча беларускай сталіцы, карціны беларускіх мастакоў, дворык універсітэта, будынак чыгуначнага вакзала, урад Рэспублікі Беларусь, першая лінія мінскага метро, класік беларускай літаратуры, плошча Незалежнасці, плошча Якуба Коласа, плошча Перамогі, вуліца Францыска Скарыны, Дом урада, касцёл святых Сымона і Алены.

**7.** 1.Сфарміраваўся 2. размяшчаюцца 3. прапануе 4. гарыць 5. абдымае 6. упрыгожваюць 7. перасякае

**8.** У цэнтры галоўнай вуліцы; насупраць новага будынка; уздоўж вялікай ракі; побач са старым касцёлам; перад гранітным манументам; пад зямлёй; пасярод маленькага сквера, ад Мінска да Масквы.

**17.** 1. Жывяце. 2. Устаяце. 3. Надаяце. 4. Мыецеся. 5. Даяце.

**18.** 1. Дасце. 2. Раздзяваецца. 3. Выдасць, прадасца. 4. Надзенеш. 5. Адзяваю. 6. Здасі. 7. Аддасі. 8. Абуюся. 9. Дае. 10. Перадасце.

**19.**

**Каралеўскі горад Гродна**

Гродна (Гародня) – унікальны горад ***Беларусі***. Яго статус ***на тэрыторыі нашай краіны*** заўсёды быў асаблівым. ***У старажытнасці*** ён не ўваходзіў ні ў склад ***Полацкай зямлі***, ні ***ў Турава-Пінскае княства***. ***З пачатку*** XII ст. быў ***цэнтрам самастойнага гродненскага княства*** і ***фарпостам на заходніх землях Беларусі***. Геаграфічнае размяшчэнне ***па сярэднім цячэнні Нёмана*** рабіла яго ***ключом да ўсяго Панямоння***. Нёман – культавая рака для ***беларусаў***, ***літоўцаў***, ***палякаў*** – ***у старажытнасці*** быў адной з ***перыферыйных галін знакамітага шляху*** «з варагаў у грэкі». Стругі ***вікінгаў*** рэзалі яго з ***поўначы на поўдзень і з поўдня на поўнач***. Старажытнагрэчаскі географ Пталемей называў Нёман Кронан – рака часу. Мясцовыя балцкія плямёны ласкава звалі Нямунас – «дамашняя рака».

Унікальнасць Гродна заключаееца не толькі ***ў яго геаграфічным палажэнні***, бо ***ў старажытнасці*** кожны горад узнікаў не выпадкова. Культурна-гістарычная своеасаблівасць горада ў тым, што тут ацалелі шматлікія помнікі, аб'яднаныя ***ў ансамблі***, па якіх можна вывучаць ***гісторыю*** горадабудаўніцтва. Тут, у адрозненне ***ад большасці*** беларускіх гарадоў, захаваліся помнікі практычна ***усіх мастацкіх стыляў*** – ад гатычнага да канструктывізму. Яны з'яўляюцца ***сведкамі розных эпох*** не толькі ***ў жыцці*** горада, але і ***ўсёй Беларусі***, а часам і ***усёй Усходняй Еўропы***. Аднак справа не столькі ***ў архітэктурных збудаваннях***, колькі ***ў непаўторным невынішчальным духу***, які лунае ***над горадам з векапомных часоў***. Быццам людзі, якія жылі калісьці ***ў горадзе***, назаўсёды пакінулі тут ***часцінку сваёй душы***. ***У скляпеннях*** замкаў, ***у сутоннях*** касцёлаў і напаўразбураных палацаў, ***у цені*** паркавых алей чуюцца іх галасы. Каралі і каралевы, магнаты-мецэнаты, кардыналы, замежныя паслы, знакамітыя навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, артысты лічылі гэты горад сваім. Сёння яны з лёгкасцю пазналі б любімыя месцы: у цэлым Стары горад такі ж, як 200–400 гадоў таму, хаця шмат якія збудаванні мы згубілі.

18 лютага 1988 года Савет Міністраў БССР абвясціў Стары Гродна ***помнікам*** горадабудаўніцтва і архітэктуры. Такім статусам ***у нашай краіне*** валодае толькі адзін горад – Гродна – выключна таму, што менавіта тут, нягледзячы ***на шматлікія пасляваенныя страты***, захавалася агульная планіроўка і забудова Старога горада.

Гаворачы пра Гродна, часта даводзіцца ўжываць словы «самы», «адзіны», «першы». Гэта самы «еўрапейскі» горад ***у Беларусі***. Адзіны, у якім захавалася такая колькасць ***культавых помнікаў***, не кранутых ***разбуральнай хваляй*** атэізму. Адзіная ***ў Беларусі*** каралеўская рэзідэнцыя з двума практычна ***ацалелымі замкамі***. Першая аптэка, медыцынская акадэмія, газета, батанічны сад, першы і самы старажытны вежавы гадзіннік, перша заапарк ***у Беларусі*** таксама знаходзяцца ў Гродна і па-ранейшаму вабяць сюды мноства ***турыстаў з розных краін***.

**20.** 1. Плачучы, скачучы; 2. даганяючы; 3. запрагаючы, выбіраючыся; 4. устаўшы, ажаніўшыся; 5. ажаніўшыся; 6. ходзячы; 7. не паклаўшы; 8. не палажыўшы; 9. пытаючыся, шукаючы; 10. не пераскочыўшы; 11. нажаўшы, змалаціўшы; 12. сеўшы, паеўшы; 13. круцячыся; 14. не злавіўшы; 15. не пастаяўшы.

**21.** Чытаць – чытаючы, прачытаць – прачытаўшы; ісці – ідучы, зайсці – зайшоўшы; будаваць – будуючы, пабудаваць – пабудаваўшы; маляваць – малюючы, намаляваць – намаляваўшы; стукаць – стукаючы, пастукаць – пастукаўшы; чакаць – чакаючы, перачакаць – перачакаўшы; шыць – шыючы, пашыць – пашыўшы; пісаць – пішучы, напісаць – напісаўшы; касіць – косячы, скасіць – скасіўшы; рэзаць – рэжучы, парэзаць – парэзаўшы.

**22.** 1. *Падпісаўшы* заяву, Ніна выйшла з кабінета рэктара. 2. Вольга паспешліва перарыла сумачку, *шукаючы* ў ёй мабільны тэлефон. 3. *Апрануўшыся* ва ўсё новае, Віктар паехаў на заняткі. 4. *Прыехаўшы* з камандзіроўкі, Ганна наведала маці. 5. Ветліва *павітаўшыся*, хлопец прапанаваў дзяўчыне марожанае. 6. *Углядаючыся* ў твары незнаёмых, жанчына позіркам шукала сваю дачку. 7. *Разглядваючы* фотаздымкі, я ўспаміналa свой сёлетні адпачынак. 8. *Выканаўшы* ўрокі, Каця пайшла пагуляць на вуліцу. 9. *Разлічваючыся* ў супермаркеце, я зразумела, што на ўсё не хопіць грошай. 10. *Пад’ехаўшы* некалькі прыпынкаў, далей я вырашыла пайсці пешкі.

**23.** Мыючы, шыючы, льючы, уючы, беручы, жнучы, п’ючы, пішучы, рэжучы, мажучы, вянучы, сохнучы, лежачы, седзячы, гледзячы, спяваючы, хочучы, віснучы.

# КРАТКИЙ ОЧЕРК ИСТОРИИ БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА
# КАРОТКІ НАРЫС ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Беларуская мова ў старажытныя часы**. Беларуская мова, адна са старажытных еўрапейскіх моў, уваходзіць у індаеўрапейскую сям'ю, славянскую групу, усходнеславянскую падгрупу. Згодна з антрапалагічнымі даследаваннямі кожны з трох усходнеславянскіх этнасаў (рускі, беларускі, украінскі) мае сваю ўнікальнасць, таму што фарміраваўся на розных геаграфічных прасторах, на асобых субстратных праасновах. Папуляцыі карэнных жыхароў Беларусі вядуць свой радавод з сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. Паходжанне, спецыфіка мовы, асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры, наяўнасць на працягу многіх стагоддзяў сваёй дзяржаўнасці ў далёкім мінулым часе – Полацкае княства, Вялікае Княства Літоўскае – садзейнічалі фарміраванню беларускага этнасу са сваёй непаўторнай спадчынай.

Карані беларускага народа і яго мовы зыходзяць у глыбокую даўніну, калі індаеўрапейцы, продкі сучасных славян балтаў, германцаў, кельтаў, лацінян, грэкаў, індыйцаў, іранцаў і іншых народаў, у V–III тысячагоддзях да н. э. размаўлялі на падобных дыялектах, што аб'ядноўваліся ў агульную індаеўрапейскую мову. З рассяленнем індаеўрапейцаў са сваёй прарадзімы (Усходняя Анатолія – Паўднёвы Каўказ – Паўднёвая Месапатамія) на вялікай прасторы Еўропы і Азіі моўныя сувязі паміж іх групамі пачалі слабець, і на месцы больш-менш адзінай мовы паступова ўзнікалі шматлікія мовы, якія з цягам часу ўсё больш адрозніваліся паміж сабою.

На тэрыторыі Беларусі самым старажытным насельніцтвам былі еўрапеоіды-абарыгены, якія жылі галоўным чынам па басейнах рэк Прыпяць, Сож, Нёман і займаліся земляробствам. З II тысячагоддзя да н. э. беларускія землі пачалі насяляць індаеўрапейскія плямёны качэўнікаў-жывёлаводаў, асіміляваўшых абарыгенаў, і ў выніку гэтага працэсу ўтварыліся плямёны ўсходніх балтаў. На пачатку I тысячагоддзя н. э. на большай частцы тэрыторыі нашай краіны жылі наступныя балцкія плямёны: яцвягі (Гродзеншчына і часткова Брэстчына), лотва (Віцебшчына і Усходняя Міншчына), дайнова (Нарачанска-Маладзечанскі край), літва (Верхняе і Сярэдняе Панямонне).

Наконт прарадзімы славян існуюць розныя гіпотэзы. Тэорыю азіяцкай прарадзімы славян (паміж Акою і Волгаю) распрацоўваў Х. Лаўмянскі. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што прарадзіма славян знаходзілася на Палессі і сумежных з ім тэрыторыях (М. Фасмер, Г. Гірт, Я. Растафінскі), паміж Дняпром і Віслай (археолагі М. Артамонаў, А. Арцыхоўскі, Г. Лябуда).

Польскі і беларускі мовазнаўцы Т. Лер-Сплавінскі і В.У. Мартынаў сцвярджаюць, што пасля распаду індаеўрапейскай прамовы на вялікай тэрыторыі паміж Одэрам і Дняпром сфарміравалася протабалтыйскае адзінства, у складзе якога праславянская мова была дыялектам. Паступова гэты дыялект набіраў сілу, і неўзабаве на заходнім краі протабалтыйскай тэрыторыі – паміж Одэрам і Віслай – узніклі славяне. Аб месцы іх «нараджэння» сведчыць блізкасць паміж праславянскай мовай і старажытнапрускай, якая таксама ўваходзіла ў заходнебалцкую групу моў індаеўрапейскай сям'і. Такім чынам, можна гаварыць пра балта-славянскае адзінства як гістарычны факт, але наконт характару гэтых адносін (ці гэта было адзінства з балта-славянскай прамовай, ці гэта было вельмі цеснае кантактаванне балтаў і славян) у навуцы няма аднолькавых поглядаў. Ва ўсякім разе, пасля некаторага часу такой узаемнасці (верагодна, два-тры стагоддзі) адбылося размежаванне балтаў і славян, агульныя ж рысы ў граматычнай, словаўтваральнай, лексічнай сістэмах славянскіх і балтыйскіх моў відавочныя. Напрыклад, адзіныя для гэтых моў словаўтваральныя тыпы аддзеяслоўных назоўнікаў з суфіксам ***-ба***: *літоўск*. ganýba – *праслав*. *gonьba, *gъnati 'гнаць'; *латыш*. draudzība – *слав*. дружба, дружыць).

Храналагічныя рамкі існавання праславянскай мовы вызначаюцца не зусім дакладна. Верагодна, на мяжы III і II тысячагоддзяў да н. э. у індаеўрапейскім кантынууме адбываліся працэсы, якія прывялі да фарміравання праславянскага грамадства і праславянскай (у іншай тэрміналогіі – агульнаславянскай) мовы. З пэўнай доляй асцярожнасці можна сцвярджаць, што ўжо з I тысячагоддзя да н. э. і да першай паловы I тысячагоддзя н. э. на тэрыторыі Усходняй Еўропы існавала моўная агульнасць славянскіх плямёнаў.

Яе пісьмовая фіксацыя адбылася праз некалькі стагоддзяў пасля распаду праславянскай мовы, калі былі зроблены першыя пераклады літургічных тэкстаў на салунска-македонскі дыялект старабалгарскай мовы. Гэты дыялект стаў асновай стараславянскай мовы, якая набыла агульнаславянскае значэнне ў якасці літаратурнай мовы паўднёвых і ўсходніх славян. Таму даныя стараславянскай мовы – першай пісьмовай

мовы славян – вельмі значныя для рэканструкцыі праславянскай моўнай сістэмы.

У першых стагоддзях нашай эры пад націскам готаў, якія прыйшлі з Паўднёвай Скандынавіі і высадзіліся ля вусця Віслы, славяне пачалі сваю першую міграцыю на ўсход. З басейна Віслы яны прыйшлі да Прыпяці, дасягнулі Дняпра і занялі вялікую тэрыторыю ў басейне гэтай ракі. Далей адна група пайшла на поўдзень, другая – на поўнач, уздоўж Дняпра. Гэты славянскі міграцыйны паток паступова пранікаў у глыбіню балцкіх земляў (у тым ліку і на тэрыторыю сучаснай Беларусі), вынікам чаго было далучэнне да балта-славянскіх моўных з’яў II – I тысячагоддзяў да н. э. моўных інавацый у першыя стагоддзі нашай эры, калі славяне пайшлі па тэрыторыі, заселенай усходнімі балтамі. Існуе шэраг балта-славянскіх лексічных паралеляў, невядомых іншым індаеўрапейскім мовам: *бел*. вавёрка, верх, возера, мілы, салодкі, пярун – *літоўск*. voverė, viršu, ežeras, mielas, saldus, perkūnas.

На Беларусі ёсць шмат тапонімаў балцкага паходжання: *Нёман*, *Свір*, *Нарач*, *Смілавічы* і інш. Балцкімі з’яўляюцца прозвішчы і мянушкі: *Лаўжэль*, *Місуна*, *Рымша*, *Едка*, *Шаўнук*, *Юндзіл* і г. д. Такім чынам, на балцкім субстраце, на тэрыторыі, якую займалі прыдняпроўскія, усходнія балты, у першыя стагоддзі нашай эры адбывалася станаўленне ўсходнеславянскіх плямёнаў – продкаў сучасных беларусаў. У выніку гэтага этнічная адметнасць беларускага народа вызначаецца спалучэннем славянскага і балцкага элементаў. Тэорыю субстратнага паходжання беларускага этнасу прапанаваў рускі археолаг, член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі навук В.В. Сядоў. У той жа час існуе думка, што ў Заходнім Палессі і на Валыні праславяне жылі спрадвечна – гэта была частка праславянскай тэрыторыі. Ад балтаў жа праславян аддзялялі рэкі Ясельда, Гарынь, Прыпяць.

На тэрыторыі Беларусі пасля славізацыі балцкіх плямёнаў да VI–VII стст. н. э. утварыліся беларускія плямёны: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына Віленшчына, часткова Гродзеншчына і Невельшчына), дрыгавічы (Цэнтральная Беларусь і Паўночнае Палессе), радзімічы (Магілёўшчына, Гомельшчына, Заходняя Браншчына). Жылі тут і іншыя ўсходнеславянскія плямёны – драўляне, славены, валыняне, бужане.

Старажытныя племянныя саюзы продкаў беларусаў паступова перарасталі ў дзяржаўныя супольніцтвы. Так, у канцы X ст. крывічы стварылі першую беларускую дзяржаву – Полацкае княства (Полацк згадваецца у «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 г.). Прыкладна ў той жа

час фарміруецца другі цэнтр усходніх славян – Кіеўская Русь. Гэта былі асноўныя сапернікі ў XI стагоддзі на ўсходнеславянскіх тэрыторыях.

У сакавіку 1067 г. паміж войскамі Яраславічаў (тры сыны Яраслава Мудрага) і полацкага князя Усяслава Чарадзея адбылася бітва на Нямізе ў Менску. Невядомы аўтар «Слова аб палку Ігаравым» пра гэты бой піша наступнае: *На Немизе снопы стелютъ головами, молотятъ цепы харалужъными, на тоце животъ кладуть, веють душу отъ тела. ...Всеславъ князь людемъ судяше, князьемъ грады рядяше, а самъ въ ночь влъкомъ рыскаше: изъ Кыева дорискаше до куръ Тмутороканя, великому Хръсови влъкомъ путь прерыскаше. Тому въ Полотьсте позвониша заутренюю рано у святыя Софеи въ колоколы, а онъ въ Кыеве звон слышаше.* Войскі Яраславічаў не здолелі перамагчы палачан, але падманам захапілі князя Усяслава, адвезлі яго ў Кіеў, адкуль ён быў вызвалены і запрошаны на прастол кіяўлянамі. Аднак Усяслаў вярнуўся ў родны Полацк. Пры Усяславе як сімвал незалежнасці дзяржавы быў пабудаваны Полацкі сабор святой Сафіі, падобны да сабораў, узведзеных у Кіеве і Ноўгарадзе. Пасля смерці адважнага воіна и мудрага правіцеля Усяслава Чарадзея Полацкае княства было падзелена паміж шасцю яго сынамі на шэраг удзельных: Полацкае, Менскае, Віцебскае, Друцкае, Лагойскае і інш.

Адзінаццатым стагоддзем адзначаецца стварэнне Турава-Пінскага княства, дванаццатым – Гарадзенскага, якое падзялілася ў XIII ст. на Нава́градскае і Ваўкавыскае.

На развіццё культуры і пісьменства паўплывала прыняцце ўсходнімі славянамі ў 988 г. хрысціянства, з якім на беларускія землі прыйшла старaславянская (царкоўнаславянская) пісьменнасць. Паралельна з ёй выпрацоўваецца свой варыянт пісьмова-кніжнай усходнеславянскай (у іншай тэрміналогіі – старажытнарускай) мовы. З таго часу на Беларусі засталіся нешматлікія помнікі: Барысавы камяні, надпіс на камені ў гонар князя Рагвалода, берасцяныя граматы, знойдзеныя ў Віцебску, Мсціслаўі, надпісы на прасліцы, нажах, дагаворныя граматы (Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г., Грамата Гердзеня 1264 г., Грамата полацкага князя Ізяслава 1265 г. і інш). З першай паловы XI ст. пачалося летапісанне. Найстарэйшая рукапісная кніга, створаная на беларускай тэрыторыі, – Тураўскае евангелле (XI ст.). З XII ст. дайшлі да нас палымяныя прамовы епіскапа Кірылы Тураўскага, прапаведніка і кніжніка, якога называлі Златавустам. На беларускіх землях працавалі кніжнікі Клімент Смаляціч, Аўрамій Смаленскі, Яфрэм Сірын.

**Ефрасіння Полацкая** – першая ўсходняя славянка XII ст., кананізаваная ў святыя, апякунка Беларусі – займае галоўнае месца сярод асветнікаў таго часу (каля 1101–1167). Дачка полацкага князя Георгія, унучка Усяслава Чарадзея, маладой дзяўчынкай яна збегла ў манастыр, дзе яе цётка была ігуменняй, і папрасілася ў манахіні. Пры пастрыжэнні князёўна памяняла імя *Прадслава* на манаскае *Ефрасіння*. Ефрасіння пасялілася ў келлі Сафійскага сабора. Там, у храмавым скрыпторыі, яна перапісвала, а магчыма, і перакладала кнігі. Каля 1124 г. Ефрасіння з дазволу епіскапа пабудавала пад Полацкам жаночы манастыр святога Спаса (зараз Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр), а таксама яшчэ некалькі манастыроў. У Полацкім княстве манастыры, заснаваныя Ефрасінняй, сталі цэнтрамі адукацыі. Пры іх працавалі школы, бібліятэкі, скрыпторыі, рукапісныя і ювелірныя майстэрні. Да 1187 г. там было напісана «Жыццё Ефрасінні Полацкай», вядомае з рукапісу XIV ст. Сама Ефрасіння, магчыма, стварала і запісвала малітвы, дыдактычныя пропаведзі.

У сталым узросце Ефрасіння падарожнічала ў Іерусалім да гроба Гасподня, дзе захварэла і памерла. Калі Іерусалім быў захоплены арабамі (1187), кіеўскія манахі, пакідаючы святыя землі, забралі мошчы Ефрасінні ў Кіеўскія пячоры. Толькі ў 1910 г. мошчы прападобнай ганарова былі перавезены ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр горада Полацка.

Па заказе Ефрасінні ў 1161 г. полацкі майстар Лазар Богша выканаў шасціканцовы крыж, які стаў нацыянальнай святыняй Беларусі. Паўметровы крыж зроблены з кіпарысавага дрэва, паверхня яго пакрыта залатымі пласцінамі і каштоўнымі камянямі, бакі – сярэбранымі. Зверху змешчаны выявы Хрыста, Іаана Прадцечы, Маці Божай, апосталаў Пятра і Паўла, унізе выявы святых Ефрасінні, Сафіі і Георгія. На адваротным баку напісаны абразы яшчэ васьмі святых з надпісамі, у сярэдзіне крыжа ў пяці квадратных гнёздах знаходзіліся фрагменты Крыжа Гасподня з кроплямі яго крыві, камень з грабніцы Маці Божай, часціцы мошчаў трох святых. Крыж быў страчаны падчас Другой сусветнай вайны і да гэтага часу не знойдзены. У 1997 г. брэсцкім ювелірам М. Кузьмічом была зроблена поўнаразмерная копія крыжа.

**Беларуская мова ў часы Вялікага Княства Літоўскага**. У XIII ст. насельніцтва ўсходнеславянскіх зямель апынулася ў розных эканамічных і палітычных умовах. Значная частка былой Кіеўскай Русі аказалася пад мангола-татарскай няволяй. На тэрыторыі сучаснай Беларусі, свабоднай ад мангола-татараў, асноўная роля ў дзяржаўным будаўніцтве пераходзіць з Падзвіння да Панямоння, дзе набывае эканамічную і палітычную магутнасць Нава́градскае княства, якое становіцца цэнтрам кансалідацыі

беларускіх, балцкіх, часткова ўкраінскіх зямель у адзіную дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ), да якой пазней далучыўся і Полацк. На працягу амаль паўтысячы гадоў на тэрыторыі Беларусі фарміравалася народнасць – *літвіны* (*ліцвіны*), якія ўжывалі старабеларускую мову – дзяржаўную мову ВКЛ. Старабеларуская мова (XIV–XVIII стст.) выкарыстоўвалася для стварэння рукапісных і друкаваных твораў самага разнастайнага зместу – літаратурна-мастацкіх, публіцыстычных, навуковых, вучэбных, афіцыйна-дзелавых, канфесійных. Колькасць пісьмовых помнікаў з беларускімі моўнымі асаблівасцямі, якія дайшлі да нас з тых часоў, лічыцца на сотні тысяч асобнікаў.

Літвіны складалі большую частку насельніцтва ВКЛ, што жыло на тэрыторыі ад Гродна да Вільні, ад Полацка, Мсціслаўя, Гомеля да Турава, Пінска, Брэста. Гэтая назва стала гістарычным этнонімам (грэч.: назва народа) беларусаў. На ўскраінах ВКЛ жылі іншыя народы, якія захоўвалі сваю этнічную адметнасць, сярод іх – балцкае насельніцтва (аўкштайты, жамойты), насельнікі ўкраінскіх зямель. У сувязі з гэтым існаваў і палітонім *літвіны*, які азначаў дзяржаўную прыналежнасць да ВКЛ.

Вялікае Княства Літоўскае было шматканфесійнай дзяржавай, дзе годна сябе адчувалі праваслаўныя, і каталікі са шматлікімі ордэнамі базыльянаў, бенедыктынцаў, бернардынцаў, францысканцаў, і ўніяты, і пратэстанты, і іўдзеі, і мусульмане. Цярпімасць да розных веравызнанняў праявілася і ў пісьменстве: старабеларускія тэксты ў ВКЛ пісаліся кірыліцай, лацініцай, нават арабскім пісьмом.

З XIV ст. у адносінах да ўсходніх раёнаў нашай краіны стала ўжывацца найменне *Белая Русь*. Пасля гэтага перыяду яно траціла аднесенасць да тэрыторыі рускіх земляў, дзе насельніцтва звалася маскавітамі, масквіцянамі, маскоўцамі. Пазней назва *Белая Русь* стала выкарыстоўвацца праваслаўнай царквой ВКЛ для адрознення сваіх прыхаджан (беларусцы, беларусы) ад вернікаў Маскоўскай дзяржавы, дзе ў гэты час шырока бытаваў этнонім *рускі*.

Заўвага 1. Назву *Белая Русь* у XIV ст. ужыў польскі канцлер Ян Чарнкоўскі ў напісанай ім на лацінскай мове «Хроніцы Польшчы», дзе Полацк быў названы *castrum albae Russiae* ‘крэпасць Белай Русі’. У XVI–XVII стст. некаторыя замежныя аўтары спалучэннем *Белая Русь* называлі ўсходнеславянскія і ўкраінскія землі. Так, у другім выданні кнігі «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» (1611 г.) італьянскі гісторык А. Гваньіні сцвярджаў: «А ёсць траякая Русь: першая – Белая, другая – чорная, трэцяя – чырвоная. Белая – каля Кіева, Мазыра, Мсціслаўя, Віцебска,

Оршы, Полацка, Смаленска, зямлі Северскай, якія здаўна належаць Вялікаму княству Літоўскаму…». У пісьмовых актах Маскоўскай дзяржавы XVII ст. Белай Руссю называліся землі Полаччыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Смаленшчыны.

Наконт паходжання назвы *Белая Русь* існуюць розныя меркаванні. Найбольш пашыранае і найменш навуковае вядзе найменне ад белага колеру вопраткі і светлых валасоў і вачэй беларусаў. Паводле другой гіпотэзы, Белая Русь была хрысціянскай у адрозненне ад Чорнай, паганскай (язычніцкай). Паводле трэцяй, Беларусь, у параўнанні з Расіяй і Украінай, заставалася вольнаю ад мангола-татарскіх захопнікаў. Пэўная частка навукоўцаў мяркуе, што словам *Белая* падкрэслівалася вольнасць, незалежнасць народа. Найбольш імавернай з'яўляецца думка рускага мовазнаўца А. М. Трубачова: Русь названая Белай у адпаведнасці з заходняй арыентацыяй беларускага этнасу паводле старажытнай колернай сімвалізацыі напрамкаў свету, дзе чорны абазначаў поўнач, чырвоны – поўдзень, блакітны – усход, белы – захад. Пунктам адліку варта лічыць Русь Маскоўскую, якая знаходзілася на ўсходзе ад Вялікага Княства Літоўскага.

Заўвага 2. Тэрмін *старабеларуская мова* ўзнік у XX ст. для намінацыі мовы беларускай народнасці ў перыяд яе існавання з XIV да XVIII ст. У літаратурных крыніцах, філасофскіх трактатах, помніках дзелавой пісьменнасці мова таго часу называлася *простая, руская, просты рускі дыялект* для адрознення ад моў польскай і лацінскай.

Сталіцай ВКЛ у 1253 г. быў абвешчаны Наваґрадак, дзе адбылася каранацыя Міндоўга, першага караля новай дзяржавы. У 1323 г. сталіца ВКЛ была перанесена ў Вільню (Вільнюс). У часы княжання Альгерда, Вітаўта і пад іх кіраўніцтвам (XIV–XV стст.) адбыліся найбуйнейшыя бітвы у сярэднявеччы: бітва на Сіняй Вадзе, падчас якой татары былі выбіты з Кіева, Падолля, Валыні, усёй стэпавай Украіны да Крыма і вусця Дона; Грунвальдская бітва, у выніку якой было поўнасцю разгромлена рыцарскае войска Тэўтонскага ордэна, што прыпыніла крыжацкую агрэсію на ВКЛ, Польскае каралеўства. Пры Альгердзе і Вітаўце беларуска-балцкая дзяржава ВКЛ займала велізарную прастору ад Балтыйскага да Чорнага мора: плошча тэрыторыі ВКЛ перавышала 900 тысяч квадратных кіламетраў, што ў 4,5 раза больш сучаснай тэрыторыі Беларусі.

Літаратурная мова ВКЛ (старабеларуская мова) склалася на аснове паўночна-заходніх беларускіх гаворак Вільні, Полацка, Віцебска, Смаленска. На працягу ўсходнеславянскага перыяду беларускай мовы

і ў сярэднявеччы (XIV–XVI стст.) развіліся яе асноўныя фанетычныя асаблівасці: аканне; фрыкатыўны [γ]; зычны [ў]; цвёрдыя [р], [ж], [ш], [ч]; афрыката [дж]; цвёрды [ч]; дзеканне, цеканне; падоўжаныя зычныя; прыстаўныя зычныя [в], [γ], [j] і галосныя [і], [а]; асіміляцыйная мяккасць [з'] і [с']; чаргаванне складоў *ро, ло, ле* з *ры, лы, лі*; гукі [ы], [і] на месцы рэдукаваных [ъ], [ь] і інш. Да XVI ст. склаліся ўсе найважнейшыя фанетычныя, лексічныя, граматычныя рысы, уласцівыя сучаснай беларускай мове.

Старабеларуская мова была афіцыйнай дзяржаўнай мовай ВКЛ, ужывалася ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, з'явілася першай сярод усходніх славян мовай друкаваных кніг. Развіццё і стабілізацыя старабеларускай мовы прыпадаюць на эпоху Адраджэння (XIV–XVI стст.) – станаўленне раннебуржуазнай культуры ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе. На Беларусі ў гэты час назіраецца рост гарадоў, ажыўленне грамадска-палітычнай дзейнасці, актывізацыя шляхецкага руху за «выпраўленне грамадства і дзяржавы», фарміраванне беларускай народнасці і нацыянальнай свядомасці, развіццё адукацыі і кнігадрукавання, пашырэнне міжнародных сувязей. Шырокай сферай выкарыстання старабеларускай мовы была дзелавая і юрыдычная дакументацыя. Створаныя ў вялікакняжацкіх канцылярыях актавыя кнігі (каля 600 тамоў) з'явіліся асновай вялікага гістарычнага архіва, вядомага пад назвай «Літоўская метрыка» – разнастайныя па форме і змесце дакументы, выдадзеныя каралямі, соймамі, урадавымі асобамі ад XIV да канца XVIII ст. Лексіка гэтага жанру найбольш набліжана да гутарковай беларускай мовы. Разам з тым на літоўскай мове дзелавыя дакументы ў ВКЛ не пісаліся, паколькі ў той час літоўская мова не мела пісьмовай формы. Аб колькасці дзелавых дакументаў, у тым ліку актавых кніг гарадскіх упраў, магдэбургій, магістратаў, можна меркаваць паводле іх пазнейшых збораў. Напрыклад, толькі ў Віленскі цэнтральны архіў у XIX ст. было дастаўлена прыкладна 18 000 старажытных актавых кніг з гарадоў і мястэчак Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Менскай губерніяў.

Першай канстытуцыяй у Еўропе лічыцца Статут Вялікага Княства Літоўскага – збор законаў дзяржавы (меў тры рэдакцыі: 1529 г., 1566 г., 1588 г.). Як узор і аснова для ўпарадкавання права, Статут неаднаразова перакладаўся са старабеларускай на лацінскую, польскую, нямецкую, рускую, украінскую мовы.

У жанры царкоўна-кніжнай старабеларускай літаратуры першае месца па значнасці і колькасці створанага належыць усходнеславянскаму першадрукару, асветніку і энцыклапедысту, доктару філасофіі і

медыцыны **Францыску Скарыне** (пасля 1490 – каля 1551). Пачатак кнігадрукавання ва ўсходнеславянскім свеце паклалі выдадзеныя ім з 1517 па 1525 г. у Празе і Вільні 25 біблейскіх кніг. Выданні Ф. Скарыны характарызуюцца высокай паліграфічнай якасцю, шматлікімі гравюрамі, застаўкамі, ініцыяламі, дзе зашыфраваны асновы светапогляду беларускага асветніка, філосафа і гуманіста. Увядзенне Францыскам Скарынам у сферу Свяшчэннага Пісання элементаў і форм старабеларускай мовы (тым самым парушэнне векавых традыцый выкарыстання ў гэтых мэтах выключна старaславянскай мовы), распрацоўка новых літаратурных жанраў – прадмоў і пасляслоўяў, пашырэнне асветы сярод простых людзей мелі вырашальнае значэнне для далейшага развіцця беларускага грамадства, яго мовы і літаратуры.

Пасля Ф. Скарыны друкарская справа працягвалася ў Нясвіжы, Вільні, Заблудаве, дзе беларусы па паходжанні І. Фёдараў і П. Мсціславец дзякуючы дапамозе беларускага гетмана Р.А. Хадкевіча заснавалі друкарню і выдалі ў 1568–1570 гг. некалькі рэлігійных кніг (раней, у 1563–1564 гг., І. Фёдараў і П. Мсціславец выдалі ў Маскве першую рускую друкаваную кнігу «Апостал»). У XVI–XVII стст. друкарні існавалі ў беларускіх гарадах і мястэчках: Лоску, Ракаве, Брэсце, Іўі, Любчы, Слуцку, Магілёве, Менску, Буйнічах, Бялынічах, Куцейне, Полацку, Гродна, Супраслі, Ашмянах, Заслаўі і інш. Акрамя пастаянных, дзейнічалі вандроўныя друкарні.

Паслядоўнікамі Францыска Скарыны сталі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Сімяон Полацкі, Андрэй Рымша. Царкоўны, грамадска-палітычны дзеяч С. Будны ў 1562 г. у нясвіжскай друкарні выдаў «Катэхізіс» (сімвал веры) – даведнік на старабеларускай мове па асноўных ведах хрысціянскага веравучэння, што падрыхтавала глебу для яе далейшага пранікнення ў сферу рэлігійнага жыцця. У 1580 г. блізкі сябра і аднадумец С. Буднага, пісьменнік, полацкі шляхціч Васіль Цяпінскі надрукаваў свой пераклад на старабеларускую мову «Евангелля» і напісаў да яго прадмову, якая з'яўляецца буйным помнікам публіцыстычнай літаратуры таго часу. «Евангелле» В. Цяпінскага займае асобае месца сярод іншых помнікаў старажытнай пісьменнасці дзякуючы вялікай колькасці глос (тлумачэнне незразумелых кніжных слоў): тэксталагічных, этымалагічных, спасылачных. Перакладаючы біблейскі тэкст, В. Цяпінскі меў на мэце не толькі рэлігійны інтарэс, але і абуджэнне шляхам адукацыі нацыянальнай свядомасці беларускага народа.

Свецка-мастацкая літаратура была прадстаўлена летапісамі рознага паходжання і складу, дзе адлюстраваны быт нашых продкаў: Радзівілаўскі, Віленскі, Увараўскі, летапіс Красінскіх, Рачынскіх, летапіс Аўрамкі,

Баркулабаўскі і інш. (больш за 20), дзе побач з падзеямі ўсходнеславянскага перыяду, зафіксаванымі на старажытнарускай мове, змешчаны факты перыяду існавання ВКЛ, пададзеныя на старабеларускай мове.

Літаратурна-мастацкія творы на старабеларускай мове прадстаўлены перакладнымі кнігамі «Александрыя», «Траянская вайна», «Аповесць пра Грунвальдскую бітву», «Аповесць пра Трышчана», «Аповесць пра Баву», «Кніга пра Тундала», «Гісторыя пра Атылу», «Хроніка Стрыйкоўскага», паэтычнымі вершамі Сімяона Полацкага, А. Рымшы, арыгінальнымі, вельмі дасціпнымі творамі невядомых аўтараў «Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча» і інш. У тэкстах гэтага жанру назіраецца змяшэнне розных моўных стыхій: уласна беларускай, стараславянскай, старажытнарускай, польскай, сербскай, што залежала ад філалагічнай падрыхтаванасці, культурна-гістарычнай арыентацыі, густу аўтараў.

У старабеларускі перыяд быў распаўсюджаны жанр мемуарнай літаратуры: «Гістарычныя запіскі» мемуарыста, грамадскага дзеяча Ф. Еўлашоўскага, «Дыярыуш» палітыка, пісьменніка-публіцыста А. Філіповіча і інш., дзе змешчаны асабістыя ўражанні аўтараў ад грамадска-палітычных падзей таго часу, паказана галерэя вобразаў дробнай і сярэдняй шляхты; напісаны пасланні і лісты, філасофскія трактаты, створаныя разнастайнымі выяўленчымі сродкамі старабеларускай мовы. Мова гэтых помнікаў амаль не мае царкоўнаславянскага ўплыву, але выразна адчуваюцца асаблівасці жывых беларускіх гаворак, ужыванне польскай лексікі і граматычных канструкцый.

Прадстаўніком навалацінскай усходнееўрапейскай школы, дзеячам славянскай культуры з'яўляецца беларускі паэт-гуманіст, дыпламат і асветнік эпохі Адраджэння Мікола Гусоўскі (1470-я – пасля 1533). Самым знакамітым яго творам з'яўляецца напісаная ў Рыме на лацінскай мове паэма «Песня пра выгляд, лютасць зубра і паляванне на яго», дзе аўтар выклаў сваю ідэйна-эстэтычную, педагагічна-асветніцкую праграму. У паэме М. Гусоўскі выступіў як папулярызатар гісторыі і культуры Беларусі і Літвы, стварыў мастацка-гістарычны гімн прыгажосці сваёй зямлі, ярка паказаў жыццё мужных, працавітых людзей, паляўнічых, ратнікаў, бортнікаў, аратых, намаляваў ідэалізаваны вобраз вялікага князя Вітаўта.

На мяжы XVI–XVII стст. афармляюцца адносіны паміж старабеларускай і царкоўнаславянскай мовамі ў выглядзе шматлікіх граматык стараславянскай (царкоўнаславянскай мовы), дзе ў якасці метамовы выкарыстана старабеларуская мова: «Марфалогія словеньска языка» (Вільня, 1586 г.); «Грамматіка словенска совершенного искусства осми частиі слова…»

і «Лексіс…» Лаўрэнція Зізанія (Вільня, 1596 г.); «Граматика Словенския правилное Синтагма…» Мялеція Сматрыцкага (Вільня, 1619 г.). Апошняя кніга служыла галоўным лінгвістычным падручнікам сярод усходніх славян, па якім вучыліся некалькі пакаленняў беларусаў і які М. В. Ламаносаў назваў «вратами учености».

У XVI – першай палове XVII ст. старабеларуская літаратурная мова дасягнула найвышэйшага ўзроўню свайго развіцця ў найважнейшых галінах грамадскага і культурнага жыцця беларускага народа. Аднак пасля аб'яднання ВКЛ з Польшчай (1569) і ўтварэння Рэчы Паспалітай паступова Вялікае Княства Літоўскае з раўнапраўнага суб'екта шматэтнічнай дзяржавы ператварылася ў нацыянальна залежны ад польскай ўлады край. Сфера выкарыстання старабеларускай мовы пачала звужацца, што пазней, у XVIII ст., прывяло яе да заняпаду. У гэты час і на пачатку XIX ст. беларуская мова існавала пераважна ў вуснай форме як сродак самавыяўлення беларускага народа: шырока разгарнулася народная творчасць у выглядзе казак, паданняў, легенд, песеннага фальклору. Пісьмовая фіксацыя беларускай мовы працягвалася галоўным чынам у драматычных творах (камедыі К. Марашэўскага і М. Цяцерскага), эпісталярным жанры.

**Беларуская мова ў XIX стагоддзі**. У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай беларускі народ апынуўся ў складзе Расійскай імперыі. З гэтага часу афіцыйнай мовай на беларускіх землях стала руская, а сама тэрыторыя стала называцца Заходнерускім краем. Узнікненне новага беларускага пісьменства і складванне новай беларускай літаратурнай мовы адбывалася на працягу XIX –пачатку XX ст. у сувязі з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху. Менавіта ў гэты час у свядомасці адукаваных беларусаў, выхаваных на беларускім фальклоры, традыцыях польскай і рускай культур, умацоўваецца разуменне нацыянальнай самабытнасці беларускай мовы і культуры. Першымі творамі новай беларускай мовы і літаратуры былі спачатку парадыйна-сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Актыўна працавалі паэты, празаікі і фальклсрысты першай паловы XIX ст. Я. Чачот, П. Багрым, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі і інш. За імі ва ўмовах забароны ўладамі беларускай мовы ўмацоўвалі яе падмурак К. Каліноўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч; ў канцы XIX – пачатку XX ст. пісалі па-беларуску А. Гурыновіч, Я. Лучына, Ядвігін Ш., Я. Купала, М. Багдановіч, Цётка, А. Гарун, М. Гарэцкі, Я. Колас. Пры друкаванні беларускіх тэкстаў выкарыстоўваліся два тыпы алфавітаў: на працягу XIX ст. – лацініца (лацінка), у канцы XIX ст. – кірыліца.

**Беларуская мова ў XX стагоддзі.** З 1906 г. пачынаецца гісторыя беларускай легальнай прэсы, калі ў Вільні выходзяць газеты «Наша доля»

і «Наша ніва»; апошняя амаль цэлае дзесяцігоддзе гуртавала вакол сябе беларускіх пісьменнікаў, праводзіла культурна-асветніцкую работу сярод насельніцтва. З гэтага часу ішло выданне шматлікіх беларускамоўных газет і часопісаў.

Найбольш спрыяльнымі для беларускай мовы былі 20-я гг. XX ст., калі ажыццяўлялася палітыка беларусізацыі, навучанне ў школах, інстытутах, універсітэтах вялося на роднай мове, выдаваліся беларускія кнігі, газеты і часопісы, справаводства дзяржаўных устаноў пераводзілася на беларускую мову, адкрываліся беларускамоўныя тэатры. У 1922 г. быў створаны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), у функцыі якога ўваходзіла навуковае даследаванне ўсіх галін ведаў, звязаных з беларускай мовай і культурай. Найважнейшымі задачамі, выкананымі супрацоўнікамі Інбелкульта, былі распрацоўка беларускай навуковай тэрміналогіі, укладанне слоўнікаў беларускай мовы, стварэнне навуковай літаратуры на нацыянальнай мове. У 1926 г. была праведзена Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, вынікам чаго ўпершыню ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы былі заканадаўча абвешчаны агульнадзяржаўныя нормы беларускага правапісу і граматыкі, занатаваныя Рэформай беларускага правапісу 1933 г., ўдакладненыя і часткова змененыя пастановай Савета Міністраў БССР у 1957 г. Такім чынам, на пачатку 30-х гг. XX ст. адбылося ўнармаванне ўсіх аспектаў беларускай мовы, якая дасягнула высокага ўзроўню развіцця. На нацыянальнай мове выходзілі 194 газеты з 234, 27 часопісаў з 30, апублікаваны 24 тэрміналагічныя зборнікі па розных галінах навукі – біялогіі, матэматыцы, медыцыне, хіміі, лінгвістыцы, логіцы, педагогіцы; ствараліся шматлікія слоўнікі.

У 1930-я гг. функцыі нацыянальных моў у Савецкім Саюзе паступова звужаюцца, згортваюцца нацыянальна-культурнае будаўніцтва і навуковыя даследаванні, страчваюцца многія духоўныя здабыткі. Беларускае слова ў гарадах рэспублікі робіцца ўвасабленнем «ніжэйшасці», «правінцыяльнасці», неадукаванасці. Беларуская мова, якая яшчэ нядаўна квітнела ў гарадах, знікала з дзяржаўных і навучальных устаноў, арганізацый і органаў улады. Права карыстацца ёю засталося за некалькімі газетамі, двума тэатрамі, Саюзам пісьменнікаў, ад якога засталося да двух дзясяткаў членаў.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі, у выніку чаго значна скарацілася колькасць носьбітаў беларускай мовы.

У пасляваенныя гады ў БССР утварыўся моцны бюракратычны пласт, які мала цікавіўся мовай і культурай беларускага народа. Да сярэдзіны 70-х гг. ХХ ст. у беларускіх гарадах і раённых цэнтрах амаль не засталося беларускамоўных школ. Вучань па сваім жаданні або па медыцынскай даведцы мог вызваляцца ад вывучэння беларускай мовы. Выкладанне ў вышэйшых навучальных установах, афіцыйнае справаводства вялося на рускай мове. Сярод большай часткі беларусаў пашырыўся нацыянальны нігілізм.

У 1990-х гг. з распадам Савецкага Саюза пачынаецца плённы для развіцця беларускай мовы перыяд нацыянальнага адраджэння. У 1990 г. Вярхоўным Саветам БССР быў адноўлены дзяржаўны статус беларускай мовы і ўведзены ў дзеянне Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», які стваралі не толькі дзяржаўныя дзеячы, але пісьменнікі і мовазнаўцы (В. Быкаў, І. Навуменка, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, Б. Сачанка, А. Падлужны, М. Бірыла, М. Яўневіч, В. Рагойша і інш.). Закон рэгуляваў моўныя працэсы ў грамадска-дзяржаўным жыцці краіны, вызначаў правы грамадзян і акрэсліваў абавязкі службовых асоб у галіне моўных зносін. Прэамбула закона пачынаецца высокамастацкімі радкамі: «Мова не толькі сродак, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова – жыве народ». У прэамбуле таксама вызначаюцца прычыны надання беларускай мове статусу дзяржаўнай: «…. у апошнія гады сфера ўжывання мовы карэннага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне. Паўстала неабходнасць аховы беларускай мовы на дзяржаўна-этнічнай тэрыторыі. Такую сістэму дазваляе стварыць толькі наданне беларускай мове статусу дзяржаўнай мовы Беларускай ССР. Гонар і абавязак кожнага з беларусаў, – гаворыцца ў Законе Рэспублікі Беларусь аб мовах, – шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў».

Закон прадугледжваў максімальнае пашырэнне беларускай мовы на ўсе сферы жыцця краіны. Планавалася паступова, да 2000 г., перавесці ўсё справаводства, усе навучальныя ўстановы і дзіцячыя сады на беларускую мову; выхавацелі, настаўнікі, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў праходзілі курсы беларускай мовы. На 1994 г. 70 % школьнікаў Беларусі навучалася на беларускай мове. У 1990-я гг. актывізуецца навуковае даследаванне беларускай літаратурнай і дыялектнай мовы, фальклору, літаратуры, розных відаў мастацтва. З друку выходзяць шматлікія слоўнікі, вучэбныя дапаможнікі, публікуюцца манаграфіі і навуковыя артыкулы па праблемах мовазнаўства. У канцы ХХ ст. працэс беларусізацыі

запаволіўся; асноўнымі сферамі выкарыстання беларускай мовы сталі адукацыя, мастацтва, гуманітарныя навукі.

Сучасная моўная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь вызначаецца, на думку дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, доктара філалагічных навук, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А. А. Лукашанца, як «дзяржаўнае блізкароднаснае беларуска-рускае двухмоўе з неаднолькавай запатрабаванасцю суіснуючых моў у розных камунікатыўных сферах». Аптымістычнымі падставамі для развіцця беларускай мовы, яе большага выкарыстання ў грамадскім жыцці служаць наступныя абставіны: паводле перапісу 2009 г., беларусы складаюць 83,7 % (звыш 7,5 мільёнаў чалавек). З іх 60 % назвалі роднай беларускую мову. Большая частка астатніх насельнікаў разумее беларускую мову, можа на ёй чытаць.

Беларускім народам створаны адзін з найбагацейшых у Еўропе фальклор, адметнае прыгожае пісьменства. На падмурку выпрацаваных літаратурных норм і выяўленчых сродкаў, распрацаваных у творах класікаў беларускай літаратуры, наша мова праявіла свае багатыя творчыя патэнцыі ва ўсіх кірунках мастацкіх жанраў: паэзія (Я. Купала, М. Чарот, У. Дубоўка, П. Броўка, П. Глебка, М. Танк, П. Панчанка, А. Куляшоў, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, Р. Барадулін, А. Разанаў і інш.), проза (Я Колас, Ц. Гартны, К. Чорны, М. Гарэцкі, М. Зарэцкі, М. Лынькоў, Я. Брыль, І. Мележ, У. Караткевіч, А. Адамовіч, В. Быкаў, І. Навуменка, І. Шамякін, В. Адамчык, В. Казько і інш.) драматургія (У. Галубок, К. Крапіва, А. Макаёнак, М. Матукоўскі, А. Петрашкевіч, А. Дудараў і інш.).

Беларуская мова ва ўсёй яе стылёвай разнастайнасці з’яўляецца прадметам спецыяльнага лінгвістычнага вывучэння, якое ажыццяўляецца ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім педагагічным універсітэце, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, Гомельскім, Гродзенскім, Віцебскім, Брэсцкім, Магілёўскім універсітэтах, у Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, іншых навуковых і навучальных установах краіны.

Бесперапыннае развіццё і ўдасканаленне беларускай мовы, якое выяўляецца ў зменах фанетычнага, марфалагічнага і сінтаксічнага характару, у абнаўленні лексічнага складу мовы, выклікала неабходнасць удакладніць правапіс, прывесці яго ў адпаведнасць з сучаснай моўнай практыкай. Каб пазбегнуць разнабою ў пісьмовай беларускай мове, забяспечыць адзінства яе арфаграфічных і пунктуацыйных норм, аблегчыць навучанне беларускай мове, 24 чэрвеня 2008 г. Палатай прадстаўнікоў

Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь быў прыняты Закон «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», адобраны Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу і падпісаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Закон аб частковых зменах у арфаграфіі і пунктуацыі садзейнічае стабілізацыі правапісных норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы, забяспечвае захаванне адзінага моўнага рэжыму ў навучанні і ў друку, павышае прэстыж беларускай мовы як дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь.

# ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЕ ТЕКСТЫ ДЛЯ ЧТЕНИЯ
# ДАДАТКОВЫЯ ТЭКСТЫ ДЛЯ ЧЫТАННЯ

## СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ
**(урывак)**

У сёмы Траянавы век
Уздумаў Ўсяслаў варажыць
Аб мілай дзяўчыне сабе,
Што з славай яго заручыць.

Пусціўшыся ў хітрыкі, ён
На борздага ўсеўся каня
І скочыў, памчаўся чым свет
Да Кіева-грода, да дня.

І кіеўскі дзідаю там
Пасад дакрануў залаты;
Ад іх скочыў зверам лютым
З Белграда ў поўнач; тады

Ахутаўся сіняю мглой,
А раннем, узняўшысь да зор,
Навограду браму лязом
Сякераю насцеж адпёр.

Разбіў Яраслававу там
Прыдбаную славу мячом
І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком.

На Нямізе снапы сцелюць
    Галавамі,
А малоцяць жа стальнымі
    Іх цапамі.

На таку жыццё кладзецца
    Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
    Безнадзейна.

Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.

А былі яны гусценька
Ў процьмах вузкіх
Там засеяны касцямі
Сыноў рускіх.

Усяслаў-князь людзям суд судзіў,
Гарадамі князёў надзяляў,
А сам поначы, свету на здзіў,
Ваўкалакам ці воўкам гуляў,

Ён бо з Кіева да петухоў
Горад Тмутаракань дасцігаў
І вялікаму Хорсу без слоў
Воўкам шлях борзда перабягаў.

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Сафеі святой
Да завутрані, – ён жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа
Ў дзёрзкім целе ягоным была,
Але часта бяды без нажа
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян
І прыпеўку дасціпна злажыў:
«Хітры, быстры, ні птах той быстран
Суду Божага не пяражыў!»

*Пераклад Янкі Купалы*

**«Слова аб палку Ігаравым»** – помнік усходнеславянскай літаратуры XII стагоддзя. Я.Купала ў 1921 годзе зрабіў паэтычную і празаічную версіі перакладу «Слова...» на беларускую мову. У прыведзеным фрагменце ў алегарычнай форме перадаюцца абставіны бурнага, поўнага прыгодаў жыцця полацкага князя Усялава Чарадзея.

## ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА

### (урывак)

Лоўчы схаваўся за елкай, а зубр не спускае
З вока яліну. Падскочыў да дрэва. Абодва –
Звер з паляўнічым – адзін на адзін. Сцеражыся,
Смелы дзяціна! Жыццём за памылку заплаціш:
Выткнешся бокам з-за дрэва – падыме на рогі.
Круцяцца, быццам у скоках, капыты і чобат,
Дама ж – дзябёлая елка – стаіць, як княгіня.
Меціць юнак-фехтавальшчык парнуць пад лапатку.
Звер языком, нібы шчупальцам, ловіць за рукі.
Я ўжо казаў, што язык у зубра – як гадзюка:
Доўгі, рухавы, і хай толькі кончыкам счэпіць,
Звяжа, як вузлам, падцягне і кончыць рагамі.
Бачачы шчупалец – гэту падступную змейку,
Лоўчы таксама не дурань – мяняе прыёмы:
Коле кароткім ударам, з падскоку на выпад.
Тут у імклівасці ўдара клінок апярэдзіць
Нават стралу быстралётную – як бліскавіца!
«Э, – заўважае юнак, – на цябе, языкасты,
Немач находзіць, хістанка ў нагах пачалася.
Ты і размяк і абслініўся. Дзе твая статнасць!»
Толькі падумаў, а звер страпянуўся – і ў наступ.
Лоўчы за дрэва – і чуе, як быццам з парыльні
Парай дыхнула і штось застагнала за дрэвам.
Момант! Клінок мільгануў і адскочыў – пацэліў.
Вось ён, удар сакрушальны! Схіснуўся і пысай
Тыцнуўся ў снег і прыкленчыў, нібы пакланіўся
Шумнай дуброве: «Даруй, мая родная, ўсё мне».
Недзе сябры зараўлі, пракацілася рэха –
Нават і ў пушчы свой звычай, свой звон памінальны.
Галас падняўся, – патрэбен удар міласэрны.
Тут жа, як бачыш, з’явіліся тыя ж малойцы
Вынялі шаблі і ўмелым ударам пад сэрца
Усё завяршаюць і тым набліжаюць развязку.
Трубяць у рог. Пераможца сярод пабрацімаў.
Жарты, абдымкі. А звер на бялюткай пасцелі
Вотчыны роднай прылёг і нібы спачывае.

Нетры лясныя сталі ў сваёй таямніцы
Шчэ аднаго, што паранілі, – можа, і сына
Гэтага волата. Хай выжывае, не буду
Гнацца ў пагоні за раненым. Час падганяе.
Спынім забойствы!

*Мікола Гусоўскі*

**АХВЯРА**

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу не драў,
А прад большым не корчыў спіны,
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб не відзеў віны;
Чужых жон каб не вёў да граху,
А сваю каб як трэба любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў.
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умёрці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых.
Каб я Бога сваго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свій люд,
Каб свайго я дабра не прапіў
І нізашто не меў чужы труд.
Каб па двойчы мне грошы не браць
За праданы кусочак раллі,
Каб сваю мне зямельку араць
І умёрці на ёй хоць калі.
Дык прасі ж ты у Бога, малі,
Каб я панам ніколі не быў!

*Францішак Багушэвіч*

**Францішак Багушэвіч** (1840–1900) – беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Аўтар зборнікаў паэзіі «Дудка беларуская» («Дудка белорусская», 1891) і «Смык беларускі» («Смык белорусский», 1894). У прадмове да «Дудкі

беларускай» сцвярджаў гістарычную пераемнасць паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Беларуссю. Вызначаў ролю мовы як вядучую ў самазахаванні нацыі.

## А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
– Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках ў крыві, на нагах у лапцях?
– Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць напаказ сваю?
– На свет цэлы.

А хто гэта іх, на адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
– Бяда, гора.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
– Людзьмі звацца.

*Янка Купала*

## ЯВАР І КАЛІНА

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Захадам модлы пакорныя
З маткай-зямлёй адпраўляюць;
Тайна у ночаньку чорную
Месяца, зор выглядаюць.

Слухаюць смехаў русалчыных,
    Лопату крылляў начніцы,
Ветру паневаў ап'янчаных,
    Плюскату шклістай крыніцы.

Чуецца музыка дзіўная
    Ў повесцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
    Скінуўшы зімнія чары.

*Янка Купала*

## «ЗОРКА ВЕНЕРА ЎЗЫШЛА НАД ЗЯМЛЁЮ»

*Раманс*

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, – у расстанні
Там з ёй зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы

Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, –
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла весна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

*Максим Богдановіч*

**Максім Багдановіч** (1891–1917) – паэт, празаік, крытык, перакладчык, класік беларускай літаратуры. Марыў пра ўвядзенне беларускай літаратуры ў сусветны кантэкст і шмат для гэтага зрабіў. Пры жыцці выдаў адзіны зборнік паэзіі «Вянок» («Вянок», 1913).

## ПАХНЕ ЧАБОР

Хіба на вечар той можна забыцца?
…Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор, пахне чабор…
Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы.
Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,
Быццам абсыпана промнымі зор.
Пахне чабор, пахне чабор…
Выйсці б насустрач, стаць і прызнацца.
Вось яно – блізкае, яснае шчасце,
Клікнуць хацелася – голас замёр.
Пахне чабор, пахне чабор…
Год адзінаццаць, а можа дванаццаць

Сэрцабаліць, што не здолеў спаткацца,
Сэрца нязменна хвалюе дакор.
Пахне чабор, пахне чабор…
Час той схаваўся за дальняй гарою,
Здасца хвілінай – яна прада мною…
Выйду. Гукаю. Маўклівы прастор.
Пахне чабор, пахне чабор…

*Пятрусь Броўка*

**Пятрусь Броўка** (1905–1980) – беларускі паэт, празаік, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі. Паэзія П. Броўкі споўнена спавядальнымі матывамі, лірызмам, задушэўнасцю.

## AVE MARIA

Звон кафедральны кліча на Ave.
З цесных завулкаў злева і справа
Гуртам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені.
Тут і старыя, і маладыя, –
Ave Maria...

Я не звярнуў бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Стройнай манашкі, якая мае
Не больш, хіба, як семнаццаць маяў;
Чорныя вочы, бровы густыя, –
Ave Maria!

Нат пад жалобнай вопраткай чорнай
Ты адгадаеш: стан непакорны,
Ножкі, якімі б на карнавалах
І захапляла і чаравала,
Смуглыя рукі, грудзі тугія, –
Ave Maria!

Глядзіць набожна на крыж Пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія, –
Ave Maria!

Цябе атрутаю апаілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе…
О, як бы жалі рукі такія, –
Ave Maria!

А потым хутка прыйшло б каханне,
Страчала б з мілым свой золак ранні.
А потым стала б ты гаспадыняй
І калыхала б сваю дзяціну!
О, як кармілі б грудзі такія, –
Ave Maria!

Не знаю, можа, мая малітва
Выйграць бы мне памагла гэту бітву,
Але пазвалі яе; манашка
Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,
Пад зводы змрочныя і глухія, –
Ave Maria!..

*Максім Танк*

## БЫВАЙ...

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго, якому ружавець.

Ці помніш першае нясмелае прызнанне?
Над намі жаўранкам звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой і мой нямы адчай.

Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых сосен,
Пайшла, маўклівая, пад хваль жытнёвых шум,
Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум.

Пайшла за ціхія, далёкія прасторы
Світальнай зоркай ты, што гасне ў сіняве.
Душы пакрыўджанай гарачыя дакоры
Слязой халоднаю застылі на траве.

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманны,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць зялёны май.

Бывай, абуджаная ў сэрцы, дарагая.
Твой светлы вобраз панясу я па жыцці.
На ўсходзе дня майго заранка дагарае,
Каб позна вечарам на захадзе ўзысці.

*Аркадзь Куляшоў*

**Аркадзь Куляшоў** (1914–1978) – беларускі паэт, перакладчык. Народны паэт Беларусі. Аўтар паэмы «Варшаўскі шлях» («Варшавский шлях», 1973), прысвечанай А.Твардоўскаму, з якім паэт сябраваў, паэмы-антыўтопіі «Цунамі» («Цунами», 1968), у якой прагназуюцца наступствы гонкі ўзбраенняў і тэхнагеннага развіцця цывілізацыі. Верш «Бывай», у якім з пранізлівай сілай перададзены драматызм першага кахання, быў створаны паэтам у чатырнаццаць гадоў.

## МУРАШКІ

Прытча

*Памяці Уладзіміра Караткевіча*

Ніколі і нікому з зямных істотаў не бачны Пан Бог сядзеў на камяністым пагорку ля здаўна прывабнага для яго Тыверыядскага возера і стомленым позіркам азіраў бязлюднае наваколле.

Ён апусціўся на зямлю ў апошнюю суботу ліпеня. Пералёт ад планеты Сірыус-7z быў нялёгкі нават і для Пана Бога – магнітныя буры каля Юпітэра, д’ябальская гравітацыя ў раёне Вялікай Чорнай дзіркі, метэарытны дождж з нуклеарным градам па ўсёй паласе Млечнага шляху. Думаў, што ўжо на Зямлі так не будзе, на Зямлі павінна панаваць ціша ды лагода і стомлены Пан Бог нарэшце адпачне.

На Зямлі ён даўно ўжо не быў, заняты тытанічнымі справамі ў іншых сусветах, меркаваў, што зямляне няблага абжыліся без яго і Пан Бог ім непатрэбны. Паводле свае натуры ён быў талерантны і дапушчаў часам

такое, што і не трэба было б дапушчаць. Але ж ён пакінуў тут не якіх кузурак – стварыў адмысловых істотаў Гома сапіенс – у асобах дзяўчыны Евы і хлопца Адама, надзяліў іх прыгажосцю і лагодай. Ужо яны павінны былі палагодзіць зямное жыццё ў райскім куточку Сусвету. Ды, відаць, памыліўся. Не наладзілі нічога ягоныя сапіенсы, а тое прыўкраснае, што ён ім пакінуў, збаёдалі без рэшты. Як Пан Бог прачытаў у Нябесных сферах, шмат прыкрага адбылося на Зямлі за якіх пару мільёнаў гадоў ягонай адсутнасці, і тое напаўняла Боскую істоту нязбыўнай скрухай і самотай.

Найперш гэтая пакінутая ім на зямной гаспадарцы парачка адцуралася Боскага запавету, спакусілася на грэх, і людства пачало бурна пладзіцца. Што пладзіцца, тое хай сабе, калі б разумна і па добрасці. Дык жа не! Адамавы дзеці ўдаліся зусім не ў памяркоўнага Адама, а хто ведае ў каго. Яшчэ змалку пачалі дурэць і сварыцца, а падросшы, зусім перасталі слухаць бацькоў, навучыліся лайдачыць і піць – не ваду нават, а нейкае д’ябальскае пітво, названае вінparam. Пан Бог ніякага віна на зямлі не рабіў, хіба пасеяў дзе-нідзе салодкі вінаград – для малых і жанчынаў; мужчыны ж павінны былі паляваць на дзічыну і харчавацца мясам. Дык не, найперш мужчынам захацелася віна, якое рабіла іх дурнямі і натхняла на бойкі. А дзе бойкі – там кроў і рабаўніцтва, якое стала дужа прыбытковым, хоць і зусім ня Боскім промыслам. Хто болей забіваў, той рабіўся багацейшым, болей падграбаў пад сябе іншых і прагнуў улады. Стварылася няроўнасць, зайздрасць да больш удачлівых, з’явілася варажнеча. Зайздрасці і варажнечы спрыялі жанчыны, якія мудра ўхіляліся ад забойства, але ўмела натхнялі на яго мужчынаў, маючы з таго сваю карысць.

Жыхарства на Зямлі расло, і разам з ім распаўзаліся на абшарах варажнеча і забойства, якія назвалі войнамі.

Спярша ваяваў род з родам. Адзін род дашчэнту выбіваў іншы род, мяркуючы, што, перамогшы, адпачне ў міры. Дзе там! На змену пераможанаму роду паўставаў іншы, пакрыўджаны, якому даўно не хапала выпасу для козаў, і ён імкнуўся захапіць суседні. Як усе выпасы, пагоркі і даліны аказаліся захопленыя, варажнеча і войны не спыніліся.

Аказалася, што некаторыя з плямёнаў маюць не чорныя, а светлыя валасы, і зараз жа ўсчалася новая барацьба паміж чорна- і светлавалосымі. На той раз перамаглі светлавалосыя. Кінулі дзікім звярам трупы чорнавалосых і пачалі святкаваць перамогу. Святкавалі доўга і ўрачыста: здавалася, ворагаў паблізу не засталося. Але яшчэ ў час святкавання самыя пільныя заўважылі, што хрысцяцца светлавалосыя неаднолькава – адны двума пальцамі, а іншыя нават трыма. Быў склікані вялікі Сінкліт, які вырашыў, што хрысціцца двума пальцамі няправільна, што за тое трэба

караць. Двухпалыя пачалі ўпарціцца ва ўласным звычаі, і іх пачалі праследаваць: лавіць, саджаць у цямніцы, некаторых нават тапілі ў рэчках – на корм рыбам і ракам. Такім чынам амаль панішчылі ўсіх двухпалых, а тыя, каго ўтапіць не паспелі, перакваліфікаваліся ў трохпалых. Але тады за двухпалых заступіліся нейкія заморцы – не так за людзей, як за нейкую выдуманую справядлівасць. Пачалася вайна з чужынцамі. Светлавалосыя біліся ўпарта, некалькі гадоў, перасталі нават араць і сеяць, усчаўся вялікі мор, але спыніць вайну было нельга, бо вайну назвалі Свяшчэннай. Тая вайна выдалася самай доўгай, ёй было аддадзена некалькі пакаленняў. Апошнія з іх ужо і не памяталі, з чаго ўсё пачалося, і, калі старыя казалі, што – праз пальцы, не маглі паверыць: такое глупства! Хай бы хрысціліся як хацелі. Але ўсё роўна ішлі ў бой і гінулі, забіваючы ворагаў: спыніць вайну было нельга. Ведама, што пачаць вайну можа і дурань, а спыніць яе не дадзена і Пану Богу.

Тая вайна скончылася, бо скончыліся сілы з абодвух бакоў. Светлавалосыя палічылі, што перамога на іхнім баку. Заморцы былі іншае думкі. Запанавала няпэўнае перамір'е. Бакі трохі спачылі і тады агледзеліся, што ваявалі не ўсе аднолькава. Шмат загінула, іншыя знемагліся. Але знайшліся і такія, што нават забагацелі з вайны: занялі пасады, збудавалі шыкоўныя халупы пад шырачэзным пальмавым лісьцем, захапілі мяккія гамакі з сінтэтыкі, ад ворагаў навучыліся есці не палачкамі, як раней, а глыбокімі лыжкамі. Праз год пасля той перамогі ў вялікай вайне пачалася ўнутраная вайна, ды такая лютая, што Пан Бог цяпер думаў, лепш бы ўжо гэтыя светлавалосыя стрывалі паразу. Кожны ненавідзеў іншага, брат рэзаў брата, дзеці цураліся бацькоў – пачуццямі кіравала варажнеча і зайздрасць. Усе крычалі аб нейкай справядлівасці, пра якую нічога не чуў і не мог зразумець таго слова нават сам Пан Бог. І ён дужа сумняваўся, што тое разумелі людзі, якія пралілі за яе столькі крыві.

Але во і грамадзянская вайна была скончаная. Справядлівасці не дамагліся, затое парэзалі ці не большую палову насельнікаў. Жывыя не спраўляліся хаваць мёртвых. А то і не хавалі – такая нянавісць нават да мёртвых панавала ў народзе. І не хавалі б ніколі, калі б дух ад нежывых целаў ня быў гэткі нясцерпны. А пахаваўшы, тут жа магілы раўнялі з зямлёй, каб не засталося і знаку. (Пан Бог, аднак, усё бачыў, для яго ня трэба было адмысловага знаку.)

Былі і яшчэ вялікія, святыя і татальныя войны – за землі, ідэі, нацыянальныя інтарэсы. Былі чатыры вайны за справядлівасць, тры – за зняважаную праўду і нават вайна супраць войнаў – можа, самая жорсткая сярод іншых.

У часе кароткага перадыху было выяўлена, што ўвогуле ваявалі дарма: войны не вырашылі ніводнай праблемы, а толькі спарадзілі нямала новых. Але хто вінаваты? Ну вядома ж, вінаватыя мужчыны. Гэта з іх ліку былі генералы і палкоўнікі, якіх узнагароджвалі, шанавалі, якім спявалі пранікнёныя гімны. А яны падвялі. Ужо жанчыны, напэўна б, ваявалі б лепш і хутчэй здабылі б перамогу. Усчаўся новы глабальны рух фемінізму. Жанчыны падняліся на мужчынаў.

То ўжо, напэўна, была самая жахлівая і даўгая вайна на Зямлі. Змагаліся не толькі з людзьмі, але і з людскімі пачуццямі. Найгоршым лічылася праклятае абодвума бакамі пачуццё кахання, праз якое і пачалася глабальная варажнеча. Закаханых пачалі караць самаю страшнай карай, для чаго давялося выдумаць электрычнасць і рашчапіць атам. Кахаць было дазволена толькі аднаго чалавека – галоўнага Ката – і ягонае начынне – шырокую сякеру. Сякеру, заўжды вострую і блішчастую, дык дужа кахалі жанчыны. Казалі, яе дотык да далікатных шыяў быў непараўнальна пяшчотны. Але як Кат пастарэў ад нялёгкае працы, каханне да яго стала мала папулярным нават сярод жанчынаў. Ды й тое – каму патрэбны нямоглы кат? Быў кінуты лозунг: каханне замяніць на нянавісць! Нянавісць разумелася шырока і з абодвух бакоў была прызнаная за агульначалавечую маральную каштоўнасць. Тое ні ў мужчынскім, ні ў жаночым лагеры не выклікала пярэчання і нават на пэўны час кансалідавала нацыю ў яе святой барацьбе за вынішчэнне.

І во – вынішчыліся.

Учора Пан Бог паціху абляцеў на аблачыне ўсю зямлю і нідзе не згледзеў нікога. Толькі сярод джунгляў ля Амазонкі варушыліся ў лістоце нейкія стварэнні, а так усе палі, пагоркі і выпасы былі пустэльныя – ні гарадоў, ні паселішчаў, ні якіх халупаў. Асабліва ўразіў Пана Бога кавалак сушы на поўнач ад рэчкі Прыпяці – такі быў слаўны куточак, не гарачы і не сцюдзёны, некалі поўны зверыны, рыбы і птушак, аддадзены неблагому працавітаму племю дрыгавічоў. І што сталася? Засыпаліся нуклеарамі, здурнелі і вымерлі. Во і рабі людзям дабро!

Стала зразумела Пану Богу, што ўсё трэба пачынаць спачатку.

Але каму пачынаць? Ясна, што людзям не варта давяраць тое. Ужо аднойчы было даверана, і што атрымалася? Сорам адзін.

Порсткая чародка чорных мурашоў сноўдала каля босых, натружаных за даўгое жыццё Боскіх ног. Адзін муравейка, мабыць, самы з іх смелы, борздзенька ўскараскаўся на Боскі вялікі палец і раздумна знерухомеў. Пан Бог спярша памкнуўся яго струхнуць прэч, ды падумаў:

а можа, гэтым? Будуць сабе мітусіцца, рупіцца, без сваркі і варажнечы, грахоў ды эмоцыяў.

Сапраўды, варта было падумаць.

*Васіль Быкаў*

**Васіль Быкаў** (1924–2004) – сусветна вядомы беларускі празаік, эсэіст, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі. Свае творы прысвячаў глабальным падзеям XX стагоддзя: войнам, рэвалюцыям, сацыяльным катастрофам. Яго творчасць мае шмат агульнага з філасофіяй экзістэнцыялізму.

## МОВА

Ёсць паданне вякоў, што разбурыць калісь
Вавілонскую Вежу Адам
І няўмольна сальюцца мовы зямлі
У адну, няродную нам.
І мая безвыходна пойдзе у змрок,
У атрутны, як вечнасць, цень,
Трапяткая і сіняя, як васілёк,
Гарачая, як прамень.
Я ні шчасця, ні будучых дзён не жадзён,
Хай пятля, хай памерці ў журбе,
Хай не будзе ні шчасця, ні будучых дзён,
Калі ў іх не будзе цябе.
Сірата па з'едлівай волі багоў,
Гінучы мой карабель,
Хай не будзе світання ў народа майго,
Калі досвіткам здрадзіць цябе.
Ад палеткаў райскіх лёгкай ступой,
Збочу я да пякельных катлоў,
Калі першы жа ангел на мове маёй
Мне не скажа: «Братка, здароў».
І няхай да мяне не прыйдзе вясна,
Песня, шчасце, каханне, спакой, –
Ўсё адно не змяняю твой чорны праснак
На атруту пшаніцы чужой.
Ты мой ясны хлеб і каханы май,
Песня продкаў, нашчадкаў палі,

Без цябе, не з табой – не патрэбен мне рай
На душы. Ў небясі. На зямлі.

*Уладзімір Караткевіч*

## БАЦЬКУ

Не выйшаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Крануў галінамі за плечы.

Ты мне не падасі рукі,
Глядзіш удаль з-за шкла партрэта.
Ці бачыш, вырас сын які?
Скажы хоць слова для прывета.

А я... чакаў з усіх дарог
Цябе ў сорак чацвёртым... летам.
Калоны ні адной не мог
Я прапусціць з ахапкам кветак.

Хацелася пачуць: «Сынок...»
І крыкнуць радаснае: «Тата!»
Бацькоўскім быў мне кожны крок...
Усё ішлі, ішлі салдаты...

Каторы раз сыходзіў снег...
Дамоў вярталіся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: «Прыедзе...»

Калі ж у крыўдзе мне сябры
Гразіліся падчас бацькамі,
Тады хацелася наўзрыд
Заплакаць шчырымі слязамі.

Не плакаў я – усім на злосць,
Бо ў хаце быў адзін – мужчына.
Не йшоў ты...
Маці маладосць
Глыбей заворвалі маршчыны.

І зараз – еду я здалёк,
Чакаю ўсё – зайду, а маці
Мне скажа: «Пазнаеш, сынок?
Вось наша ўся сямейка ў хаце...»

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму
Перад магілай невядомай...

*Рыгор Барадулін*

**Рыгор Барадулін** (нар. 1935) – паэт, перакладчык. Народны паэт Беларусі. Неператўзыдзены віртуоз паэтычнага слова. Піша грамадзянскую, філасофскую, хрысціянскую лірыку. Зборнік духоўнай паэзіі «Ксты» (2005) намінаваны на атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

* * *

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві –
Першы поспех і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві –
Нават ненавісць і агіда.
Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма
Пачынаецца ўсё з любві,
А інакш і жыць немагчыма.

*Яўгенія Янішчыц*

**Яўгенія Янішчыц** (1948–1988) – беларуская паэтэса. Галоўныя тэмы паэзіі – Радзіма, сяброўства, каханне, мацярынства.

# БЕЛОРУССКО-РУССКИЙ СЛОВАРЬ
# БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК

## А а

**абавязко́ва** – обязательно, непременно аблі́ччa – 1) облик, образ; 2) лицо, черты лица
**абмеркава́ць** – обсудить; обдумать
**абру́с** – скатерть
**абу́так** – обувь
**абца́с** – каблук
**аб'я́ва** – объявление
**агаро́дніна** – збор. овощи
**агу́льны** – общий
**агуро́к** – огурец
**адбы́цца** – произойти; свершиться
**адваро́тны** – обратный; оборотный
**адгэ́туль** – отсюда
**адзе́нне (адзе́жа)** – одежда, платье
**адзі́нка** – единица
**адзна́чыць** – 1) отметить; 2) обозначить; 3) отпраздновать
**адка́з** – ответ
**адказа́ць** – ответить
**адку́ль** – откуда
**адлюстрава́ць** – отразить
**адмо́віцца** – отказаться, отречься
**адмо́ўны** – отрицательный
**адне́куль** – откуда-то
**адно́йчы** – однажды
**адпачы́нак** – 1) отдых; 2) отпуск
**адпачы́ць** – отдохнуть
**адро́зніць** – отличить, различить
**адукава́ны** – образованный
**адука́цыя** – образование
**адце́нне** – оттенок
**адчува́ць** – чувствовать, ощущать
**адчу́ць** – почувствовать, ощутить

**адчыні́ць** – открыть; отворить
**аздо́біць** – украсить; отделать
**айчы́на** – отечество, отчизна
**акрамя́** – кроме
**аксамі́т** – бархат
**акуля́ры** – очки
**але́** – но
**але́й** – масло (растительное)
**ало́вак** – карандаш
**ама́ль** – почти
**ама́тар** – любитель
**апавяда́нне** – 1) рассказ, повествование; 2) лит. рассказ
**апавяда́ць** – рассказывать, повествовать
**апа́дкі** – осадки
**апо́весць** – 1) повествование, повесть; 2) лит. повесть
**апо́шні** – последний
**апрану́ць** – одеть; надеть
**апрача́ (апро́ч)** – кроме, помимо
**асве́та** – просвещение; образование
**асо́ба** – личность
**асо́бны** – отдельный
**асэнсава́ць** – осмыслить
**атрыма́ць** – получить

## Б б

**бавaўня́ны** – 1) хлопковый; 2) хлопчатобумажный
**баво́ўна** – хлопок
**ба́гна** – топь, трясина, болото
**бадзёры** – бодрый
**барацьба́** – борьба
**ба́цька** – отец
**бацькі́** – родители
**ба́чыць** – видеть
**бе́гчы** – бежать
**безасабо́вы** – лингв. базличный
**безная́ўны** – фин. безналичный
**блакі́т** – голубизна, лазурь; синева
**блакі́тны** – голубой, небесный
**бот** – сапог

**бракава́ць** – недоставать, не хватать
**бра́ма** – ворота
**бранзале́т** – браслет
**бруд** – 1) грязь; 2) нечистоты
**бру́дны** – грязный; неопрятный
**бры́дкі** – некрасивый, скверный
**брыво́** – бровь
**будава́ць** – строить, сооружать
**будаўні́к** – строитель
**бу́дучыня** – будущее
**буды́нак** – здание
**бу́льба** – картофель
**бура́к** – свёкла
**буршты́н** – янтарь
**бу́сел** – аист
**бутэ́лька** – бутылка
**бэз** – сирень
**бэ́завы** – сиреневый

## В в

**вавёрка** – белка
**вага́** – 1) вес; 2) мн. весы
**ва́жыць** – взвешивать
**вако́л** – вокруг, кругом; около
**вандрава́ць** – путешествовать; странствовать
**варата́р** – спорт. вратарь
**варо́жы** – враждебный, вражеский
**вартава́ць** – охранять, караулить, сторожить
**ва́ртасць** – 1) достоинство; цена; 2) эк. стоимость
**вартаўні́к** – сторож; охранник
**ваўня́ны** – шерстяной
**ве́даць** – знать
**ве́ды** – знания; сведения
**ве́жа** – башня
**ве́льмі** – очень
**ве́расень** – сентябрь
**верш** – стихотворение
**ве́стка** – известие
**ве́тлівы** – вежливый, радушный, любезный

**вёска** – деревня
**відэ́лец** – вилка (столовая)
**вільго́тны** – влажный
**віншава́ць** – поздравлять
**віта́ць** – 1) приветствовать; 2) поздравлять
**во́гнішча** – костёр
**во́дар** – аромат
**во́ка** – глаз
**во́нкавы** – наружный, внешний
**во́пратка** – одежда (верхняя)
**во́раг** – враг, недруг; неприятель, противник
**во́ўна** – овечья шерсть
**во́цат** – уксус
**ву́чань** – ученик
**выбача́ць** – извинять
**вы́гляд** – вид; внешность, наружность, облик
**выго́да** – удобство
**выго́дны** – удобный
**выда́тна** – 1) прекрасно, замечательно; 2) отлично
**выда́тны** – 1) видный, выдающийся, знаменитый; 2) прекрасный; 3) отличный
**вы́зваліць** – 1) освободить; 2) избавить; 3) уволить
**вы́канаць** – выполнить
**вы́карыстаць** – использовать
**выкла́дчык** – преподаватель
**вы́клікаць** – вызвать
**вы́нік** – 1) результат, итог; вывод; 2) следствие
**выпа́дак** – случай; повод
**вы́раз** – выражение
**выра́зны** – ясный, отчётливый, чёткий
**вы́ратаваць** – спасти; избавить
**вы́рашыць** – решить
**вы́светліць** – выяснить
**выста́ва** (**вы́стаўка**) – выставка
**выхава́нне** – воспитание
**вы́хаваць** – воспитать
**выя́ва** – изображение
**выяўле́нчы** – изобразительный
**вэ́ндзіць** – коптить

**вядóма** – известно
**вядóмы** – известный
**вялíкдзень** – *рел.* пасха
**вялíкі** – большой; внушительный
**вяндлíна** – ветчина
**вяргíня** – *бат.* георгин, георгина
**вяртáць** – возвращать
**вясéлле** – свадьба
**вясёлка** – радуга
**вяскóвы** – 1) деревенский; 2) сельский
**вячэ́ра** – ужин
**вячэ́раць** – ужинать

**Г г**

**гадавáць** – растить; выращивать
**гадавíна** – годовщина
**гадзíна** – час
**гадзíннік** – часы
**галíць** – брить
**гáльштук** – галстук
**гáнак** – крыльцо
**ганарлíвы** – 1) горделивый; 2) спесивый
**ганары́цца** – гордиться
**гáндаль** – торговля
**гандлявáць** – торговать
**гандля́р** – торговец
**гарбáта** – чай
**гарбу́з** – тыква
**гарэ́злівы** (**гарэ́зны**) – озорной, шаловливый, проказливый
**гарэ́лка** – водка
**гаспадáр** – хозяин
**гаспадáрка** – хозяйство
**гаспады́ня** – хозяйка
**гасцíнны** – гостеприимный, хлебосольный, радушный
**гатавáць** – готовить, приготовлять
**глядáч** – зритель
**глядзéць** – смотреть, глядеть
**гóнар** – 1) честь; почёт; 2) чванство, гонор, спесь
**грамадзя́нін** – гражданин

**гро́шы** – деньги
**губля́ць** – 1) терять, ронять; 2) тратить
**гу́зік** – пуговица
**гук** – звук
**гульня́** – игра
**гульта́й** – лентяй
**гуля́ць** – играть
**гу́ма** – резина
**гу́мар** – юмор
**густ** – вкус
**гу́тарка** – 1) беседа; 2) разговор
**гуча́ць** – звучать
**гэ́ты** – этот

### Д д

**дабра́нач** – *разг.* доброй ночи, спокойной ночи
**дава́льны** – *лингв.* дательный (падеж)
**даве́дацца** – узнать, разузнать
**даве́дка** – справка
**даве́днік** – справочник; путеводитель
**дадатко́вы** – 1) добавочный; 2) дополнительный
**дазво́л** – разрешение
**дазво́ліць** – разрешить, позволить
**дакла́дны** – 1) точный; 2) достоверный;
**даліка́тны** – 1) вежливый; 2) деликатный, мягкий; 3) хрупкий, нежный; 4) изысканный (о вкусе)
**дало́нь** – ладонь
**дапамагчы́** – помочь
**дапамо́га** – помощь
**дапамо́жнік** – пособие (учебник)
**дах** – крыша, кровля
**дзеепрыме́тнік** – *лингв.* причастие
**дзеепрысло́ўе** – *лингв.* деепричастие
**дзе́йнасць** – деятельность
**дзе́йнічаць** – действовать
**дзе-не́будзь** – где-нибудь
**дзе́сьці** – где-то
**дзе́янне** – действие
**дзеясло́ў** – *лингв.* глагол

**дзе́ннік** – дневник
**дзя́дзька** – дядя
**дзя́куй** – благодарю, спасибо
**дзяржа́ва** – государство
**дзяўчы́на** – девушка
**дзяўчы́нка** – девочка
**дзяці́нства** – детство
**добраўпара́дкаваны** – благоустроенный
**до́бры** – хороший; добрый
**до́сыць** – достаточно, довольно
**драпе́жны** – хищный
**другі́** – 1) второй; 2) другой, иной
**друкава́ць** – печатать
**дрэ́ва** – дерево
**дрэ́нны** – плохой, скверный, дурной
**ду́жы** – сильный, крепкий
**ду́мка** – мысль; мнение
**дыва́н** – ковёр

### Е е

**е́жа** – пища, еда
**е́сці** – есть, кушать

### Ё ё

### Ж ж

**жада́нне** – желание
**жада́ць** – желать, хотеть
**жаль** – жалость, сострадание, сожаление и – шутка
**жартава́ць** – шутить
**жах** – ужас, страх
**жахлі́вы** – ужасный
**жні́вень** – август
**жо́нка** – жена, супруга
**журaві́ны** – клюква
**жыве́ла** – животное
**жы́та** – рожь
**жыха́р** – 1) житель; 2) жилец
**жыццё** – жизнь

## З з

**забараніць** – запретить
**забіць** – 1) убить, умертвить; 2) вбить; 3) заколотить,
**заву́лак** – переулок
**завушні́ца** – серьга, серёжка
**загада́ць** – приказать; повелеть, предписать
**зага́дчык** – заведующий
**займе́ннік** – лингв. местоимение
**закрэ́сліць** – зачеркнуть
**зале́жаць** – зависеть
**зале́жны** – 1) зависимый; 2) *лингв*. подчинённый, страдательный
**залі́к** – зачёт
**залічы́ць** – 1) зачислить; 2) засчитать, зачесть
**запа́лка** – спичка
**запа́льніца** (**запа́льнічка**) – зажигалка
**за́піс** – запись
**запрасі́ць** – пригласить, позвать
**за́раз** – сейчас, сию минуту
**засмуці́ць** – опечалить, огорчить
**заўва́га** – 1) замечание; 2) примечание
**заўва́жыць** – заметить
**заўсё́ды** (**заўжды́**) – всегда; постоянно, неизменно
**захапі́цца** – увлечься
**захапі́ць** – 1) захватить; 2) увлечь
**захапле́нне** – 1) увлечение; 2) восторг, восхищение
**захо́пнік** – захватчик
**збро́я** – оружие
**звы́чай** – 1) обычай; 2) привычка, обыкновение
**звыча́йны** – обычный
**звы́чка** – привычка
**зго́дны** – согласный
**згра́бны** – стройный, изящный
**здава́цца** – чудиться, мерещиться, казаться
**здаро́жыцца** – утомиться, изнуриться (в дороге)
**зда́рыцца** – произойти, случиться
**здарэ́нне** – происшествие, приключение; событие
**зда́тны** – способный (к чему-н.)
**здзе́йсніць** – осуществить
**здзе́кавацца** – издеваться

**здзіўле́нне** – удивление
**здо́льнасць** – способность; дарование
**здо́льны** – способный; даровитый
**здра́да** – измена; предательство
**здра́дзіць** – изменить; предать
**здра́днік** – изменник; предатель
**здьі́мак** – снимок
**злачы́нец** – преступник, злоумышленник
**злачы́нства** – преступление; злодеяние
**зло́сны** – злой, злобный
**змага́нне** – 1) борьба; 2) сражение; 3) *перан*. состязание
**змага́цца** – бороться; сражаться, биться; состязаться
**змары́цца** – устать, утомиться; умориться
**змест** – 1) содержание; 2) оглавление
**знаё́міць** – 1) знакомить; 2) ознакомлять
**знаё́мства** – знакомство
**знаё́мы** – 1) знакомый; 2) известный
**знайсці́** – найти
**зна́чны** – 1) значительный; 2) значимый (важный)
**зне́шні** – внешний
**зні́кнуць** – 1) исчезнуть (перестать существовать); 2) пропасть, потеряться
**зні́шчыць** – уничтожить,
**зно́сіны** – 1) сношение; 2) общение; 3) сообщение (воздушное, железнодо-рожное)
**зо́рка** – звезда
**зрабі́ць** – сделать
**зразуме́лы** – понятный
**зразуме́ць** – понять
**зра́нку** – с утра; спозаранку
**зрок** – зрение
**зру́чны** – 1) удобный; 2) подходящий (случай)
**зы́чны** – 1) *разг*. громкий, зычный; 2) *лингв*. согласный (звук)
**з'я́ва** – явление; образ, картина
**з'яві́цца** – 1) появиться, родиться; 2) показаться

**І і**

**імкну́цца** – стремиться
**іна́кш** – иначе

**індык** – индюк
**індычка** – индейка, индюшка
**іншы** – иной
**існава́ць** – существовать; бытовать

**К к**

**каб** – 1) чтобы; 2) если бы
**ка́ва** – кофе
**кава́лак** – кусок
**кава́ль** – кузнец
**каву́н** – арбуз
**кавя́рня** – кофейня
**каза́ць** – говорить
**ка́зка** – сказка
**кака́ва** – какао
**калі́** – когда
**калідо́р** – коридор
**калі́сьці** – когда-то; прежде, некогда
**кало́дзеж** – колодец
**каля́** – 1) возле, у, при; 2) около
**кана́па** – диван
**канюшы́на** – *бат.* клевер
**капялю́ш** – шляпа
**кара́лі** – бусы, монисто; ожерелье
**кару́нкі** – кружево; кружева
**кары́сны** – полезный
**карыста́цца** – пользоваться
**кары́сць** – польза; выгода, корысть
**кастры́чнік** – октябрь
**каха́нне** – любовь
**каха́ць** – любить (быть влюблённым)
**ка́чка** – утка
**каштава́ць** – 1 стоить
**каштава́ць** – 2 пробовать, отведывать
**кашто́ўнасць** – ценность
**кашто́ўны** – ценный; драгоценный
**кашу́ля** – рубашка, рубаха; сорочка
**кватэ́ра** – квартира
**кве́тка** – цветок

**ке́пскі** – плохой
**кідо́к** – *спорт*. бросок
**кілі́шак** – рюмка
**кірава́нне** – 1) управление; 2) лингв. управление
**кірава́ць** – управлять (автомобилем); 2) руководить
**кіраўні́к** – руководитель
**кірма́ш** – ярмарка; базар
**кіру́нак** – направление
**клапатлі́вы** – заботливый
**клапаці́цца** – 1) заботиться; 2) хлопотать
**клі́чнік** – лингв. восклицательный знак
**кло́пат** – 1) забота; 2) хлопоты; 3) беспокойство
**клубні́цы** – клубника (ягоды)
**ко́ла** – 1) колесо; 2) окружность; кольцо; 3) круг (группа людей, объединённых какими-либо связями)
**ко́лер** – цвет (окраска)
**ко́лькасць** – количество; численность
**ко́лькі** – сколько
**ко́ска** – *лингв*. запятая
**ко́ўдра** – одеяло
**кошт** – стоимость
**ко́шык** – корзина, корзинка
**кпіць** – насмехаться, издеваться
**краі́на** – страна
**кра́ма** – лавка, магазин
**крыні́ца** –1) ключ, родник, источник; 2) перен. источник
**кры́ўда** – обида
**кры́ўдзіць** – обижать
**кры́ўдны** – обидный
**ку́бак** – 1) чашка, кружка; 2) кубок
**купля́ць** – покупать
**кураня́** – цыплёнок
**ку́хар** – повар

**Л л**

**лад 1** – 1) строй, установленный порядок; 2) согласие
**лад 2** – *лингв*. наклонение
**ла́зня** – баня
**ланцу́г** – цепь

**ланцужо́к** – цепочка
**ласу́нак** – лакомство
**ле́кавы** – лекарственный
**ле́кі** – лекарство
**ле́ташні** – прошлогодний
**летуце́ннік** – мечтатель
**лёс** – судьба
**лік** – число
**лі́пень** – июль
**лістапа́д** – 1) ноябрь; 2) листопад
**лі́тара** – буква
**ліхта́р** – фонарь
**лі́чба** – цифра
**лічы́ць** – 1) считать; 2) полагать, предполагать
**ліч́эбнік** – лингв. числительное
**ло́жак** – кровать
**ло́кшына** – лапша
**лю́стра** (**люстэ́рка**) – зеркало
**лю́ты** – февраль
**ля́лька** – кукла

## М м

**ма́быць** – может быть, пожалуй, вероятно
**магу́тны** – 1) сильный; 2) могущественный
**магчы́** – мочь
**магчы́мы** – возможный
**ма́лпа** – *зоол*. обезьяна
**малю́нак** – рисунок
**малява́ць** – писать красками, рисовать; 2) изображать
**мані́ць** – врать, лгать
**ма́ра** – мечта, грёза
**ма́рны** – напрасный, бесполезный
**мару́длівы** – медлительный, неторопливый
**ма́рыць** – мечтать
**маста́к** – художник
**маста́цкі** – художественный
**маста́цтва** – 1) искусство; 2) мастерство
**маўклі́вы** – молчаливый
**маўле́нне** – речь

**мезе́нец** – мизинец
**меркава́ць** – 1) рассуждать; 2) рассчитывать, предполагать
**ме́сны** – *лингв*. предложный (падеж)
**міна́ць** – 1) миновать (проходить, проезжать мимо); 2) обходить; 3) проходить (о времени, состоянии)
**міну́лае** – прошлое, минувшее, прошедшее
**міну́лы** – прошлый, прошедший
**мно́жны** – *лингв*. множественный (мн. число)
**мо́ва** – язык
**мо́ладзь** – молодёжь
**мо́цны** – 1) крепкий; 2) сильный
**мро́я** – мечта
**му́сіць** – 1) быть должным; 2) должно быть, вероятно, пожалуй
**мэ́бля** – мебель
**мэ́та** – цель
**мясцо́вы** – местный

## Н н

**набы́ць** – приобрести
**навако́льны** – окрестный
**навальні́ца** – гроза
**на́ват** – даже
**наве́даць** – посетить, навестить
**наве́двальнік** – посетитель
**навіна́** – новость
**наво́кал** – вокруг, кругом, около
**навуча́льны** – учебный
**навуча́нне** – учение, обучение
**навучэ́нец** – учащийся
**нагаві́цы** штаны; подштанники
**нагада́ць** – напомнить; припомнить
**нагле́дзець** – высмотреть, присмотреть
**надво́р'е** – погода
**надвячо́рак** – предвечернее время
**надзе́йны** – надёжный
**надзе́я** – надежда
**назаўсёды (назаўжды́)** – навсегда
**на́зва** – название, наименование
**назіра́ць** – 1) наблюдать; 2) следить; присматривать

**назо́ўнік** – 1) лингв. имя существительное; 2) мат. знаменатель
**назо́ўны** – лингв. именительный (падеж)
**накірава́ць** – 1) направить; 2) наставить
**нако́нт** – насчёт; относительно
**нале́жаць** – принадлежать
**наме́снік** – заместитель
**напра́мак** – направление
**нара́да** – совещание
**нарадзі́ць** – родить
**наста́ўнік** – учитель
**настро́й** – настроение; настроенность
**насу́праць** – напротив
**насу́страч** – навстречу
**натхне́нне** – вдохновение
**на́фта** – нефть
**нахі́л** – наклон
**нахілі́ць** – наклонить; накренить
**на́ціск** – 1) нажим; 2) лингв. ударение
**ная́ўны** – наличный; имеющийся
**неабхо́дны** – необходимый
**небяспе́ка** – опасность
**недахо́п** – недостаток; недочёт; нехватка
**незале́жны** – независимый
**не́льга** – нельзя
**немаўля́** – младенец
**не́хта** – кто-то
**нібы́** – словно, будто
**ніко́лі** – никогда
**нядзе́ля** – воскресенье
**няма́** – нет
**няха́й** – пусть

## О о

## П п

**пава́га** – уважение, почтение, почёт
**паважа́ць** – уважать, почитать, чтить
**паве́рх** – этаж
**паве́тра** – воздух

**паві́нен** – должен, обязан
**паво́лі** – 1) медленно, потихоньку; 2) осторожно
**паво́льны** – неторопливый, медленный
**падаба́цца** – нравиться
**падаро́жжа** – путешествие, странствование
**падаро́жнік** – путешественник
**падзе́я** – событие, происшествие
**падзя́ка** – благодарность
**падкрэ́сліць** – подчеркнуть
**падле́так** – подросток
**падло́га** – пол
**падма́н** – обман
**падо́бны** – похожий; сходный, схожий
**падо́ўжыць** – удлинить
**падру́чнік** – учебник
**падрыхтава́ць** – подготовить, приготовить
**падсілкава́цца** – подкрепиться
**пазы́чыць** – одолжить
**пакаштава́ць** – попробовать, отведать
**пакла́сці** – положить
**пако́й** – комната
**паку́ль** – пока, покуда
**паку́нак** – свёрток
**пакупні́к** – покупатель
**палахлі́вы** – пугливый
**пала́ц** –дворец
**палі́ца** – полка
**палі́ць** – 1) жечь; 2) топить
**пало́ва** – половина
**пало́хаць** – пугать
**палява́нне** – охота
**палява́ць** – охотиться
**паляўні́чы** – охотник
**пама́лу** – 1) медленно; 2) понемногу (постепенно)
**паме́р** – размер
**памі́ж** – между
**памылі́цца** – ошибиться
**памы́лка** – ошибка, заблуждение
**панчо́ха** – чулок

**панядзе́лак** – понедельник
**папе́ра** – бумага
**папярэ́дзіць** – предупредить
**папярэ́дні** – 1) предыдущий, предшествующий; 2) предварительный
**пара́да** – совет
**па-ране́йшаму** – по-прежнему
**парасо́н** – зонтик, зонт
**парася́** – поросёнок
**параўна́нне** – сравнение
**параўна́ць** – сравнить, сопоставить
**парфу́ма** – *разг.* духи
**парэ́чкі** – смородина
**паса́да** – должность; пост
**паты́ліца** – затылок
**патэ́льня** – сковорода
**паўабаро́на** – *спорт.* полузащита
**паўабаро́нца** – *спорт.* полузащитник
**паўно́чны** – северный
**па́церкі** – 1) бусы; 2) бисер; 3) чётки
**пацу́к** – крыса
**па́чак** – пачка (печенья)
**пача́так** – начало
**пача́ць** – начать
**пачуццё́** – чувство
**пачу́ць** – услышать; 2) узнать
**па́шпарт** – паспорт
**паштоўка** – открытка, почтовая карточка
**пе́вень** – петух
**перава́га** – 1) преимущество, превосходство; 2) предпочтение
**пераважны** – 1) преимущественный; 2) преобладающий
**перакла́д** – перевод
**перакла́дчык** – переводчик
**перакла́сці** – перевести (на другой язык)
**перамагчы́** – победить
**перамо́га** – победа
**перамо́жца** – победитель
**перано́ссе** – переносица
**пе́рапіс** – перепись
**перапы́нак** – перерыв

**перапыні́ць** – 1) прервать; 2) остановить
**пе́рнік** – пряник, коврижка
**першынстві́** – первенство
**піво́ня** – *бат*. пион
**пісьме́ннік** – писатель
**пісьме́нны** – грамотный
**пітво́** – питьё
**плён** – 1) плоды, урожай; 2) *перан*. плоды, результат (труда)
**плё́нны** – плодотворный
**пло́шча** – площадь
**пля́ма** – пятно
**пляцо́ўка** – площадка
**по́бач** – рядом; возле, подле
**по́быт** – быт
**по́мнік** – памятник
**по́спех** – успех, удача
**по́суд** – посуда
**по́ўдзень** – юг
**по́ўнач** – север
**по́шта** – почта
**по́шук** – поиск
**праз** – сквозь, через
**празры́сты** – прозрачный
**практыкава́нне** – упражнение
**праме́нь** – луч
**прапанава́ць** – предложить
**прас** – утюг
**прасава́ць** – гладить, утюжить
**прасці́на** – простыня
**пра́ца** – 1) труд; 2) работа (служба; научное произведение)
**працава́ць** – работать; трудиться
**працаві́ты** – трудолюбивый, работящий
**праца́ўны** – 1) трудовой; 2) трудящийся
**прачну́цца** – проснуться, пробудиться
**про́звішча** – фамилия
**прыбра́ць** – 1) нарядить; 2) убрать; 3) устранить
**прыва́бны** – привлекательный
**прыва́тны** – частный
**прывіта́нне** – 1) привет; 2) приветствие

**прывіта́цца** – поздороваться
**прывіта́ць** – приветствовать
**прыгажо́сць** – красота
**прыгажу́ня** – красавица
**прыго́да** – приключение, происшествие; история
**прыго́жы** – красивый
**пры́клад** – пример
**приме́тнік** – лингв. имя прилагательное
**прыму́сіць** – заставить, вынудить
**прыназо́ўнік** – лингв. предлог
**прыпы́нак** – остановка
**прысло́ўе** – лингв. наречие
**псава́ць** – портить
**пту́шка** – птица
**пужа́цца** – пугаться; устрашаться
**пужа́ць** – пугать; устрашать, запугивать
**пыласо́с** – пылесос
**пыта́льнік** – *лингв*. вопросительный знак
**пыта́нне** – вопрос
**пыта́цца** – спрашивать
**пярсцё́нак** – перстень, кольцо
**пярэ́чыць** – возражать
**пяшчо́та** – нежность (ласка)
**пяшчо́тны** – нежный, ласковый

## Р р

**рабі́ць** – делать
**ра́да** – 1) совет; 2) совещание
**радзі́ма** – родина
**радзі́мка** – родинка, родимое пятно
**ра́дзіць** – советовать
**радо́к** – строка, строчка
**ра́зам** – 1) вместе, сообща; 2) *лингв*. слитно;
**развaжа́ць** – рассуждать, размышлять
**развіта́цца** – попрощаться, распрощаться
**разгарну́ць** – 1) развернуть (свёрток, торговлю, борьбу); 2) раскрыть, развернуть (книгу)
**разгле́дзець** – рассмотреть
**размо́ва** – разговор

**размо́ўнік** – разговорник
**разуме́ць** – понимать
**разы́нкі** – изюм
**ра́іцца** – советоваться, совещаться
**рамо́нак** – *бат*. ромашка
**ра́ніца** (**ра́нак**) – утро
**ра́птам** – вдруг, внезапно, неожиданно
**раслі́на** – растение
**распрану́ць** – 1) раздеть (ребёнка); 2) снять (одежду)
**ратава́ць** – спасать
**ра́цыя** – *разг*. резон (разумное основание); мець рацыю быть правым
**рашу́чы** – решительный
**рог** – угол (стола, платка)
**ро́зум** – 1) ум, разум; 2) рассудок
**ру́жа** – роза
**ружо́вы** – розовый (о цвете, окраске)
**рух** – движение
**рухаві́к** – двигатель
**ру́хаць** – 1) двигать; 2) шевелить (пальцами)
**ручні́к** – полотенце, рушник
**ры́са** – черта
**рыхтава́ць** – готовить, подготавливать
**рэ́ха** – эхо
**рэч** – вещь
**рэ́шта** – 1) остаток, остальное; 2) сдача (о деньгах)

### С с

**садаві́на** – фрукты
**сакаві́к** – март
**самасто́йны** – самостоятельный
**сапсава́ць** – испортить, повредить
**сvары́цца** – ссориться; 2) ругать, бранить
**сваяк** – родственник
**свет** – мир (Вселенная)
**свя́та** – праздник, празднество
**святкава́ць** – праздновать
**святло́** – свет
**свято́чны** – праздничный
**селядзе́ц** – селёдка, сельдь

**селянíн** – крестьянин
**серадá** – среда (день недели)
**сéлета** – в этом году
**сéлетні** – нынешний, этого года
**сéння** – сегодня
**сівы́** – седой (о волосах)
**сказ** – *лингв*. предложение
**скараціць** – сократить
**скíвіца** – *анат*. челюсть
**складáны** – сложный
**склон** – *лингв*. падеж
**скронь** – висок
**скрýтак** – 1) свёрток; 2) рулон, свиток, моток
**скýра** – кожа
**славýты** – знаменитый, известный
**сланéчнік** – подсолнечник, подсолнух
**слóўнік** – словарь
**слухáч** – слушатель
**слýшнасць** – дельность, резонность
**слых** – слух
**смáга** – жажда
**смажанíна** – жаркое
**смáжыць** – 1) жарить, зажаривать (мясо); 2) хотеть пить
**смак** – вкус
**смáчны** – вкусный
**смéцце** – сор, мусор
**смýтак** – грусть, печаль, скорбь, тоска
**смятáнка** – сливки
**снéданне** – завтрак
**снéдаць** – завтракать
**снéжань** – декабрь
**сніць** – видеть сон, видеть во сне
**спабóрніцтва** – 1) соревнование; 2) состязание
**спадабáцца** – понравиться
**спадарóжнік** – спутник
**спадзявáцца** – надеяться
**спадніца** – юбка
**спазніцца** – опоздать
**спакóй** – спокойствие

**спатка́ць** – встретить
**спатрэ́біцца** – понадобиться
**спача́тку** – 1) сначала, прежде, сперва; 2) вначале
**спе́вы** – пение
**спіс** (**спі́сак**) – список
**спо́дак** – блюдце
**спрабава́ць** – пробовать
**спра́ва** – дело
**спрача́цца** – 1) спорить; 2) препираться, пререкаться
**спро́ба** – попытка
**спры́тны** – ловкий
**спрэ́чка** – спор
**спыні́ць** – 1) остановить (машину); 2) прекратить, прервать (разговор)
**спыта́ць** – спросить
**спява́к** – певец
**спява́ць** – петь
**ста́лы** – взрослый (о человеке)
**стамі́ць** – утомить
**стан 1** – положение, состояние
**стан 2** – *лингв*. залог
**стано́ўчы** – положительный
**старажы́тны** – древний; старинный
**старо́нка** – страница (книги)
**старо́нні** – посторонний; чужой
**старшыня́** – председатель
**столь** – потолок
**стра́ва** – пища, кушанье
**стра́ціць** – 1) лишиться, потерять, утратить; 2) потратить, истратить, израсходовать
**стрые́чны** – двоюродный (брат)
**сту́дзень** – январь
**сту́дня** – колодец
**сту́жка** – лента
**ступе́нь** – 1) степень; 2) ступень, ступенька (лестницы)
**су́вязь** – связь; сообщение
**сузо́р'е** – созвездие
**суке́нка** – платье
**сумава́ць** – скучать, тосковать, грустить
**су́мны** – 1) скучный; 2) тоскливый, грустный

**суні́цы** – земляника
**супадзе́нне** – совпадение
**супако́іць** – успокоить, угомонить
**су́праць** – против
**сурвэ́тка** – салфетка
**сустрака́цца** – встречаться
**сустрэ́ць** – встретить, повстречать
**сустрэ́ча** – встреча; свидание
**суча́снасць** – современность, настоящее
**суча́сны** – современный
**схава́ць** – 1) спрятать; 2) защитить, укрыть
**схапі́ць** – схватить
**схіл** – склон, уклон
**сход** – собрание
**сце́жка** – тропа
**сці́плы** – скромный
**сцяг** – знамя
**ся́бар** – приятель, друг
**сяброва́ць** – дружить
**сяке́ра** – топор
**сяро́д** – среди

## Т т

**такса́ма** – также, тоже
**тале́рка** – тарелка
**тамý** – потому; затем
**та́нны** – дешёвый
**та́рка** – тёрка
**таро́пкі** – быстрый, торопливый
**таямні́ца** – тайна, секрет
**таямні́чы** – таинственный
**твар** – лицо
**твор** – произведение; сочинение
**тво́рны** – *лингв*. творительный (падеж)
**ткані́на** – ткань
**тлума́чыць** – объяснять
**тлу́сты** – жирный
**тлушч** – жир
**то́рба** – сумка, сума

**тра́піць** – 1) попасть, угодить; 2) попасть
**тро́хі** – немного, слегка
**трус** – кролик
**трыва́нне** – 1) терпение, выдержка; 2) лингв. вид
**трыва́ць** – терпеть, выдерживать
**трыма́ць** – держать
**трэ́ба** – 1) надо, нужно; 2) следует, необходимо
**туга́** – печаль, кручина; тоска, уныние
**тужлі́вы** – 1) тоскливый; 2) печальный; скорбный, горестный
**турбава́ць** – беспокоить, тревожить
**ты́дзень** – неделя
**тыту́нь** – табак
**тэ́рмін** – срок
**тэрміно́вы** – срочный

## У у

**убаку́** – в стороне
**ува́га** – внимание
**ува́жлівы** – внимательный
**уваxо́д** – вход
**уве́рсе** – вверху
**уво́гуле** – вообще
**увышыню́** – ввысь
**угару́** – вверх, кверху
**угары́** – вверху, наверху
**уго́лас** – 1) вслух (читать); 2) во всеуслышание, громогласно
**удзя́чнасць** – благодарность, признательность
**удзя́чны** – благодарный, признательный
**ужы́ць** – употребить, использовать, применить
**уздо́ўж** – вдоль
**узнаві́ць** – 1) воспроизвести (создать вновь); 2) восстановить, возродить, возобновить
**узнагаро́да** – 1) вознаграждение; 2) награда
**узнагаро́дзіць** – 1) наградить; 2) вознаградить
**узнача́ліць** – возглавить
**узнё́слы** – возвышенный
**узор** – образец
**узро́ст** – возраст
**ула́сны** – собственный

**упершыню́** – впервые
**упрыго́жанне** (упрыгажэ́нне) – украшение (предмет)
**упрыго́жванне** – украшение (действие)
**упрыго́жыць** – украсить
**урад** – правительство
**ура́жанне** – впечатление
**ура́зіць** – поразить, взволновать; потрясти
**урачы́сты** – торжественный
**уры́вак** – отрывок
**уско́сны** – косвенный
**ус лы́х** – вслух
**успамі́н** – воспоминание
**устано́ва** – учреждение, заведение
**усхо́д** – восток
**усхо́дні** – восточный
**утвары́ць** – образовать
**учы́нак** – поступок

## Ф ф

**фа́рба** – краска
**фарбава́ць** – красить, окрашивать
**фіра́нка** – занавеска
**фу́тра** – 1) мех (зайца); 2) шуба

## Х х

**хава́ць** – 1) прятать, скрывать, укрывать; 2) хранить; 3) беречь (не разглашать); 4) хоронить, погребать (умершего)
**хада́** – 1) походка, поступь (манера ходить); 2) ходьба
**хай** – пусть; пускай
**хараство́** – 1) красота, краса; 2) великолепие (обстановки, одежды)
**харчава́цца** – 1) питаться; 2) столоваться
**харчо́вы** – 1) пищевой, съестной; 2) пищевой (о промышленности); 3) продовольственный
**ха́тні** – 1) домашний; 2) избяной; 3) комнатный
**хва́ля** – волна
**хвалява́нне** – волнение
**хвалява́цца** – 1) волноваться; 2) тревожиться, беспокоиться
**хваро́ба** – болезнь
**хварэ́ць** – болеть

**хвілі́на** – минута; момент
**хілі́цца** – клониться, наклоняться, склоняться
**хло́пец** – парень
**хло́пчык** – мальчик
**хлусі́ць** – врать, лгать; хлусіць
**хлуслі́вы** – 1) лживый; 2) ложный (фальшивый)
**хма́ра** – туча
**хто́сьці** – кто-то, некто
**ху́ста** – большой платок, шаль
**ху́стка** – платок
**ху́ткасць** – скорость, быстрота
**ху́ткі** – скорый, быстрый

## Ц ц

**цагля́ны** – кирпичный
**царква́** – церковь
**ца́цка** – игрушка
**це́раз** – через
**ці** – или; ли
**ціка́васць** – интерес
**ціка́віцца** – интересоваться
**ціка́вы** – интересный
**ціск** – давление
**цуд** – чудо
**цудо́ўны** – 1) чудесный (являющийся чудом); 2) чудный, прелестный, великолепный, замечательный; 3) благодатный (край)
**цу́кар** – сахар
**цу́карніца** – сахарница
**цуке́рка** – конфета
**цыгарэ́та** – сигарета
**цыру́льнік** – парикмахер
**цыру́льня** – парикмахерская
**цэ́гла** – кирпич
**цягні́к** – поезд

## Ч ч

**чаго́сьці** – почему-то, чего-то
**чака́ць** – ждать, ожидать
**чараві́кі** – ботинки, башмаки
**чарга́** – очередь

**ча́рка** – рюмка, стопка
**чарні́цы** – черника
**чаро́ўны** – 1) колдовской, волшебный, чародейный; 2) обаятельный, пленительный, обворожительный
**час** – 1) время; 2) пора, период, срок
**часо́вы** – временный, преходящий; минутный (успех)
**часо́піс** – журнал (периодическое издание)
**частава́ць** – угощать, потчевать
**ча́стка** – часть; доля
**чмель** – шмель
**чуць** – слышать
**чыгу́нка** – железная дорога
**чырво́ны** – красный
**чыта́ч** – читатель
**чэ́рвень** – июнь

**Ш ш**

**ша́лік** – шарф, кашне
**шанава́ць** – 1) беречь, щадить; дорожить; 2) чтить, почитать; уважать
**шано́ўны** – 1) уважаемый; 2) многоуважаемый (форма обращения)
**шанц** – везение, удача
**шанцава́ць** – везти
**ша́фа** – шкаф
**шаша́** – шоссе
**шкада́** – жалко, жаль
**шкадава́ць** – 1) жалеть; 2) сожалеть; 3) беречь, щадить
**шкарпэ́ткі** – носки
**шкло** – стекло
**шкля́нка** – стакан
**шлюб** – брак, супружество
**шмат** – много
**шпа́цыр** – прогулка
**шпацырава́ць** – прохаживаться, прогуливаться
**штаго́днік** – ежегодник
**штодня́** – ежедневно, каждодневно
**штохвілі́ны** – ежеминутно
**шту́чны** – 1) искусственный; 2) напускной, наигранный
**шука́ць** – искать, разыскивать; подыскивать
**шча́ўе** – щавель
**шчупа́к** – щука

**шчы́ры** – 1) искренний, откровенный
**шыко́ўны** – шикарный, нарядный
**шы́нка** – окорок
**шыпшы́на** – *бат.* шиповник
**шэ́ры** – серый

### Э э

### Ю ю

**юна́к** – юноша
**юна́цтва** – юношество

### Я я

**яе́чня** – яичница
**язмі́н** – *бат.* жасмин
**я́касць** – качество
**ялі́на** – ель

# БИБЛИОГРАФИЯ
# БІБЛІЯГРАФІЯ


1. *Бадзевіч З. І.* Курс беларускай мовы. – Мінск, 1996.
2. Беларускі арфаграфічны слоўнік. – Мінск, 2009.
3. Беларуская Марфалогія: у 2 ч. – Мінск, 1985–1986.
4. Беларуская мова. Энцыклапедыя. – Мінск, 1994.
5. Беларуска-рускі слоўнік: Уу 3 т. – Мінск, 2003.
6. Беларускі фальклор: у 2 т. – Мінск, 2005–2006.
7. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск, 1996–2004.
8. *Бондарчук Л. В., Карпушина А. Л.* Белая Русь. Учебно-методическое пособие по русскому языку для иностранных студентов. – Мінск, 2007.
9. *Булыка А. М.* Слоўнік іншамоўных слоў: у 2 т. – Мінск, 1999.
10. *Каляда А.* Беларускае літаратурнае вымаўленне. Практыкум па дыкцыі і арфаэпіі. – Мінск: Тэхналогія, 2006.
11. *Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И.* Белорускій язык для говорящих по-русски. – Мінск, 1990.
12. *Михневич А. Е.* Русско-белорусский разговорник. – Мінск, 1991.
13. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 1995.
14. *Плотнікаў Б. А., Антанюк Л. А.* Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум. – Мінск, 2003.
15. *Рамза Т. Р.* Беларуская мова? З задавальненнем! Для замежных навучэнцаў. – Мінск, 2010.
16. Руска-беларускі слоўнік: у 3 т. – Мінск, 2005.
17. Сучасная беларуская літаратурная мова: марфалогія. – Мінск, 1997.
18. *Сямешка Л. І, Бадзевіч З. І., Белакурская Ж. А.* і інш. Гаворым па беларуску. Вучэбны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў. – Мінск, 1999.
19. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 2005.
20. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мінск, 1984–1987.
21. Этнаграфія Беларусі. – Мінск, 1989.

Межгосударственный фонд гуманитарного сотрудничества государств участников СНГ (МФГС). 8 мая 2005 года на неформальном саммите СНГ была подписана Декларация о гуманитарном сотрудничестве, которая предусматривала создание МФГС.

На заседании Совета глав правительств СНГ 25 мая 2006 года в Душанбе семью государствами – Республикой Армения, Республикой Беларусь, Республикой Казахстан, Киргизской Республикой, Российской Федерацией, Республикой Таджикистан, Узбекистаном – был подписан Договор о создании МФГС. В июне 2008 года к Договору о Фонде присоединилась Азербайджанская Республика.

МФГС является межгосударственной некоммерческой организацией. Высший орган Фонда – Правление, членами которого являются полномочные представители государств участников Фонда.

Место нахождения Исполнительной дирекции Фонда – Москва, Российская Федерация.

Цель Фонда – создание благоприятных возможностей для развития гуманитарного сотрудничества как на пространстве государств-участников Договора о Фонде, так и на уровне каждой из стран Содружества.

Миссия МФГС как специализированной организации в области гуманитарного сотрудничества на пространстве СНГ – способствовать развитию общего гуманитарного пространства и межкультурного диалога в Содружестве посредством образования, науки, культуры, массовых коммуникаций, информации, архивного дела, спорта, туризма и работы с молодежью.

Стратегическим направлением деятельности МФГС является проведение межгосударственных мероприятий, способствующих развитию межкультурного диалога на пространстве Содружества.

В деятельности МФГС приоритетное внимание уделяется разработке и осуществлению на регулярной основе во всех государствах-участниках МФГС крупных многоцелевых проектов, реализации мероприятий, отвечающих тематике гуманитарных годов в СНГ, а также стимулирующих развитие продуктивных контактов в научно-образовательной и творческой общественной среде.

МФГС руководствуется принципами разнообразия, равноправия, учета интересов каждого из участников Содружества, которые строятся на основе межотраслевого и междисциплинарного подхода. Эти принципы тесно связаны с такими ценностями как справедливость, солидарность, терпимость, равенство, уважение прав человека.

МФГС работает в тесном взаимодействии с Советом по гуманитарному сотрудничеству государств-участников СНГ (СГС), с которым он согласует план своей работы.

Деятельность МФГС осуществляется на основе его Рамочной стратегии (до 2013 г.) и ежегодных планов, принимаемых Правлением Фонда по согласованию с СГС, в том числе с учетом рекомендаций Форумов творческой и научной интеллигенции государств-участников СНГ.

В 2007–2011 годах при поддержке МФГС реализовано более 250 совместных проектов в области культуры, образования, науки, культурного наследия, информации и массовых коммуникаций, спорта, туризма и работы с молодежью.

Сайт МФГС: www.mfgs-sng.org

